УДК 94(476)
ББК 63.3(4Беи)
С99

Навуковы рэдактар
Наталля Гардзіенка, кандыдат гістарычных навук

Рэцэнзенты: Мальдзіс А.І., доктар філалагічных навук;
Грыбоўскі Ю.В., кандыдат гістарычных навук

Падрыхтоўка да друку і прадмова Лявон Юрэвіч
Каментары: Вітаўт Кіпель, Лявон Юрэвіч,
Наталля Гардзіенка

**Сямёнаў, Дз**.
**Дзеннік. 1943–1947 / Дзмітры Сямёнаў.**
С99 — Мінск: Медысонт, 2012.— 334 с. — (Бібліятэка часопіса "Беларускі Гістарычны Агляд", 23).

ISBN 978-985-6982-68-5

“Дзённік” Дзмітрыя Сямёнава з’яўляецца ўнікальным дакументам, у якім адлюстраваны светапогляд падлетка, яго жыццё ў складаныя гады акупацыі ды бежанства ў Нямеччыне. У сістэматычных запісах 1943—1947 гг. вачыма хлопца можна ўбачыць як значныя гістарычныя падзеі, гэтак і асаблівасці штодзённасці ў ваенным Менску, Берліне, лагерах для працоўных ды перамешчаных асобаў. Дапоўнены здымкамі з сямейнага архіва Сямёнавых аповед будзе цікавы і для прафесійных навукоўцаў, і для аматараў беларускай гісторыі.

**УДК 00(000)**
**ББК 00.0(0XXX)**

**ISBN 000-000-0000**

# Прадмова

У менскай "Беларускай газеце" ці берлінскай "Раніцы" адбіткі тагачаснага ваеннага, падакупацыйнага, а ўсё ж такі беларускага жыцця — і побытавага, і культурнага — трэба шукаць не ў артыкулах-прасцірадлах на першых бачынах, а ў калейдаскопе паведамленняў-карацелек, абвестак, лістоў у рэдакцыю на бачынах апошніх:

*"Кожны собсьнік вэлёсыпэдаў абавязаны на працягу лютага месяца 1944 г. заявіць свой вэлёсыпэд і атрымаць на 1944 г. адпаведны нумар і пасьведчаньне аб дазволе. Калі вэлёсыпэд будзе ўжывацца бяз заяўкі, ён будзе канфіскаваны. Пры заўяцы патрэбна ведаць марку і фабрычны нумар вэлёсыпэду. Рэгістрацыя вытвараецца ў памешчаньні Акамулятарнай Майстроўні — Нова-Мясьніцкая, 20".*

*"Паважаны спадару рэдактару! Прашу Вас дазволіць мне праз Вашую газэту выказаць глыбокую падзяку ўсім тым, хто ўзяў шчыры ўдзел у пахаваньні мае маці Бэнігны Луцэвіч. Ганна Луцэвіч".*

*"Увага! Выйшаў з друку і ёсьць у прадажы ў большай колькасьці невялікі нямецка-беларускі слоўнік, апрацаваны Гансам Лёе. Слоўнік гэты мае 50 балонак друку і можа служыць як дапаможнік асабліва для работнікаў сельскае гаспадаркі".*

*"Купляем андаракі (беларускія спадніцы). Даведацца ў сакратарыяце "Беларускае газэты" вул. Рагнеды (был. Рэвалюцыйная), 2".*

*«Менскія вечарыны. Кажную другую нядзелю Менская Краёвая Радыёстанцыя будзе ладзіць 2-х гадзінны вясёлы і разнастайны канцэрт для*

*беларускіх слухачоў пад назовам “Менскія вечарыны” ў часе ад 15 да 17 гадзіны. Першая вечарына адбудзецца ў нядзелю 13 лютага. Добры настрой, вясялосьць, цікавы і разнастайны зьмест, трохі мрояў, трохі сьмеху — усё гэтае ўвойдзе ў праграму вечарынаў. Беларускія слухачы! Слухайце нашыя канцэрты “Менскія вечарыны”!»*

Сярод падобных у нумары 38/200 “Раніцы” ад 17 верасня 1944 г. было змешчана наступнае:

*“Беларускі Гістарычны Музэй. Беларускі Гістарычны Музэй з Менску быў вывезены спачатку ў горад Інстэрбург (Усходнія Прусыі), а затым у вёску Гэхштэдт каля Ульму на Дунаю.*

*Беларускія бібліятэкі. Шэраг беларускіх бібліятэчных фондаў перавезены ў Рацібор. На жаль, беларускія бібліятэкі знаходзяцца ў агульнай масе з іншымі бібліятэкамі, бо беларускага апрычонага аддзелу пакуль што яшчэ ня створана.*

*Архіў Беларускай Акадэміі Навук. Частка архіву Беларускае Акадэміі Навук вывезеная ў горад Рацібор, дзе над разборкаю дакумэнтаў часова працуе адзін з маладых беларускіх навукоўцаў. Лёс рэшты архіву яшчэ невядомы”.*

Вось жа гэты малады навуковец і ёсць аўтарам дзённіка, які шаноўны чытач трымае ў сваіх руках.

З невялікага некралогу ў газеце “Беларус”[1] даведваемся, што нарадзіўся Дзмітры Сямёнаў 11 чэрвеня 1926 г. у Менску. Ягоныя бацькі, Аляксандр і Алёна з Турцэвічаў, былі эканамістамі з вышэйшаю асветаю.

Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў фельчарскай школе і працаваў у Краязнаўчым (Гістарычным) музеі (пад кіраўніцтвам Антона Шукелойця).

[1] Сьв. памяці Дзьмітры Сямёнаў // Беларус. №306–307. Лістапад — сьнежань 1982. С. 6.



У Амерыцы вывучаў паліталогію ў Ратгерскім універсітэце, штат Нью-Джэрсі (але ж працаваў хімікам).

Памёр 29 верасня 1982 г.

Па-за тэкстам некралога застаўся выезд Дзмітрыя Сямёнава разам з сябрамі (і не сябрамі) Рады БЦР у Берлін, ягонае жыццё ў нямецкім лагеры Біраў, а пасля заканчэння вайны — у беларускіх лагерах *DP*, праца ў скаўтынгу, дапамога Антону Адамовічу ў выданні “Ведамак”. Пра ўсё гэта расказваецца ў дзённіку.

Дасведчанаму чытачу збольшага вядомыя гэтыя падзеі, не ў апошнюю чаргу дзякуючы ўспамінам старэйшых ад Сямёнава дзеячаў-эмігрантаў: Яўхіма Кіпеля, Леаніда Галяка, Наталлі Арсенневай ды некаторых іншых. Таму значнасць дзённіка палягае не толькі ў данясенні да нас новых звестак з гісторыі жыцця ў Беларусі і беларусаў у 1943–1947 гг., але і ў адлюстраванні нутранага, псіхалагічнага свету падлетка; у дэманстраванні, як падзеі ваеннага часу адбіваліся ў свядомасці юнака.

Толькі было б памылковым сцвярджаць, што дзённік не захоўвае нічога новага. Дзе яшчэ, у якой мемуарнай крыніцы можна знайсці пералік рэпертуару Менскага тэатру або назвы нямецкіх фільмаў, што дэманстраваліся ў *Soldatenkino* ў беларускай сталіцы? Ёсць нават блізу сенсацыйныя запісы, датычныя працы ў Музеі, эвакуацыі экспанатаў — як піша сам Сямёнаў, “службовая таямніца”.

Нястомны паглынальнік кніг (дый наогул аматар прыгожага пісьменства; у скаўцкіх часопісах, у “Ведамках” друкаваўся пад псеўданімам Зміцер Алесіч), аўтар занатоўваў назвы прачытанага, што знаходзіў у Менску, а пазней у лагерах, тым самым захаваўшы найцікавейшы матэрыял для аналізу культуры чытання тых часоў.

І, зразумела, надзвычайная каштоўнасць дакумента ў фіксацыі побытавага, штодзённага жыцця менскага нацыянальна-мяшчанскага асяроддзя, пачынаючы ад старонак, напісаных у бацькоўскай хаце (Плошча Свабоды, дом № 35, кватэра 4) да нататак часоў лагераў у Нямеччыне. Як напісаў аўтар іншага дзённіка, "Запісак эмігранта" (або "Дзённіка Ів. Ів. Чужанінава"), ён жа адзін з герояў дзённіка Сямёнава — Лявон Савёнак, *"«Запіскі» часта рысуюць драбніцы штодзённага жыцьця, а з драбніцаў гэтых фактычна й складваецца само жыцьцё. Калі ж узяць на ўвагу, што гэтыя драбніцы натаваліся беспасярэдне з самога жыцьця ў часох ваеннае завірухі, калі кажны чалавек найчасьцей бывае без цывілізаванае маскі, дык яны могуць больш праўдзіва схарактарызаваць чалавечую натуру і адлюстраваць сапраўднага чалавека не ў сьвяточным гарнітуры, а ў ягонай штодзённай вопратцы. [...] Прашу прабачэньня ў шаноўных чытачоў, што ў сувязі з гэтым паасобныя мясьціны запісак могуць здавацца занадта падрабязнымі й цікавымі хіба толькі для гісторыкаў"*[2].

"Дзённік Чужанінава", як вядома, мастацкі твор, у адрозненне ад дзённіка Сямёнава — гістарычнага дакумента. Але думкі, паводзіны, развагі герояў гэтых двух дзённікаў часам настолькі падобныя, што *"бывае складана вызначыць — узнаўляе літаратура тую ці іншую побытавую з'яву ці наадварот — гэта побытавая з'ява ёсць пранікненнем у жыццё літаратурных шаблонаў"*[3]. Супадзенне адбываецца часам нават на стылёвым узроўні.

[2] Савёнак, Лявон. Запіскі Эмігранта // Каханы горад. Мінск, 2006. С. 74.

[3] Томашевский, Б. В. Литература и биография // Книга и революция. 1923. №4/28. С. 7.



Да прыкладу прывяду дзве цытаты.

З дзённіка Сямёнава: *"Настрой маем дось добры, хоць цэлы час мучае неспакой за будучыню. "Хоць бы якая-небудзь вайнішка", — кажа наш інжынэр"; "Молатаў вылецеў у Сан-Францыска. Божа! Дай вайну! Няхай палятуць у пекла бальшавікі".*

З "Дзённіка Чужанінава": *"Гаварылі пра вайну: што такое вайна, чаму яна, як яно ўрэшце будзе. Тут кажны бараніў сваё. Адзін, прыкладам, выступіў і сказаў, што вайна гэта ёсьць вайна, і хоць яна рэч непажаданая, але ваяваць усё ж трэба. Другі хваліўся, што ён таксама ваяваў бы, але яму бараніць няма чаго. Трэці, наадварот, націскаў на тое, што вайна — рэч надта патрэбная, але ваяваць ня трэба. Некаторыя казалі, што пасьля вайны будзе толькі так, а іншыя, наадварот, што будзе толькі гэтак. Разнабою было шмат. Але ўрэшце бальшыня пагадзілася на тым, што можа быць і так, а можа быць і гэтак. Асабліва ўпорыста выступаў супроць вайны адзін нейкі ні то прафэсар, ні то рахункавод — за пылам не разьбярэш. Ён на абарону свае тэорыі выцяг і Талстога, і Дыягена, і яшчэ тузін іншых філёзафаў. Тут ня вытрываў і я.*

*— Выбачайце, грамадзянін пацыфісты, вайна — рэч конча патрэбная, без вайны нельга, бо яна асьвяжае, яна ачышчае чалавецтва. Вайна — гэта сьмерць, а сьмерць родзіць жыцьцё"*[4].

Аўтарамі — знакамітым сталічным фельетаністам, сябрам Янкі Купалы Лявонам Савёнкам і школьнікам Дзмітрыем Сямёнавым — натуральна, кіравалі розныя памкненні да стварэння сваіх дзённікаў. Але разам з тым яны абодва міжволі

[4] Савёнак, Лявон. Запіскі эмігранта // Каханы горад… С. 75.

адбілі характэрную дэталь культуры таго часу: больш-менш паслядоўнае падзённае запісванне для сябе здарэнняў жыцця.

Сямёнаў згадвае сваіх сяброўак, якія таксама вядуць дзённікі і нават даюць іх чытаць адно аднаму, інтымныя, кампраметуючыя, напісаныя быццам выключна для сябе, але, выходзіць атрымоўваецца, з патаемным жаданнем быць зведанымі, пачутымі, зразуметымі. Дый сам Сямёнаў звяртаецца да магчымага чытача (*“Чы не знаходзіш Ты, Чытачу, што я вар’яцею?”*) і дае яго чытаць каханай дзяўчыне, што набліжае дзённік, насуперак наяўнай традыцыі, не да ўспамінаў, а да эпісталярыю.

Шэсць сшыткаў, якія мо не надта карэктна можна назваць “вучнёўскімі”, запоўненыя — адзін да самай апошняй старонкі, а другі толькі да сярэдзіны — запісамі, зробленымі алавіком і атрамантам, варта было б акрэсліць і іншым жанрам — травелогам, бо гарады і мястэчкі — Менск, Берлін, Амберг, Міхельсдорф з’яўляюцца для аўтара такімі самымі героямі, як і людзі, спатканыя ў падарожжы.

Падарожжы не толькі прасторавым. Дзённік замяняе аўтару сябра, якога не пашчасціла знайсці і якому льга паспавядацца (*“Ізноў і зноў зьвяртаюся я да Цябе — каханы дружа — папера”*), асабліва ў хвіліны такой натуральнай для падлетка тугі па каханні і цеплыні (і хай не бянтэжыць чытача, што пра каханне будзе апавядацца мо болей, як пра што іншае). Нездарма, відаць, апошні запіс зроблены незадоўга да жаніцьбы, калі падобны чалавек у жыцці Дзмітрыя Сямёнава нарэшце з’явіўся і патрэба ў дзённіку сышла.

Шура Сямёнава перажыла свайго мужа амаль на трыццаць гадоў. Дзённікавыя паперы пасля яе смерці, у 2011 г., дачка Раіна перадала ў Беларускі інстытут навукі і мастацтва (Нью-Ёрк).



У апошнім запісе, датаваным 16 верасня 1947 г., Сямёнаў занатоўвае: *“Гісторыя, якую мела дапісаць жыцьцё, дапісваецца”*. Ён меў на ўвазе сваю ўласную гісторыю, гісторыю прыязняў, мрояў, закаханасці. У выдрукаваным жа тут цалкам дзённіку словы выглядаюць як свядомы прыём, бы аўтар выбудоўваў ад пачатку сюжэтную лінію і не дні свайго жыцця занатоўваў, а пісаў мастацкі твор. Зрэшты, напэўна меў рацыю Віктар Шклоўскі, напісаўшы, што новай літаратурнай формай, магчыма, будзе газета як мастацкае цэлае, або адродзіцца дакументальная проза праз захапленне мемуарамі і вандраваннямі[5].

Дзённік друкуецца з захаваннем аўтарскай мовы, у тым ліку выразаў кшталту *Дзякаваць цябе; вучу ангельскі*. У каментарах выкарыстаныя як апублікаваныя ўспаміны (Леаніда Галяка, Наталлі Арсенневай, Яўхіма Кіпеля, іншых), гэтак і адмыслова напісаныя для гэтай кнігі згадкі-заўвагі Вітаўта Кіпеля.

Але адзін каментар варта вынесці ў прадмову, і датычыцца ён Рацібора (польск. *Raciborz*), куды, як памятаем з паведамлення газеты “Раніца”, былі перавезеныя беларускія бібліятэчныя фонды і дзе нейкі час жыў Дзмітры Сямёнаў. Бо менавіта тут знаходзіўся Аператыўны штаб Розэнберга (*Einsatzstab Reichsleiter Rosenberg,* далей *ERR*) — сумнавядомая арганізацыя нацыстаў, якая займалася канфіскацыяй і вывазам з акупаваных тэрыторыяў культурных каштоўнасцяў.

Пераехала яна ў гэтае мястэчка летам-восенню 1943 г., калі бамбаванне Берліна паставіла пад пагрозу захаванне нарабаваных калецый і архіваў.

[5] Шкловский, В. Гамбургский счет. Москва, 1990. С. 191.

Цягам паўтара гадоў у Рацібары працаваў Цэнтр па вывучэнні бальшавізму — з галоўнымі кабінетамі ў францысканскім манастыры, з асобным памяшканнем для ўсходніх калекцый у сінагозе. Усё сабранае ў адным месцы змясціць не ўдалося, і частка архіваў, вывезеных з СССР, захоўвалася ў мястэчку Тропаў, прыкладна за сто кіламетраў ад Рацібора. Асобны відэа-аўдыё архіў захоўваў каля 8000 фотаздымкаў з Савецкага Саюза і каля 4000 пласцінак (“плітак”). Каб уявіць памер працаў — даследчых, архіўных, бібліятэчных, — варта сказаць, што ўлетку-ўвосень 1944 г. колькасць супрацоўнікаў Цэнтра была блізу лічбы 350. Хутчэй за ўсё, Дзмітры Сямёнаў і Антон Шукелойць не ўваходзілі ў штат, але іхная праца была звязаная з апрацоўкаю беларускіх архіваў.

У сакавіку 1945 г. калекцыі былі захопленыя савецкімі войскамі, якія ўвайшлі ў Сілезію. Сярод іншага быў і так званы Смаленскі архіў. Не высветлена тым часам, як ён апынуўся ў руках амерыканцаў, каб пасля — спачатку праз непаразуменні, а потым у выніку палітычных гульняў часоў халоднай вайны — не быў вернуты ў Смаленск, а быў перасланы на захаванне ў Нацыянальны архіў у Вашынгтоне. Для беларусаў жа ён цікавы найперш тым, што там ёсць датаваныя 1926 г. вершы Васіля Каваля (*Roll 53, item 505*). Іхны *provenance* — не смаленскі: хутчэй за ўсё, у Рацібары смаленскія і беларускія архівы месціліся побач, і вершы беларускага паэты выпадкова, як і некаторыя ўкраінскія паперы, трапілі туды, калі архівісты спехам рыхтавалі іх да чарговай эвакуацыі.

Што яшчэ захоўвалася ў Рацібары з беларускіх архіваў, невядома, як невядома, што з гэтага вярнулася на Усход, а што паехала далей на Захад. З часам выплыла толькі драма Каруся Каганца “Сын Даніла”, апублікаваная пазней Антонам Адамовічам у часопісе “Сакавік”. Бадай няма сумневу, што яе паходжанне — рацібарскае.



Так ці інакш, але чытачу цяпер прынамсі будзе зразумелы кантэкст.

*Лявон Юрэвіч*

# Маё сяброўства зь Дзімам Сямёнавым

## Влодак Кушаль

Мяне зь Дзімам пазнаёміў Антон Шукелойць[6] на паховінах майго брата, які загінуў, як усім ведама, ад бомбы, падкладзенай у Менскім тэатры савецкімі

[6] У сваёй "Кароткай аўтабіяграфіі" Антон Шукелойць напісаў: *"Я, Антон Шукелойць, сын Антона і Бэнэдыкты з Пецюкевічаў, нарадзіўся 19 ліпеня (6 ст. ст.) 1915 г. у вёсцы Якелеўшчына Жупранскай парафіі Ашмянскага павету Віленскай губэрні. Бацька мой меў гаспадарку і гандляваў лесам. Скончыўшы чатыры клясы жупранскай пачатковай школы, я паступіў у Ашмянскую польскую гімназію, якую закончыў у 1935 г. і паступіў на гуманістычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту, аддзел славянскай філалогіі і этнаграфіі, які закончыў у 1939 г. Быўшы студэнтам, працаваў у ўнівэрсытэцкім этнаграфічным музэі, часта выяжджаў дзеля збору этнаграфічнага матар'ялу ў розныя мясцовасьці Заходняй Беларусі. У часе студыяў быў сябрам беларускіх студэнцкіх арганізацыяў: Беларускага Студэнцкага Саюзу, старшынём Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы, сьпяваў у беларускім студэнцкім хоры пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы. Быўшы вучнем гімназіі, належыў да беларускага гуртка сацыялістычнай моладзі, якім кіраваў ведамы ашмянскі сацыялістычны дзеяч адвакат Аляксандар Барановіч, а ў часе ўнівэрсытэцкіх студыяў — да групы студэнтаў, якая выдавала часапіс беларускай сацыялістычнай думкі "Золак", ідэалягічна набліжаны да Эсэраў. Па далучэньні Заходняй Беларусі да БССР у 1939 г. працаваў у школьніцтве ў роднай Ашманшчыне: арганізаваў першую сярэднюю школу, выкладаў беларускую мову ў гімназіі, у якой сам вучыўся, арганізаваў настаўніцкія курсы і каля дзевяноста беларускіх школаў у быўшым Ашмянскім павеце. Ад 1940 г. быў дэпутатам Ашмянскага гарадзкога савету, загадчыкам аддзелу асьветы гарадзкой управы ды школьным інспэктарам-мэтадыстам Ашмянскага раёну. На другі дзень савецка-нямецкай вайны быў арыштаваны органамі НКВД. Вызваліўся з турмы ў выніку налёту нямецкай авіяцыі. У часе нямецкай акупацыі працаваў у Менскай гарадзкой управе ў аддзеле асьветы і культуры. У часе працы ў Гарадзкой управе ўпарадкаваў архіў ЗАГСу, часткова зьнішчаны ў рэзультаце ванных дзеяў, быў загадчыкам Беларускага гістарычнага музэю (переназванага ў краязнаўчы музэй), сябрам камісіі дзеляаднаўленьня сакральных будынкаў гораду, дараднікам дэкарацыйнага мастацтва ў тэатры, а пасьля арганізацыі Беларускага Культурнага Таварыства — кіраўніком аддзелу краязнаўства галоўнай управы і школьным інспэктрам пры аддзеле БЦР. На эміграцыі ў Нямеччыне працаваў у школьніцтве лягероў для перамешчаных асобаў. У Злучаных Штатах Амэрыкі перакваліфікаваўся за тавараведа пры Інстытуце вытворчасьці моды, працаваў у магазыне вопраткі ОРБАХ, адначасна бяру актыўны ўдзел у грамадзкім жыцьці беларускай эміграцыі, выконваючы абавязкі старшыні Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў ЗША"* (Архіў БІНіМ. Публікуецца ўпершыню).



тэрарыстамі ў чэрвені 1943 году[7]. Шукелойць і Дзіма працавалі разам у менскім музэі. Нягледзячы на тое, што Дзіма нарадзіўся ў Менску і ў ягонай сям'і гаварылі па-расейску, ён, працуючы разам з Шукелойцам, вельмі хутка зацікавіўся беларускай справай. Я зь ім пачаў сябраваць.

У Менску жыў судзьдзя Лявон Галяк з Заходняй Беларусі[8], у кватэры якога часта зьбіраліся ягоныя знаёмыя: браты Лявон[9] і Юр-

[7] Маецца на ўвазе Яраслаў Кушаль.

[8] **Леанід Галяк** (1910–1980), грамадскі дзеяч, юрыст. У часе нямецкай акупацыі працаваў юрыстам у Менскай акрузе. У 1944–1945 гг. — супрацоўнік Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР. Заснаваў Беларускае бюро ў Брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Аўтар "Успамінаў" (выдрукаваныя ў 2-х тамах у 1982–1983 гг.).

[9] **Лявон Луцкевіч** (1922–1997), малодшы сын Антона Луцкевіча. У часе акупацыі настаўнічаў. Арыштаваны ў Варшаве, адбываў пакаранне ў лагерах. Па вызваленні жыў у Вільні.

ка[10] Луцкевічы, Шантыр[11], доктар Багдановіч[12] (ня той, які быў у Міхельсдорфскім DP-лягеры), і часта туды заскаквалі Дзіма і я. Гутаркі былі пераважна пра беларускія справы, што яшчэ больш уцягнула яго ў нашае асяродзьдзе. Мы часта хадзілі ў тэатр, дзе пазнаёмілся з Жэнькай Кавалеўскім[13]. Ён нас пазнаёміў зь некаторымі артыстамі. Калі савецкая армія пачала прыбліжацца да Менска, мы мусілі эвакуявацца ў Нямеччыну. Дзіма пакінуў сваіх бацькоў у Менску і далучыўся да нас.

Прыбыўшы ў Нямеччыну, мы зь Дзімам мусілі расстацца. Шукелойць узяў яго пад сваю апеку й забраў яго з сабой кудысьці ў Сілезію. Яны вярнуліся ў Бэрлін у студзені 1945. Мы аднавілі нашае сяброўства. Хутка пасьля гэтага, у пачатку лютага, быў вялізарны налёт амэрыканскай авіяцыі, які

10 **Юрка Луцкевіч** (1920–1992), старэйшы сын Антона Луцкевіча. У часе акупацыі быў дырэктарам беларускай школы ў Радашковічах і Баранавічах. Афіцэр батальёна “Дальвіц”. Арыштаваны ў Варшаве ў 1945 г., асуджаны на 25 гадоў лагераў. Вызвалены ў 1957 г.

11 **Антон Шантыр** (1919–1976), сын Фабіяна Шантыра і Зоські Верас. Пасля вайны быў асуджаны на 25 гадоў высылкі.

12 **Глеб Багдановіч** (1913–1960-я гг.?), доктар медыцыны, публіцыст, грамадскі дзеяч. У часе акупацыі быў афіцэрам Краёвай Абароны, потым — у батальёне “Дальвіц”. Пасля вайны працаваў доктарам на Беласточчыне. У 1949 г. арыштаваны і дэпартаваны ў СССР. Зняволеньне адбываў у Варкуце. Пасля вызвалення жыў у Рудзенску (Пухавіцкі р-н Менскай вобл.), працаваў доктарам.

13 **Аўген Кавалеўскі** (1921–1963), тэатральны дзеяч, драматург. У сярэдзіне 1920-х гг. сям’я Кавалеўскіх пераехала з Масквы ў Менск. Бацька быў рэпрэсаваны. Да 1941 г. Аўген вучыўся ў драматычнай школе пры БДТ. Ад лета 1944 г. — у Нямеччыне. Арганізаваў з прафесійных актораў драматычнага і опернага тэатраў ансамбль песні і танцу “Жыве Беларусь”, што гастраляваў у *DP*-лагерах. Пісаў п’есы, прозу.



зьнішчыў амаль увесь Бэрлін. Мая мама[14] й я рашылі ўцякаць на поўдзень, а бацька[15] застаўся ў Бэрліне. Мы запрапанавалі Дзіме ехаць з намі, і ён згадзіўся. Нам удалося спыніцца ў невялікім гарадку Амбэрг у Баварыі, дзе мы пражылі спакойна да канца вайны. Нам там пазволілі пасяліцца ў адным пакоі сельскагаспадарчай школы, якая была зачыненая на час вайны. З намі разам у гэтым пакоі жылі таксама Аўген Каханоўскі[16] са сваёй сям'ёй, Мікола

Напрыканцы 1940-х гг. выехаў у Францыю, жыў і працаваў у Парыжы ў кравецкай майстэрні.

14 **Наталля Арсеннева** (у замустве **Кушаль**, 1903–1997), паэтка, перакладчыца, грамадска-культурная дзяячка. Скончыла Віленскую беларускую гімназію. У 1922 г. узяла шлюб з вайсковым дзеячам Францам Кушалем. У 1940–1941 гг. разам з сынамі Яраславам і Уладзімірам знаходзілася ў высылцы на поўначы Казахстана. У траўні 1941 г. атрымала дазвол вярнуцца ў Беларусь. Працавала ў “Беларускай газеце” (1942–1944), перакладала лібрэта для Менскага гарадскога тэатра. Ад лета 1944 г. была ў Нямеччыне, дзе ўдзельнічала ў беларускім культурным жыцці ў лагерах *DP*, выкладала ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1950 г. пераехала ў ЗША. У 1967 г. пасля смерці нявесткі, Наталлі Куліковіч-Кушаль, разам з мужам перабралася да сына Уладзіміра ў Рочэстар (штат Нью-Ёрк).

15 **Франц Кушаль** (1895–1968), вайсковы і грамадскі дзеяч, муж Н. Арсенневай. У 1924–1939 гг. кадравы афіцэр польскага войска. Увосень 1939 г. трапіў у савецкі палон, у красавіку 1941 г. выпушчаны пад нагляд НКВД. У 1941–1943 гг. займаў розныя вайсковыя пасады ў Менску: быў кіраўніком афіцэрскіх курсаў, начальнікам штаба Самааховы. У лютым 1944 г. стаў камандзірам Беларускай Краёвай Абароны. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. У 1967 г. пераехаў з жонкай да сына ў Рочэстар.

16 **Аўген Калубовіч** (на эмігр. **Каханоўскі**, 1912–1987), грамадскі дзеяч, пісьменнік, гісторык. У 1934–1939 гг. выкладаў у Менску і вучыўся ў Менскім педагагічным інстытуце. Пасля працаваў кансультантам-метадыстам у Наркамасветы БССР. З пачаткам нямецка-савецкай вайны мабілізаваны ў армію, трапіў у нямецкі палон пад Масквой. Вызваліўшыся, жыў у Менску, кіраваў аддзелам культуры Беларускай Цэнтральнай

Кулікові[17] зь сям'ёй і Галіна Ганчарэнка[18]. Калі вайна скончылася, мы там працягвалі ціханька жыць, каб нас не знайшлі савецкія агенты, якія тады свабодна езьдзілі па Нямеччыне й зьбіралі сваіх грамадзянаў. Яны дабраліся й да нас. Мы ўсё-такі іх пераканалі, што мы ўсе польскія грамадзяне, і яны пакінулі нас у супакоі. Раптам, зусім неспадзявана, зьявіўся мой бацька з грузавіком і забраў нас усіх у Рэгенсбург.

Рады, узначальваў Беларускае культурнае згуртаванне. Падчас Другога Усебеларускага кангрэса аўтар асноўнага дакладу "Аб канчальным разрыве Беларусі з Масквой і аб уневажненні маскоўскага голасу ў беларускіх справах", па выніках якога была прынятая рэзалюцыя, якая ў завуаляванай форме абвяшчала незалежнасць Беларусі. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў беларускай гімназіі ім. Я. Купалы ў Рэгенсбургу. Ад 1947 г. быў кіраўніком Урада БНР. Ад 1950 г. жыў у ЗША, спачатку ў Нью-Ёрку, а ад сярэдзіны 1950-х гг. — у Кліўлендзе. Быў адным з лідараў беларускага жыцця ў Кліўлендзе. Аўтар шэрагу прац па гісторыі і культуры Беларусі.

17 **Мікола Куліковіч-Шчаглоў** (1891–1969), кампазітар, музыка, музыказнаўца, грамадска-культурны дзеяч. Ад 1937 г. працаваў выкладчыкам у Беларускай кансерваторыі. У часе нямецкай акупацыі кіраваў аркестрам у Менскім гарадскім тэатры. Ад студзеня 1944 г. — кіраўнік музычнага аддзела пры БЦР. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне ў 1947 г. арганізаваў Беларускі тэатр эстрады, які гастраляваў па лагерах *DP*. У 1950 г. выехаў у ЗША. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, дзе кіраваў хорам. Пазней перабраўся ў Кліўленд, а ад 1959 г. жыў у Чыкага і кіраваў хорам беларускай грэка-каталіцкай царквы Хрыста-Збаўцы. Аўтар шэрагу музыказнаўчых публікацый.

18 **Галіна Ганчарэнка** (нар. 1930, Бабруйск), перакладчыца, супрацоўніца радыё "Свабода". Бацькі былі рэпрэсаваныя (у 1937 г. бацька расстраляны, маці праз год высланая ў Сібір). У 1944 г. выехала на эміграцыю разам са сваёй апякункай — вядомай співачкай Барбарай Вержбаловіч. Скончыла Беларускую гімназію імя Я. Купалы ў Міхельсдорфе (1948), факультэт раманскіх моваў універсітэта горада Нью-Ёрк (1954). Працавала перакладчыцай у ААН, затым пераехала ў Мюнхен, дзе працавала на радыё "Свабода".



У Рэгенсбургу быў лягер для ўцекачоў з усходняй Эўропы. Нас пасялілі ў адным зь ідэнтычных пасёлачных домікаў. Мая сям'я й Дзіма жылі наверсе, а Янка Станкевіч[19] зь сям'ёй зьнізу. У гэтым жа лягеры жыла сям'я Заруцкіх з дачкой Шурай. Ці думаў Дзіма тады, што калісьці яна будзе ягонай жонкай?[20]

Я й Дзіма запісаліся ва ўкраінскаю гімназію, і праз якіх шэсьць месяцаў мы атрымалі дыплёмы. Я кінуўся шукаць унівэрсытэт, каб далей вучыцца. На маё шчасьце, у Мюнхэне *UNRRA* адчыніла вышэйшую школу для "нашага брата". Там ужо было шмат беларусаў, і я да іх далучыўся. Дзіма не захацеў

19 **Янка Станкевіч** (1891–1976), грамадскі дзеяч, мовазнавец, журналіст. Падчас нямецкай акупацыі ўваходзіў у склад Цэнтралі БНС, займаўся адукацыйнымі праектамі (школьніцтва, выдавецтва). У 1944 г. перабраўся да сям'і ў Прагу. У паваеннай Нямеччыне настаўнічаў у беларускіх лагерах, выкладаў у Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Стварыў Крывіцкае навуковае таварыства імя Пранціша Скарыны. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку, пазней у Нью-Джэрсі. Аўтар шэрагу навуковых і навукова-папулярных прац, дзясяткаў артыкулаў, першага поўнага перакладу Бібліі (сумольна з М. Гітліным). Супрацоўнічаў з Інстытутам вывучэння СССР у Мюнхене, пры якім быў выдадзены шэраг ягоных прац.

20 **Аляксандра (Шура) Сямёнава** (дзяв. **Заруцкая,** 03.10.1921–11.09.2011), жонка Дзмітрыя Сямёнава. Паходзіла са Стоўпцаў. Сям'я Заруцкіх выехала з Беларусі ў 1944 г. Шура скончыла Беларускую гімназію імя Я. Купалы ў Міхельсдорфе ў Заходняй Нямеччыне ў 1946 г., выйшла замуж за Дз. Сямёнава. У ЗША да выхаду на пенсію працавала ў біялагічнай лабараторыі Ратгерскага ўніверсітэта недалёка ад месца жыхарства ў г. Эдысан каля Нью-Брансвіка. Была актыўнай прыхаджанкай царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку. Удзельнічала ў беларускім культурным жыцці, этнічным руху штату Нью-Джэрсі, беларускіх мастацкіх выставах і паказах народнага адзення. Слядамі бацькоў пайшла дачка Раіна, удзельніца вядомага танцавальнага гуртка "Васількі".

ехаць са мной. Магчыма, што ён меў другія пляны. На жаль, наш унівэрстытэт зачыніўся, і мы ўсе кінуліся шукаць другіх школаў. Мне ўдалося паступіць у вышэйшую тэхнічную школу ў гор. Карльсруэ.

Аднаго дня я атрымаў ліст ад Дзімы, у якім ён папрасіў мяне быць у яго за шафэра. Я згадзіўся й паехаў да яго ў Рэгенсбург. Пасьля вясельля мы рэдка зь ім сустракаліся. Апошні раз у Нямеччыне я яго бачыў, калі ён з Шурай прыехаў у госьці да мяне ў Карльсруэ. Хутка пасьля гэтага мае бацькі і я атрымалі афідэвіты й паплылі ў Амэрыку.

Пасьля таго, як Сямёнавы таксама перабраліся ў Амэрыку й пасяліліся ў Нью Джэрзі, мы спатыкаліся рэдка. У іх нарадзілася дачка Раіна, і мы зь Верай Заруцкай[21] былі хроснымі бацькамі. Пару разоў мы былі ў гасьцях у іх у Нью Джэрзі, і яны ў нас у Рочэстары, пару разоў нават езьдзілі разам на вакацыі. Шура не сьпяшалася інфармаваць мяне пра стан здароўя Дзімы, калі ён пачаў хварэць, так што я нават ня быў на ягоных паховінах.

21 Вера Заруцкая — жонка брата Шуры, Міці Заруцкага.

**Дзьмітры Сямёнаў**

# ДЗЁНЬНІК
## 1943–1947

## Сшытак 1

Дзёньнік Д. А. Сямёнава,
пачаты 1.1.43, скончаны 24.4.43.

І той, хто пажадае знайсьці тут — у гэтым сшытку, цікавыя перажываньні нейкага юнака — знойдзе толькі апісаньне шэрых дзён суровага ваеннага існаваньня.

Тут — столькі дробязей, ня стоячых сапраўднага чалавека, столькі гразі, бруду, што кожны, хто акрамя мяне прачытае гэтыя старонкі, уявіць аўтара зусім, пэўна, не такім, які ён намаляваны на вокладцы[22], але вайна ёсьць вайна.

*1 студня.* Учора сустракалі Новы Год у Кулеўскіх. Было даволі весела. Пазнаёміўся з сяброўкаю Зарыны — Тамараю. У карты са Слаўкаю гулялі мала, бо яны вельмі хутка абрыдлі. Але-ж я выйграў 200 марак[23]. Шайкоўскія гулялі занадта азартна (я думаю, што яны гуляюць толькі дзеля таго, каб

22 На вокладцы сшытка бачныя сляды ад некалі прымацаванага партрэта, але самога малюнка не захавалася. Застаўся толькі подпіс: *“Малявала Галіна Зіер падчас працы ў Музэі”.*

23 *“200 марак — сума немалая! Цыгарэты Vesta тады каштавалі 50 марак, махорка “самасейка” — 25, сахарын — 10 таблетак на марку; пачак “савецкай” соды — 50 марак, бутэлька самагонкі, ад сівухі да першака — 200-600 марак”* (Вітаўт Кіпель).

выйграць). А. С. хутка захмялеў ад паскуднай гарэлкі і зрабіўся дырыгентам ("Лучше песню спой, Валечка"). М. І. у картах крыху махлюе, аднекуль выпарала валета чырвей, у той час як ня было ніводнае собскае карты. Мы — моладзь — сядзелі амаль што ўвесь час у Зарыніным пакоі. Перапрабавалі шмат гульняў, але ніводная не спадабалася. Такім чынам дасядзелі да 6-й гадзіны і пайшлі дадому. Наогул было добра і вельмі проста, што найбольш за ўсё падабаецца (Зарына стрымліваецца перад Тамарай). Забыўся напісаць, што бачыў М. Ф. Ён выглядае значна лепш, але плача, як дурное дзіцянё.

Сёньня прыйшоў да мяне Ігар. Я яго ўжо даўно ня бачыў. Здаецца, ён крышку патлусьцеў.

Настрой маю ўвесь час дрэнны. Сьвята надыходзіць, а мне 5-га трэба брацца за працу. А я да гэтага часу ў доктаравыя карткі нават і не зірнуў[24].

З грашыма дрэнь справа. Маю 80 м., але-ж вельмі хочацца зрабіць падноскі на боты, а гэта возьме амаль што ўсе грошы. Нават няма чаго курыць.

Увечары прыйшлі Зарына з Наташай. Зарына хацела вярцець сподачак[25], але ня было ніякага настрою, і Слаўка рагатаў, як мог. Сподачак нават не крануўся з мейсца.

*2 студня.* Дзень прайшоў звычайна. Раніцою прыходзіла цыганка (Давай, молодой, погадаю). Я яе ў хату не пусьціў і гадаць адмовіўся[26]. Па абедзе ў

[24] Маюцца на ўвазе карткі з апісаннем музейных экспанатаў.

[25] Маецца на ўвазе спірытычны сеанс, калі з дапамогаю сподачка і паперы, на якой зараней пісаліся літары, "выклікалі" духаў памерлых вядомых асобаў і задавалі ім пытанні. Звычайна рабілася ў кампаніі. Было вельмі папулярна ў часе вайны.

[26] *"Гадалак на рынках, а асабліва на Нямізе, якая была сапраўдным "ніжнім месцам" гораду, бо засталася цэлая, з*



кнігарні спаткаў Усевалада[27]. Ён пазнаёміў мяне з Галяком[28]. Усевалад езьдзіў дадому. Бацька яго хворы еще, маці за ім ходзіць. Мне вельмі шкада Воўку. Мы зь ім сьмяяліся з таго, што, напэўна, калі мы 5-га прыйдзем у Музэй[29], доктар скажа — *Natűrlich* — і адпусьціць нас на Каляды. Увечары Слаўка прынес 30 м. Потым мы пайшлі да іх. Гулялі ў карты. Я заўважыў, што ў апошні час людзі шмат гавораць аб

*дзясяткамі крамаў, было багата. Сядзелі яны ў "задзе" крамы. Найбольш гадалі на картах, але і на "сітах". Уткне войстры канец ножніц у сіта, заплюшчыць вочы і варожыць. Калі сіта пачынае круціцца — значыць "так", калі не закруціцца — то "не". А сядзіць гадалка так, што можа дзьмухаць на сіта, а кліент і не заўважае. Таму ў магазынчыкі ўладальнікі нас, вучняў, не пускалі: нам было відаць, калі гадалка "падзьмухвала" на сіта"* (Вітаўт Кіпель).

[27] **Усевалад Кароль** (1919–1984), грамадскі дзеяч. У часе нямецкай акупацыі працаваў у Менскім музеі, таксама лекарам у Баранавічах. Арыштаваны НКВД у 1944 г., асуджаны на 10 гадоў. Памёр у Баранавічах.

[28] *"Так дажылі да 1943 году. Жыцьцё далей манатоннае і галаднаватае. Часамі ігралі ў брыдж. [...] З мясцовых заходзілі сёстры Каткавічанкі, І. Касяк, два браты Кушалі — празь іх пазнаёміліся з Дзімітрам Сямёнавым, які вучыўся зь імі ў школе, а пазьней працаваў у музэі. З замяйсцовых прыяжджалі Браты, А. Шантыр, Г. Багдановіч, які быў лекарам у Івянцы і многа іншых наведвальнікаў. Госьці пераважна прыяжджалі з самагонкай і закускай, бо на правінцыі жылі многа сыцей"* (Галяк, Леанід. Успаміны. ЗША, 1982. Т. 1. С. 169).

[29] *"Пасьля таго, як я ўпарадкаваў архіў ЗАГСу, мяне ўжо Гуцька, прызначаны тады-ж старшынёй аддзелу асьветы й культуры, паслаў загадчыкам музэю. І я пайшоў. Зь веданьнем нямецкай мовы, выйшаўшы з турмы, з такімі даволі на той час моцнымі дадзенымі, якія мне дазвалялі свабодна чуцца сярод акупацыйных тых уладаў і сваіх розных царкоўнікаў і інш. [...] Другой работай, якой музэй займаўся, гэта быў перапіс усіх экспанатаў, якія засталіся, і старадрукаў. Сьпісы я рабіў у дзьвюх мовах: беларускай і нямецкай. [...] Трэцяй працай, якой займаўся музэй, гэта мы рабілі такія прыпадковыя розныя выстаўкі"* (Пазьняк, Зянон. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. Вільня, 2003. С. 61).

незвычайных рэчах (знахарах, гаданьнях, духах, ведзьмах і г. д). Цікава, чаму-б гэта. Мне здаецца, што на рэлігійным груньце.

Прасядзеў у Слаўкі аж да 10-ай. Сядзелі, гаварылі, курылі. Асабліва таму, што з намі была М. А. Нават, чаго ніколі ня было, пачаставалі гарбатай.

*3. Нядзеля*. Мама[30] раніцою хадзіла ў царкву[31]. Бацька — на базар. Прачнуўся а 10-ай, і т. я. ня было чаго рабіць, хацеў спаць далей, але прыйшоў Слаўка і падняў мяне з ложку. Думалі мы зь ім пайсьці ў кіно, але ўжо было позна, і ўсе білеты прадалі. Гулялі ў Слаўкі ў карты. Чаго не чакалі, што прыдзе Ів. Ів. з жонкай. З прыемнасьцю паабедалі. Увечары ў М. А. быў Кушаль. Па ягоным словам, зь Менску ў Нямеччыну будзе паслана 11000 чалавек. Крыху баюся за собскую скуру. Выпілі са Слаўкай па чарцы і разыйшліся спаць.

*4-га студня*. Заўтра — на працу. Гэтая думка моцна сядзіць у галаве. Нельга сказаць, каб я вельмі сумаваў па сваёй волі, але-ж і працаваць не такая ўжо ахвота.

Дзень удалося заняць крыху кіном. Пайшлі са Слаўкай. Бязумоўна, спазьніліся. Хронікі ня бачылі. Глядзелі фільм "Рай халасьцякоў" пры ўдзеле *Heinza Rühmanna*[32]. Фільм, здаецца, крыху лепшы, як палова астатніх, але…

30 Захаваўся пашпарт маці Дзмітрыя Сямёнава. Ён быў прывезены ў ЗША ў 1990-х гг. адным з сваякоў Сямёнавых. Пашпарт выпісаны на імя Алены Турцэвіч, народжанай 2 кастрычніка 1927 г. і выдадзены інспектарам народных вучылішчаў Рэчыцкага павета.

31 Хутчэй за ўсё маецца на ўвазе Чыгуначная царква.

32 **Генрых Вільгельм "Гайнц" Рухман** (1902–1994), папулярны нямецкі кінаактор.



Пуста ў мяне ў сэрцы. Як зайздрошчу я [закрэслена, нечытэльна], якія знайшлі адзін у другім сабе прыяцеля. І [закрэслена, нечытэльна] прыяцеля, а найлепшага сябру.

Кладуся спаць з думкай: што мне прынясе наступны дзень.

Чытаю: "Возвращение" — Анна Горман[33].

*5 студня*. Устаў рана, але ледзь не спазьніўся. Спаткаў ля музэя Караля. Потым прыйшоў наш *Leiter*[34] — А. А.[35] і дзядзька Пышлевіч[36]. Яго вялікасьць Віер[37] з дачкою прыйсьці не здагадаліся

33 *"Факт наконт тагачаснага чытаньня: тысяча кніжак знаходзілася ў падвале аднаго з карпусоў унівэрсытэту, дзесь у раёне паміж вакзалам і Чырвоным Касьцёлам. Вокны былі высокія, выбітыя, а паколькі будынак нікім не ахоўваўся, мы лазілі ў падвал і выбіралі кніжкі. Газэты аб гэтым не пісалі. Я сабраў добрую бібліятэку. Хадзілі мы і з дзяўчатамі. Валька Чачнёва мне ў школе аб гэтым сказала першая. Думаю, кнігі ў кампаніі Дзімы былі адтуль"* (Вітаўт Кіпель).

34 *Leiter* (ням.) — кіраўнік.

35 **А. А.** — Антон Шукелойць. Далей у дзённіку ён часта мянуецца "Антонам Антонавічам", "дырэктарам" або "дзядзькам".

36 Маецца на ўвазе вартаўнік музея Станіслаў Післевіч.

37 *"Застаўся толькі адзін мастак Габрыель Віер. Гэты Габрыель Віер жыў у тым доме спэцыялістых, што на рагу Даўгабродзкай вуліцы і праспэкту Скарыны (будзем гаварыць цяперашняй мовай). Ён з сям'ёй выехаў за горад, калі тут разбамбілі і спалілі ўсё, але потым вярнуўся. Вярнуўся і ў музэі не паказваўся. Яго Тумаш адшукаў. У музэі ўсё было развалена, дзьверы паламаныя, і нікога няма. І вось прыцягнулі гэтага Габрыеля Віера. Зь ім зноў была бяда. Ён мовы, нямецкай мовы ня ведаў, і таму там у яго рабаваў, хто хацеў. […] Мастак Віер быў яшчэ Ластоўскім спэцыяльна падрыхтаваны для музэю. Ён сам па паходжаньні малдавец, ведаў дзьве мовы. Дзядзька ягоны калісь быў праваслаўным ігуменам у Менску (па-мойму, і сьцягнуў яго). Ён спэцыяліст ад царкоўнага мастацтва, маляваў іконы. Паколькі гэты род мастацтва пры савецкай уладзе ня быў у пашане, дык Ластоўскі паслаў яго спэцыяльна на курсы ў Маскву й рыхтаваў яго мастаком-кансэрватарам".* (Пазьняк, Зянон. Гутаркі з Антонам Шукелойцем… С. 61).

і не палічылі патрэбным. Ня было яшчэ і доктара[38].

Сядзелі і гаварылі аб тым-сім. Зноў гутарка перайшла на тэму аб незвычайным у прыродзе Так дасядзелі да 12-ай. Узяў перапісаць нам шыльд: *"Eintritt verboten"*[39], але няма тушы. Зрабіў пакуль што алавіком.

Зайшлі, ідучы з музэю, у тэатар[40]. Думалі ўзяць білеты на "Цыганскага барона"[41]. Даведаліся, што ёсьць толькі 2-гі паверх, і пайшлі.

У мамы сказалі, што заўтра прыйдзе Юра, і сам, з дазволу галоўнага інжэнера, улучыць нас у лінію. Таму прыдзецца мне сядзець дома. Хацеў папярэдзіць аб гэтым Усевалада, але ён некуды смыўся.

Вечарам прыходзіла Раіса, запрашала на заўтра да іх. Ахвота пайсьці, але чую, што будзе вельмі сумна. Напэўна, нават Слаўкі не здагадаюцца паклікаць.

[38] *"У час акупацыі Менску Вэрмахтам (гэта значыць вайсковай акупацыі) загадчыкам аддзелу культуры (які знаходзіўся пры войску) у іх быў гісторык доктар Гайнрых Куртц. Доктар Куртц быў у чорнай вайсковай уніформе ў рангу старшага лейтэнанта (Ён ці ні з танкавых частак быў, бо ў яго такі кароткі мечык вісеў заўсёды пры баку). […] Ён сам быў гісторыкам. Дарэчы, ён быў выдатны фатограф"* (Пазьняк, Зянон. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. ... С. 66–67).

[39] *"Eintritt verboten"* (ням.) — "Уваход забаронены". Стандартная шыльда на шмат якіх установах таго часу.

[40] *"Пачаў працаваць Менскі тэатар, хоць наагул было забаронена быць пасьля цямна на вуліцы, аднак білет з тэатру даваў права на праход да хаты. Першай пастаноўкай была "Пінская Шляхта" В. Дуніна-Марцінкевіча. Дырэктарам тэатру быў прызначаны скарынчак Янка Краўчонак з Будслава"* (Галяк, Леанід. Успаміны… Т. 1. С. 158).

[41] **"Цыганскі барон"** (1885) — аперэта Іагана Штраўса. Яе лібрэта ў 1942 г. пераклала для Менскага тэатра Наталля Арсеннева.



Слаўка разьлічыўся са мною зусім. Маю 85 м[арак].

Папа [закрэслена, нечытэльна], але сказалі, што будзе не раней, як 11-га. Каляды ляснулі.

Правёўшы вечар у таго-ж Слаўкі, кладуся спаць.

Добрай ночы! *Gute Nacht!*

*6 студня.* З раніцы — ледзь пасьпеў падняцца — прыйшоў Юра. Сьвятло зрабілі. Пры гэтым я як памочнік нахапаў сьнегу поўную кашулю. Кончылі каля 12-й. Адразу-ж пайшоў да Усевалада, але дома не захапіў. Гаспадыня сказала, што яшчэ няма з працы. Я ў Музэй — няма, я зноў дамоў — няма. Так з носам і застаўся.

Увечары пайшлі на Куцьцю да Тарноўскіх. Час правялі добра. Галоўнае навучыліся крыху танцаваць. Тамара вельмі добра вучыць і наогул мне падабаецца. Крыху пелі, крыху пілі, крыху ў карты гулялі і крыху танцавалі.

На наступную сыботу ўмовіліся ў Кулеўскіх. Пастараюся дастаць патэфонных плітак у Мані. Думаю, не адмовяць.

Разыйшліся а 4-ай.

Уладзімер Пятровіч спаў у нас.

*7 студня.* Каляды. Усталі ўсе позна. Пайшоў да Слаўкі. Дзяліліся ўражаньнямі ад вечара. Аказваецца, вельмі прыемна [закрэслена, нечытэльна] прайсьціся ў танго. Вырашылі навучыцца танцаваць. А то два хлопца, дзьве доўбні толькі і могуць, што [закрэслена, нечытэльна], (адносна) і ня думаюць.

Пакуль мы такім чынам разважалі, прыбегла мама зваць сьнедаць. Я пабег і на сваім крыльцэ так бразнуўся копчыкам аб сходкі, што ледзь падняўся. Першая думка: вось і патанцую! З пачатку ад болю ня мог паварухнуцца, але потым разыйшоўся.

Пайшоў зноў да Воўкі. Нарэшце злавіў і то ў інтымнай бяседзе з Галінаю (жартую — яна яго малявала). Пасядзеў у яго. Заўтра на працу. Антось[42] баіцца адпусьціць нас да панядзелка, а доктар ня едзе.

Галіна, як і раней, нейкая дзіўная, а можа і проста ламаецца. Пасьля даведаўся, што ў яе ёсьць туш. Разам з Усеваладам пайшлі да яе. Туш узяў. Правёў сябра да дому і сам пайшоў туды-ж.

Зрабіў свой *"Eintritt verboten"*. Здаецца, нават нядрэнна, але баюся, што завялікі.

Прыйшлі Мар'я Антонаўна са Слаўкаю. Сядзелі да паловы дзявятай.

Слаўка ўмовіўся на загатоўкі. Думаем крыху падрабіць[43]. Галоўнае выручыць тое, што патрацім, а астатняе… [закрэслена, нечытэльна].

Было-б нядрэнна.

А зараз спаць.

Набрацца многа моцы,

Каб дзень наступны быў днём выняткова карыснае працы.

*8 студня.* Пачаўся дзень з таго, што я згубіў галоўку ад гадзіньніка. На шчасьце, маю ад дзедавага, падыходзячую да майго. Сядзелі ў Музэі, гаварылі. Хацелі ўзяць білеты на "Цыганскага барона", але зноў знайшлася перашкода. Пілілі свае дровы. Быў у Мані. [закрэслена, нечытэльна]. Здабыла мне

[42] Шукелойць.

[43] *"Ня ведаю, што ён разумее. Зараблялася толькі адным: спэкуляцыяй. Нешта куплялася ў немцаў і перапрадавалася на базары. Я, прыкладам, гандляваў сахарынам. Купляў у немцаў на маркі альбо мяняў на масла (купіўшы масла) пачак сахарыну (100 штук) і расфасоўваў яго ў пакецікі па 10 штук. "Сахарын, дзесяць на марачку" — вось адзін з крыкаў, якія стаялі на рынку. Таргаваў таксама содай, керасінам"* (Вітаўт Кіпель).



(пазычыла) патэфонных плітак. Сьцепанчыха бурчэла, пэцкала і зьдзеквалася, як магла. Але-ж здабыў. Пайшлі да Кулеўскіх са Слаўкаю і даведаліся, што няма... патэфону. Зарына паказала сябе пры гэтым з найгоршага боку. Патэфоннае пытаньне ўладзіла М. А., папрасіўшы ў Чэчнёвых[44]. Пайшлі а 7-ай да Тарноўскіх і праслухалі свае пліткі.

Надзвычайна, асабліва таму, што яны зьвязаныя з вельмі прыемнымі ўспамінамі.

Вечар прайшоў туды-сюды, а заўтра будзе [закрэслена, нечытэльна].

Чытаю: "Золотой поезд" — Владимир Матвеев, издательство писателей в Ленинграде[45].

*9 студня.* У музэі працавалі па-сапраўднаму. "Цяжкой працай" — пілавалі свае дровы. Сьмяяліся зь дзядзькі Віера. Па ягоным словам, *"Нейкі вучань, паводле сваіх адзнак, кінуўся ў калодзеж"*. Чакалі доктара — не прыехаў.

Так прайшоў сыботні працоўны дзень. З наступнага тыдня пачынаецца сапраўдная праца.

Разам з мамай з Гэн. Камісарыяту[46] пайшлі дамоў. Ля сваіх варот сустрэлі Юру. Ён нас чакаў.

[44] *"З адной сястрой, Валяй, я вучыўся ў 3-й клясе прагімназіі на Нямізе і ў 7-й клясе 30 школы (насупраць клінікі на Горкага). Яны жылі недзе каля абутковай фабрыкі, уверх на Нямізе, направа. Беларуская, мяшчанская сям'я, але добра ведала Менск. Яна мне якраз сказала, што ў адным з карпусаў Унівэрсытэту можна "ўзяць" кнігі"* (Вітаўт Кіпель).

[45] **Уладзімір Мацвееў** (1897–1940), вядомы як "аўтар аднаго твора" — прыгодніцкай аповесці "Залаты цягнік" (іншае выданне — "Камісар залатога цягніка"), пабудаванай на асабістым вопыце аўтара: па загадзе Леніна Мацвееў быў прызначаны камісарам цягніка з залатым запасам Савецкай рэспублікі. У 1935 г. сасланы на 5 гадоў у Туруханск Краснаярскага краю.

[46] *"Пры Генэральным Камісарыяце была вялікая група людзей, якія працавалі ў галіне эканомікі"* (Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Нью Ёрк, 1998. С. 212).

Аказалася, што ён забыўся зьняць паказчык з эл. лічыльніка.

Убачыў Слаўку. Зарына не прыйшла, дык ён хадзіў да яе. Надзей на Тамару ніякіх, і нават сама ня прыйдзе. Вельмі безь яе сумна будзе, але-ж што зробіш.

Чачнёвы прынесьлі патэфон, і мы са Слаўкай пайшлі выбіраць пліткі. Як я бачу, адносіны да іх (да плітак) вельмі дрэнныя. Выбралі і пайшлі да нас.

У нас быў Ів. Ів. Я ўмовіўся зь ім наконт воласу і шчаціны. Будзе а 2-й гадзіне ў панядзелак.

Пайшлі да Кулеўскіх. Там была Раіса, якая ўяўляе сабой "святую наивность". Клянчыла ў мяне колькі з Маніных плітаў. Я ажно кіпеў — так не хацеў даваць, але-ж усё-такі выклянчыла. Узяла яна *"Lilli Marlen"*[47]. Каб ёй пуста было, які я быў злы.

Танцавалі, сядзелі, слухалі, елі, гулялі, танцавалі, елі, танцавалі, гулялі, слухалі, пакуль ня леглі спаць.

Крыху пасьмяяліся з Зарыны, але ў гэтым мала сьмеху. Любіць выпіць, як і яе бацька. А як нап'еццa, дык бессаромная да немагчымасьці. Так нельга і яшчэ раз нельга. Бо распусная і бяз водкі.

*10. Нядзеля*. Прачнуліся а 8-й. Адразу пачалі чхаць. Пачакалі да гарбаты і, папіўшы, пайшлі дамоў. Яшчэ ў Кулеўскіх прыкмецілі, што з нашай машынкаю нешта нядобра. Слаўка нeяк аддаў яе, пакуль я адносіў пліткі Мані.

Правёў увесь дзень на сваім двары (у сябе і ў Слаўкі). Увечары пераапраналіся ў дзедаву вопратку. Вельмі сьмешна.

[47] ***"Lili Marleen"*** — нямецкая песня пра каханне, напісаная ў 1915 г., што набыла надзвычайную папулярнасць падчас Другой сусветнай вайны.



*І зноў трэба класьціся спаць.*
*Каб раніцай бодрым устаць.*
*Ісьці да сябе на працу (цяжкую).*
*І за гулянку браццa (пустую).*

P. S. Купіў гэтымі днямі дзьве маленькія лямпачкі па 3 м[аркі]. Думаў, возьме Зарына й шчэ хто. Пакуль што справа безнадзейная. Ляжаць і страх на мяне наводзяць[48].

*11. Панядзелак (студзень).* Мароз 24° С. Ажно зьвініць. Дроваў не пілавалі. Хадзілі ў Ген. Камісарыят па справе абмену аўсвайсаў. Пойдзем 'шчэ і заўтра.

Мама атрымала на маю "цяжкую працу" пушачку *"Vestoi"*. Куру з прыемнасьцю. Папа сказаў, каб я ехаў на базу па бульбу і гародніну[49]. Аднаму немагчыма, а Слаўку прасіць нязручна. Паедзем можа заўтра.

Кудраўцаў ня прыйшоў. Ів. Ів. прынёс 1 пучок воласу. Васька стаіць па-за брамай і мерзне за загатоўкі.

Зараз пайду да Кулеўскіх адносіць хлеб для Ан. Ів. (на 5 ч.).

Слаўка спаткаў Зарыну. Казала, што будзе начаваць у Тарноўскіх і прыйдзе да нас. Паміж іншым, я адчуваю, што згубіў да яе як да дзяўчыны ўсякую павагу. Паглядзім, што будзе ўвечары.

Як я адносіў хлеб, то Зарына ўжо ісьці не зьбіралася, а стаяла ў халацiку ля печы.

[48] *"Электрычнасьці ня было ў цэлым горадзе. На Берасьцянскай была керасынавая лямпа"* (Вітаўт Кіпель).

[49] *"Калі бацькі працавалі ў Камісарыяце, то ў іх быў свой "распределитель" — нейкі склад, дзе выдавалася бульба. Просты сьмертны бульбу купляў на базары. Мы, калі прыехалі з Арла, як бежанцы атрымалі карткі толькі на хлеб"* (Вітаўт Кіпель).

Прасядзеў вечар у Слаўкі. М. А. гаворыць, што хадзіла даведвацца пра нашу школу. Будзе плата па 5 м. у месяц і будзе даваць права паступлення адразу на 3-ці год мэдыцыны. 20-га трэба будзе да 9-ае раніцы зьявіцца ў I-ю больніцу.

*12. Аўторак.* Устаў, не пасьпеў нават агледзіцца, пабег у Музэй. Пілавалі дровы. Білетаў не дасталі.

Атрымаў гародніну. К. прыходзіў, калі мяне ня было. Гадзіньнік становіцца. Сядзеў у Слаўкі. Ів. Ів. прынёс *Besen*[50]. Дзіва. Страх. Лес. Самі таксама робім. Доктара няма. Сьмяяліся з Ваські. Спакойнай ночы.

*Сяньня 29 студня.* Як бачыце, не пісаў ужо даўно. Але, як я і ўпэўніўся, няма ніякае цікавасьці пісаць пра кожны звычайны дзень. Яны ідуць і ідуць бясконцаю чарадою, і вельмі рэдка бывае прасьвет у цёмных буднях, калі жыцьцё тваё ўзбагаціцца новым уражаньнем, калі падымецца настрой і мімаволі мы пачнем марыць аб чымсьці казачным, трывожным і хвалюючым. Як ясная зорачка ў цёмным небе сярод шэрых хмараў — гэты дзень блішчыць, і аб ім вельмі доўга помнім.

Але даволі глупства.

Нарэшце дачакаліся доктара. А. А. унёс праэкт, каб кожны, узяўшы працу з Музэю, выконваў яе дома. Такім чынам я зусім бяз працы сяджу дома ад аўторка, г. зн. ад 26.

Бацька, атрымаўшы 30 пар пальчатак, ледзь не згубіў іх па дарозе. Але знайшоў, здэцца.

А. А. забраў у нас ложка (пазычыў, а не забраў).

З фэльчарскае школы атрымаў даведку, што залічаны туды вучнем. Школы яшчэ не адчынілі, а

[50] *Besen* (ням.) — мятла.



патрабуюць грошай за год уперад. Грошы маю, Слаўка аддаў выручку з халтуры — 90 м. Застаўся яшчэ 7 м. вінны. Нарэшце зрабіў падноскі. Аддаў 70 м.

Аднёс Усеваладу адну пальчатку. Вельмі дзякаваў.

Пасьля тае суботы больш наша гоп-кампанія не зьбіралася. Зарына сапсавалася зусім — карова ды й больш нічога.

Гадзіньнік мой стаіць.

1-га ў школу.

Думкі рвуцца, ніяк не магу сабраць іх у галаве.

*5 сакавіка.* Вось ужо месяц прайшоў з тае пары, як я сеў на вучнёўскае крэсла. Ня браўся за алавік, як бачыце, увесь люты. Але-ж пастараюся прыпомніць усё па парадку.

Калі 1-га лютага мы пайшлі ў школу, то выступіўшая з прамоўкаю д-р Станкевіч[51] сказала: *“Мэблі, якую мы заказалі ў Смалявічах, — няма. Прыдзецца пачакаць да 5-га”.* 5-га мэблі ізноў ня было, але ўжо займаліся. Я ўмовіўся з доктарам Гронау[52], што прыблізна з месяц хачу павучыцца ў школе, не звальняючыся з музэю, каб ня згубіць такога добрага мейсца ў крайнім выпадку. Доктар згодны.

Цяжка прыпомніць усё па парадку. Нейк да нас у групу заходзіў Ермачэнка[53]. Казаў, нібыта будзе

[51] Менскі доктар.

[52] **Вальтар Гронаў**, дырэктар краязнаўчага музея ў Інстэрбургу (сёння Чарняхоўск Калінінградскай вобл. Расіі). У гэтым музеі меліся быць размешчаныя менскія калекцыі.

[53] **Іван Ермачэнка** (1894–1970), грамадскі дзеяч. Ад кастрычніка 1941 г. у Менску, узначальваў Беларускую народную самапомач (БНС). У 1942 г. узначаліў Раду мужоў даверу пры генеральным камісару Беларусі В. Кубэ. Увесну 1943 г. у часе канфлікту СС з цывільнай адміністрацыяй быў зняты з пасадаў і высланы ў Прагу. Ад 1948 г. — на эміграцыі ў ЗША, працаваў лекарам.

ўрачыстае адчыненьне школы, але мы яго чакаем да сяньняшняга дня. Я ўжо пасьпеў злавіць дзьве тройкі 1. па беларускай дыктоўцы, 2. па кантрольнай матэматыцы. Астатняе пакуль — нядрэнна. Ну і настаўнічкі ў нас — проста дзіва. Хоць можа гэта і непрыгожа, але раскажу аб усіх.

1. Беларус, настаўнік роднае мовы, Рашчэня. На яго лекцыях я мацней, як заўсёды, адчуваю, што ў маіх грудзёх б'ецца беларускае сэрца. Ня думайце, калі ласка, што гэта адбываецца таму, што мой настаўнік патрыёт, шчыры беларус, ведае і можа выкладаць родную мову і літаратуру. Зусім наадварот! Ён блытаецца ў фармуліроўках, ня можа правільна напісаць слова "мэтр" (і не яго аднаго, а мусі быць амаль нічога), выкладае суконнаю моваю так, што пад яго гутарку ніякага канспэкту весьці нельга. Характэрна тое, што пытаўся ў мяне: чы не параю я яму вывучаць нямецкую мову? Які-ж зь яго настаўнік, калі ён пытаецца і шукае рады ў вучня. Дае гэты бяда-настаўнік прыклады тыпу: Наркамздраў, Наркамасьвета і г. д. Ужо мае дарагія сябры А. А. і Воўка ведаюць аб гэтым. Ведае аб гэтым і Школьны Інспэктарыят і, здаецца, да маёй радасьці, што яго ў хуткім часе выкінуць[54].

2. Гісторык, Валасэвіч. Гаворыць, старэнькі, ужо рыпячым голасам. На кожнай лекцыі пытаецца, ці не здабыў хто Пічэты[55] (г. зн. падручнік)[56]. За гэта яго й празвалі Пічэтаю. Гаворыць "общепонятною" моваю. У канспэктах блытаецца, і тое, што павінна стаяць у пачатку, ставіць у канцы.

3. Лацініcты. Нікіфараў. Старэнькі таксама чалавек. Выкладаў яшчэ лаціну ў духоўнай сэмінарыі ў Менску. Ведае Кулеўскага. Мае ўсе залатыя зубы і шэпелявіць. Просіць выбачэньня, што вымушаны гаварыць па-беларуску, а не па-расейску. Гоніць сваю лаціну ў хвост і ў грыву. Ледзь-ледзь пасьпяваем. Залішне ветлівы. Выклікае вучня: *"Дазвольце, калі ласка, з вамі пагутарыць"*.

4. Матэматык. Прозьвішча ня ведаю. Высокі, паджары чалавек. Матэматыку ведае вельмі добра. Мае цудоўны почарк.

5. Фізык. Праф. Анішчанка. Любіць вайсковую дысцыпліну. Прымушае ўсіх стаяць па хв. 5. Гаворыць "общепонятно", дарма што прафэсар. Але адзнакі ставіць добрыя.

6. Геаграфія. Жанчына, прозьвішча ня ведаю. Не гаворыць, а сьпявае калыханку. А-а-а, а-а-а, а-а-а-а[57].

7. Хэмія. Жанчына, таксама ня ведаю прозьвішча. Здаецца, нядрэнны чалавек. Гаворыць "общепонятно".

8. Нямецкая мова. Зусім дзяўчынка. Здаецца, 19 гадоў мае. Мову ведае добра, бо займалася ў Арцымовіч. Сябруе з дзяўчатамі з нашае-ж групы. Займаецца сама ў 3-й групе.

Наогул, школу сваю люблю й вельмі за яе хварэю.

Цяпер крыху аб асабістым жыцьці. У групе ёсьць колькі прыгожых дзяўчат. Мне вельмі падабаецца адна зь іх, Ірына Пархімчына. Першы раз у жыцьці

[54] *"Нацыянальная "бдительность" заходзіла задалёка!"* (Вітаўт Кіпель).

[55] **Уладзімір Пічэта** (1878–1947), гісторык, педагог, першы рэктар БДУ.

[56] Могуць мецца на ўвазе некалькі кніг Уладзіміра Пічэты. Напрыклад, "История Литовского государства до Люблинской унии" (Вільно, 1921), "Исторические судьбы Западной Украины и Западной Белоруссии" (Москва, 1939), або "Гісторыя Беларусі" (Ч. 1. Масква–Ленінград, 1921). *"Найбольш у школах карысталіся Ігнатоўскім. Пра Пічэту чую першы раз"* (Вітаўт Кіпель).

[57] *"Магчыма, Барнавіцкая. Гаварыла нарасьпеў. Прафэсыйны географ"* (Вітаўт Кіпель).

зрабіў, мусі быць, дурасьць, напісаў ёй ліст. Пэўня, я зайшоў далёка, бо ніколі ня думаў, што мною яна будзе так памыкаць. Увесь час гавару зь ёю пад пагрозаю таго, што яна на мяне пакрыўдзіцца. Учора я напісаў ёй пісульку: калі цябе нашыя, хоць і кепскія, адносіны даражэй за нейкую пісаніну (а яна вымушае мяне ўвесь час пісаць што-небудзь цікавае), то можаш крыўдзіцца, колькі пажадаеш.

Ваня П. мае больш, як мне здаецца, прыяцельскія адносіны з другою дзяўчынаю, Адаю Жарскаю. Гэта дачка загадчыка Аддзела Культуры і Асьветы[58]. Зарына-ж вешаецца яму на шыю. Калі ўжо перайшоў я да Зарыны, то буду казаць аб ёй і далей. Яна, халера, проста кумка ды такое трапло, якога сьвет ня бачыў. Разводзіць на мяне плёткі і са мною не гаворыць нават. Проста так хочацца зьбіць яе ў кроў, каб была навука. Слаўка выконвае ролю лістаносца і перадае пісулькі ад мяне і ад Ванькі. Зарына чымсь абразіла Ваньку і ўвесь час хоча зь ім памірыцца. Слаўка нечакана ўлез у Алін дзёньнік, але што там вычытаў, не гаворыць. Я і не цікаўлюся. Кажа, што даволі моцныя рэчы. На лекцыях у школе ўвесь час перадаем пісулькі, ды так, што да канца 6-ае лекцыі ўся падлога проста белая.

Займаюся ў Арцымовіч. Дае якія-ніякія веды. Час у яе праходзіць так прыемна, што проста адпачываеш.

[58] **Платон Жарскі** (1901–1945), філолаг, грамадскі дзеяч. Арыштаваны ГПУ БССР у 1930 г. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской адміністрацыі, быў загадчыкам школьнага аддзела гарадской управы. Уваходзіў у Беларускае навуковае таварыства (намеснік старшыні). Распрацаваў праект адкрыцця за немцамі Беларускага ўніверсітэта. Падчас Другога Усебеларускага кангрэса — старшыня мандатнай камісіі. Застаўся ў Менску, дзе быў павешаны ў 1945 г.



Канчаткова скончыў справы з Музэем. У глыбіні душы вельмі шкадую аб гэтым. Але сардэчныя адносіны да мяне з боку маіх дарагіх сяброў мяне супакойваюць. Ніколі не забуду словаў Караля: *"І калі ў жыцьці тваім будзе што-небудзь цяжкое, зварачайся да нас, і мы чым толькі будзе магчыма, дапаможам"*.

У заканчэньне скажу, што ўзяўся за дзёньнік толькі таму, што хворы і ў школу не пайшоў. На ложку побач са мною сядзіць Слаўка і зубрыць лаціну.

Яшчэ крышачку.

Вельмі часта хаджу ў тэатар і ў кіно. Мама бурчыць, і я ёй спачуваю, яна, бедная, хвалюецца за мяне. Але-ж і я не магу так сумна жыць. Быў на прэм'еры "Лясное возера"[59]. Білеты мне здабылі, як і на другую прэм'еру — "На Антокалі"[60] — мае сябры. На "На Антокалі" здабылі для мяне нават два білеты,

[59] *"Неяк у гэтым часе да мяне зьвярнуліся з прапановай напісаць лібрэта да новае опэры, якая мелася быць пастаўленая ў нашым тэатры. Працаўнік аддзелу Мастацтва пры гарадзкім Камісарыяце сп. Ільлінскі, чалавек вельмі несымпатычны, але які знаўся на мастацтве, так схарактыразаваў мне тое, чаго ад мяне вымагалася: "Лібрэта опэры, — казаў ён, — павінна быць пабудаванае на рамантычным каханьні з трагічным эпілёгам. Нават сэнтымэнтальнасьць тут не зашкодзіць". Вось я й занялася рамантычна-сэнтымэнтальнымі плянамі. Пасьля доўгіх хістаньняў я наважылася ўзяць за сюжэт опэры маё "Лясное возера" з цыклю "Зачараваны кут" у зборніку "Пад сінім небам". У тварэньні опэры брала ўдзел блізу ўся рэдакцыя, бо калі лібрэта было скончанае, прынятае, і пісаньне музыкі даручанае кампазытару М. Шчаглову, кожны крок наперад, кожная новая арыя праслухоўвалася і абмяркоўвалася ў нашым рэдакцыйным пакоі. Я-ж проста не магла дачакацца кожнага новага акту! Упершыню я чула свае радкі жывымі, зьвязанымі з мэлёдыяй"* (Арсеньнева, Натальля. Аўтабіяграфічны нарыс // Юрэвіч, Л. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью Ёрк, 1999. С. 242–243).

[60] **"На Антокалі"** — п'еса Ф. Аляхновіча.

і я запрасіў Іру. Яна якаясьці асаблівая. Пэўна, і ў гэтым пераконаны, — дзяўчынка з характарам. Але характар мае дрэнны. “Антокаль” — вясёлая камэдыя, пастаўленая ў Менску як апэрэта, мне спадабалася. Дзеля-ж Іры — яна завясёлая. Ёй падабаюцца больш драмы.

Зусім іншая справа “Лясное возера”. Як да першае беларускае гістарычнае опэры да яе трэба адносіцца добра, але ў ёй шмат недахопаў. Вельмі ўжо яна манатонная. Музыка ў асноўным добрая, але расьцягнута на 4-ы дзеі тое, што можна паказаць у 2-х. Дырыгент і кампазытар — Шчаглоў. Лібрэта Н. Арсеньневай. Пазнаёмілі мае сябры мяне з Каткавічанкаю (здаецца, Вэра[61]). Яна — сястра Анэлькі[62], тая, зь якою пазнаёміўся яшчэ ў Музэі, і займаецца ў нашай школе. Сапраўдная беларуска і прыемная дзяўчына[63].

Бачыў у тэатры Маню С. Яна была зь нейкім немцам[64]. Пахудала яшчэ боляй. Вельмі запрашала да

[61] **Вераніка Катковіч** (у замужжы **Клентак**, нар. 1918), дзяячка СБМ. Намесніца кіраўніцы СБМ Надзеі Абрамавай і кіраўніца юначак у Менску. У 1944 г. выехала ў Нямеччыну. Была кіраўніцай дзявочага лагера ў Дэсаў. Пасля капітуляцыі працавала ў Польскай вайсковай місіі ў Берліне. У 1948 г. выехала ў Польшчу, жыла ва Уроцлаве, дзе ў 1949 г. была арыштаваная і дэпартаваная ў СССР. Адбывала пакаранне ў Кінгірскім лагеры. Па вызваленні ў 1956 г. вярнулася ва Уроцлаў.

[62] **Анеля Катковіч** (1914–1982), грамадская дзяячка. Падчас нямецкай акупацыі працавала перакладчыцай у Менскай гарадской управе. Улетку 1944 г. выехала ў Нямеччыну. Пасля капітуляцыі працавала ў Польскай вайсковай місіі ў Берліне. У 1949 г. была адазваная ў Польшчу, дзе арыштаваная і асуджаная да 10 гадоў лагераў. Пасля вызвалення вярнулася ў Польшчу. Жыла ў Варшаве.

[63] Больш падрабязна пра сясцёр Каткавічанак гл.: Катковіч, Анеля, Катковіч-Клентак, Вэраніка. Успаміны. Беласток: Беларускае Гістарычнае Таварыства, 1999. — 142 с.

[64] *“Зь немцамі хадзіла няшмат нашых дзяўчат”* (Вітаўт Кіпель).



сябе, але я ніяк не магу выбраць часу, бо заняткі ў школе ідуць занадта шпарка, і трэба рыхтавацца.

Навучыўся я танцаваць танго.

Ну, на сяньня ўжо хопіць. Дзякуючы вольнаму дню, за які я нагнаў кінутае, буду пісаць кожны дзень.

Напэўна, гэты дзень ніколі ня скончыцца. І я яшчэ раз вяртаюся да гэтага сшытка. А палове чацьвёртай прыйшоў Валодзя П. і прынёс ліст ад Іры. Яна, бедная, таксама, як і я, ляжыць у ложку. Але як зьмяніўся настрой і адносіны да мяне пасьля тае пісулькі. Нават, чаго яшчэ ніколі ня было, называе мяне *“Милый”*. Адказ даў тут-жаж. Пераслаў яшчэ кнігу “Девятый вал” Данілеўскага[65]. Няхай чытае.

[закрэслена, нечытэльна].

*6 сакавіка.* Думаў, што пайду ў школу, але-ж не, тэмпература ўчора была, пэўна, даволі высокая. Сяньня прымушаны сядзець удома. Заснуў учора нечакана, нават і чаю ня піў. Зараз пачаў пераглядаць свае дакуманты. Перачытаў лісты Антонія. Дарагі мой сябра. Дзе ён, што зь ім? З фотаздымку глядзяць на мяне яго блакітныя вочы. Каб ён мог мяне пачуць, я-б расказаў яму на яго мове аб сваім жыцьці-быцьці; ужо столькі часу прайшло, як я атрымаў ад яго апошні ліст.

Другія людзі, каму гаварыў я аб ім, кажуць: *“ён ня быў тваім Freund’ам[66], а толькі Bekannter[67]”*, але гэта ня так. Ён мой найлепшы *Freund*!

Ад няма чаго рабіць зьявілася думка пералічыць усе фільмы, якія я бачыў у “Беларускім Кіне”. Паспрабую: “Апошняя рунда”, “Стрэлы ў ночы”, “Яго найлепшы сябра”, “Зорка з Рыо”, “Вясёлыя бадзяжкі”,

[65] **Рыгор Данілеўскі** (1829–1890), украінскі і расійскі пісьменнік.

[66] *Freund* (ням.) — сябра.

[67] *Bekannter* (ням.) — знаёмы.

“Лёрды і лекаі”, “Сем гадоў няўдачы”, “Опэрэта”, “Кельнэрка Ганна”, “Рай халасьцякоў”, “Венскія мэлёды”, “Цірольскія розы”, “Кора Тэррі”, “Мужчыны павінны быць такімі”, “Наша паненка — доктар”. Здаецца, усё. Не, яшчэ “Масква—Шанхай”. Найбольш мне спадабаліся зь іх “Кэльнерка Ганна” і “Опэрэта”. Лічу нядрэннымі ўсе астатнія, за выключэньнем “*Kora Terri*”, “*Manner mussen so sein*”, “*Stern von Rio*”, “*Siben Jahre Rech*”[68].

У Беларускім Тэатры за ўвесь час глядзеў і слухаў: “Яўген Анегін”, “Кармэн”, “Вясельле Фігаро”, “На Купальле”, “Лясное Возера”, “Пінская шляхта”, “Прымакі”, “Зьбянтэжаны Саўка”, “Здрада і каханьне”, “Лекар мімаволі”, “Хітрая гаспадыня”, “Затонуты звон”, “На Антокалі”, “Нора”. Мусіць, усё, ведаю, што бачыў увесь рэпэртуар, за выключэньнем “Пан Міністар” і “Цыганскі барон”. Зато я бачыў тое, чаго ніхто ня бачыў: гэнэральную рэпэтыцыю “Кастусь Каліноўскі”[69]. Акрамя ўсяго гэтага слухаў безьліч канцэртаў.

Ад раньня сядзеў у мяне Слаўка, вучыў геаграфію. Пэўна, нічога ня вывучыў, бо ўчора была такая-ж гісторыя з лацінаю. Адчуваю сябе дрэнна. Ляжу і перачытваю журналы. Прышла мама, а зь ёю Ніна Ш. Потым мама мыла падлогу, а потым прыйшла Ванда.

[68] *“Прыпушчаю, што Д. Сямёнаў так часта хадзіў у кіно, бо было недалёка ад дому. Трэба дадаць, што нямецкія аддзелы, як, прыкладам, Org. Totd — рабочыя каманды — на Камароўцы часта арганізоўвалі сеансы фільмаў для моладзі”* (Вітаўт Кіпель).

[69] *“А працы чакала шмат. Усё пераважна для тэатру. Цяпер быў на чарзе “Цыганскі барон”, “Разьбіты кубак” Клейста, “Зачараваная жалейка” Моцарта й “Вечны стралец” Вэбэра, ня лічачы драбнейшых рэчаў і перакладаў, якія былі патрэбныя для тэатру штодня”* (Арсеньнева, Натальля. Аўтабіяграфічны нарыс // Юрэвіч, Л. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі… С. 245).



Прыйшоў доўгачаканы Валодзя і прынёс мне ліст ад Іры. Ізноў прыемныя словы, якія грэюць сэрца. Бедная, яна просіць, каб я не пісаў ёй больш словаў, ад якіх яна чырванее. Але-ж гэта праўда. Яе вочы так і глядзяць на мяне. Тут-жаж напісаў адказ, у якім падбадзёрыў яе і зноў зварачаўся да яе “Мая Мілая!”

Ліст мой паехаў разам з Валодзяй.

У клясе захварэла ўжо чалавек дзесяць. Хворая: Ада Ж. Увесь дзень выклікалі па ўсім прадметам. Так што я адстану вельмі мала.

Слаўка зьбіраецца ў госьці чы да Юркі, чы да Алы. Юра мае сяньня свой юбілей. Але дзяўчаты здэцца хочуць яму зрабіць нечаканасьць — запрасіць усіх да Алы. Так што ня ведаю, што будзе.

Прыходзілі Ів. Ів. і Ф. В. Сядзелі парадкам. Па гуках патэфону і па сьмеху чую, што ў Чачнёвых танцуюць. Як крыўдна!

Пад гэтыя гукі і засынаю.

*7 сакавіка.* Сяньня маем нядзелю — калейдаскоп за цэлы тыдзень. Прыходзілі ўсякія людзі: Ів. Ів., Ан. Ів., М. А. Да мяне прыходзілі Юра і Ваня. Бязумоўна, Валодзя прынёс ліст ад Іры. Дарагая мая, што яна хоча!? Пасылаю ёй сваё апавяданьне пра пражытае, якое насабачыў, лежачы ў ложку.

Дрэнна пішацца. Выбачайце!

*8 сакавіка.* Сяньня вырашыў падняцца, хоць чуюся яшчэ нядобра. Раніцою прыбег Валодзя і забраў мой ліст. З адказам яшчэ не прыходзіў. Ужо палова пятай. Слаўка — гультай, сядзіць у Алы. Чую праз сьценку гутарку. Галава цяжкая, у роце нясмачна, нават вачыма павярнуць, і то баліць.

Зрабіў лацінска-беларускі слоўнічак. Буду ў яго запісваць усе словы, якія дасьць настаўнік.

Слаўка цэлы дзень быў у істэрыцы. Рагоча і рагоча. Пусты ён чалавек. Шкада, бо мае вельмі добры характар.

У нас са Слаўкай павырасталі бароды і вусы, ды такія, што ў найкарацейшым часе трэба будзе галіцца.

Валодзя так і ня прыйшоў. Усё-ж ткі крыўдна. Як хварэла, дык ёй пішы і забаўляй як. А паздаравела, дык нават і не адказвае.

Увечары я пайшоў да Алы і перапісаў лекцыі за той час, што не хадзіў. Працы яшчэ засталося.

*9 сакавіка.* Мама ўчора здабыла мне даведку аб хваробе[70]. Напісаў яе В. Каляда. Там напісана прыступіць да працы 10 сакавіка. У школу няма чаго сьпяшацца. Я ня Слаўка і не адстану так моцна. Вырашыў пасядзець дзянёк дома і падвучыць крыху. Вельмі добра зрабіў, што застаўся дома. Раніцою, а гадзіне 11 прынесьлі ліст (паштоўку) ад дзядзі Нікана. Уяўляю, як будзе рада мама.

Перапісаў ужо ўсё. Можна ісьці вучыцца.

Прыйшоў са школы Слаўка і прынёс ліст ад Ірачкі. Дарагая мая, ёй зрабілася горай. Нават думае аб сьмерці. Як і ўвесь час, тут-жа напісаў ёй адказ. Усьцяшаў, як мог. Як я яе шкадую. Ня ведаю, можа і ня так, але мне здаецца, што гэта маё першае каханьне. Мілыя вочы! Чы думае яна аба мне? Я зрабіў бы ўсё, каб бачыць яе здаровай і вясёлай. Дык чымжа дапамагчы?

Слаўка лянуецца страшна. Няўжо яму самому ня брыдка? Яго і просяць, і прапануюць дапамагчы, а ён — не-е-е-а-а-хватала. Закінуў усё.

Чачнёвы прасілі назад сваю кніжку. А папа аддаў

[70] *“Пасьведку было ня лёгка здабыць. Купляліся падробкі”* (Вітаўт Кіпель).



яе Твардоўскай. Пабег туды, а там ізноў няма — яна аддала таксама некаму. І злы-жаж быў я!

*11 сакавіка, чацьвер.* Вось ужо другі дзень, як я пайшоў у школу. Сяньня яшчэ нічога, а ўчора было так сумна, так маркотна... ну проста да немагчымасьці. Сяньня, галоўнае, было весялей таму, што прыйшла мая Дарагая Ірачка. Зраньня яна была белая проста, як палатно. Наогул выглядае яшчэ хворай. Але-ж прыйшла! Можа, яна пашкадавала мяне? Я-ж так прасіў яе аб гэтым у лістах. Хацеў папрасіць у Яе што-небудзь пачытаць, але не пасьмеў турбаваць. Яна вельмі лёгка крыўдзіцца, а я не магу бачыць яе такой і ледзь-ледзь адпісваюся. Літаральна пішу ў дзьве рукі. Адною — лаціну, напрыклад, а другою — да Яе. Як сьвіньня паступіў, не разьвітаўшыся пасьля школы. Думаў, яна будзе ісьці з Зарынаю, але Зарыну бачыў з Алай. Няўжо я пакінуў Яе адну? Просіць Яна прачытаць гэты самы дзёньнік. Сяджу і сінім алоўкам выкрэсьліваю розныя глупствы. Але іх аказваецца вельмі мала. Думаў, што прыйдзецца выкрэсьліваць поўдзёньніка. Хоць у ім няма асаблівых таямніц, усё-ж ткі баюся, каб ён ня трапіў каму лішняму ў рукі. Хто ведае, што крыецца ў Мілай галоўцы з такімі прыгожымі вачыма.

Спадзяюся на страх і на Яе.

Выклікалі сяньня па фізыцы. Забыўся я на тое, што ў электрафоры трэба рабіць зазямленьне. Думаў, справы дрэнь, але атрымаў 5.

Слаўка лянуецца йшчэ горш, як раней. Школу закінуў. Займаецца глупствамі. І што ён сабе думае.

Ірачка прачытала мой “твор”. Каб яна ведала, што яго напісаў, ніколі ня думаўшы аб гэтым. Гаворыць, што спадабаўся, але я не даю веры. Ня можа гэтага быць.

Падкрэсьліла Яна месцы дрэнна напісаныя. Добра заўважана. Проста ў мэту.

Вясна ўваходзіць у свае правы. Што ні дзень, то мацней грэе сонейка настыўшую за доўгую зіму Беларускую Зямлю. Раніцою яшчэ ўсё пакрыта інеям і цененькім лядком, якія блішчаць залатым бліскам ад праменьняў сонца. Але-ж да паловы дня ўсё распушчаецца, і жвавыя ручайкі бягуць, бягуць па вуліцах, паказваючы праз сваю дзе-нідзе чыстую вадзіцу каменьні бруку.

Ад перамены надвор'я мяняюцца і людзі, пэўней — іх настрой.

Што зрабіць з сабою, каб навучыцца сыстэматычна выкладаць усё, што думаеш, на паперы. Заўсёды думкі скачуць, ірвуцца і нельга сабраць іх у адно месца. Узяць, напрыклад, гэты дзень. Адусюль адарвана па кавалачку. Не, так больш ня будзе. З наступнага дня пачну думаць і выкладаць, асабліва тут, дзе ніхто гэтага ня ўбачыць, усё па парадку.

*16 сакавіка.* 10-я гадзіна. Вечар. За сьцяною нашага дому гудзяць сірэны паветранае трывогі. Я ляжу ў ложку і трымаю на каленях гэтую скарбніцу маіх думак і падзей майго бледнага жыцьця.

Апошняя дата перад сёньнешняй — 11-ае. Зараз неяк ня так, як заўсёды, жыцьцё пацякло больш хутка, больш калярова, як за два тыдні раней.

Асаблівых навінаў няма ніякіх. Так толькі ў, як гавару я, “асабістым жыцьці” адбываецца тое-сёе.

У сыботу Іра дала мне запрашальны білет. У ім, у таямніцы ад другіх, просіць яна і Галя Сьнегальская прыйсьці да іх у нядзелю да 2-ой гадзіны. Такі-ж і Слаўка атрымаў.

У нядзелю пайшлі. Білетаў нашых ніхто не кантраляваў, а проста гэта быў жарт. Адразу трапілі мы да Галі, а там нас не запрасілі нават паліто ськінуць, і мы былі ўжо рашылі, што, пэўна, нічога ня будзе. Ажно ўваходзіць Іра і просіць нас да сябе. Пайшлі туды, а там сядзіць Юра Ж. Мы меркавалі прыблізна ажно і ён там будзе, але крыху зьдзівіліся. Папаўшы першы раз да незнаёмых людзей, адчувалі сябе etwas[71] не ў сваёй талерцы. Потым і гэта прайшло.

Акрамя Іры і Галі былі дзьве незнаёмыя дзяўчыны — Ляля[72] і Зюта. Другая ўяўляе сабою страшэннага вырадка. Ня нос, а дзюба, і наогул рагатая. Мы гулялі спачатку ў пошту, а потым пачалі танцаваць. Я больш танцаваў з маёй, калі-б толькі я мог так сказаць, Іраю. Як было гэта прыемна — абняўшы яе за стан, кружыцца ў віхуры факстроту, альбо ў лагодных гуках танго. Час, праведзены ў яе, Дарагой Ірачкі, запамятую на ўсё жыцьцё. Вельмі тулілася да мяне Галя. Разыйшліся ўжо па шостай. Нас крыху праводзілі дзяўчаты.

Па дарозе Юрка расказаў нам аб тым, што ўсе нашыя прыгоды вядомыя яго Іры. Зьвёў ён гутарку так, што выйшла, нібыта стала ўсё вядома ад нас са Славай.

У панядзелак у школе Іра была дрэнна настраяна. Ёй сапсавала настрой гэтая мярзота — Ала. Яна пусьціла аб Іры сэрыю плётак. Зьмяшала літаральна зь зямлёй. Іра сказала, каб я пайшоў да Ады і аднёс ёй сшыткі з лекцыямі. На тым і разьвіталіся.

Прыйшоўшы да Ады, убачыў усё кампанію ў зборы: Валодзя і Іра. Сядзелі доўга. Сьпярша Іра, потым Ада гралі на піяніне. Гаварылі крыху. Узяў у Ады дзьве кнігі. Маці яе яшчэ хворая. Валодзя застаўся яшчэ крыху, а я пайшоў праводзіць Ірачку. Дайшлі да самага яе дома. Гаварылі па дарозе мала. Як на

[71] *Etwas* (ням.) — крыху.

[72] *“Думаю, Лялька Кашалева — яна сябравала з Чачнёвай. Лялька была выдатная нацыяналістка, паехала ў Слонім. Здаецца, 1926 г. нар.”* (Вітаўт Кіпель).

зло, сустрэў Аліну сястру, і аб маіх провадах стала гэтым кумкам вядома.

Атрымаў удома крыху на гарэхі. Акрамя гэтага ня вывучыў ніводнае лекцыі.

Дзень сяньняшні пачаўся з выкліку мяне па беларускай мове. Вынік — 4.

Ужо і ўчора, і сяньня прысылае нам Галя пісулькі, на якія адказваю ў вершаванай форме. Але дзень рыхтаваў мне вялікую няпрыемнасьць. На 8-ай лекцыі атрымоўваю ад Яе пісульку наступнага зьместу: *"Я от тебя никогда этого не ожидала. Больше с тобой не разговариваю"*. Я нічога не разумею. Аказалася — Ала прыдумала нейкую новую плётку, і сказала, што аб усім ёй гаварыў я. Вялікіх цяжкасьцей каштавала перамір'е.

Ужо ўвечары (а 6-ай) прыбег Слаўка і кажа: *"Да нас прыйшла Іра, Ада і Ляля. Іра просіць твой сшытак па хэміі, але ня хоча, каб ты ведаў, што гэта для Яе. Яна з табою яшчэ ў соры"*.

За што такая няміласьць? Зараз мушу крыўдзіцца я. Бо Яна была на нашым двары і нават не зайшла да мяне. Сшытак я, бязумоўна, даў.

Як ~~мне больна~~ балюча такая непраўдзівая крыўда.

*20 сакавіка*. Сыбота.

*Ідуць бясконцай чарадою*
*Аўторак, Серада, Чацьвер…*
*Праходзяць Пятніца, Сыбота і Нядзеля.*
*І Панядзелак праляцеў.*
*І так за цягам доўгім часу*
*Праходзіць чалавечае жыцьцё.*
*І колькі дзень нясе нудот і неспадзёвак,*
*Скрадаючых багацьце ўсё маё.*

Што прайшло за гэтыя чатыры дні, успомніць, як ні сорам, цяжка.



Памятаю толькі:

Іра прасіла, каб я вытлумачыў ёй хэмію. Выканана гэта было. Прасядзеў у яе да 7-ай гадзіны. Калі, ня памятаю.

Прыходзіў Шура Б. папраўляць мой ровар[73]. Перачысьціў, здаецца, так, што трэба будзе везьці зусім у рэпаратуру.

Але я зусім дакладна памятаю сёньнашні дзень.

Напісаў я першую пісульку да Іры: *"Чы няма чагонебудзь новенькага ад Галі? Што Ты маўчыш?"* Гэта я паслаў, бо, па-першае, за гэтыя дні мы з Слаўкай ужо прызвычаіліся атрымоўваць кожны дзень пісулькі ад Галі, і, па-другое, так сказаў Слаўка.

Атрымаў адказ: *"Не всё ли тебе равно, почему я молчу? Тебе есть кому писать, и можешь писать что угодно"*.

Гэта мяне балюча зачапіла. І пайшоў зуб за зуб. Можа, я ўжо залішняе хапіў у канцы, але першы, на гэты выпадак, пакрыўдзіўся я. Пад канец я павёў проста да соры. Зайшло аб слове "бредить", а яна ня ведае, што яно значыць. Я і лясьні: *"Трэба чытаць клясыкаў. Ты ня ведаеш нават сваёй улюблёнай расейскае мовы"*. На тым і разыйшліся.

На працягу дня сабралася нашая кампанія ў кіно. Узялі білеты і на маю долю. Але пад уплывам усяго мною пражытага я ад яго адмовіўся. Потым Іра запрасіла ўсіх да сябе. Я ізноў, безумоўна, адмовіўся. Па-другое, мяне ніхто і не запрашаў.

Ідзем дадому. Яшчэ ля школы дагнала мяне А. Ж., і так мы ішлі зь ёю ўсю дарогу. Можа я ізноў мыляюся, але здаецца, што яна мае шмат лепшы характар, як яе сяброўка. Яна вельмі здарова глядзіць на рэчы і цікавіцца нашым сяброўствам. Ада вораг усякіх

[73] *"У той час менчукі рэдка ўжывалі слова "ровар", а — веламашына, веласіпед. Ровар прыйшоў з «Западнае»"* (Вітаўт Кіпель).

плётак і не баіцца іх нікольki. Падумваю я, чы не напісаць ёй ліст, у якім выражыць ёй усю праўду. Няхай перакажа яго Іры і наогул, няхай ведае ўсю маю гісторыю. Прасіць буду, каб Ада сказала Іры, што альбо хочаш дружыць, то мяняй характар, а калі не, то не. Што-ж зробіш. Ліст, усё-ж, вырашыў я напісаць. Няхай ляжыць на ўсякі выпадак.

Хлопцы пайшлі ў кіно. Я пад Адзіным уплывам рашыў ужоісьці, але пэўна мой білет ужо прадалі альбо аддалі. Так і сяджу дома. Можа, яшчэ раз возьмуся за гэты сшытак, ня ведаю, што прынясе вечар.

*21. Нядзеля.* Вечар. 10-ая. Той вечар так і не прынёс нічога новага, акрамя таго, што Слаўка расказаў мне аб тым, што было ў кіно.

Зарына і Ала, атрымаўшы запрашэньне ад нашых хлопцаў у кіно, ужо ўдумалі, што яны (хлопцы) за імі ходзяць і да іх падлізваюцца. Сволачы! Але выпадкова ім трапілі два зусім асобныя месцы. Потым Зарына ўцякла да Шуркінай і іншай кампаніі, а Ала засталася адна. Затым уцякла і гэта. Нашы хадзілі да паловы восьмай. Гулялі. Нешта Іра да Юркі таямніча шаптала.

Сяньня пачаўся дзень. Прывёз Мачальскі нешта. Прыбег Юрка і кажа: *"Іра прасіла, каб ты прыйшоў да яе, яна хоча прасіць у цябе выбачэньня"*. Гэта мне вельмі імпанавала. Але-ж як гэта я пайду? Параіўся з маёю дарагою мамачкаю. Вырашана было — ісьці. Так і зрабіў я. Дзеля гэтага ўзяў сшыткі па хэміі. Трэба было знайсьці які-небудзь повад. Прыйшоў. Стаю ля дзьвярэй, аддаўшы сшыткі. Запрашае Іра, якая йграла на піяніне — разьдзявайся, сядай. Я стаю і раблю выгляд, быццам бы вылічваю час. Потым сеў. Прыйшлі Ляля і Галя. Гулялі ў флірт. Заскочыла на хвілінку Ада. Кажа: *"Што гэта за людзі, усе надутыя, як індзюкі"*. Ляснула дзьвярыма й пайшла. Неяк выпадкова засталіся мы з Іраю адны. Гаварылі шмат, але, пэўна, яна так і не сьцяміла, чым я быў пакрыўджаны. Калі была Ада, я пачаў апранацца. Стаю амаль што, Іра сьцянула зь мяне паліто. Пасядзеў яшчэ крыху. Умовіліся, што яны пойдуць гуляць і зайдуць за мной па дарозе.

Зайшлі. Пайшлі. Слаўкі ня было дома. Я пайшоў адзін. Шпыняе мяне Іра, як можа. Хадзілі аж да паловы восьмай. У заканчэньне нашага шпацыру Іра сказала, каб напісаў ёй ліст.

Пісаць і не зьбіраюся. Калі ня хоча разумець, дык і не зразумее. У Галі ўвесь час круціцца на языку Слаўка.

Ідучы да дому, уяўляў немца. Прыемная штука, чорт падзяры!

Слаўка кажа, што ўжо другі раз бацькі мае пытаюцца, чаму я не гавару з Зарынаю. Слаўка мяне ня выдаў і сказаў праўду.

Дзяўчаты нашы больш-менш падабраліся дома. Ніколі не чакаў, што Іра на самой справе падфарбоўвае вочы. Губляе і яна козыры ў маіх вачах. Што гэта будзе?

*22. Панядзелак.* Сяньня Слаўка ўзбунтаваўся і да Арцымовіч не пайшоў. Прышлося мне ісьці аднаму. Выходзячы адтуль, спаткаў Слаўку і Валодзю. Да школы ішлі разам. Атрымаў на гісторыі ад Іры цэтлік. Пытае, чаму я пакрыўдзіўся і чы не напісаў ёй ліста. Кажу, што ўжо ўсё аб'ясьніў і больш німа чаго гаварыць. Дапякла да таго, што напісаў: *"Няўжо Ты ня бачыш, што я Цябе, усяго толькі, кахаю"* і г. д.

Адказ: *"Цябе гэта толькі здаецца"*. Адразу памякчэла і пачала больш ласкавей гаварыць.

Сяньня Слаўка і Валодзя адчытвалі Зарыну. Зарына так голасна крычала, што нават прахадзіўшы міма паліцыянт застанавіўся і доўга глядзеў,

як яна маша рукамі. Зараз яна прыйшла да Слаўкі. Будзе моцная размова.

Пісалі ў школе кантрольную па нямецкай мове. Наляпіў памылак. Таксама і Ада, і Іра, і Ваня. Усё ведалі, а тут раптам — нічога.

Да хаты ішлі разам з нашаю “настаўніцаю” — Софаю Рудкоўскаю. Яна добрая дзяўчына. Прасіла, чы не знайду для яе намесьніка на перакладчыка. Яе не пушчаюць з пасады.

Быў у амбуляторыі. Лячыў зубы. Паклалі мэталёвую плёмбу. Спаткаў Анэльку Каткавічанку. Бачыў празь дзьверы д-ра Крукоўскага, але пагаварыць не прыйшлося.

Ад Галі атрымаў пісульку, але забыўся адказаць.

*24. Серада*. Усё ідзе, як трэба. Як і раней, атрымоўваю пісулькі ад Галі, сяньня нават прыслала песьні нямецкія: *“Melodia”* і *“Meine Lippen, sie kussen so heiß”*[74]. Шчыра падзякаваў. Выклікалі мяне сёньня па Беларускай літаратуры. Адзнака 4. Засыпаўся па нямецку. Што, ня ведаю. Але ня больш, як 3. За дыктоўку маю 3+.

Зайшоў па дарозе да Караля. Віншавалі горача за тое, што перамог Рашчэню. Гэта адбылося так. Апошнія часы ён зусім з’ехаў з глузду. Пачаў даваць усякія двусэнсоўныя сказы, прыклады савецкага тыпу і г. д. Аб усім гэтым стала ведама праз М. А. — Скурату[75]. І ўчора той сказаў: *“Шукайце новага выкладчыка”*.

[74] *“Meine Lippen, sie kussen so heiß”* (ням.) — “Мае вусны, яны так горача цалуюць”.

[75] **Яўхім Скурат** (1906–1992), грамадскі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі займаўся арганізацыяй беларускага школьніцтва. Быў акруговым школьным інспектарам у Глыбоцкай акрузе ад лета 1944 г.



Ізноў учора хадзіў да Ады і тлумачыў хэмію. Дасядзеў да паловы сёмай і яшчэ трэ’ было Іру праводзіць. Правёў да *Hauptstrasse*[76], а там папрасіў выбачэньня і засьпяшаў дамоў. Была маленькая ўзбучка.

*28. Нядзеля*. Сяньня быў у тэатры. Білеты здабыла М. А. Ставілі “На Антокалі”. Так як я быў на прэм’еры, то спадабалася значна менш. Прыглядаесься да артыстых. І чуецца ўвесь час расейскае “словцо”. Наогул было добра.

Спэктакль быў дзеля Беларускае Самаахövы. Амаль увесь партэр быў заняты маладымі, на дзіва здаровымі хлопцамі. Як прыемна бачыць гэтых дзецюкоў з Беларускім штандарам на рукаве. Прамоўку перад пачаткам сказаў Адамовіч[77]. Ён з такім жарам гаварыў, што словы проста ўваходзілі ў сэрца.

Быў Іваноўскі[78], сядзелі побач. Знаёмых шмат. Перад пачаткам здымалі ўсю залю на кіно. Пэўна,

[76] ***Hauptstrasse*** — сучасны праспект Незалежнасці ў Менску.

[77] **Антон Адамовіч** (1909–1998), грамадскі дзеяч, літаратуразнавец, гісторык, публіцыст, літаратар. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Менскай гарадской управе, “Беларускай газеце”, галоўным рэдактарам выдавецтва “Менск”, уваходзіў у Цэнтральную Раду БНС, выконваў абавязкі рэферэнта па справах прэсы і прапаганды Генеральнага камісарыята Беларусь. Увосень 1943 г. выехаў у Нямеччыну. Па вайне працаваў у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу, быў адным з заснавальнікаў газеты “Бацькаўшчына”, яе рэдактарам. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Займаўся навуковымі дасьледаваннямі, аўтар вялікай колькасці літаратуразнаўчых прац. Адзін з заснавальнікаў БІНіМ.

[78] **Вацлаў Іваноўскі** (1880–1943), грамадскі дзеяч. У 1942 г. быў прызначаны бургамістрам Менска, у 1943 г. — старшынёй Беларускай рады даверу і намеснікам старшыні Беларускага навуковага таварыства (БНТ). У часе нямецкай акупацыі арыентаваўся на польскі ўрад у выгнанні і заходніх саюзнікаў,

трапіў і я. Ніколі сябе ня бачыў. Калі прыйдзецца паглядзець, то будзе вельмі цікава.

Пасьля тэатру пастроілі ўвесь батальён, зноў здымалі.

Іра ў чацьвер і ў пятніцу ня была ў школе. Абодва дні заходзіў да яе. Галя пісала, што з Іраю даволі моцна пагаварылі, і ў бліжэйшы час можна чакаць вынікаў. І здаецца мне, што гэта і праўда. Памякчэла крыху. Ужо ня кажа, а калі і кажа, то вельмі рэдка: "обижусь". У першы дзень (чацьвер) Іра дала мне Адзін альбом, каб напісаў туды які-колечы верш. Нешта такое прыдумаў.

У сыботу ў школе была Іра. Ваня зьбіраў кампаніюісьці ў кіно. Бязумоўна, так было, як і ў першы раз — ніякага толку. Амаль да апошняй часіны ніхто ня ведаў: дзеля каго куплены білеты, хто ідзе, а хто — не. Сабраліся ў канцы канцоў так: Геня, Смольскі, Іра, Ада, Зарына, Ваня, Ала, Валя, Слава, Юрка і я, да, яшчэ быў Совэнс. Расьселіся, як хто, але сядзеў побач зь Ёю. Глядзелі новы фільм (у Менску) *"Nannet"*. Фільм — так сабе. Так, яшчэ-ж былі ў новым кіне. Заля маленькая. Ня крэслы, а зэдлікі. Але зроблена з прэтэнзіяй на "уют".

Праважаліся аж да пяці па восьмай. Ня ведаю, я, пэўна, не валодаў сабой і на разьвітаньне пацалаваў Іру ў руку. Яна хістанулася. Ціхенька сказала: *"Дима, что ты делаешь?"* Я кажу, што не валодаў сабой, і, закрыўшы рукою твар, паціхеньку пайшоў. Уздагон пачуў: *"Добрае ночы"*. Дайшлі да дому без прыгод. Правялі яшчэ і Аду.

Раней умовіўся з Ірай, што дам Ёй на нядзелю ўсе свае сшыткі. Ідучы ў тэатар, аднёс, а па дарозе

падтрымліваў сувязь з прадстаўнікамі Арміі Краёвай. Спрыяў развіццю беларускага нацыянальнага руху, стварыў падпольную Партыю беларускіх нацыяналістаў. Загінуў у выніку замаху.



дадому зайшоўся тлумачыць фізыку. Сядзеў аж да паловы шостай. Пры гэтым фізыка заняла ня больш як поўгадзіны, а астатні час гаварылі. Яна ўзяла гэты самы дзёньнік і пачала мяне муштраваць з камэнтарыямі. Я, зразумела, адказваць ня мог. Рашыў я больш дзёньніка Ёй не даваць. Як я магу гэта рабіць? Яна ведае ўсё аба мне, а я аб Ёй — анічога. Напішу Ёй ліст, і ў ім вытлумачу ўсё. Я-ж кахаю Яе.

*30. Аўторак*. Як задумаў, так і зрабіў. Ліст быў адасланы, і я чакаў з нецярплівасьцю адказа. Нарэшце атрымаў.

Усё было таямніча абстаўлена. Пытаю ў Іры: *"Напісала Ты чы не?"* Адказ: *"Напісала, але перадумала аддаваць"*. Я давай прасіць і маліць, бо адчуваю, што там напісана шчырая праўда. Нарэшце пераслала, але з умовай — чытаць дома, ня тут. Потым раздумала Яна ізноў. Кажа, аддай, гэты ліст не цябе. Я адмовіўся аддаць. Для большай упэўненасьці разгарнуў ліст і прачытаў першы радок — *"Милый Дима"*. Кажу, што гэта — мне. Адказ: *"Хіба мала Дзім на сьвеце. Аддай"*. Я катэгарычна: *"Не"*.

Потым яна прызналася, што ліст мне. Я добра зрабіў, што не аддаў, інакш ня ведаў бы я гэткага шчасьця.

Яна кахае мяне!

Я-ж ведаў гэта па ёй ужо даўно, але ніколі не чакаў прызнаньня. Але Яна зрабіла добра. Нашто скрываць свае пачуцьці. Мая Даражэнькая, Любая, Каханая. Як добра мне ведаць, што я не самотны, а маю чалавека, якога люблю, і які мяне любіць.

Увесь сьвет, здаецца, усьміхаецца мне ласкава. Яшчэ ніколі, ніколі ня быў я такі радасны. Думкі ад шчасьця ня могуць сабрацца і бягуць, бягуць... Што робіць Яна, Дарагая Мая, у гэты момант. Я-ж

трымаю ў руках Яе картку і цалую яе, цалую бясконца. Чы думае Яна аба мне…

*1 красавіка.* Чацьвер.

*Вось і месяц новы*
*У дзьверы ўжо пастукаў.*
*Што-ж та прынясе ён —*
*Веснавы, славуты.*

Надвор'е ўвесь час дрэннае. Ня холадна, але цэлыя дні амаль што ідзе дождж. Ён перамяжаецца на'т і са сьнегам. Мокра. Гразна.

Бяжыць дзень за днём. І цікава, раней так цягнуліся, а зараз проста бягуць. Але я ведаю, у чым справа.

Я напісаў учора адказны ліст да Ірачкі. Аддаў. Пытае Яна потым: "Калі можна чытаць — тут чы дома?" Я адказаў, што чытай, дзе хочаш, я нічога не абумоўліваю. Яна прачытала і, ведамая рэч, нам абодвум здаецца, што мы сьмяемся адзін з аднаго, кажа: *"Нашто ты так пішаш, ізноў я чырванею. Тым больш, мне здаецца — ты пішаш няпраўду".* Што было рабіць мне, каб паказаць, што гэта праўда. Адным словам, рабіў, што мог. Увесь час Яна гаворыць загадкамі: *"Разумей, як хочаш".*

Пасьля школы пайшлі са Слаўкаю ў кіно. Пасьпелі добра, нават яшчэ і чакаць прыйшлося. Глядзелі фільм *"3 Cadonas".* Ён — з жыцьця цыркавых акрабатаў. Нічога, так сабе. Вельмі зацягнуты.

Па дарозе дамоў вымаклі да ніткі — ішоў дождж. Я яшчэ пасьпеў перад маміным прыходам пацерці бульбы ў бліны і прынесьці вады. Увечары, як звычайна, рабіў свае *Aufgaben*[79].

[79] *Aufgaben* (ням.) — заданні.



Сяньня раніцою пайшоў да Арцымовіч. Слаўка праспаў, а калі хацеў бы пайсьці, дык і не зрабіў бы гэтага. Паказала мне яна гатычны альфабэт. Цяжка пісаць, а чытаць я даўно магу — самавукам.

У школе ўсё па-старому. На перарывах гулялі ў мяч. Я зусім нечакана высьветліў, што нядрэнна гуляю, а год назад — ня мог зусім.

З повада 1-га красавіка ўсе жартавалі. Было весела. Іра пісала шмат. Усё просіць што-небудзь цікавае. Дзе-ж я яго вазьму. А тут яшчэ Слаўка пад бокам сядзіць і нічога ня робіць. Гультай страшэнны. Хоць бы адну літарку напісаў. Ізноў пішу ў дзьве рукі.

Потым Ірачка папрасіла назад свае лісты. Я аддаць адмовіўся. Дайшло да таго, што я напісаў: *"Думаю, што больш кахаеш Ты тое, што пішу цікавае, а не мяне".* Адказ ізноў загадкай: *"Няпраўда, разумей, як хочаш".* Іра сказала, што заўтра ня прыйдзе ў школу, і каб напісаў Ёй што-небудзь цікавае ў сшытак, ліст, і прынёс гэты дзёньнік. Я стараюся.

Пасьля школы пайшлі гуляць. Ірачка, я, Ада і Ваня. Хадзілі да паловы трэцяй. Як прыемна ўспамінаць часіны, праведзеныя зь Ёю.

На шляху дамоў ізноў вымак увесь. Ішоў нават сьнег.

*6 красавіка.* Аўторак. Усе гэтыя дні дзёньнік быў у Іры. Толькі ўчора Яна прынесла ў школу гэты сшытак.

Накруцілася за гэтыя дні шмат. У пятніцу Іра ня была ў школе, і я пайшоў да яе. Яна пры мне прачытала мой ліст, і я ажно пачырванеў. Але сказаў, што горача. Сядзеў да паловы пятай. Як вечар правёў — не памятаю.

У сыботу зладзіліся ісьці ў кіно. Ваня, Ада, Іра, Сморскі і Галя. У кіно былі. Ванька трымаў сябе неяк

незвычайна. Калі расьселіся, то ён апынуўся каля мяне, а Ада — каля Галі. Іра сказала яму: *“Сядзь ля Ады”*. Ён пачырванеў, стаў злы і нізашто не хацеў садзіцца зь ёю. Кажа, што яна ня хоча і г. д. Але нарэшце сеў. Па дарозе ў кіно мы купілі семак. Дык вось Ванька хацеў пачаставаць Аду, а яна проста сказала, што ня хоча. Ён узяў і ўсе семкі высыпаў на падлогу пад крэсла[80]. Потым сядзеў і ўвесь час маўчаў.

Па сканчэньні пайшлі гуляць. Хадзілі доўга. Дамой прыйшоў я а палове дзевятай. Добра, што мамы з папай ня было (пайшлі да Кулеўскіх), а то быў бы грандыёзны скандал за спазьненьне на поўгадзіны[81].

Калі мы разьвіталіся з Ірай і Галяй і засталіся ўтраіх — Ада, Ванька і я (Смольскі пайшоў дадому раней), то Ванька, не разьвітаўшыся, прамармытаў пад нос, што яму трэба яшчэ некуды сьпяшацца, і пабег. Было гэта нечакана, і Ада пакрыўдзілася. Ішлі дамоў разам зь ёю. Спаць лёг я а палове першай.

У Слаўкі яшчэ танцавалі. Раней была большая кампанія, але да маяго прыходу засталіся: Ала, Зарына, Слаўка і Валя. Сядзелі да паловы адзінаццатай. Слаўка хацеў, каб я запрасіў танцаваць Зарыну, але я гэтага не зрабіў. Няхай пачынае гаварыць са мной першая, бо ня ў чым не вінны.

Захацелася нам са Слаўкай есьці. Узялі ў яго бульбы й пайшлі да мяне. На плітцы гатавалі вячэру гадзіны са дзьве. Напісаў я потым да Іры ліст, у якім меў неасьцярожнасьць успомніць і аб Ваньке.

80 *“Дурань! Семкі былі дарагаватыя! Наагул была распаўсюджаная з’ява: ідуць у кіно — купляюць семкі і так іх лушчаць у часе сеансу”* (Вітаўт Кіпель).

81 *“Цікава! За спазьненьне — скандал! А выпіваць і курыць дома — скандалаў няма”* (Вітаўт Кіпель).



У нядзелю пайшоў да Ады рыхтаваць лекцыі. Была там Іра, якой я перадаў ліст.

У панядзелак стрэслася цэлая навальніца. Папершае, раніцою падыходзіць да мяне Іра і дае мне нямецкую граматыку, тую, што мы так шукалі, і кажа, што ў сярэдзіне ляжыць ліст. Я прачытаў ліст і зразумеў, што нешта будзе. Піша, што выпадкова пры прагулцы сустрэла Ваньку і сказала яму аб лісьце і аб тым, што там напісана. Ён страшэнна абразіўся і сказаў, што нам, г. зн. мне і Адзе, пападзе. Яна зразумела тады, што зрабіла глупства, і праплакала ледзь ня цэлую ноч. Так шкадавала мяне. Яна нават ня просіць прашчэньня. Але як магу я не прасьціць Яе, якую я так кахаю. Потым падыходзіць да мяне Ванька і кажа, што хоча са мной пагаварыць. Пайшлі. Ванька выліў шмат праклёнаў на маю галаву і пэўна, што дайшло-б да бойкі, але было блізка ад школы і непрыемна біцца. Адным словам, ён гаварыў: *я раскусил тебя и ты паразит из паразитов. Больше, где буду я, ты не будешь, и наоборот. И пускай свидетель Славка будет, что если ты хоть раз скажешь что-нибудь обо мне — плохо тебе придется,* і г д.

Я слухаў з усьмешкаю, а ён кіпеў. Дзень быў атручаны гэтым і прайшоў непрыкметна.

Увечары быў у Караля. Мае дарагія сябры заўсёды так рады, калі мяне бачаць. Абяцалі і яны зайсьці да мяне.

*13 красавіка.* Аўторак. Цэлы тыдзень ня браўся за пяро і за гэты сшытак, а сяньня і мая “самапіска” гатовая, і Іра пыталася, чы пішу я дзёньнік.

Дні ў тыдні праходзяць, як часіны ў дні. У сыботу Ада, Іра і я былі ў кіно. Глядзелі фільм “Ура, я ўжо бацька!” пры ўдзеле *Heinz’a Ruhmann’a*. Фільм добры, і ня так добры, як сымпатычны. Білеты мы

купілі на вуліцы па чатыры маркі. Я, сьвіньня, яшчэ й зараз не аддаў грошай Адзе, якая купляла білеты. Сядзелі мы ў розных месцах. У кіно былі і Валодзя, і Сева, і Ваня, і Смольскі. Слаўка хадзіў да Зарыны на танцы. Ён вельмі хацеў загітаваць і мяне, але я не паддаўся.

Выйшаўшы з кіно, спаткалі Соню. Так буду зваць я нашую "настаўніцу" па нямецкай мове, бо што-ж яна за "Софья Владимировна", калі я старэйшы за яе на чатыры месяца. Пайшлі ўсе разам гуляць. Потым Іра пайшла яшчэ з Валодзяй, а мы — дамой. Прыйшоў у 10 хвілін па восьмай.

У нядзелю быў я ізноў у Ірачкі аж да паловы восьмай. Час прайшоў вельмі хутка і прыемна. Яна ўсё прасіла, каб я сказаў Ёй, што пісаў у лісьце. Але што магу сказаць яшчэ я акрамя таго, што кахаю Яе. Проста вельмі прыемна было пагутарыць з Маёю Дарагою Ірачкаю.

Яна пайшла мяне праважаць. Прайшліся і па дарозе сустрэлі Севу, Ваню і Борку Ф.

На разьвітаньне я пацалаваў Ёй — Богу маяму — ручку.

У панядзелак зайшлі да мяне ўвечары Ада і Ірачка. Паклікалі гуляць. Іра прынесла нейкі сшытак. Ля каліткі нас чакалі Соня і Ляля. Гулялі доўга. Быў з намі і Валодзя. Ізноў бачыў у горадзе Ваньку і Смольскага. (Прыйшоўшы дамоў, днём, знайшоў павестку з паліцыі. Зьявіцца заўтра да восьмай гадзіны раніцы)[82].

Сшытак, што мне перадала Іра, аказаўся дзёньнікам Галі. Ніколі не чакаў ад гэтай дзяўчыны такіх

[82] *"Калі прыходзілі павесткі — бывалі праблемы. Паліцыя заўсёды выконвала ролю нейкага бюро: ці то біржы працы, ці сацыяльнага аддзелу (картачкі) ці рэгістрацыі веласіпеду"* (Вітаўт Кіпель).



рэчаў. Ніякае маралі. Амаль што прастытутка. Немцы мяняюцца, як у калейдаскопе. Пацалункі, абдымкі і г. д. Даходзіць да таго, што яна з балькона зазывае салдат да сябе. Кой-што ёсьць і аб Іры. Яна пытала, якое думкі я аб Ёй на падставе гэтага дзёньніка. Няхай Яе судзіць Бог, чы хто яшчэ, толькі не я.

Раніцою пайшлі мы з бацькам у паліцыю. Па дарозе зайшоў да Ірачкі і аддаў дзёньнік. Яна была яшчэ з распушчанымі валасамі і выглядала проста чароўна. Але я быў у яе толькі кароткі момант.

У паліцыі сказалі, што трэба мне ісьці на Біржу ў 5-ы пакой. Папа кажа, што аддам гэтае накіраваньне ў школу. Паліцыянт — на Біржу, папа — у школу. Дайшло да маленькага скандалу. На Біржы аказалася, што маёю асобаю цікавіўся Гэн. Камісарыят, і яны ўжо некалькі разоў пасылалі мне павесткі, якіх я не атрымоўваў. Усё ўладзілі, і я ізноў пайшоў у паліцыю. Папрасіў якой-небудзь паперкі ў школу, бо, кажу, спазьніўся. Аддалі яны мне гэтае накіраваньне, я выкарыстаў яго для прагулкі па лаціне. Ірачка вельмі хвалявалася за мяне, так Яна гаворыць. Адным словам, з лаціны мы пайшлі, і Яна давала мне тлумачэньні да Галінага дзёньніка. Баюся, што яна пакрыўдзілася на мяне, бо я, здэцца, пайшоў у футбол гуляць, а Яна не хацела, кажучы, што мне сумна будзе адной ісьці да хаты. Але я бачыў, што яны ішлі ўтраіх. Так, я-б Яе ніколі не пакінуў.

Гулялі доўга. Да 4-й. Лік 5:6 у карысьць ня нашу. З нашага боку гулялі: Сева, Ванька, Коля, Пётр і я. У іх — Генька, Міша, Юра, Слава і Шура.

Прыйшоў да хаты, як пабіты. Па дарозе сустрэў Сашу Б., і ён сказаў, што ў школе сьпёрлі два ровары — Мечыка і яшчэ некага. Ніколі ня думаў, што з-пад замка могуць сьцягнуць.

У нас новы настаўнік-беларус — Шатэрнік. Баюся, каб ізноў ня была справа дрэнь. Адзін выгляд яго чаго каштуе. Даў у першы-ж дзень праверачную дыктоўку. Словы, як шатавіла-матавіла, сыпаліся проста градам на нашыя галовы. Вынік 3. Але ён ня будзе ў клясным журнале.

*16, пятніца.* Учора я аддаў свой канспэкт па гісторыі Соні. Узяць забыўся і вымушаны быў а палове сёмай ісьці да Ады. Тым больш, што аб гэтым умовіўся з Іраю. Яна абяцала быць таксама там. Прыйшоў. Бачу, у дзірачцы замочнай ключ тырчыць — з таго боку. Значыць, дома нехта ёсьць. Давай я стукаць. Хвілін з 5 малаціў у дзьверы. Костачкі на пальцах пазьбіваў, а не адчыняюць. Выйшаў я на вуліцу. У калітцы натыкнуўся на нейкага немца. Той німаведама чаго, убачыўшы мяне, аддаў чэсьць, і мне прыйшлося сказаць яму *"Heil Hitler"*.

Пайшоў я ізноў ва двор, зноў стукаю. Чую, там на піяніне граюць. Ну, думаю, трэба пайсьці пад вакно пастукаць. Стукнуў раз-другі ў вакно. Разьдзьвінуліся фіранкі, і нейкая незнаёмая дзяўчына высоўвае галаву. Пабачыўшы мяне, спужалася і хуценька задзьвінула фіранкі назад. Пайшоў я дамоў. Крыху пасядзеў і зноў пайшоў. Ажно спаткаў Ірачку і Лялю. Іра кажа, што Ада і Соня пайшлі ў кіно. Пайшлі мы на *Hauptstr.*, думаў я, можа спаткаем дзе Соню з Адай. Але не. Прайшлі да Ірынага дому, а затым Іра правяла нас да *Deutsches Haus'a*. Іра хацела, каб я яшчэ прайшоў зь ёю назад, але было ўжо за 10 восьмая, і я, як ні шкада мне пакідаць яе адну, вымушаны быў ісьці дадому. Уздагон пачуў: *"Я обижаюсь!"* За што? Гэтым быў сапсуты настрой цэлага вечара. Тым больш, што і Слаўка нешта пакрыўдзіўся і са мной не гаворыць.

Раніцою, ідучы ў школу, ламаў галаву, як адмовіцца ад гісторыі. Соня вельмі прасіла выбачэньня, і сама яна не хацела, каб так здарылася. Гісторыю яна прынесла, але толькі... сшытак. А Ігнатоўскі, у якім большая палова курса, ляжыць у яе дома[83]. Адным словам, прыйшлося адмаўляцца. Адмаўляўся дарма, бо пісалі.

Ня было й фізыкі, і сядзелі на лавачках у садзіку. Іра нешта быццам казала, што са мною яна, ці з Ёю — я, гаварыць ня хочам, але выясьніў, што гэта — жарты. Яна і не пакрыўдзілася.

Дамоў ішлі разам. Іра запрапанавала пайсьці ў кіно. Ёй дала 2 білеты Зарына. Я згадзіўся. Ды хіба адмовіцца можна ад такога запрашэньня.

Дома пацёр бульбы. Прыйшла Соня і прынесла Ігнатоўскага і кнігу: чытаць "Жиль Блас" францускага пісьменьніка Лесаж'а[84]. Добры раман, прыблізна да "Тры мушкэтэра" падобны.

Пайшоў а палове пятай да Ірачкі, Маёй Мілай Каханай. Сядзелі амаль што да 5-ай. Але не спазьніліся. У кіно, аказваецца, былі яшчэ Слаўка, Юрка, Зарына, Ніна Р.

О, Божа! Як я кахаю Яе. Да чаго прыемна сядзець зь Ёю побач і адчуваць, што Яна даверліва нахіляецца, туліцца да цябе. Якімі вачыма глядзела яна на мяне. Мы ўвесь час пераглядаліся. Адзін раз я злавіў Яе руку, і мы моцна пацiснулі іх друг другу. Дамоў правёў Яе і пайшоў сам туды-ж.

Прыйшоў а палове восьмай. Крыху рабіў лекцыі, але так, як іх заўсёды раблю. Перапісаў кой-што і не вучыў нічога. Мне ніхто ня верыць, што я не вучу

[83] Маецца на ўвазе або "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" (некалькі выданняў у Беларусі і Вільні, 1919–1927), або "Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця" (тры выданні, апошняе ў 1928) Усевалада Ігнатоўскага (1881–1931).

[84] Маецца на ўвазе раман **Алена Лесажа** (1668–1747) "Гісторыя Жыль Бласа з Санцільяны".

хатніх заданьняў. Але гэта так. Адзнакі пакуль што маю наступныя:

Бел. мова. вусн. 4; кантр. 3, 3.
Бел. літар. вусн. 4; кантр.
Арытмэт. вусн. ; кантр. 3, 4.
Альгэбра вусн. 4; кантр.
Геомэтрыя вусн. ; кантр.
Хэмія вусн. 4; кантр.
Геаграфія вусн. –4; кантр.
Фізыка вусн. 5; кантр. –5
Нямецкая мова вусн. 5, 3; кантр. +3
Лаціна вусн. 5; кантр.
Гісторыя вусн. ; кантр.
Ні аднае двойкі.

Быў у Караля. Усевалад паехаў у Вільню. Гаварыў зь Леанідам і з Шукелойцам. Узяў беларускі сшытак. Запрашаў, калі Ўсевалад прыедзе, да сябе.

Хутка Вялікдзень. Праз тыдзень.

*17 красавіка, сыбота.* У школу пайшоў да 10-й, як і заўсёды па сыботам.

Сьнеданьне маё было надзвычайна поснае, і я, доўга ня думаючы, прыправіў яго скаварадою сала з цыбуляю. Зрабіў гэта цішком.

У школе першая лекцыя матэматыка. Раздалі нашыя кантрольныя працы па арытмэтыцы. У мяне — 4, у Слаўкі — 3. Іра была спачатку ў добрым настроі, але потым хацела загітаваць мяне пайсьці ў царкву. Я адмовіўся і толькі пачаў гаварыць, як Яна ўжо пакрыўдзілася. Настрой сапсавала і мне, і сабе. Пайшоў дадому зусім адзін і вельмі сумаваў. Сумна мне й зараз.

Слаўка капаецца ў садзе. Так хочацца пайсьці памагчы яму, пагаварыць. Але калі я прыйшоў да іх, каб М. А. падпісала блянкэт на карткі, то ён пачаставаў яе, а мне нават не прадлажыў. Вельмі



крыўдна, тым больш, што я перад ім ні ў чым ня вінны.

Страшэнна сумна. Дзе зараз Ты, Мілая, Любая мая, Ірачка? Што робіш, Дарагая, чы думаеш хоць кропельку аб Тваім Дзіме? Пэўня-ж няма ў Цябе ў галаве яго — гадкага, непаслухмянага, непакорлівага. Але-ж нягледзячы на ўсё гэта, як любіць ён Цябе! Пачуй-жа голас мой! Чы ўяўляеш Ты, Сонца Маё, як я сумую без Цябе, бяз Тваіх вачэй, бяз Твайго голасу, які так прыемна гучэў мне яшчэ сёньня? Любая!!!

*19 красавіка, панядзелак.* Уся нядзеля прайшла пад уплывам Ірынай крыўды. Сумаваў страшэнна. Зраньня пайшоў да Ады (а палове адзінаццатай). Прасядзеў аж да 2-ой. Зрабіў кой-якія лекцыі. Успомніў, што Слаўке патрэбна будзе граматыка, каб падрыхтаваць лекцыю да Арцымовіч. Аднёс. Потым ён прынясе назад. *Danke-Bitte*[85], вось і ўсе нашыя размовы. Непрыемна гэта, тым больш, што ня ведаю, за што гэта.

Увечары напісаў да Ірачкі ліст.

Сяньня наш раён быў абкружаны паліцыяй. Выйшлі мы са Слаўкай з дому ў пятнаццаць па сёмай. Нас і пагналі. Стаяць жаўнеры шчыльна, цераз кожныя 10–20 крокаў. Спачатку пайшлі мы на Паўночны завулак, потым да гэто, потым цераз вул. Апанскага[86] і цераз Апанскія завулкі кудысь да штучнага возера. Там нарэшце, ажно каля патачнага заводу, быў кантрольны пункт, і на нашыя пасьведчаньні паставілі літару “К”. Натуральна, да Арцымовіч спазьніліся. Але неахвота было губляць добры выпадак, каб спазьніцца яшчэ і ў школу. Так і

[85] *Danke — Bitte* (ням.) — Дзякуй — Калі ласка.
[86] **Апанскага** — цяпер вуліца Кальварыйская.

па-польску і па-расейску. Я ўсхапіўся з ложка, хуценька апрануўся і сабраў пасьведчаньні ад хлапакоў і ня мыты, не часаны, ляскаючы зубамі ад холаду раніцы, выйшаў зь ім на двор. Немец павёў мяне ў сяло *Kemnitz*, дзе ў палатцы, зробленай з картону і маючай выгляд азіяцкай юрты, разьмясьцілася бюро фірмы. У сярэдзіне яшчэ спалі, і таму ён не запрасіў мяне ўвайсьці. Я, стоячы ля палаткі, выцягнуў торбачку з печывам, што атрымаў учора, яблыка і пасьнедаў. Потым закурыў.

Пры першых променях узыходзячага сонца я аглядзеў сябе. Божа! Як я выглядаў! Чаравікі — белыя ў шэрыя плямы і аблепленыя гразёю. Порткі, хоць я на іх і спаў, выглядалі, як дзьве кілбасы, і на канцах былі забруджаныя. Рукі, граблі пасьля таго, як імі цягнуць з гадзіну па балоце. Твару я ня бачыў, але, думаю, што і ён быў ня лепшы.

У лісьце транспарту былі ў параўнаньні з пасьведчаньнямі выяўлены непарадкі. Для праверкі са мной пайшоў назад у лягер кульгавы палячок, але даволі сымпатычны дзядзька.

Па дарозе я даведаўся ад яго, што ў лягеры ўжо болей як 150 чалавек працуюць ад нашай фірмы. Лягер знаходзіцца ў стадыі разбудовы. Так што працы для маіх хлапцоў хопіць.

Сьпіскі праверылі, і зноў пацягнуўся я ў вёску да фірмы. Там папрасіў памыцца, і пакуль мне квітавалі транспарт, прывёў морду й рукі ў парадак. Папрасіць шчоткі для партак і ботаў не адважыўся. Хоць мне раілі проста кіравацца да вакзалу, пайшоў разьвітацца з хлопцамі.

Вакзал уяўляе сабой будку з лаўкамі для чакаючых. Нават білеты прадаюць у цягніку. Цягнічок — "кукушка" (праўда, на шырокім торы) прымусіў сябе пачакаць. Я не наракаў, бо сонца пачынала крыху грэць, і было прыемна адчуваць, як на



закасьцянеўшых за нач нагах і руках паволі разыходзіцца цяплыня.

Да *Weisswasser*[165] цягнічок тросься з гадзіны паўтары. Выйшаў з вагону і адчуў раптам такі голад. Вырашыў ахвяраваць маркамі і паесьці. Купіў пяць маленькіх іржаных ляпёшак, 50 гр кілбасы і столькі-ж масла. На пэроне распалажыўся есьці. Ня меў нажа і еў па-дзікунскі — рукамі.

Прыйшоў цягнік, я знайшоў сабе мейсца ў заднім вагоне, закончыў есьці і... заснуў. Канчаткова прачнуўся перад Бэрлінам. Такім чынам, праспаў *Forst*[166] і г. д. Усё гэта я бачыў, едучы туды, і таму не шкадую, што спаў. Адным словам, а 5-ай я быў дома. Дзьверы адчыніла *Eisenberg*. (Трэба даведацца, як яе клічуць.) Мілая дзяўчына. Як дайсьці да яе сэрца чы чаго-небудзь іншага?

Аддаў Шміту квіт. Памыўся, пачысьціўся і паехаў да Саны. Там крыху паеў, забраў рэчы: кашулю, свэтар, выпрасаваў порткі і прыехаў да хаты. Ліў дождж. Добра спалася. Ціха.

Дзякуй Богу, гэта ўжо пятая ціхая ноч.

*24.IX.1944.*

Устаў, думаю, рана. Пісаў дзёньнік. На вуліцы хмурылася аж пакуль не пайшоў дождж. Пасьнедаў і замовіў сабе ванну. Першаклясна вымыўся. Схадзіў у келлер[167], узяў бялізны і свой архіў. Падасьпеў абед. Потым прыйшоў Уладзік. Пасядзелі крыху ў мяне покуль я зьеў куханы. Аказваецца, ужо два дні ў Бэрліне Юшневіч. Яна застанавілася ў тым самым гатэлі, дзе і мае колішнія спадарожнікі. Казала

[165] ***Weisswasser*** — горад у Нямеччыне ў зямлі Саксонія, уваходзіць у акругу Дрэздэна.
[166] ***Forst*** — горад у Нямеччыне ў зямлі Брандэнбург.
[167] Келер (ад ням. *keller*) — склеп, падвал.

Ўладзіку, што мае для мяне ліст ад Шукелойца і яшчэ штось. Езьдзілі да яе тры разы і не засталі ў хаце. Аказваецца, там-жа і Ясінскі. Купілі на пару 10 дэкаў табаку за 70 марак. Крыху пабадзяліся з Уладзікам па горадзе, аглядзелі сэрца Бэрліну: Дом, Музэй.

Я зьеў у Ўладзіка кусок сала!

*25.IX.44.*

Атрымліваў уніформу. Мундур добры, порткі не. Бедная *Eisenberg*. Ледзь ня плача. Езьдзіў на пошту. Здаў 200 марак на кніжку. Бачыў Валю. Дастаў ліст ад А. А. Валя паехала. Вячэрыў з Уладзікам і Кавалеўскім.

## Сшытак 3

Пачаты 7.10.44
Скончаны 19.10.44

### Лягер Біраў[168]

*Беларусь, Беларусь залатая…*

*Мой ідэал — Беларусь залатая,*
*Вольная воляй сапраўднай,*
*Дзе не пануе чужынская зграя,*
*Дзе уладар — Крывіч слаўны.*
*За ідэалы змагаюцца людзі.*
*Зброю паэтаў — пяро — час пакінуць!*

[168] Верагодна, маецца на ўвазе тая самая вёска **Берава** (ням. *Birawa*) у Апольскім ваяводстве сучаснай Польшчы, якая ў часе Другой сусветнай мела таксама назву *Reigersfeld*.



*Меч помсты у рукі! Панцыр на грудзі!*
*У славу Айчызны — гонар загінуць!*
*Біраў,*
*11.X.44.*
*Д. С.*

*7.10.44.*

Ізноў Сілезія. Зноў перада мной выстраіліся шэрагамі бясконцыя баракі лягеру Біраў. Абыякавымі вачыма сваіх вокнаў глядзяць на акаляючае іх. У шклах адбіваецца неба, абыякавае, як і ўсё ў гэтым краі, зацягнутае воблакамі, шэрае, пахмурнае.

Прачнуўся рана таму, мусіць, што А. А. зьбіраецца на працу. Было штось каля пятай. Думаў ізноў заснуць, ажно застукалі дзьверы, і ў нашую комнату (штубу[169]) увалілася некалькі немцаў. Частка ў форме *Werkschutz*[170], астатнія *SD* з аўтаматамі на шыі. Убачыўшы такіх гасьцей, заварушылася насельніцтва амаль усіх ложкаў, і сярод гораду скрынь і вузлоў пападымаліся растрапаныя галовы з заспанымі вачыма. Немцы спыталі, колькі людзей у нашай "палаце", палічылі самі, заглянулі ў шафу, што стаіць бліжэй да дзьвярэй, памацалі першы-лепшы цюк і пайшлі. Адразу-ж усе загудзелі, як пчолы ў перавёрнутай калодзе. Пачалі судзіць ды варажыць, што ды як, ды чаму. Заснуць ізноў ня было магчымасьці. Ды й раньні візыт яшчэ ня скончыўся. Разоў з пяць заходзілі розныя тыпы і пыталіся, чы былі тут камрады. Шукелойць сьнедаў. Захацелася й мне есьці. Падсеў да стала, выпіў кавы, і сон прапаў зусім. Рашыў перапакаваць свае рэчы. Тым часам

[169] **Штуба** (ад ням. *shtube*) — адгародка ў бараку; своеасаблівы пакой.
[170] *Werkschutz* (ням.) — ахова.

вярнуўся А. А., што ўжо пайшоў быў на станцыю. Аказваецца, зь лягеру нікога не выпушчаюць. Скора ўсё скончылася. А як я даведаўся пазьней, шукалі зброі і радыёапаратаў.

Шукелойць пайшоў да цягніка, і я застаўся адзін. Пачынаўся першы дзень у лягеры. Мыцца прыйшлося ісьці ў чэскую ўмывалку. Покуль памыўся, вада пайшла і ў нашай. Скарыстаў з гэтага і ~~памыў~~ прывёў у парадак пасуду. Аднёс на пошту і здаў заказны ліст да Ўладзіка. Узяў у Валі кніжку, разваліўся на ложку і чытаў. Чытаў аж да абеду. Юркі ня было. Ён езьдзіў у Гайдэбрэк-Зюд звальняцца. Доўга не маглі атрымаць талёнаў на абед. Перашкодзіла гэтаму яшчэ і далёкая трывога, гудкі якое ўсё-ж дайшлі да сьверхчульлівых вушэй лягернікаў.

Урэшце атрыманы талёны, зьедзены абед (зупа)[171]. Зноў ляжу й чытаю. Кніжка Краснова “Домой”[172]. Трэба сказаць, што цікавыя кніжкі пісаў гэнэрал.

[171] *“На абед з дня на дзень давалі вараную ў лупінах бульбу, але падавалі на добрай парцэляне. Абед адбываўся з пэўным цэрымоніялам. Усе сядалі за стол, і тады гаспадыня курсу ўсім жадала добрага апэтыту (гутэ гунгэр), і гэта было сыгналам, што можна пачынаць. Апэтыт ва ўсіх і без пажаданьняў быў вельмі добры. Бульба ставілася ў вялікіх місках на сярэдзіне стала. Кажны мусіў сам сабе ачысьціць бульбу з шалупінаў, колькі хто пасьпее. […] Бульба палівалася нейкім сосам. На дадатак давалі ў маленькім сподачку тое, што ў Нямеччыне называлася пудынгам. Уставалі з-за стала яшчэ больш галоднымі, бо-ж ведама што апэтыт прыходзіць у часе ежы. Харчовых картак мы ня мелі, бо нашыя карткі ішлі на супольнае харчаваньне. Атрымаць нешта дадаткова ў Драйсігакэр ці Майнігэн было амаль немагчыма, так што было галадней, як у Менску, а ў Менску-ж было голадна. Вечарам ізноў была кава й два плястэркі хлеба”* (Галяк, Леанід. Успаміны. ЗША, 1983. Т. 2. С. 9–10).

[172] **Пётр Красноў** (1869–1947), генерал расійскай імператарскай арміі, атаман Войска Данскога.



Простыя з усіх пунктаў гледжаньня, але цікавыя. Як ён любіць сваю Расею! Як любіць яе парадкі, былыя пры цары! Які злы на праклятых бальшавікоў і на ідэю сацыялізму-бальшавізму.

Кніжку праглынуў хутка. Пашкадаваў, што хутка скончылася, абуўся й выйшаў на двор. Сум агарнуў мяне. Шукаў Юрку — няма, Валі — таксама. Бяз мэты бадзяюцца з кутка ў куток шэрыя постаці лягэрнікаў. Застанавіўшыяся погляды, бязвольныя рухі. Божа! Як тут тупеюць людзі! Як цяжка жыць у такіх сьвінскіх умовах, нічога ня робячы. Як вытрымаю я той час, што лёсам прадпісаны прабыць мне тутака? Як? Юрка едзе ў панядзелак. Зь ім разам мусіць і Валя. Што я буду рабіць? Шукелойць плянуе для мяне паездку ў Гохштэт. Што зь яе выйдзе? Чую, і кіну я гэтую гісторыю і паеду куды вочы глядзяць, хоць да чорта на рогі.

Дзень набліжаецца да канца. Змрок мякка падае на стаміўшуюся за дзень зямлю. Ахутвае людзей смуткам, жалям па хутка прабегшаму яшчэ аднаму дню жыцьця. Хоць такога благога, што далей нельга, але жыцьця! За сьценкай проба царкоўнага хору. Урачыста гучаць поўныя галасы. Успаміны, бясконцыя ўспаміны наганяе пяяньне. Менск. Вялікдзень. Мы ў царкве. Горад заліты веснавым сонцам. Сум і сум.

Ад панурых думак адцягваюць чыста гаспадарскія клопаты. Трэба ўзяць абед, дастаць кавы. Але гэтага хапае ненадоўга. Чытаю старыя нумары “Раніцы”[173].

А хор пяе.. пяе…

Цёмна зусім. Антона Антонавіча яшчэ ўсё няма. Ён прыходзіць па сёмай.

[173] **“Раніца”** — беларуская газета, выдавалася ў Берліне ад 1939 да 1945 гг.

Цудоўна ўсё-ж піша Адамовіч. Мне надта падабаецца “Не кладзіце пальца ў рот”[174].

Юрка заняты клопатамі па вызваленьню, перадае справы й пакуецца. Недзе там круціцца й Валя.

[174] **“Не кладзіце пальца ў рот (Памфлет старога “ворага народу”)”** — фельетон Антона Адамовіча (подпіс С. Хізма), які фактычна рэдагаваў у той час “Раніцу”. Да чатырох раздзельчыкаў-“лістоў” пададзены эпіграф: *“Памфлет (ад “paltae feuillet” — “лісток”) — літаратурны твор публіцыстычнага характару, у вадрознасьць ад фэльетону (ад таго самага “feuillet”) заўсёды едкі, безаглядны, зьнішчальны”.* Каб лепей уявіць стыль, прывядзем першую частку фельетона:
*“Лісток першы. Даведка на ўсялякі выпадак. Ад сабакі.*
*У 1928 г. адзін паэта надрукаваў сваё “Лісты да сабакі”.*
*Мы былі ягонымі сучасьнікамі й суперажывальнікамі, а некаторыя й больш.*
*Мы добра памятаем, які гвалт узьнялі тады вакол гэных “сабачых лістоў” вы, бальшавікі. Бальшавікі партыйныя й “непартыйныя”, адкрытыя й сукрытыя. Бальшавікі й бальшавізаны.*
*Але, дай Божа, памяць не забылася яшчэ, як захоўваліся й некаторыя з вас, даражэнькія сяброчкі ў беларушчыне. З тых, што жылі (і цяпер яшчэ пражыць хочуць) ад прашчураў адказаным: “Абы ціха”... “Абы пакультурнаму”... “Абы пасямейнаму”... “Абы не зарэзка, абы не завойстра”...*
*(Чэхаўска — “футуральнае”: Абы чаго ня выйшла”.)*
*Але, вы, каго назавом сяньня — чыста ўмоўна! — “меншавікамі”! Вы, здаецца, таксама былі крышку шакаваныя. Паэта піша лісты... да сабакі! І піша да сабакі як да сябра. Мала — як да блізкага, дарагога. Паэта цалуе... сабаку! Ці не “загруба”? Ці не занадта “някультурна”, “не эстэтычна”? Што скажуць дзядзькі, што скажуць суседзі? “Ці не зарэзка, ці не завойстра”? Паэта жыў тады ў Ленінградзе.*
*“Жыву цяпер я ў шумнай сталіцы,*
*Далёка ад цябе, мой дружа”.*
*(Nota bene: “Дружа” — ... сабака! “Ах, які пасаж!”)*
*У тым самым Ленінградзе, што быў Петраград, Пецярбург. Дзе калісь Пётра “прасек вакно ў Эўропу”. Кудэю, як хочуць аж сяньня запэўніць, і для нас, грэшных, — для нас, беларусаў, — “карацейшы шлях”... на Захад (якраз як тая бабулька малілася: “...і ступіў да пекла, бо падарозе было”...).*



Хор царкоўны зьмяніўся пяяньнем эвангэлістых. Ізноў Менск. Чачнёвы. Малельня.

Ужо па сёмай. Адклаў сшытак на бок і ўзяўся за “Раніцу”. На самым цікавым мейсцы гасьне сьвятло.

*Адтуль, з гэнага “карацейшага шляху”, з-пад таго “вакна”, не адрываўся глядзець паэта назад, на свой родны край. Выглядаў напружана, “ці хто пастукае ў вакно”... Ды бачыў — адны ланцугі. Ды знаходзіў аднаго толькі вернага сябру, аднаго толькі — сабаку. І яму пісаў:*
*“...Ніхто, ніхто.. Закуты ланцугамі...*
*Хтось рукі заламаў у далях сініх...*
*Вартуй, вартуй свой родны ганак —*
*Пішу аб гэтым я табе з Расіі”.*
*Вы, бальшавікі, старэнна ўдавалі тады, што навет ані не заўважаеце гэтае, найкрасамоўнейшае мясьціны. Што не яна гэта наймацней узьюшыла вас. Не яна, а “яўнае ўпадніцтва”, “схаванае кулацтва”, “замаскаваная клясавая варожасьць”...*
*Ну, а вы, нашыя і наскія, вы, даражэнькія сяброчкі — “меншавікі” і “культурнікі”, вы — ці заўважылі гэта? Ці задумаліся над гэтым тады? Ці зразумелі, каму гэная прарочая перасьцярога:*
*“Пішу аб гэтым я табе з Расіі”?*
*Ці адчулі, хто гэта павінен стаць на варце “роднага ганку”, на варце, прост па-сабачаму вернай, па-сабачаму пільнай і па-сабачаму-ж зацятай?*
*Ці здаўмеліся, да каго п’юць, і ці сказалі хоць — “будзь здароў”? Бо гэтае да нас, да нас усіх было.*
*Гэта мы ўсе тады мусілі абняць такую варту. Сабачую варту. Пілнаваць удзень і ўначы. Пілнаваць хату нашага Гаспадара, “вуглоў каб не разьнесьлі людзі вуліц”. Бо што будуць, зараз пачнуць расьцягаць іх — тады ўжо відаць было гэта, тады перасьцерагалася “аб гэтым... з Расіі”.*
*Гэта мы ўсе тады мусілі нажыць сабе нейкае шостае пачуцьцё. Пачуцьцё, роўнамоцнае ў вайстрыні сваёй таму сабачаму нюху. Пачуцьцё ворага.*
*Гэта мы ўсе тады мусілі, няхібна й адразу па-сабачы “зьнюхаўшы” тым пачуцьцём ваўка, хоць і ў якой, хоць і ў вавечай скуры, — адразу-ж і кідацца на яго. Кідацца, шкуматаць і рваць, браць “мёртвым хватам”. Кідацца, хай і “някультурна”, “неэстэтычна”, хай і “груба”, “зарэзка й завойстра” — ведама, па-сабачы.*
*Гэта мы ўсе тады, у вабставінах сыстэмы, якая закоўвала ланцугамі чалавека, змагалася на зьнішчэньне з чалавекам — мусілі й маглі захаваць сваю чалавечую й нацыянальную*

Раз, другі, трэці і больш не запальваецца. Слова “алярм”, як хваля на прыбярэжным жвіру, журчыць з вуснаў у вусны. У цемры прыходзіць А. А. і ўжо пэўна кажа, што трывога. У канцы загудзела сырэна

*годнасьць толькі стаўшыся вернымі сабакамі – вартавымі й абаронцамі — адзінага й запраўднага Гаспадара.*
*Мы мусілі, мы маглі й мы сталіся. Ці ўсе ткі?*
*Не, ня ўсе. Ці не найбольш засталося тады ў першым радку: “Ніхто, ніхто... закуты ланцугамі...”.*
*Найвышэй — уздымаліся да другога:*
*“Хтось рукі заламаў у далях сініх”..*
*Здаецца, і вы, дарагія сяброчкі — “меншавікі”, “культурнікі” — апынуліся тады тут. Тут, “у далях сініх”, “заломвалі рукі”...*
*Адны — з маленьнем аб чашы на вуснах: “Да мимо идет мене чаша сия, но не какожде аз хошу — какожде Ты”.. Гэта — з вас найлепшыя, найшчырэйшыя сыны... Асабліва тыя, што йчашу (а шмат хто — і па кроплі) — дадна.*
*Другія — маліліся проста, паўшы на калены: “Пашкадуйце! Зьлітуйцеся!” Слабыя духам! “Да мимо идеть” іх нат успамін наш сяньня...*
*Трэйція — заломвалі рукі, усё “культурна” пераконваючы, “даводзячы”, правуючыся, калі ад зладзейства й блізка ня былі. Такіх сярод вас было бадай найбольш. Навет, топленыя, з вады паказвалі два пальцы: “стрыжана, а ня голена”!*
*Што-ж, магчыма, і гэта гэройства. Але — ці перакапалі, ці “давялі”?*
*Давялі — самі сябе й хто да чаго: хто — “да сьценкі”, хто — “да рукі”, хто — да торбы.*
*І нас, што не здрыгануўшыся пайшлі на “сабачую службу” роднаму краю — так мала, зусім мала тады было. І так лёгка было даць з намі рады — вам, бальшавіком.*
*Найлягчэй і адразу — зляяць: сабакамі. Самі-ж напрасіліся.*
*Але, напрасіліся, і лаянку навет із гонарам прынялі. Горда сьцьвердзіў паэта сам:*
*“...паэтам стаў сабачым...”.*
*Але, ганарыліся навет гэтым.*
*...А тады — гіцлі вашыя лёгкія — па адным — пералавілі нас і ў буду сваю паўкідалі. Толькі сабачымі хітрыкамі ўдалося вылузацца сяму-таму з-пад вашай “пільнасьці” гіцлябальшавіцкай. Толькі адзінкам пашчасьціла высьлізнуць з-пад самае жывадзёркі і — зноў на службу Гаспадару. Гаспадару, якога — бяз нас — вы ўправіліся ўжо і з хаты собскае выгнаць, ў прочкі, сьвет сагнаць...*



і пачалося... Цягнуць клумкі, спалоханымі галасамі гародзяць розныя глупствы.

Антон Антонавіч хоча есьці. Зупа сёньня дрэнная, і ён п’е гарбату. За кампанію і я. Елі, аж покуль не пачулі гулу самалётаў. Хуценька апранулі кажухі, выцягнулі валізу і рукзак з дакумэнтамі і ізноў селі да стала. Скончылі вячэраць, зьбіраемся закурыць. Раптам: трам! бах! — загаварылі зэніткі. Мы падаліся ў кірунку сховішча.

Налёт цягнуўся страшэнна доўга. Па стылю трымацца пазнаю “Ванькаў”. Гэта яны лёталі па-над Менскам па дзьве-тры гадзіны. Штось гарыць у кірунку за прыбіральняй. Адбой. Намазваюся і кладуся. Сьплю...

*8 кастрычніка, нядзелька.*

Малочнаю імглою засьцелена ўсё. Ціха, ціха. Ня ведаю, каторая гадзіна, але спаць больш ня хочацца. Нацягваю порткі, свэтр, абуваю на босыя ногі чаравікі. Выходжу на двор. Сьпіць лягэр. Туман пачынае падымацца ўгору. Ужо відаць верхавіны

*Яму служым і сяньня. І ў ранейшай сваёй якасьці. І з гордасьцяй тэй самай...*
*Пільна — на варце. Нюхам — за ветрам: хто чужы, а хто свой.*
*А ворага — проста за горла: паранейшаму “груба” і “някультурна”.*
*Можа навет — “нацыянальна па форме”. Гэткімі-ж і вы дазвалялі быць.*
*Бо і сабакі-ж — рознай “нацыянальнай формы”. І нашых ад вашых яшчэ калісьці, у “Нашай Ніве”, Ядвігін Ш. адмежаваў.*
*“Пёс твой Васька государеву руку лижет” — у нашай “форме” гэткіх ня было. Гэткія — “псы” — як і ўсе вы — “чэрці ня нашага Бога”.*
*Бог у нас свой і свой Гаспадар. Ім служылі й служым, служым і будзем гэтак служыць.*
*Служым і будзем гэтак служыць, пакуль “чужыя людзі ходзяць каля ганку”. Чужыя людзі, а старыя знаёмыя: вы, бальшавікі.*
*Служым і будзем гэтак служыць — да апошняга дыху”* (Раніца. №23–24 (185–186). 11 чэрвеня 1944.)

дрэваў “Рошчы каханьня”. Вяртаюся. Бягу па каву. Сьнедаю. За ядою абдумваю ўчарашнюю гутарку Шукелайця з др. Гаўпт. Устае мой дзядзька. Рашаем ехаць да Савёнкаў.

Баб’е лета ў пачатку. Цёпла. Я грэюся ў праменьнях яркага сонейка і ўспамінаю, як мёрз у Бэрліне.

Пры выхадзе з лягэру напаткалі Алесяву бабку. Яна начавала ў Катовіцах[175] і расказвае, што там бамбілі страшна, але… усе бомбы ўляпілі ў лес. Па стылю палёту відаць Іванаў. Пераконаны, што гэта іхніх рук праца. Бамбілі ў тым жа дусе і ў Гляйвіц[176].

У цягніку на Рацібор поўна. Усе французы і другія “іногородніе”. Прыйшлося аж да Бухэнаў стаяць. Дарога да вёскі Савёнкаў паказалася на гэты раз вельмі кароткай. Буйнымі крокамі дайшлі без перадышкі. Праўда, завярнулі да “Скобэля”. Добрае піўко!

Зора зрабіла вялікія вочы, убачыўшы мяне праз вакно. Вельмі былі ўзрадаваныя і яе бацькі нашаму прыходу. Сп-ня Савёнак, аказваецца, абыходзіць сёньня 43-й год свайго жыцьця[177].

Абед з’еў з былою прагнасьцю. Сказваецца, мусіць, сьвежае паветра Сылезіі і пяць кілёмэтраў шляху.

Зора нейкая, адным словам, нейкая[178]. Як заўсёды. Збрахаў, што паслаў ёй ліст. Паштоўку яна атрымала.

[175] **Катавіцы** — горад у Сілезіі, сёння адміністрацыйны цэнтр Сілезскага ваяводства Польшчы.

[176] **Гляйвіц** *(Gleiwitz)* — сёння горад Глівіцы на поўдні Польшчы ў Сілезіі. Горад вядомы тым, што з інцыдэнту на глівіцкай радыёстанцыі ў 1939 г. пачалася Другая сусветная вайна.

[177] **Апалонія Савёнак** (дзяв. Раткевіч, 1901–1982), настаўніца, аўтарка першага лемантара на эміграцыі, жонка Лявона Савёнка і маці Зоры. Дзень народзінаў святкавала сапраўды 8 кастрычніка.

[178] *“Зора да яго ставілася халодна. Ёй не падабаліся “тыпы”, што пaглядалі на жанчын і любаваліся сабой. Але яна была заўсёды зь ім у прыяцельскіх дачыненьнях”* (Вітаўт Кіпель).



Хутка бяжыць час. Трэба ўжо ісьці, а дзядзька так цяжкі на пад’ём. Прыйшлося з поўнымі жыватамі амаль бегчы. На ўзгорку пры выхадзе зь вёскі бачым — ідуць Садоўскі з Ліманоўскім. І яны выбраліся ў адведзіны да дзядзькі Савёнка. Дарэчы, ён ужо ўстаў з ложка, але выглядае дось марна. Хрыпіць.

На вакзал прыйшлі цюцелька ў цюцельку. Цяпер ужо ўвесь час сядзелі.

Вячэра сёньня з бульбай. А. А. атрымаў кілбасу й кавалак нейкага мяса. З булкай выпілі каву. Добра!

Ад Зоры ўзяў кніжак. Цяпер чытаю “Зеленый ужас” Эдгара Уоллеса[179]. Пахне крымінальшчынай.

Вайсковыя кнігі ёсьць і нават шмат. Заўтра пішу да доктара Глебкі.

Шукелойць кажа, што адказ з музэю мусіць на гэты раз быць канчальным. І калі нічога іншага ня ўдасцца, пойдзем да войска. Вітаю! Да таго-ж і праца ягоная з патрыётычнага боку ня клеіцца. Ня можа ён даказаць некаторых рэчаў. Сам не задаволены, ды і іншыя, відаць, будуць ня надта рады.

Трэба ўжо класьціся спаць. А. А. кажа, што лепш, каб я мазаўся недзе ў іншым мейсцы. Напрыклад, ва ўмывалцы. Пайшоў туды, а там нейкі тып у крамешнай цемры капошыцца. Вярнуўся назад і покуль думаў, што рабіць, заміргала сьвятло й згасла. З поўгадзіны сядзелі й чакалі. Гаварылі. Шукелойць расказваў штукі са сваёй пэдагагічнай практыкі і аб японскай вайне.

Запаліўся сьвет. Я памазаўся і папёр на верхатуру. Усё.

*9 кастрычніка.*

Штось дрэнна чуюся. Ня магу ўздыхнуць. Баліць.

[179] **Эдгар Уолес** (1875–1932), англійскі пісьменнік, кінасцэнарыст.

Надвор'е дрэнь. Ноччу ішоў дождж. Раніцою было пахмурна. Днём ізноў дождж.

Думаў ехаць у Рацібор у лазьню адмывацца ад міцігалю й кreceived кароcты. Але Ліцьвінаў сказаў, што па панядзелках зачынена. Ізноў, як і ў першы дзень, ляжу й чытаю. "Зеленый ужас" скончыў. Дрэнь. Заўважыў, што маё пяро сапсавалася. Мне з пер'ямі не шанцуе.

Штось раніцою стралялі. Выглядае на практыкаваньне.

Грашовае пытаньне ў мяне дрэнна. Маю *Sparbuch*[180] на 200 марак і 3.10 маркі ў кашальку???!!!

Ага! Навіна! Мае прыехаць у лягер Менскі Клімінстытут[181]! Землякі! Знаёмыя! Ура!

Чы не знаходзіш Ты, Чытачу, што я вар'яцею?

Дзень прайшоў, як і ўсе ў лягэры. Ляжаў, чытаў. Паабедаў і зноў чытаў. Валя, Юрка і Со зьбіраюцца. Нікога ня можна злавіць.

Ужо пад вечар, калі пачало цямнець, прыйшла да мяне Валя. Я ляжаў, і яна села на ложка каля ног. Пачаставала добрай цыгарэтай. Сумна. Сумна раставацца.

Лье дождж. Я атрымаў для Шукелойця абед. Зрабіў вінігрэт. У канцы прыйшоў і ён. Не пахваліў маёй творчасьці, як я ні намагаўся. Бегалі, клапаціліся. Думалі, што будзе трывога.

Але ўсё-ж пайшлі. Дарогаю прасьпявалі з Юркам нашу *"Zeichen"*. Ах! няма чаго расьпісваць такія цяжкія хвіліны. Правялі нашых дарагіх сяброў. Пасадзілі ў цягнік, памахалі ўсьлед рукою й пайшлі. Адразу асірацеўшымі чуемся і я, А. А., і Лесь.

[180] *Sparbuch* (ням.) — ашчадная кніга.
[181] Ёсць згадкі пра працу ў Менску ў часе нямецкай акупацыі Клімінстытуту (Інстытуту клімату), куды, сярод іншага, ішлі звесткі назіранняў з розных метэаралагічных станцыяў на беларускай тэрыторыі.



Нават верыць ня хочацца, што можа больш ня ўбачу мілага Юрку, так падыходзіўшага да мяне па ведах, інтарэсах і характары. Што не пачую буркатні прафэсара; што ня прыйдзе разьдзяліць маё гора і не пацешыць ласкавым словам Валя.

У лягэр прыйшлі каля 12-ай. Дзьверы, на дзіва, былі замкнутыя. Стукаць прыйшлося ня доўга. Намазаўся і спаць. Добра штука *Mitigal*[182]. Сьплю спакойна. Толькі на руках не праходзіць праклятая кароста.

Уладзіку адаслаў праз Валю 7–8 дэкаў табакі і пісульку ў сярэдзіне.

Шукелойць прывёз начыньне. Кубачак і сподак да яго, талерка, міса, куўшынчык.

*10 кастрычніка.*

Дождж. Цёплы й ціхі.

На цягнік а 8:34 спозьніўся, бо прачнуўся толькі а 8-ай. Дапісаў дзёньнік за ўчарашні дзень, памыў судзьдзё. Думаў, што перачакаю, але прыйшлося пад дажджом ісьці на станцыю. У Рацібоpы доўга блытаўся па вуліцах, покуль знайшоў *Zentral Bad*. Там сказалі, каб прыйшоў на першую.

Ад злосьці пайшоў выпіў піва й ціха пайшоў да Клямкі. У чарзе прыйшлося стаяць доўга, але я быў рады, што заб'ю крыху часу. Еў бульбу з каляровай капустай. Бачыў надутага А. А. Часу ўсё-ж заставалася шмат. На Вільгэльмштрасэ думаў з'есьці марожанага. У першы раз за гэтыя тры месяцы мяне нейкі пацанёнак абазваў *"Verfluchter Russe"*[183]. Хацеў яго проста раздушыць, але… У Бэрліне гэтага не пачуеш, а тут Сілезія. Марожанага не дастаў і кружным шляхам пайшоў да лазьні. Крыху прыйшлося

[182] Відавочна, маецца на ўвазе нейкі крэм.
[183] *"Verfluchter Russe"* (ням.) — "Пракляты рускі".

пачакаць, але памыўся “адно дзела”. Усе каросьціны на целе пазлазілі.

Выйшаў на вуліцу, а тут сонца. У свэтэры ажно ўспацеў. На вакзал прыйшоў а 9-ай. Ізноў лішні час. Шукаў якую-небудзь газэту, але нічога няма. Прыйшлося купіць *“Soldaten”*. Па дарозе ў цягніку чытаў і не заўважыў, як прыехаў. Хочацца есьці.

Сеў, напісаў доктару Багдановічу ліст і аднёс на пошту. Прычапіўся да мяне стараста бараку. Прыйшлося памагчы яму перанесьці рэчы зь Юркавага пакою.

Ізноў папахмурнела. Зрабілася цёмна. Сьвятло ў нашай “штубе” не гарыць. Ляжаў і курыў.

Узяў свой абед і з’еў. Пайшоў па Шукелойцаў, а белага хлеба няма. Рашыў ня браць зусім. Цёмна. Сумна. Сустрэў Шукелойця. Праходзім каля кухні, а адтуль нясуць белы. Шукелойць папракнуў мяне, што, мусіць і ўчора так было. Я раззлаваўся й пакрыўдзіўся. Ад злосьці лёг спаць. Яшчэ мусіць і восьмай ня было.

Цела крыху зудзіць, але не параўнаць з Бэрлінам. Спаў. Моцна засьвярбелі рукі. Устаў і памазаў *Mitigal*’ам. Пазычыў 10 марак грошай у “Вэрачкі”.

*11 кастрычніка.*

Чатыры месяцы са дню маіх народзінаў. Чатыры месяцы, які кароткі час! А што я перажаыў! Мусіць, хутка я буду сівы, а потым пляшывы. Шукелойць, мусіць, возіць увесь табак з сабою. І цыгарэтай мяне не пачаставаў. Ляскаю зубамі. Дзякуй Літвінаву, пачаставаў цыгарэтай. Шукелойць вінны мне 14 марак. 7 за газэты і 7 за картачку. Я казаў яму адзін раз. Ён, мусіць, забыўся. Каб аддаць 10 марак віны “Вэрачцы”, прыйшлося ўзяць грошай з кніжкі. Цяпер засталося 180 марак.

Крыўдна, чы не?



Ад няма чаго рабіць (на вуліцы холад, туман) пачаў пераглядаць свае вершы. Выліўся яшчэ адзін. Зрабіў вокладку для вершаў.

Дадумаўся, што калі злучыць картачку, што даў мне Юрка, з зялёным талёнчыкам, што я атрымліваю кожны дзень, выйдзе зусім добрая штука — рабочы абед. Зрабіў так. Выйшла. Смачна з’еў, крыху паспаў і закусіў халоднай кавай. Зьнік у маім роце ўвесь хлеб, усё павідла.

Была трывога. Але пры такім дажджы, хоць і ня правільна гэта, людзі спакойна сядзяць у хаце. Дождж, дождж. Хутка цямнее. Час так страшна цягнецца.

Дастаў Шукелойцю абед, прынёс гарбаты. Крыўда з учарашняга дню яшчэ не прайшла.

Прынесьлі лісты і ад Цьвячкоўскага[184] Шукелойцю і Валі ад некага.

Неўзабаве прыйшоў А. А. Я сеў у куток, перад тым падаўшы есьці. Сам есьці адмовіўся. Тут мы й заспрачаліся. Даволі моцна.

Ліст ад Цьвячкоўскага проста пэрл! Так і стаіць перад вачыма *“Jaromarka”*. Прыслаў і здымку сваю ў жаўнерскай уніформе. 14-га г. м. ягоны дзень народзін. Трэба заўтра скамбінаваць ліста. Але каб ня ўдарыць у гразь.

10-ая гадз. кладземся спаць.

[184] **Антон Цвячкоўскі** (? – 1974), рэлігійны і грамадскі дзеяч. Гадаванец друйскіх айцоў марыянаў, які так і не стаў святаром. Перад Другой сусветнай вайной жыў у Варшаве, потым працаваў настаўнікам у Вільні. Друкаваўся ў часопісе “Шлях моладзі”, газеце “Крыніца”. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у беларускай адміністрацыі ў Паставах, нейкі час жыў у Менску. Да лета 1944 г. быў у складзе рэдакцыі часопіса “Беларус на варце”. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Праўдападобна, што арыштаваны бальшавікамі пры канцы 1940-х. Асуджаны на 20 гадоў зняволення, быў на Калыме. У Беларусь вярнуўся ў сярэдзіне 1950-х гг.

Бацюшка, што сьпіць цяпер са мною разам, расказаў, што ў Славакіі загінуў Варшаўскі беларускі камітэт[185]. 60 беларусаў.

Страшэнна балеў уначы жывот.

*12 кастрычніка.*

Цэлы дзень пісаў Цьвячкоўскаму ліст ды так і ня скончыў.

Гаварыў з Ясінскім. Едзе ў Кракаў.

"Вэрачка" дала мне бульбы й крыві[186]. Шукелойць прынёс рэдзькі. Тым і павячэралі.

У лягэр прыехаў старшыня Варшаўскага расейскага камітэту. Ходзяць чуткі аб хуткай мабілізацыі.

Спаў першаклясна. Ні разу не ўставаў.

*13 кастрычніка.*

А. А. застаўся ў хаце. Хацеў адкрапіцца ад лягэрнага харчаваньня. Але, відаць, і праўда, што трынаццатае чысло нешчасьлівы дзень. З самае раніцы гавораць аб алярме. Потым ужо на самой справе закурэлі бочкі, загулі сірэны і пачалося... Дырэктар схапіў інвэнтарныя кнігі, я — куфар, і мы абодва, схапіўшы "Вэрачку", паляцелі ў бункэр. Бункэр — гэта па прывычцы. Чы-ж можна назваць бункэрам гэткую мышалоўку.

Сядзелі там па-менскаму. Самалёты я бачыў. Першы раз 25, другі — штук 30–36. Лупілі салідна.

[185] **Беларускі камітэт у Варшаве** — беларуская арганізацыя, створаная для грамадскай апекі беларусаў у Польшчы ў гады Другой сусветнай вайны. Першапачаткова створаны ў пачатку 1940 г. як Беларускі саюз самапомачы (старшыня Фабіян Акінчыц), а з лета 1940 г. стаў Беларускім камітэтам на чале з Міколам Шчорсам. Фактычна існаваў да 1 жніўня 1944 г. — пачатку Варшаўскага паўстання.

[186] *"Вараную кроў (blut) можна было даволі часта купіць, да таго-ж прадавалася без картачак"* (Вітаўт Кіпель).



Кажуць, што завод выйшаў са строю найменш на месяц. Разбураны, пушчаныя толькі месяц таму, карпусы. Трапленьні выключна точныя. Ахвяры ёсьць, больш усяго ў лесе.

З'елі сёньня смачна. Раніцою дырэктар парыў фасолю. У абед атрымалі паўтары булкі белага хлебу, бульбу, тварог.

Цяпер няма ні сьвятла, ні вады. Вячэралі півам.

Пішу пры сьвятле "лятучае мышы", што належыць Горнам.

А. А. заляцаецца да "Вэрачкі". Пайшоў зь ёю ў царкву.

Чытаў сяньня раман "Фуга" Крымава[187]. Вельмі арыгінальная па думцы кніга. Аўтар расказвае аб жыцьці гэроя (вельмі цікавым), які піша фантастычны раман. Апошні таксама зьмешчаны. Адным словам, кніга ў кнізе.

Учора чытаў "Любовь к шестерым"[188]. Экстрапарнаграфічна. Піша нейкая Бакуніна. Выданьне, здаецца, парыскае.

Цяпер чытаю "Фома Клешнев" Міхаіла Слонімскага[189], а калі надакучыць, то *"Chinesischer Silverdollar".*

Урэшце даслаў лісты. Цьвячкоўскаму й Валі. Чаму мне ніхто ня піша? Нудна страшна. Жыву бэрлінскімі ўспамінамі. Калі яны вытхнуцца, трэ' будзе ехаць куды-небудзь набіраць новых.

У лягэры што дзень, то навіны. Устанавілі гадзіны ўставаньня і адыхода да сну (5:30–22). Забралі ад усіх прапускі і выдаюць пры паважнай прычыне

[187] **Уладзімір Крымаў** (1878–1968), расійскі празаік, старавер. У 1933 г. эміграваў у Францыю.

[188] **"Любовь к шестерым"** — раман Кацярыны Бакунінай (1889–1976), выдадзены ў Парыжы ў 1935 г.

[189] **Міхаіл Слонімскі** (1897–1972), расійскі савецкі пісьменнік.

толькі на адзін дзень. Так што і ў Рацібор не прыдзецца больш зьезьдзіць. Чорт ведае, што яшчэ прыдумаюць. Кажуць аб новых правох. Відаць, гэта яны і ёсьць. Як мышы ў клетцы.

P. S. Парваў порткі!!!

*14 кастрычніка.*

Ноччу зусім ня спаў. Напала на мяне дрыстуха. Раз за разам. Акрамя гэтага здарылася яшчэ няшчасьце. Покуль злазіў з ложку, апранаўся, абуваўся, вобмацакам ішоў у цемры, згадзіў калісоны й порткі. Седзячы ў прыбіральні й трасучыся ад холаду, мыў насавачкай порткі. Сьмярдзяць. Калісоны прыйшлося перамяніць.

Паравое аграваньне не працуе. Цэлую ноч мёрз, як сабака. Так заснуць і ня выйшла.

Ад учарашняга дню і ад падзей гэтае ночы настрой сапсуты. Гэта-ж толькі думаў іншыя порткі надзець, каб не ірваць далей гэтых, а тут… Як я іх пачышчу… чы памыю?

Баляць рукі. Усюды нарыўчыкі з белым гноем. Некаторыя схаваліся глыбока пад тоўстую скуру далоняў і баляць. Дрэнь.

Устаў, пасьнедаў і замёрзшаю рукою пісаў спачатку дзёньнік, а потым лісты. Напісаў і адправіў Сане, Уладзіку, Люсі. Але якое сьвінства! Я дагэтуль не атрымаў яшчэ ні радка.

Ізноў, як учора, пранеслася дурная чутка аб алярме. Да ліхай матары. Зноў палёт. Крыху лягчэйшы ад учарашняга, але *Blechhammer*[190] усё-ж бамбілі.

Дастаў абед па тэй картачцы. Зьеў. Добрая пярловая зупа. Потым лёг і заснуў. Спаў з гадзіны

[190] ***Blechhammer*** — месца, дзе размяшчаліся канцэнтрацыйныя лагеры, а таксама прадпрыемствы хімічнай прамысловасці нацыстаў, сёння Блахоўня Сілезская ў Апольскім ваяводстве Польшчы.



паўтары. Вычысьціў высыхлыя порткі. Выскраб жылеткай[191]. Пераапрануўся. Крычаць: “Шукелойцу тэлеграма!” Акрамя гэтага ёсьць ліст ад Цьвячкоўскага на імя д-р Абрамавай[192].

Скончыўся табак. Пайшоў папрасіў Вэрачку ўзяць мой абед па ружовым талёнчыку. На маргарыне падсмажыў бульбу. Потым сам узяў Шукелойцаў *Schonkost*[193]. Бульбы А. А. прынцыпова ня еў. Я пачынаю да ягоных цяжкасьцяў прывыкаць.

Вечарам чыталі “Новае Слова”[194]. Крычаць і трубяць. *“Единение, борьба за общую Родину-Россию”.*

Рана ляглі спаць. Спаў добра.

*15 кастрычніка, нядзеля.*

Прачнуўся позна, ужо ўсе ўсталі. Памыўся, пагаліўся, парэзаўся. Прыйшоў назад. Закурыў, і як зрабілася мне дрэнна! Галава кружыцца, як пасьля шклянкі гарэлкі. Слабасьць.

[191] Ад польск. *żyletka* — прылада для галення, брытва. Польская назва паходзіць ад прозвішча амерыканскага вынаходніка брытвеннага станка — Кінга Кампа Жылета (*King Camp Gillette*).

[192] **Надзея Абрамава** (пасля 1945 г. Тэадаровіч, 1907–1978), адна з кіраўнікоў СБМ. У час акупацыі Беларусі нямецкімі войскамі працавала ўрачом-псіхіятрам у Менскай інфекцыйнай бальніцы. З кастрычніка 1942 г. узначальвала дзіцячы сектар Беларускай народнай самапомачы, з чэрвеня 1943 г. — службу юначак Саюза беларускай моладзі. Была пастаянным супрацоўнікам рэдакцыі часопіса “Жыве Беларусь!”. Уваходзіла ў Беларускую Цэнтральную Раду. Удзельніца Другога Усебеларускага кангрэса. Ад 1944 г — на эміграцыі ў Нямеччыне. Працавала ў адноўленым Кіраўнічым штабе СБМ у г. Тропаў (Опава, Чэхія). Выдавала бюлетэнь “Вучэбны лісток”. 15 верасня 1944 г. кааптаваная ў склад БЦР у Берліне. Пасля вайны працавала ў Інстытуце вывучэння СССР (Мюнхен), займалася пытаннямі рэлігіі і атэізму.

[193] *Schonkost* (ням.) — спецыяльная дыета.

[194] **“Новае Слово”** — уласаўская газета, выдавалася ў Берліне.

У Тропаў[195] Шукелойць хацеў паслаць мяне аднаго. Я кажу, што калі ехаць, то ўдваіх. Бо сам я магу кожны дзень паехаць. А ён, бачыце, ня хоча псаваць сабе нядзелі, хоча пабыць дома. Быў-жа ён цэлы дзень дома, як налёт быў (13.10). Не паехаў з нас ніхто. Дастаў ад Раманцава цыгарэту, як хадзіў па картачку для А. А.

Разьлічыліся з дырэктарам. Аддаў мне 14 марак. Цяпер у кашальку маю 18.

Да абеду А. А. чытаў "Раніцу", а я бадзяўся, ня ведаючы, што рабіць.

Дачакаліся абеду. Сяньня на рабочы талён давалі зупу, бульбу, кавалак мяса, кавалак кілбасы, капусту, хлеб і масла.

Пад час абеду прынесьлі квіток на заказны ліст. Скуль — *Berlin — Charlottenberg*[196]. Далі мне й другі — на імя Мікалая Сямёнава. Першы ліст мяне непакоіў. Няўжо, думаю, з фірмы? Ня вытрымаў і, ведаючы, што пошта ўжо не працуе, папёр туды. На шчасьце, застаў поштмайстра, які замыкаў дзьверы. Упрасіў яго выдаць мне лісты. Мікалай Сямёнаў аказаўся прафэсарам, так што ліст пойдзе назад. А мне піша Ўладзік. "На тых мяст" адказаў яму, хоць толькі ўчора адаслаў ліста.

Вымыў пасуду. Дырэктар пытаецца, што думаю рабіць, чы не пайду куды. Я, ясная рэч, вольны. Пайшлі разам глядзець Сылезскую восень. Праз вёску прайшлі ў лес. Па дарозе ў вёсцы знайшлі прыгожую каплічку. Маленькі музэй. Расьпяцьце, фігура Яна-Непамука[197] і яшчэ аднаго сьвятога рэзаны рукамі. Нагадваюць нашыя экспанаты.

[195] **Тропаў** (ням. *Troppau*) — сёньня горад Апава ў Мараўска-Сілезскім краі Чэхіі. У згаданы Сямёнавым час у Тропаў знаходзіўся Кіраўнічы штаб СБМ, у тым ліку і Надзея Абрамава.
[196] ***Charlottenberg*** — раён у заходняй частцы Берліна.
[197] **Ян Непамуцкі** — чэшскі каталіцкі сьвяты.



У лесе падсілкаваліся брусьніцамі. Прыпадкова натрапілі на цудоўнае мейсца. Маленькі ручай сярод абмішэлых соснаў, што нахілілі да сьветлага люстра вады сівыя галіны. Мосьцік. Перад ім ручай крыху разьліваецца. Трошкі вышэй — маленькая Ніагара. Селі закурылі. Пад журчаньне вадаспаду нахлынулі ўспаміны. *"Ты набрала ў далоні серабранай вадзіцы"*... Пакурылі й памалу пайшлі назад. Шукелойць прыйшоў крыху ў лепшы настрой. Каля ўваходу ў лягэр застанавілі нас *werkschutz*'ы. Забралі ў дзядзькі ягоны аўсвайс, а мне прыйшлося выцягваць *Schutzbrief*[198].

Каля ўмывалкі з Валодзькам Смрукавым стаяў Лесь. Я астаўся зь імі. Кніжку, што я прасіў аддаць мне для Зоры, Лесь, барані лоб, перадаў сам. Няма чаго чытаць. Узяў у Валодзькі Марка Твэна "Амэрыканскі прэтэндэнт"[199]. Сьвятла няма. потым успыхвае на адзін момант і зноў зьнікае.

Хочацца есьці. Пайшоў у сталоўку. Аказваецца, па рабочых талёнах можна было атрымліваць толькі да 2-ой гадзіны. Але нашыя жанчыны былі ў лягэрфюрэра, і той дазволіў у апошні раз.

Раманцаў сказаў прыйсці а палове сёмай. Не дачакаўся я паловы і, падняўшы Шукелойца, што драмаў соладка, дзьвінуў на вячэру. Людзей поўна і ўсе рабочыя. Шукелойць плюнуў і сказаўшы *"Як сабе хочаш, а я стаяць ня буду"*, пайшоў. Крыўдна мне зрабілася — страх. Але я нічога не сказаў і стаяў да канца. Запалілася сьвятло.

У бараку грыбная эпідэмія. Усе вараць, жараць, тушаць. Дзядзька сустрэў мяне зьдзеклівымі

[198] Маецца на ўвазе адзін з варыянтаў дакументаў для жыхароў лагераў на тэрыторыі Нямеччыны.
[199] **Марк Твен** (сапр. **Самюэль Клеменс**, 1835–1910), амерыканскі пісьменнік.

ўсьмешкамі. Я не вытрымаў і на ягонае пытаньне *“Чы можна ўзяць бульбы? Я думаў, што не дасі”* адказаў *“Індык думаў, думаў...”*. Не пакрыўдзіўся ён, а для мяне гэткая штука, як іскра на электрычнай машыне — разрад.

Частавалі грыбамі й нас. Павячэралі добра.

Паднялі паніку, што алярм, але мы ляглі спаць, хоць было яшчэ рана. Усё роўна цёмна.

*16 кастрычніка.*

Устаў даволі рана. Чорт ведае, які дрэнны панядзелак. Хлеба і наогул нічога няма. Табакі таксама. Рабіць, ізноў-жа, няма чаго. Ляжаў чытаў. На галодны страўнік ня надта чытаецца. Каб хутчэй ішоў час, рашыў заснуць да абеду.

Комната наша звар’яцела на грыбах. Сяньня ўсе жанчыны ўсталі а нейкай шостай і папёрлі ў лес. Цяпер каля майго ложка ўлучылі ў штэпсэль трайнік. Стаіць на стале тры печкі, і каля іх таўчэцца штук дзесяць гаспадынь. Спакою няма ні на хвіліну. Усё-ж я праспаў да паловы дванаццатай.

У лягеры здарыўся няшчасны выпадак. Дзеці каталі бэтонныя кругі для калодзежу. Адна дзяўчынка ўлезла ў круг, і раптам адзін круг стукнуўся аб той, дзе яна была. Стукнуўся й разваліўся на чатыры часткі. Аднэй зь іх дзяўчынку прыбіла на сьмерць. Яшчэ й цяпер відаць сьляды крыві.

Па абед ня было чаргі, як на дзіва. Давалі нячышчаную бульбу, капусту, сос і хлеб з маргарынай. Даведаўшыся, што я яшчэ нічога ня еў, “Вэрачка” дала мне дзьве бульбяныя катлеты. Умяў усё, за выключэньнем капусты. Чуюся сытым. Цяпер хочацца закурыць. Выйшаў на выведку. Убачыў Лёньку. Прычапіўся да яго й дастаў цыгарку нейкай слабюсенькай самасейкі. Незадаволеныя, абодва пайшлі шукаць Раманцава, каб стрэліць у яго па цыгарэтцы.



Яго нідзе не знайшлі. Пазычылі ў Літвінава на пару адну цыгарэту. І то добра.

Прыехаў Андрусаў. Учора дзядзька казаў, што дагадваецца аб прычыне строгасьцяў у лягэры. Панаяжджалі з Варшавы і іншых мейсцаў палякі. А *Oberschlesier*’ы[200] ведама, якім духам дышуцца. Але для мяне ад гэтага не лягчэй. Сум і нуда.

Чы думае Іван Васільевіч Каляда, што я пішу на ягоным сшытку?

Я жадаю [закрэслена, нечытэльна] арміі найлепшых посьпехаў. Ведаю, што буду ў яе шэрагах. І мару аб гонары з вінтоўкаю ў руках увайсьці ў родны горад. Як ён жыве? Дзе столькі маіх знаёмых: Зарына, Жэня, Чачнёвы і шмат, шмат іншых, не гаворачы ўжо аб бацькох, каторым, відаць (ох, ня сладка — сын дзе?) зусім дрэнна. Чы ўбачу я яшчэ маці, бацьку? Няхай знайшоўся-б чараўнік, што сказаў-бы мне праўду аб чакаючым мяне ў прышласьці. Я-б аддаў яму ўсё, што маю.

Ляжу й чытаю. Раптам узбрыло ў галаву напісаць ліста сп-ні Шрэдэр. Пачаў. Пісаў, перапісваў. Скончылася чарніла. Пайшоў да Раманцава, набраў чарніла і дастаў цыгарэту. Зь якой прыемнасьцю я курыў! Дужа, дужа дзякую Вам, Валенцін Валенцінавіч, за Вашае добрае сэрца!

Ліста так і не напісаў. Неяк сумняваюся. Чы слаць, чы не?

Выпрасаваў порткі. Вярней, амаль выпрасаваў. Зьнікла сьвятло, ды й на вуліцы цёмна зрабілася. Выйшаў на бераг рэчкі. Пціху прайшоўся туды й сюды. Калі вярнуўся, спаткаў у дзьвярох А. А. Пайшлі на вячэру. Доўга, доўга смажыў дырэктар цыбулю, а яшчэ даўжэй бульбу. Кавы ён мне ня даў. Але дзякуй за тое, што дае.

[200] *Oberschlesier* — сілезцы, тут: жыхары Верхняй Сілезіі.

Купіў у кіёску два нумары *“Angriff”*[201]. Хоць ведаць буду, што на сьвеце дзеецца. Дырэктар недзе зьнік. Відаць, пайшоў купляць табаку. Пасуда стаіць нямытая. Я мыць ня буду.

Хачу заўтра перадаць Зоры ўзятыя тады кнігі й папрасіць новых. Напісаў пісульку.

Прыходзіў два разы Гарадзецкі. Шукаў А. А. Казаў, што прынесьлі табак. Калі дырэктар прыйшоў з пустымі рукамі, я паслаў яго туды. Прынёс ён паўкілё табакі на гэтай справе выйграў грамаў з сотню. Курым. Купіў яшчэ хлеба сабе й Садоўскаму. Толькі мы сабраліся закурыць — згас сьвет. Трывога. Бамбілі недзе далёка — нават ня чулі.

*17 кастрычніка.*

Прачнуўся рана (бяз 10-ці хвілін 6-ая) мусіць, ад таго, што дырэктар лез у шафу. Ён адчыніў вакно і... якая прыгожая раніца! Чыстае блакітнае неба, там і сям перарэзанае істужкаю воблакаў ружовых у праменьнях узыходзячага сонца. Нават баракі выглядаюць неяк паважна. Але сьвежа. Выпіў кавы й зьлётаў прынёс поўны кацялок у запас.

Між іншым, дрэнна з маёю праваю рукою. Шмат маленькіх нарываў, поўных гною. Пальцы робяцца, як калодкі. Што рабіць? Я ўжо й пляструрам залепліваю.

Чытаць няма чаго і таму ўжо ў каторы раз выцягваю з рукзака і пераглядаю свой “архіў”. Прыносяць пошту. Мне, ясна, лістоў няма. Разгаварыўся з сп-няй Горн. Расказаў ёй свае прыгоды.

Прыгожая раніца зьмянілася зусім несымпатычным днём. Нізка спусьціліся хмары. Холадна.

[201] ***“Der Angriff”*** — нямецкая нацысцкая газета, заснаваная ў 1927 г. Ініцыятарам газеты быў Ёзаф Гебельс. Апошні нумар выйшаў 24 красавіка 1945 г.



Выпрасіў у Вольгі Фамінічны кніжку “Прокаженные” Шилова[202]. Пачаў чытаць, але доўга не прышлося. Трывога. Думаю, што былі *Storflugzenge*. Кідалі салідна. Наш “бункер” трэсла, як у ліхаманцы. Самалёты ссадзілі, казалі людзі.

Скора ўсё скончылася. Пачалі даваць абед. Зупа з капусты, кісель і хлеб з маслам. За выключэньнем кіселю, з’еў усё адразу. Ізноў ляжу й чытаю.

У лягеры талкуюць, што нам усім хутка *“Ost”* прышыюць і яшчэ ўсякую дрэнь. Слухаць ня хочацца.

Прызнаўся “Вэрачцы”, што Шукелойць зусім чужы для мяне чалавек.

Залез на сваё ложа, узяў “Прокаженных” у рукі, пачытаў, пачытаў і заснуў. Соладка спаў і не заўважыў, як праляцела некалькі гадзін. Прачнуўся ўжо на змроку. Вэрачка ўбачыла, што я прачнуўся (яна сама, здаецца, толькі ўстала), і падала мне на другі паверх пару блінчыкаў. Вельмі смачна і так прыемна клапатлівасьць.

Чытаць нельга — няма сьвятла. Пацягнуўся да кіёску па газэту. Купіў *“Volkischer”*[203] і даведаўся, што памёр Гэнералфельдмаршал Раммэль[204] і што ачышчаная Рыга.

Горны запалілі ліхтара. Хочацца курыць і няма паперкі (бібулкі, як называюць яе “заходнікі”). Выйшаў на вуліцу, скруціўшы цыгарку з газэты. Сеў каля бараку на плоцік. Бачу, ідуць Сташэлеўскія[205].

[202] Сямёнаў памыляецца. Імя аўтара рамана — **Георгі Шылін** (1896–1941).

[203] ***“Völkischer Beobachter”*** — афіцыйная газета Нацыянал-сацыялістычнай нямецкай рабочай партыі.

[204] **Эрвін Рамель** (1891–1944), абвінавачаны ў падрыхтоўцы замаху на Гітлера, быў пастаўлены перад выбарам: суд Народнага трыбуналу ці самазабойства. Рамель абраў апошняе.

[205] *“Сташалеўскія — бацька й дачка Жэня зь Менску. Казалі, што яны татарскага паходжаньня. Жэня была смугляваю, з*

Кажуць, што Шукелойць прыехаў і ідзе ззаду. Пайшоў насустрач. Не спаткаў. Кропіць дробны дожджык. Сумна! О, Божа, як мне сумна!

Вярнуўшыся ў штубу, убачыў картку на стале (значыць, "дзядзька" дома) і ўзяў абед. Павячэралі. Дырэктар са мною амаль не гаворыць. Адносіны ў нас надта-ж нацягнутыя.

Купілі папалам поўкілё штучнага лёду, і А. А. узяў два пернікі па марцы.

Павячэралі, і заваліўся А. А. на ложка. Маўчыць, і я маўчу. Хацеў памыць судзьдзё, ды-ж вады няма. Казаў "дзядзька", што Лянаконф пытаўся сёньня пра мяне й пра Валю. Чы не проэктуе ён якой штукі. Але горш, чым ёсьць — быць ня можа. А таму пляваць на ўсё з самага высокага баобабу.

Цёмна. Андрусаў з аматарамі спрабуе паправіць сьвятло.

Дырэктар вылез з свайго катуха і расказвае Вэрачцы аб трывозе ў Рацiборы. Я сяджу, абапёршы галаву на кулакі, і назіраю за насельнікамі "штубы".

Ціхан Аляксандравіч падсеў да Аўгеньні Сьцяпанаўны й расказвае штосьць з сваёй маладосьці. Ён, наогул, "словоохотлив". Можа гаварыць на любую тэму. Я заўважыў, што ў некаторых разох не разьбіраецца ў тым, аб чым гаворыць, але ўсё роўна.

Граф Горн сьпіць, сьпіць і ягоная жонка.

Капашыцца з клямонжамі Мар'я Нікалаеўна.

Каб крыху асьвяжыцца, выйшаў на двор. Вярнуўся, бо блукаць бязь сэнсу ізноў-жа-ж нецікава.

*чорнаю касой, прыгожая, як грузінская князёўна. У Рацiборы Зора сябравала з Жэняй, якая была на гадоў 3-5 старэйшая. Пазьней Сташэлеўскія жылі ў Міхельсдорфе. Жэня "круціла" з артыстамі, з Сямёнавым. У ЗША яна выйшла замуж за мастака Кругловіча"* (Вітаўт Кіпель).



Аказваецца, што ўжо даўжэйшы час ёсьць электрычнасьць, а мы і ня ведалі. Скарыстаў з сьвятла й пішу.

Узьнікае гутарка аба мне. Шкадуе мяне Е. С., а Шукелайць ясна: *"Шмат хто і горш жыве. Вайна! Кіньце Вы шкадаваць"*. Як нож у сэрца! Мне менавіта не хапае такога шкадаваньня. За ім і сумую.

З ~~права~~ левай рукою зусім дрэнь. Баліць. Пальцы не згінаюцца. Змрочна гарыць сьвет. Цісьне штось у правым віску. Думаецца, а што калі ўсё сучаснае — дрэнны, цяжкі сон. А што, калі раптам я прачнуся на сваім мяккім чыстым ложку, падыму галаву ад белай пухавой падушкі і праз вакно ўбачу заіндзявелыя стрэхі роднага гораду. Бацькі ўжо пайшлі на працу. На стале ляжыць пісулька, дзе матчынаю рукою напісана, што сьнеданьне стаіць у печцы, а каву трэба падагрэць.

Апранаюся й сьнедаю, па прывычцы. Радыё перадае ранішні канцэрт. Сьнеданьне смакуе. Смажаная бульба з мясам і гарбата. Канчаю есьці. Сядаю ў сваё улюбёнае крэсла і з прыемнасьцю куру. Цыгарэта апошняя, трэба купіць. Я не сьпяшаюся, часу яшчэ шмат. Выходжу ў сенцы, мыюся. Халодная вада прыемна асьвяжае. Махнаты ручнік хутчэй прымушае бегчы кроў. Убіраю са стала, засьцілаю ложка. Гадзіньнік кажа, што трэба ўжоісьці. Бутэрброды маці прыгатавала. Правяраю, чы ў парадку партфэль. Апранаю сваё сівое паліто, на галаву — капялюш, вылучаю радыё, зачыняю дзьверы, вешаю ключ на вешалку. Выходжу на вуліцу. Сьпіць яшчэ мілы Менск. Сонца ўжо даволі высока. Я іду на працу заўсёды ў такі час, калі працоўны дзень ва ўсіх установах ужо з поўгадзіны, як пачаўся. Утрыманцы-ж яшчэ сьпяць. Таму на вуліцах пуста... Лужыны на *Deutsche Strasse*[206] пакрыты

[206] ***Deutschestrasse*** — Нямецкая вуліца — сёння вуліца К. Лібкнехта.

цененькім лядком. Залатая Беларуская Восень у разгары. На рагу *Pionierstr.*[207] стаяць некалькі хлапчукоў. Ім холадна, і яны бавяцца, штурхаючы друг друга. Пытаю, ці ёсьць цыгарэты. Ёсьць! А як-жа!? Купляю 10 штук *"Arabis"*...

Тры разы запальваецца і гасьне сьвятло. Нарэшце зусім зьнікае. Людзі кажуць *"Toralarm"*. Але мне ўсё роўна. Я ляжу на сваёй вышыні і драмлю. Скора засыпаю...

*18 кастрычніка.*

Прачнуўся позна. Мусіць, каля сёмай. Шукелойць сьпіць, як пасьля бамбардыроўкі, едзе а 8:34.

Ляжу й чытаю. Канчаю першую кнігу "Прокаженных". Устаю. Нямыты п'ю гарбату. Атрымліваю ад дзядзькі заданьні на дзень. 1. Трэба перагледзіць некаторыя матар'ялы, узятыя ў Штабе, і зрэфэраваць А. А. аб іхнай карысьці для нас. 2. Знайсьці жанчыну і аддаць ёй у мыцьцё бялізну. 3. Купіць праклятай "бібулкі".

Адпраўляю дзядзьку на працу й вырашаю пайсьці да лекара. Рука не дае мне спакою. Шпарка выходжу са штубы і каля канцылярыі Андрусава натыкаюся на "бацюшкінага сына". Той пытае, чы я заняты і, натуральна, атрымлівае адказ "не". Просіць, каб я паехаў зь ім у Козэль. Яму трэба да ляндрата[208] даставаць пропуска ў Тамашоў (Гэн. Губ.). Едзе па "рэчы". На раздабытачкі, сукін сын!

Я ад такой прапановы хачу адказацца і моцна крыўлюся. Але ён абяцае штосьць "за труды". Згаджаюся. Не за абяцаньне, а проста для таго, каб крыху праветрыцца.

[207] ***Pionierstrasse*** — Піянерская вуліца — сёння вуліцы Мяснікова і Няміга.
[208] **Ландрат** — старшыня кіраўніцтва раёна.



Бягу да лекара. Там такая чарга, што я спужаўся і ўцёк. Сказаў "сыну", каб калі захоча ехаць, прыйшоў па мяне.

Сяджу чытаю. Прыдбаў другую кнігу "Прокаженных".

Прыйшоў "сын". Пайшлі ў мэльдэштэлл[209] па прапускі. Дасталі. Дагаварыліся ехаць цягнікам у 11:24 на Гайдэбрэк, а адтуль як-небудзь у Козэль.

Пайшлі. Я галодны. Папрасіў, каб абед узяла "Вэрачка".

Каб ня мёрз, "сын" даў мне сваё паліто. Яно вялікае й блытаецца ў нагах, але цёплае.

У Гайдэбрэку даведаліся, што наступны цягнік на Козэль ідзе а другой гадзіне па абедзе. Пайшлі да аўтобусу. З-за таго, што ўлазілі праз заднія дзьверы, ехалі да Козэлю "зайцам".

Козэль — паршывенькае маленькае мястэчка. Ляндрата знайшлі мамэнтальна. Дагаварыліся на аўторак. Доўга чакалі аўтобуса. Станцыя аўтобусаў у Козэлі вялікая. Ідуць у розных напрамках. І невядома, зь якога мейсца і куды будзе адпраўка. Пад'елі хлеба з салам, закурылі *"die Schmale"*. Натрапілі прыпадкам на аўтобус, што ідзе на Гайдэбрэк, на Райгэрсфэльд[210] ужо адышоў і трэ некалькі гадзін чакаць. Зьлезьлі ў Гайдэбэрг-Вэст. Ішлі кілёмэтра паўтара пешкі.

Абед быў узяты, і я з апэтытам з'еў халоднае бульбы. Потым узяўся праглядаць матар'ял, пакінуты дырэктарам. Склаў маленькі сьпісачак-канспэкт. Ізноў чытаў. Хутка сьцямнела. Купіў газэту. Мала навін. Дачакаўся дырэктара.

Павячэралі.

[209] **Мельдэштэл** — бюро рэгістрацыі, кантора.
[210] Нямецкая назва вёскі Берава, дзе знаходзіўся лагер, у якім жыў Сямёнаў.

Хацеў зрабіць Шукелойцу рэфэрат, але ён нават і думаць аб гэтым ня хоча. Стомлены.

*Unterlagerfuhrer*[211] запрашаў ведаючых нямецкую мову слухаць нейкую прамову па радыё. Пайшоў у нямецкую хатыну. Даведаўся з перадачы аб *Volksturm'e*[212]. Расказаў аб тым, што чуў, сваім. Спаць. Чытаў крыху. Доўга яшчэ не магла ўгаманіцца нашая штуба. Уначы ішоў дождж.

P. S. Быў па абедзе ў лекара, але бачыў толькі фэльчэра. Сказаў прыйсьці перад абедам і прамармытаў, гледзячы на маю руку: "Экзэма"[213].

*19 кастрычніка.*

Хоць А. А. хацеў, каб я ехаў у горад, я рашыў ісьці да лекара, бо далей проста нельга цярпець. Пальцы паапухалі. Усё баліць.

Такім чынам, апынуўся ў лекара. Чакаў доўга, прыблізна ад 8-ай да 11-ай. Сказалі кожны дзень па

[211] *Unterlagerfuhrer* (ням.) — начальнік лагера.
[212] *"Volkssturm — апошні "крык" Рэйху. Апалчэньне старых і маладых. У "штурм" бралі старых 65–70 год і хлапчукоў 12–15"* (Вітаўт Кіпель).
[213] *"Захварэў на нейкую хваробу, якая выяўлялася тым, што цэлы дзень было добра, але як толькі клаўся спаць, дык усё цела пачынала сьвярбець, і сьвярбела так, што часта каля трэцяй гадзіны ночы трэба было браць халодны душ, тады на пару гадзінаў сьверб супакойваўся. Я думаў, што можа гэта кароста, але прыпамінаючы апісаньне каросты, успомніў, што кароста пазнаецца па тым, што сьвярбіць найбольш паміж пальцамі рук і на скуры заўважаюцца чорныя пункты. Пунктаў ня было, а сьвярбела як паміж пальцамі, так і ўсе плечы. [...] Маю хваробу Глеб адразу распазнаў, як каросту, і сказаў, што ён таксама, як і Тонік, на гэта ўжо перахварэлі і што мы набраліся яе ў часе падарожжа зь Менску ад К. Лек, парэкамэндаваны Глебам, "морыфэн", зрабіў жыцьцё прыемнейшым адразу пасьля першага шмараваньня цела. Для пэўнасьці я правёў дзьве курацыі, так што на далонях, якімі наносіўся лек, зьлезла скура, але вылячыўся добра"* (Галяк, Леанід. Успаміны... Т. 2. С. 13).



абедзе прыходзіць і прамываць мае нарывы нейкім лекам. Прамылі й сёньня.

Хутка прабег час да абеду. Сяньня я атрымліваў абед першым. Давалі лапшу, цукар, хлеб і масла. З'еў крыху лапшы і шмат мёду. Мусіць, будзе дырэктар злы, што ня вытрымаў і так нішчу яго. Па абедзе лёг і паспаў гадзінкі з дзьве. Чытаць няма чаго. Узяў у Вольгі Фамінічны *"30 Pf. Roman"*[214]. Але, вядома, нямецкі. Зьбіраюцца ўсе ад'яжджаць. Прыходзяць разьвітвацца супрацоўнікі клімін-ту (укр.). Мусіць, хутка і Горны выедуць. Доктар Андрусаў зрабіўся *scharfer*[215]. Ня хоча слухаць аб шматлікіх паездках. Высылае людзей, як найхутчэй вон.

*Канец трэцяга сшытку.*

## Сшытак 4

### 1944 год. Восень.
### Сылезія. Лягер Біраў

Пачата: 20.X.44
Скончана: 5.XI.44

*20 кастрычніка, пятніца.*

Думаў, што ўстану рана, але, прачнуўшыся, убачыў, што Шукелойца ўжо няма. Есьць ад вечара не засталося нічога. Пайшоў памыўся, апрануўся ў свой "добры" касьцюм і так як надыйшла восьмая гадзіна, пакрочыў да выхаду паспрабаваць, чы ўдасцца выбрацца з нашага мілага лягэру. Зрабіў дзелавы

[214] ***"30 Pf. Roman"*** — танная кніжная серыя "дамскіх" раманаў.
[215] *Scharfer* (ням.) — тут у значэнні "востры, рэзкі".

выгляд, які так патрэбен, калі ў кішані ляжыць старая паперка са Штабу.

*Schutzmann*[216] быў заняты прывядзеньнем у парадак сваёй будкі і, зразумела, на такую дробязь, як я, не зьвярнуў увагі. Я “торжествовал”.

Раніца халодная. Вісіць туман. Покуль дайшоў да станцыі, крыху прамёрз. Цягніка прыйшлося чакаць даволі доўга. Падыйшлі нашыя работнічкі, і ў іх ліку Валодзька Струкаў, з каторым я ехаў. Па дарозе разгадвалі крыжаслоўе ў “Новым Слове”.

У *Einsatzstabe* ціха. Сядзяць прафэсар (украинского происхождения), Ліманоўскі, дзядзька Савёнак, Садоўскі, дачка Сташэўскага, немец і мой Шукелойць. Атмасфэра лягчэйшая, як была пры мне. Балбатаў крыху з дзядзькам Савёнкам. Скардзіцца на жыцьцё-быцьцё. Цяжка пасьля Менску.

Пайшлі з А. А. да лекара. Між іншым, гэта я першы раз быў у прыватнага лекара ў Нямеччыне. Прыгожы пакой для чакаючых. Мяккія мэблі, абразы па сьценках і вялікае люстра ў куце. Чысьціня! Чакаць (мне заўсёды трэба чакаць) сказалі, хоць і прыйшлі мы запозна. Перад намі было шмат людзей, і покуль падыйшла нашая чарга, дзядзька Антон нават носам дзёўбаць пачаў.

Нарэшце паклікалі нас. Лекар быў зьдзіўлены, калі мы ўдваіх уварваліся ў габінэт, але я адразу-ж высьвятліў стан рэчаў, адрэкамэндаваўшыся, як *Dolmetsecher*[217]. Доўга мучылі беднага дырэктара, і ўсё дарма. Па законах вайны ён мусіць насіць свае акуляры аж покуль бачыць перастане. За тое, што ён аб гэтым даведаўся, заплачана 8 (восем) марак.

Мне хацелася за дробнай справай. Накіраваліся ў бок адпаведнага мейсца. Але па дарозе дырэктар

[216] *Schutzmann* (ням.) — вартавы.
[217] *Dolmetsecher* (ням.) — перакладчык.



завярнуў у вулічку і пацягнуў мяне ў нейкую краму. Аказваецца, туды, дзе чамаданы чыняць. Даволі камічны інцэдэнт адбыўся між Шукелойцам, гаспадаром майстроўні і мною. Гаспадар кажа, каб прыходзілі за дзесяць дзён; дырэктар кажа, што быў тут два дні таму і яму было тое самае сказана. Я ў поўным адчаі. Ды й “тое” дае сябе чуваць. Пайшлі з носам.

Ізноў бачу, адчыняе А. А. нейкія дзьверы, і мы апынуліся ў шаўца. Сустрэлі нас не зусім ветліва, нават спыталі дырэктара, калі ён, паправіўшы адзін чаравік, скідаў другі: *“Чаго ты яшчэ хочаш?”* У канцы канцоў я дасягнуў мэты.

Час блізіўся да адыходу майго цягніка, і я, захапіўшы заказны ліст да Калубовіча, папёр да вакзалу. Ліст здаў, купіў газэт і за дваццаць хвілін другая быў у Райчырсфэльдзе. Мяне чакаў абед. З’еў. Адважыў А. А. 250 гр. мёду, а астатняе (праўда, менш чайнай лыжкі) зжор.

На стале ляжала доўгачаканая карэспандэнцыя. Паштоўка ад Валі і паштоўка ад Юркі. Гэты апошні штось круціць. Нават адрасу свайго не падае.

Курыць хочацца сьмяротна. Падумаў, што можна зарабіць цыгарэту ў Раманцава, прачытаўшы яму Юркаў ліст. Выйшла. Накіраваўся да лекара чы, вярней, да фэльчара. Яго ня было. Вярнуўся дамоў і патрапіў на табачную раздачу. Курым! Крыху пабалтаўся і пайшоў ізноў мазаць свае “раны”. Добрая штука. Сохнуць праклятыя язвы!

“Вэрачка” прыгатавала грыбы і бульбяныя катлеты. Пачаставалі й мяне. Я сёньня ў добрым гуморы: і сыт (п’яны выключаецца), і нос у табаке.

Блізіцца час прыходу дзядзькі. Прынёс вячэру. За сталом даведаўся, што ёсьць ліст ад фр. *Longt*. Дзядзька думае ў нядзелю адправіць мяне ў Тропаў і пісаць у БКА. Я рады, што становішча нашае высьветлілася. Адно дрэнна, школа маўчыць.

Прынёс дзядзька дзьве кніжкі. Адну чытаю сам, другую Ал. Ал. Бацюшка, што жыў у нашай штубе, часта наведвае нас. Расказваў страшэнна цікавыя рэчы. Між іншым, восеньню 1942 г. ён быў у Менску. Ён мне падабаецца, хоць і поп.

Сядзелі, покуль ня згасла сьвятло. Так як нічога ня піў вечарам, спаў спакойна.

*21 кастрычніка, сыбота.*

Няма вады, пары і сьвятла. Холадна. Хочацца яшчэ паляжаць, але ногі зусім замёрзлі. Устаю. Паступова пачынаюць зьяўляцца цяплыня, вада і сьвятло. Кой-як памыўся. Есьці-ж заставіў мне дырэктар адну лустачку хлеба. Мёд ён есьць. Добра.

Дапісаў дзёньнік за ўчарашні дзень і сеў чытаць. Кніжкі на гэты раз трапіліся ерундовыя. Мая завецца “Запретный хлеб”, аўтар Гойер[218]. Дрэнь. Скардзіцца на сваю кнігу Ал. Ал.

З ранішняй поштай прыйшоў ліст ад Уладзіка. Навін няма. Піша, што грошы выслаў. Дзе-ж яны? Адразу-ж напісаў яму адказ.

Надыходзіць час абеду, а есьці не даюць. З-за адсутнасьці вады й быццам быўшага алярму абед будзе а гадзіне трэцяй, чацьвёртай. Я галодны, як цюцька. Паскардзіўся сваім суседзям, і мяне пачаставалі баршчом і хлебам. Калі дадаць да гэтага, што “Вэрачка” раніцою дала мне гарбаты з хлебам, то я жыву проста, як жабрак. Цяжка.

Час з галодным страўнікам цягнецца страшэнна. Быў гарачы прас, і я прывёў у парадак порткі. Прасаваў праз паперу. Так параіў гінеколёг.

[218] **Леў Гоер** (1875–1939), юрыст, фінансіст, пісьменнік, масон. Нарадзіўся ў Менску. Быў міністрам фінансаў у Калчака. Эміграваў у Кітай. Працаваў дырэктарам Руска-азіяцкага банка ў Манчжурыі і Шанхаі. Пераехаў у Парыж, дзе і выдрукаваў у 1939 г. *“Запретный хлеб”*.



Зноў няма чаго рабіць. Вэрачка ўзялася прасьці маю бялізну. Як я ні артачыўся, прыйшлося даць.

Нарэшце даюць абед. Усё, што атрымаў, з’еў адразу — зупу гарохавую, кампот, хлеб і маргарын. Страўнік поўны прыемнай цяжкасьцю.

Аднёс ліст на пошту і накіраваўся да *Rianken Reveit* чы *Revue*, як называе яго Літвінаў. На руцэ злазіць скура, і выглядае яна жудасна. Нашмараваў ізноў.

Андрусаў выклікаў да сябе Вэрачку і прапанаваў ёй ехаць на нейкі завод зараджаць акамулятары. Баюся, што скора й за маю душу возьмуцца. Трэба ўцякаць. У Бэрлін!

Табака разыходзіцца з катастрафічнай хутчынёю. Што будзе далей?

Набліжаецца вечар. Публіка з нашай штубы зьбіраецца на канцэрт. Білеты прадаюцца ад учора ў школе. Я-ж ня маю ніякага настрою слухаць канцэрты. Лепш заставацца з маім горам.

Узяў Шукелойцу вячэру. Сам залез на ложак, узяў у Ал. Ал. кніжку “Война за опиум” і чытаю. Есьці ня стаў, бо толькі а чацьвёртай з’еў сваю порцыю.

Так праходзіць час. Калі прыйшлі канцэртнікі, я ўжо ня чуў — спаў.

*22 кастрычніка, нядзелька.*

Не пасьпеў прадраць вачэй, як пачуў пытаньне з ніжняга ложка: *“Чы паедзеш у Тропаў?”* Ехаць, шчыра кажучы, ня хочацца. Уночы ішоў дождж. Цяпер пахмурна. Адказваю, што падумаю. Шкада ўсё-ж дзядзькі, трэба яму дапамагчы. Устаю й пачынаю ўбірацца ў “новае бельле”. Капаўся доўга, так што калі спытаў, каторая гадзіна, і аказалася восьмая, я яшчэ ня быў зусім гатовы. Але на цягнік пасьпеў. Аказалася, што едзе ў Тропаў цэлая кампанія: Валодзька Струкаў, Рыма, а ў Маркдорера дабавіцца Алесь. Я быў гэтым

вельмі ўзрадаваны. Алесь сеў у першы вагон, хоць я з апошняга крычаў і махаў яму шапкай. Але ў Рацібары сустрэліся. У Краништэце да нас прыядналіся яшчэ дзьве дзяўчыны: Іна і Ніна. Ніна вельмі нагадвае мне Соню. Такая-ж фігура і твар нават падобны. Іна маладая прыгажуня. На мой густ.

Да Тропаў даехалі хутка. Сьмяяліся шмат, варажылі па кнізе. На вакзале разьвітаўся з кампанейцамі і пайшоў на старое памешканьне дзяўчат недалёка ад станцыі. Там іх ужо не аказалася, і дзяўчаты з СБМ, што там жывуць, з горам папалам растлумачылі мне, дзе шукаць трэба. Ясная рэч, знайшоў мамэнтальна. Дома была толькі Аня. Дужа дзякавала за ўсё тое, што я прывёз. Дала торбачку памідораў і дзьве ігрушы. Прачытаў ёй ліст Цьвячкоўскага. Яна якраз пісала да Вэры, і я прыпісаў пару словаў. Пайшлі ў рэстаран, дзе спаткаліся з Зосяй і Міхасяй. Смачна й сытна з'елі. Правялі мяне дзяўчаты да вакзалу і пайшлі. Я пакурыў, улез у вагон і стаў чакаць сваіх.

Зьявіліся і яны. Да Краништэту проста вагон ламалі. Весела было! Потым яны вылезьлі, і я застаўся адзін.

У Рацібары блукаў па горадзе, зайшоў у парк і ележ еле дачакаўся цягніка. Замёрз у дарозе — страх. Прыехаў у лягер, было ўжо цёмна. За вячэрай з'елі ўсе памідоры з бульбай і цыбуляй. Я доўга не чакаў і лёг спаць. Так прайшла нядзеля.

Рука мая — усё горш і горш. Заўтра скажу гэтым лекарам, што-б больш ня мазалі, бо толькі больш нарываў зрабілася. Выглядае жудасна. Пальцы паапухалі й баляць.

*23 кастрычніка, панядзелак.*

Быў вельмі зьдзіўлены, устаўшы, калі ўбачыў дырэктаравы акуляры, порткі, марынарку і інш. Аказваецца, ён на працу не паедзе, а пойдзе



клапаціцца, каб адмацавацца ад лягернага харчаваньня.

Дзень багаты пісьмамі. Атрымаў ліст ад Уладзіка, паштоўку і цэтлік ад Валі і цэтлік ад Юркі. Напісаў ім усім адказы.

Быў у фэльчара. Ён сказаў прыйсьці заўтра й даў мазі.

Паехала О. Ф., заўтра раненька выяжджае М. Н. Памог ёй вымэльдавацца[219].

*24 кастрычніка.*

Дырэктар ізноў дома. Я быў у лекара. Намазалі руку *unguentum zinci*[220] і сказалі прыйсьці праз дзень на перавязку. Абвязалі так, што толькі вялікі палец чуць-чуць тырчыць. Прыйшоў ад лекара — на стале ляжыць ліст ад "Чаючаткі". Піша аб нейкай мэдычцы, каторай даў мой адрыс. Хто-б гэта мог быць? Ліст ягоны — ізноў пэрл.

Хочацца страшна курыць. Раманцава не відаць. Спаткаў "сынка". Той абяцаў прынесьці закурыць. Я з надзеяй вярнуўся ў штубу, узяў у Вэрачкі кніжку Шэлера-Міхайлава[221], залез на ложак і чытаю. "Сын" не падвёў. Прынёс 5 цыгарэт. Задымілі з дырэктарам.

На абед і вячэру была зупа. Свае два абеды ня траціў, хоць і хацелася вельмі есьці. Дзень так і прайшоў.

Бачыў Марыю. Пагаварылі зь ёю. Умовіліся вечарам спаткацца. Я яе шукаў, шукаў, але не знайшоў. Чорт зь ёю! Думае, я буду бегаць.

[219] **Вымэльдавацца** (ад *meldestelle* (ням.) — бюро рэгістрацыі, кантора) — выпісацца.
[220] *Unguentum zinci* (лац.) — цынкавая мазь.
[221] **Аляксандр Шэлер** (1838–1900), расійскі пісьменнік, пісаў пад псеўданімамі А. Міхайлаў, Шэлер-Міхайлаў.

Вечарам прыходзіў Гарадзецкі. Прынёс яшчэ дзьве мае фоткі. Гэтыя "хітрыя". Кажа, што прыехаў Рыхэль. Дзякуй Богу, ня будзе Анэлька непакоіцца.

Шукелойць купіў пайку хлеба за пяць марак. З гэтае нагоды цэлы вечар елі.

Кажуць "нашыя", што сёньня будзе Ўласаў[222] мець аўдыенцыю ў Гітлера. Што-та будзе, што-та будзе.

*25 кастрычніка.*

Прыехалі Ал. Ал. і В. Ал. Усё добра там, дзе яны былі, але няма памешканьняў.

Ад вечару засталася скарынка хлеба, якую і з'еў з несалоджанай кавай. Потым жаласьлівая Еўд. Сьц. дала мне кавалак пайкі, каторы зжор вышэйпададзеным мэтадам.

Ад нуды напісаў ліст Уладзіку. Купіў "Новое Слово" і *"VB"*. Схадзіў так сабе да Раманцава. Дастаў кавалак цыгарэты. Падыйшоў абед. Узяў два, бо даюць мармэляду. Наеўся бульбы па горла. Сыты. Але ізноў гора — курыць. Паплёўся да Вал. Вал. Мілы ён чалавек. Даў мне крыху табакі. Увесь час і ў антрактах між пералічанымі падзеямі чытаў Шэлера.

Аляксандр Аляксандравіч перадаў прывітаньні ад Саўко. Ён нарэшце ў пэрсанальным аддзеле.

Дзень праходзіць.

Прыехаў Антон Антонавіч. Ён гаварыў з Рыхелем. Той успомніў аба мне, пытаў, як чуюся, што думаю рабіць. Шукелойцу ён раіць альбо прыняць прапанову Калубовіча і заняцца аховаю каштоўнасьцяў, альбо перайсьці ў аддзел прапаганды пры, здаецца, Уласаўскім штабе. Што рабіць мне? Рыхель думае так, як і дзядзька. Трэба моцна выбраць, узважыць

[222] **Андрэй Уласаў** (1901–1946), былы савецкі генерал-лейтэнант. Захоплены ў палон, перайшоў на бок нацыстаў. Узначаліў Рускую вызваленчую армію.



усё і ўзяцца за працу. Калі я жадаю прысьвяціць сябе палітычна-арганізацыйнай працы, то трэба ісьці ў СБМ. А то, з ведаю мовы, зрабіцца, як Цьвячкоўскі — перакладчыкам у войску. Божа, Божа, як цяжка пытаньне маёй будучыні.

З такімі думкамі павячэралі, і толькі сабраўся А. А. пісаць нейкі ліст — згас сьвет. Так у цемры й заснулі.

Злавіў вош на сьпіне пад кашуляй. Чы не застрэліцца мне ад усяго гэтага?

*26 кастрычніка.*

Хоць учора піў мала, але ўночы бегаў. Калі дырэктар пачаў зьбірацца на працу, я прачнуўся з тым, каб уставаць. Пачакаў, пакуль А. А. еў і апранаўся, а потым, калі ён выйшаў, сеў сам да стала. Скончыў мармэляду і кілбасу. Капаўся да паловы восьмай, а там пайшоў да лекара. Думаў, што буду адным з першых, але сядзела ўжо дзесяць чалавек. Калі-ж пачаўся прыём, то папёрла столькі французьні і італьяншчыны, што да дзесятай гадзіны прыйшлося чакаць. Руку перавязалі. Як зьнялі бінт, я аж спужаўся. Страшна выглядае. Усе струпы ад нарываў папрысыхалі да мазі, і разам зь ёю іх змылі. Асталіся дзірачкі і пухіркі з гноем. Прысыпалі дэрмантолям, каб сохла, і завязалі ізноў. Ізноў трэба пазаўтра на перавязку.

Да абеду чытаў. Браў два, бо давалі цукар. Ізноў чытаў, аж покуль кніжкі ня скончыў. Добрая рэч. З цыклю "Семья Муратовых" два раманы: "Хлеба и зрелищ" і "Старое гнездо"[223].

Пайшоў да Раманцава і прабалаганіў крыху ў яго. Нічога не дастаў. Пайду заўтра па табаку. Да дзядзькавага прыходу сядзеў і гаварыў з "Вэрачкай".

[223] Творы А. Шэлер-Міхайлава.

Прынесьлі ліст ад Уладзіка, пісаны толькі ўчора. Дрэнь, дрэнь і дрэнь.

Дырэктар прывёз памідораў, якія яму, відаць, дала Аня, што прыяжджала ў Рацібор. З прыемнасьцю павячэралі імі і выпілі салодкай кавы з булкай і маслам.

Два разы тройчы гасла сьвятло. За другім разам я заснуў, да стала прытуліўшыся. Разбудзілі мяне, і я пералез на ложка.

Уночы была пякельная гарачыня ў штубе. Лётаў часта, і можна сабе ўявіць, якая гэта з адной рукой прыемнасьць.

*27 кастрычніка.*

Мікраскапічнымі дозамі хлеба й булкі, якія пакінуў дырэктар мне на сьняданьне, ясна, наесьціся няможна. Бадзяюся між баракамі. Курыць не ўдаецца. Прыйшлі лістоўкі ад Валі і Юркі. Адпісаў Уладзіку і ім абодвум. Рабіць абсалютна няма чаго. Рука баліць, чаго раней ня было. Чую, як яе расьпірае.

Ледзь-ледзь дачакаўся абеду. Была бульба, сос, тварог, капуста, мясная клёцка, хлеб і масла. Паеў і закурыў. Пачаставаў мяне Ц. А. Крыху паваляўся, а потым пайшоў да Раманцава. Той пачаставаў мяне хлебам з маслам, і папрасіў, узяўшы з сабой Іванушкіна, праверыць *Bestand*[224] у остаўскіх бараках. Ідучы да Іванушкіна, спаткаў Марыю. Аб тым вечары — ні слова. Кажа, што мае кнігу "Ключ". Трэба, як яна прасіла, потым зайсьці і ўзяць. Аблазіўшы баракі й зрабіўшы ўсё, што можна было, пайшоў ізноў да В. В. Атрымаў разам з цыгарэтай заданьне схадзіць у *Bieran-Ost* па картачкі. Пайшоў. Чакаў доўга,

[224] *Bestand* (ням.) — тут: прысутнасць.



доўга, бо спазьніўся, але картачкі дастаў. За ўзнагароду дастаў бутэрброд з сырам і абяцанку, што дасьць табакі. Узяў у В. В. кніжку "Металл". Крыху пасядзеў у штубе, схадзіў па газэту. Прадавала сёньня тая…

Прыйшоў паляк і прасіў, каб А. А. прыйшоў да яго па табаку. Дастаў вячэру. Павячэралі даволі смачна. Дзядзька прывёз… сьлімакоў! З бульбай, памідорамі і цыбуляй смакуе дзіўна. Толькі адно — мыць посуд дзядзьку не да густу. Але няхай памые! Рука не дае спакою. Баліць і выклікае тым самым трывогу ў сэрцы. Баюся, каб дрэнна ня скончылася. Пайду, думаю, пашукаю Марыю, можа кніжку дастану, бо тэй "Металл" — такая дрэнь. Каля бараку 1640 спаткаў усё-ж такі яе. Я папрасіў даць мне кнігу. Аляксеева, як убачыла маю руку і выслухала гісторыю хваробы, пашкадавала мяне й параіла пайсьці да др. Нікалаеўскай у 1604. Я адважыўся й пайшоў. Марыся праважала. Доктар аказалася на дзіва сымпатычнай жанчынай. Называла мяне "деточкой". Як я даўно гэтага ня чуў. Вылаяла мясцовых лекараў канаваламі і шаўцамі і сказала, што заўтра зь ёю паеду ў *Ambulanz*, а адтуль атрымаю накіраваньне да спэцыялістага. З перавязкай, зробленай на совесьць, і надзеяй на лепшае кладуся спаць. Наўмысьля нічога ня піў, але да таго дайшло, што калісоны перамяніць прыйшлося. Раз за разам.

*28 кастрычніка.*

Раніцою, адзеўшыся ў лепшае і пазычыўшы 20 марак у З. Ів., рушыў да др. Зь ёю ў *Heydebreck*, адтуль у *Oppeln*[225] праз *Rgfld*. Лекар даволі сымпатычны, але па гутарцы нагадаў мне гандляра сродкам для

[225] ***Oppelh*** — сёння горад Аполе — сталіца ваяводства ў Сілезіі, Польшча.

прасаваньня порткаў на *Alexanderplatz*[226]. Супакоіў мяне, прапісаў мазі і адпусьціў за 4 маркі. Горад добры. Рацібор у вялікіх памерах. Паабедаў, бо есьці хацеў во!

Па прыезьдзе ў лягер са скандалам атрымаў табаку. Бачыў др Нікалаеўскую, і яна сказала, што калі атрымаю лекі, каб прыходзіў да яе. На стале застаў ліст ад Валі.

Шукелойць прывез навіны і сярод іх забарону *Reiseverkehr*[227] у сыботу-нядзелю. Сам ён хацеў ехаць у Тропаў з Садоўскім у СБМ. Але паездка ляснула.

*29 кастрычніка, нядзелька.*

Раніцою дырэктар пачаў уборку. Мёў, чысьціў. Потым ён некуды хадзіў, прыходзіў і выходзіў ізноў. Так і прайшоў дзень.

Са значных падзеяў: 1. Вэрачка атрымала раскошную пачку з Прагі. Пачаставала чакаляднай цукеркай. Вось бы мне такую штуку. 2. Раніцою варылі хвасольную зупу са скурай з сала, што я вёз з хаты. 3. Вечарам чыталі "Новае Слова". 4. Хадзіў да Марыі, аддаў кнігу. 5. Гаварылі з А. А. на розныя арганізацыйныя тэмы.

*30 кастрычніка.*

Хлеба няма. Галадна. З самага ранку даведаліся, што ў нас будзе дэзынфэкцыя. З гэтае прычыны пачалі пакавацца, складаць ложкі, прыгатаўляцца да выноскі. Мыючыся, я бачыў *Meintok*'а і спытаў яго, чы будзе ў нас гэтая непрыемнасьць. Будзе. Карацей кажучы, дзень быў сапсаваны. Выносіліся, мёрзлі, уносіліся, нюхалі смурод, потым жарыліся ад таго, што папусьцілі цяплыні, каб хутчэй сохла.

[226] ***Alexanderplatz*** — адна з найбольш вядомых плошчаў Берліна.
[227] *Reiseverkehr* (*ням.*) — пасажырскія перавозкі, паездкі.



Па абедзе я залез на верх і заснуў. Прачнуўся, калі было ўжо цёмна і гарэла сьвятло. Узяў для дзядзькі вячэру. Самому есьці амаль не хацелася. Дзядзька сьпяшаўся да чэхаў. Ён выконвае розныя спэкуляцыйныя даручэньні.

У асноўным за дзень: 1. Атрымаў паштоўку ад Юркі. 2. Дастаў у Раманцава 5 цыгарэт. 3. Спаткаў Андрусава, каторы пытаўся, куды я еду. 4. Шукелойць прывёз ліст ад Ані, дзе яна піша, што гаварыла аба мне з Тамыком, і той можа паслаць мяне на курсы праваднікоў. 5. Рыхэль хворы.

Па ўсіх думках, трэба ехаць у СБМ. Што-ж, пазмагаемся з Акінчыцамі[228] і навучымся арганізацыі і камандаваць.

*31 кастрычніка.*

Дырэктар прывёз учора мазь, выпісаную лекарам. Я сабраўся і пайшоў да доктаршы, але спаткаў яе на палове дарогі. Яна прасіла выбачыць, але так, ня надта шчыра, што моцна занятая і сказала, каб ішоў у *Ambulanz*.

Так сяньня й зрабіў. Цікава, што як толькі я туды выбіраюся, ідзе дождж. Сяньня ён, на шчасьце, перастаў, і я сухі дайшоў да станцыі.

[228] **Фабіян Акінчыц** (1886–1943), грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, рэдактар. Быў старшынёй Беларускага бюро прапаганды пры Міністэрстве прапаганды ў Берліне. У пачатку 1940 г. быў старшынёй Беларускага камітэта ў Варшаве. Арганізатар Вустраўскай школы прапагандыстаў (пад Берлінам), куды траплялі асобы з ліку савецкіх ваеннапалонных. Сярод яго супрацоўнікаў былі Генрык Барановіч, Васіль Камароўскі, Аляксандр Крыт. Пасля заканчэння курсаў многія выпускнікі накіроўваліся на працу ў акупацыйную адміністрацыю на Беларусі.
Сямёнаў, відаць, мае на ўвазе якраз выпускнікоў згаданых курсаў, называючы іх "Акінчыцамі".

Выпісаўшы пропуск, дастаўся да амбуляторыі. Доўга чакаў выпадку пагутарыць з лекарам, тым, што дзядзьку лячыў. У канцы ён папрасіў сваю сястру, і яна перарабіла ўсю штуку. Цяпер рука забінтаваная, як рукавічка надзета, кожны палец паасобна.

Каля выхаду напаткаў немца, і між намі адбылася такая размова:

Я (іду да выхаду й чую)

Ён: *Hallo!* (Даганяе мяне й пытае): *Was bist du fur Landsmann*.

Я: *Weissruthene*.

Ён: *Das heisst Ukrainer*.

Я: *Nein! Wiessruthene!*

Ён: *So was gibt's nicht. Du bist Russe.*

Я: *Weissruthenien ist ein Land mit der Naupt stadt Minsk*.

Ён: *Aber Weissruthenien ist unter Polen und Russen Wer bist du, Pole oder Russe*.

Я: *Aber lieber Herr, ich bin Weissruthene*[229].

Урэшце я сказаў яму, што ён мыляецца і ня ведае гісторыі. Трапляюцца яшчэ такія.

*1 лістапада, серада.*

Каб не хадзіць пешкі, паеду, думаю, рана. Устаў адразу-ж, як пайшоў дырэктар. Чым Бог паслаў, пасьнедаў і пайшоў.

[229] Ён: *Hallo!* (Даганяе мяне й пытае): *Хто ты па нацыянальнасці?*
Я: *Беларус.*
Ён: *Гэта значыць украінец?*
Я: *Не! Беларус!*
Ён: *Калі не, значыць Вы расеец.*
Я: *Беларусь — гэта краіна з сталіцай у Менску.*
Ён: *Але Беларусь — гэта паміж Польшчай і Расіяй, таму ты або паляк, або расеец.*
Я: *А Божа мой, я беларус!*



Відаць, сёньня пачынаецца восень у Сылезіі. Дождж і вецер. Холадна.

У амбуляторыі даведаўся, што сястра Інна атруцілася грыбамі і чуецца вельмі дрэнна. Пачала мяне перавязваць другая расейка, але потым перадала немцы. Ветлівая й сымпатычная. Дагаварыўся зь ёю, што прыеду назаўтра. Рука выглядае лепш. Хутчэй бы гаілася.

Выйшаў з заводу й думаю, якім-жа цягніком я ехаў той раз. Няўжо а 10-ай гадзіне. Раптам бачу, за лесам дымок. Тут мне й стрэліла, што ёсьць-жа а 8:34! Пасьпеў.

У лягеры сум. Кампанію нашых сустрэў яшчэ на станцыі. Едуць у Рацібор.

Пайшоў да Раманцава і зарабіў на сёньняшні й заўтрашні талён *"arbeiter"*[230]. Адаслаў Уладзіку, у адказ на ягоны ўчарашні, ліст. Лаю яго ва ўсе коркі. Чы не пакрыўдзіцца?

Па абедзе думаў заснуць, але штось ня сьпіцца. Дадумаўся пачысьціць паліто. Прасіў Вэрачку памагчы, але прышлося самому.

Дзядзька быў у "так сабе" настрою. Я схадзіў і купіў на 10 марак табакі. Дрэнь жудасная, але я смалю.

*2 лістапада.*

Устаў рана. Чаго? Я-ж у амбуляторыю раздумаў ехаць. Бо калі ехаць сяньня, то наступным разам прыйдзецца ў панядзелак альбо заўтра. Сыбота цяпер непадарожны дзень.

Я капаўся ў негліжэ каля ложка, раптам прыходзіць дзядзька. Што такое? Аказваецца, яго з лягэру не выпушчаюць. Пасядзеў ён троху й пайшоў у мэльдэштэле. Больш не варочаўся.

[230] *Arbeiter* (ням.) — рабочы.

Ходзяць чуткі, што людзі прыносяць сотнямі белыя грыбы. Мы — Вэрачка, Ал. Сыц. і я — рашылі папытаць шчасьця. Да абеду бадзяліся па лесе, і я знайшоў колькі грыбкоў. Па пальцах іх палічыць можна. Вэрачка іх пакінула на заўтра.

Абед я атрымаў раскошны. Белая булка, хлеб, масла, цукар, зупа, кілбаса і яшчэ раз хлеб, масла, цукар. Давалі і сыр. Я яго ўзяў. Але што за атрута!

Па абедзе ізноў, як і кожны дзень, — спаць. Калі прачнуўся, усе чыталі "Новае Слова". Дастаў і я. Уступіў Вл. А.

Узяў вячэру дзядзьку. Яму далі цэленькую булку. Калі ён прыйшоў, я, як заўсёды, паставіў усё на стол. Селі есьці. Ён пытае, гледзячы на цэлую пайку хлеба, чаму я нічога ня еў. Я кажу, што так хацеў. Ён вызьверыўся. Я абразіўся. Ён кажа, што калі будзеш мець сваіх дзяцей, будзеш зь імі так гаварыць. Адказваю яму, што й Вы будзеце крычаць, калі сваіх дзяцей мець будзеце, а на мяне, калі ласка, нечага.

Я крыху палізаў зупы і ададзьвінуў міску. А. А. пытаецца, чы больш нічога ня буду есьці. Кажу, што больш нічога ў мяне няма. Булкі ён не дае, але кажа, бяры. Я яму: не магу браць, покуль самі не дасьцё. Ён: *"Ты хочаш сам рэзаць, і абражаешся, што я рэжу"*. Булкі я так і не ўзяў. Лёг у хуткім часе спаць. Так мы сварымся.

P. S. Дастаў сабе *Lagerausweis*[231] на цэлы месяц.

*3 лістапада.*

Булку і хлеб, што ён пакінуў, з'еў. Управіўся якраз да сёмай і пакрочыў на станцыю.

Перавязку рабіла немка. Была д-р Нікалаеўская, але не зьвярнула нават увагі на мяне. Рука гоіцца, ужо і ацёк зрабіўся меншым. Прыемна.

[231] *Lagerausweis* (ням.) — лагернае пасведчанне.



На цягнік спазьніўся і ішоў пешкі. Да абеду пісаў біяграфію і слухаў Ц. Ал.

Абед вялікі, але дрэнны. Усё сапсутае, сьмярдзіць.

Дзядзьцы ёсьць два лісты з Бэрліну.

Кажуць, што "соглашение" між Фюрэрам і Ўласавым ужо падпісана[232]. У нядзелю мае быць нейкая ўрачыстасьць. Прыедуць прадстаўнікі з РОА і *Einsatzstabu RR*. У нашай кухні вісіць плякат: *"Желающие вступить добровольно в армию казаки, восточные украинцы, западные украинцы, восточные белоруссы могут записаться в мельдештелле"*. Што-та будзе? Трэба драпаць у СБМ, а то запруць у кашу, ня выбярэшся.

Па абедзе, звычай, спаць.

Дзядзька раскрыў лісты і аказалася, што Валя толькі перасылае ліст ад... Асіповіча (*Untersturmfuhrer SS*)[233]. Ён недзе каля *Karlsruhe*[234]. Піша, што ягонага сябра, таго, што мяне з пляцу выпусьціць не

[232] У лістападзе 1944 г. быў створаны Камітэт вызвалення народаў Расіі, палітычная ўласаўская арганізацыя, санкцыянаваная нацыстамі, мэтаю якой афіцыйна было знішчэнне СССР, дзеля чаго да ўдзелу запрашаліся прадстаўнікі нацыянальных групаў, што жывуць на тэрыторыі СССР. Магчыма, тады ж з'явілася пастанова, што ў шэрагі РОА могуць прымацца не толькі ўласна рускія, але і прадстаўнікі іншых народаў былой Расійскай імперыі.

[233] Магчыма, маецца на ўвазе **Аляксандр Асіповіч-Асіпчык** (1909–1990), грамадскі і царкоўны дзеяч. У 1941–1944 гг. быў прыхільнікам беларусізацыі праваслаўнай царквы, удзельнік Беларускага Царкоўнага Сабора 1942 г. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Спачатку шчыльна супрацоўнічаў з беларускімі епіскапамі, а пасля пераходу іх у склад РЗПЦ (1946) стаў іх праціўнікам. У 1947 г. у Заходняй Нямеччыне заснаваў Беларускае праваслаўнае таварыства Жыровіцкай Божай Маці, што мела суполкі ў розных краінах. Пазней перабраўся ў ЗША. Выдаваў часопіс "Сіла веры" (1948–1965).

[234] ***Karlsruhe*** — Карлсруэ — горад у Нямеччыне ў зямлі Бадэн-Вюртэмберг.

хацеў, ужо няма. Калубовіч спавяшчае, што прапанова А. А. прынятая, і на мейсца ягонае прызначаецца Віцьбіч[235].

А. А. быў у добрым гуморы й прагаварыўся, што ЦР[236] цалкам адмовілася ад удзелу ва Ўласаўскай праграме; што знайшоўся Ізыдар[237] без казы.

Д-р Рыхэль пытаў ізноў пра мяне і пераслаў тры цудоўныя цыгарэты. Я сяджу й перапісваю сьпіскі ягоных беларускіх матар'ялаў.

*4 лістапада.*

Дзядзька Антон устаў рана і гаварыў са мной, бо і мне спаць не хацелася.

1. Намачыў фасолю. 2. Зрабіў *Schonkost* дырэктару. 3. Цэлы дзень пісаў сьпіскі. 4. Атрымаў тры лісты: ад Валі, Юркі і Ўладзіка. 5. Выменяў адну з батарэек на круглую і сапсуў ліхтарык. 6. Чытаць няма чаго. 7. Атрымаў табаку.

[235] **Юрка Віцьбіч** (сапр. **Серафім Шчарбакоў**, 1905–1975), літаратар, публіцыст, краязнаўца, грамадскі дзеяч. У часе нямецкай акупацыі актыўна выступаў у друку, выдаў два зборнікі публіцыстыкі — "Вяліжскія паўстанцы" і "Нацыянальныя святыні", выступаў у друку з артыкуламі па гісторыі Беларусі. Быў сябрам Беларускага культурнага згуртавання, рэдактарам часопіса "Узвышша", адзіны нумар якога быў падрыхтаваны ў 1944 г. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1946 г. у Нямеччыне стварыў і ўзначаліў літаратурнае аб'яднанне "Шыпшына", выдаваў аднайменны часопіс, а таксама часопісы "Звініць звaны Святой Сафіі", "БІС", газету "Беларускае слова". Ад 1949 г. жыў у ЗША. Друкаваўся ў беларускім і рускім перыядычным друку, у тым ліку "Новым рускім слове".

[236] Маецца на ўвазе БЦР.

[237] **Ізыдар Плашчынскі** (сапр. **Гуткоўскі**, 1908–1986), грамадскі дзеяч, публіцыст, малодшы брат Я. Пушчы. У часе нямецкай акупацыі супрацоўнічаў у "Беларускай газеце". Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне жыў у лагеры *DP* у Гановеры. Супрацоўнічаў з перыёдыкам "Вольнае слова". У 1950-х гг. друкаваўся на старонках выданняў Мюнхенскага інстытута вывучэння СССР, быў пазаштатным аўтарам беларускай рэдакцыі радыё "Вызваленне". Жыў у ЗША, у Нью-Ёрку.



*5 лістапада, нядзелька.*

Раніцою варылі зупу з фасолі. Удалася вельмі смачная. Потым паказвалі суседзям здымкі Менску і альбом. Літвінаў папраўляў мой ліхтарык, але ён, бэстыя, не гарыць. Было штосьць накшталт алярму. Смачна з півам паабедалі. Шукелойць пісаў потым ліст, а я ляжаў і слухаў пяяньне царкоўнага хору. Меўся быць нейкі даклад, але ня было. Бадзяўся крыху па лягеры: да кіёску з газэтамі й назад. А. Л., апрануўшы новыя порткі, пайшоў да эвангэлістых.

## Сшытак 5

Пачаты 7.11.44
Скончаны 21.11.44

*7 лістапада.*

Як ня хочацца ўставаць! Яшчэ цёмна, але бязьлітасны гадзіньнік робіць сваю справу. Відаць, дзядзька шкадаваў будзіць мяне й таму дазволіў мне спаць да апошняга. Да ўсіх працэдураў, што робяцца раніцою, прыбавілася перавязка рукі чыстым бінтом. Памыцца не пасьпеў. Намачыў ручніка і абцёр твар і рукі. Гэта я ўжо другі дзень без мыцьця. Аб сьнеданьні няма чаго й казаць. А. А. ўзяў усё, што нам Бог паслаў, з сабою ў кішэнь. На станцыю прыйшлі ў самы раз… калі-б у мяне быў білет. За некалькі хвілін, што заставаліся ў маім распараджэньні, я пасьпеў узяць білет, пасварыцца з касіршай і выскачыць на пэрон, прабіўшыся праз натоўп выходзячых. Але й толькі… Цягнік на маіх вачах адышоў. Я нават напружыў усе цягліцы, каб ускочыць, але не адважыўся. У роспачы стаю каля

слупа з гадзіньнікам і думаю, што-ж скажа дзядзька, калі выявіць, што прыехаў адзін. Раптам чую ягоны голас: *“Гаўно, брат, выйшла”.* І папляліся назад у лягер. Пасьнедалі і зноў на вакзал. У дарозе, акрамя праверкі дакумантаў, нічога ня здарылася.

Доктар прыняў нас у *“Gemeinschaftsraum’e”*[238]. Раскошна абстаўлены пакой, радыё. Пачаставаў цыгарэтай. Зрабіўшы ўсе справы, перапісаўшы сьпісак фальклёру і дапамогшы Шукелойцу запакаваць коўдры для доктара, мы з апошнім пайшлі ў *Ostbucherei* да др. Томсона. Дырэктар застаўся чакаць Аляксеева. Покуль мы былі на *Sudetenstr.*, цэлы час круцілася там “маладая прыгажуня” Інна.

Рыхель па дарозе часта застанаўліваўся са знаёмымі, забягаў туды і сюды. Я нават пасьпеў мімаходам купіць чатыры булачкі. У бібліятэцы др. пакінуў мяне ў чытальнай салі. Я спрабаваў на абанэмэнт дзядзькі ўзяць што-небудзь пачытаць, але няўдала. Тымчасам бібліятэку сабраліся зачыняць на абед, і я выйшаў у сенцы. Бачыў праз вакно, як абодва адміністратары хадзілі ў сінагогу і вярталіся назад. За час іхнай гутаркі я пасьпеў з’есьці дзьве чы тры булачкі.

Рыхэль пабег у ўстанову Лянчкора. Я пайшоў зь ім. Па дарозе ён сказаў мне, што Томсон згодны часова трымаць нас, але ўся загвоздка ў памешканьні. Гэтае пытаньне ён пастараецца высьветліць сёньня-ж. Магчыма, што трэба будзе жыць недзе на вёсцы.

Др. пабег да Лянчкора, а мяне папрасіў зайсьці ў бібліятэку на рагу (дзе клямка) і ўзяць замоўленыя ім кнігі. Там я нікога не знайшоў.

Мы беглі назад з вар’яцкай хутчынёю. Рыхэль пазьніўся на абед. Шукелойцу баліць “брух”, ён не

[238] *Gemeinschaftsraum* (ням.) — зала чакання.



давольны тым, што мы засталіся без абеду. Глянулі на гадзіньнік. Маем яшчэ хвілін пятнаццаць часу. Рашылі зайсьці ў паграбок. Зайшлі. Сядзіць там дзядзька Савёнак. Піва было надзвычайнае, і настроі нашыя крыху падняліся.

Дома смажылі бульбу, што засталася ад ўчора, і елі зупу. Вечарам быў даклад Іванова. Не падабаецца мне ўсё гэта. Дрэнь і маё цяперашняе становішча. З пісулькі, перасланай др-ам Рыхелем праз Аляксеева, відаць, што ўсё добра, і памешканьне ёсьць у нейкім *Hohenbirken*[239], і нават для нас пакойчык знойдзецца. Але дзядзьцы больш падабаецца СБМ.

*8 лістапада.*

Надвор’е зусім васеньняе. Дождж, перамяшаны са сьнегам, і вецер, вецер. Па вялікіх лужынах, пакрываючых дарогу, шлёпаю на станцыю. Яшчэ рана, і прыходзіцца доўга калець на холадзе. *Heydebreck’*у стараўся зрабіць усё як мага хутчэй, бо ісьці дамой у такі дзень пешкі ня надта прыемна. Сястра Інна спачувае мне і стараецца рабіць усё спрытна. Падвяла чыгунка, але ў адваротным сэньсе. Цягнік спазьніўся хвілін на дзесяцьць. Замёрз, як шчанюк. Злы прыйшоў дадому. Не пасьпеў апрытомнець, як дзядзька здымае боты і адпраўляе мяне ў Рацібор. Я збунтаваўся. Але такі-ж мой лёс — прыйшлося ехаць. Але там толькі замок пацалаваў. Лаяў усё, на чым сьвет стаіць. Накіраваўся да Клямкі, па дарозе заходзіў у кілбасныя, але крыві, чы па-нямецку “фюле”, ужо ня было. Позна. У Клямкі з’еў пару талерак кашы і, выходзячы, убачыў Савёнка. Той сказаў, што дарма я стучаў у зачыненыя дзьверы, бо там былі адчыненыя другія дзьверы на зіму. Я кінуўся бегчы. Пасьпеў

[239] ***Hohenbirken*** — мястэчка ў нямецкай Баварыі, недалёка ад Гарміш-Партэнкірхена.

усё-ткі. Боты ўзялі. Але дзядзьцы прыдзецца даўжэйшы час сядзець у хаце. Купіў сто грамаў масла, выпіў у падвале піва і паехаў дамоў.

Дзядзька быў мне ўдзячны і смажыў бульбу. Прымусіў мяне ўзяцца за пяро і напісаць ліст Валі і Влодку. Аднёс на пошту.

Ш. зноў баліць "брух", ляжыць ён. Я-ж выпрасіў кніжку, што ўсе чыталі з такім запоем, і заваліўся на ложка. Кніжка завецца "Любовь Царевича" і "Страсть и душа". Княгіня Ольга Бебутова — аўтар[240]. Раман "для дам", але ўсё-ж робіць уражаньне. Якое прыгожае жыцьцё апісана ў ім. Між іншым, тут і мае ідэалы "сьвятой дружбы" закрануты. І зрабілася мне так горка, што няма блізка чалавека, катораму, як Мары, можна было-б даверыць сэрца.

Ноччу "злавіў рыбку". Чорт ведае, што са мною робіцца.

*9 лістапада.*

Па страсе барабаніць дождж. Пад коўдрай так цёпла. Сапіць пада мной дзядзька. Ляжыць побач доктар, захінуўшыся ў сваю "кожанку".

Устаю. Выходжу на двор, надзеўшы паліто на споднюю кашулю. Холадна, зябка. Варочаюся ў штубу, закурываю. Крыху пабалтаўшы з Ул. Ал., лезу ізноў да сябе, дастаю кніжку й чытаю. Кніга падбаецца мне. У ёй можа і дрэнна, і пошла, і бульварна апісана каханьне Царэвіча Георгія. Каханьне насьледніка царскага прастолу да простай княгіні. Прыгожае каханьне.

На мяне кніга падзеіла[241]. Больш чым калі-небудзь чуюся самотным. Прачнулася струнка рамантызму ў

[240] **Вольга Бебутава** (1879–1952), пісьменніца, акторка.
[241] *"А я выхоўваўся на "Как закалялась сталь" Астроўскага ды на вуліцы"* (Вітаўт Кіпель).



маёй душы. Вінавата выхаваньне чы начытанасьць, але я вырас усё-ж з любоўю да прыгожага, пяшчотнага, нежнага, няхай сьвятога. Мне трэба было-б быць у прошлым стагодзьдзі. Можа, гэта і ня так, але мне здаецца, што кожны меў тады свае радасьці, свой мірок, свой кут, сваю сьвятыню ў сэрцы. Як яскрава адбілася дзяцінства ў памяці мамы. Зь якой прыемнасьцю ўспамінае яна вучылішча, дом і радасьці, маленькія радасьці гаротнага, сіроцкага жыцьця. Родная вёска, землякі, сябры, падругі і друзья.

А я? Я мушу клапаціцца аб цэласьці сваіх портак, аб тым, каб хто-небудзь памыў мне бялізну, зашыў ушчэнт парваную кашулю. Аб тым, каб ня легчы галодным спаць (і ўсяроўна кладуся ня еўшы). Як не хапае мне нейкага друга, няхай нават Марыі, катораму можна было-б адкрыць сэрца! Як не хапае!

Дзе Вы? Дзе мае мілыя Жэня, Соня? Сьмейцеся, брудныя пашлякі! Сьмейцеся з свайго суджэньня, што між жанчынай і мужчынай ня можа існаваць дружбы. Глупыя вашы довады.

А цяпер хочацца пазбыцца лягернай няволі, апекі з кожным днём усё больш і больш нелюбімага дзядзькі, хочацца нырнуць у новае жыцьцё, у новыя ўражаньні, перажываньні. Хай у тэй самай чужыне, хай з лёсам, каторы я лічу загадзя няшчасным, хай. Але я патрабую перамены! Чуеце Вы гэта, Антон Антонавіч? Чаму Вы не разумееце мяне? Чаму Вы халодны, як сьнег, чаму няма ў Вас і кропелькі ласкавасьці? У нас з Вамі зусім рознае нутро. Гэта мне ясна. Трымае мяне з Вамі Ваш розум. І толькі. І цяпер чы знойдзецца чалавек, што скажа аба прыемнасьці жыцьця розумам? Куды ня кінь вока — у жыцьцё, у літаратуру — усюды знойдзеш пацьверджаньне маім словам. А калі дадаць, што мне толькі 18 год?

З кожным днём адчуваю ўсё больш і больш сваю неадукаванасьць. Пяро, як аглобля, у маіх руках. Я дурны, як стол, на каторым пішу. Як цяжка гэта разумець!

Але час прачынацца! Час адкінуць думкі і заняцца тым, што называецца жыцьцё.

Перамяніў бялізну і апрануўся пад бурчаньне дзядзькі. Ён, бачыце, грэе каву, і я мог патрусіць туды, апранаючыся. Пасьнедаў разагрэтаю бульбай. Крыху пісаў да абеду і чытаў. Слухаў расказы Ціхана Аляксандравіча. Прайшоў зь ім у Meldestelle і завярнуў да Раманцава набраць чарніл у ручку.

Надышоў час абеду. Дзядзька з прычыны хваробы не частуе мяне булкай. Ем зупу са сваёй пайкай, калі ён п'е саладжоную цукрам каву і жарэ тоўста нашмараваную маслам булку. Божа! Ты бачыш, што мне зусім нешкада гэтага. Але я галодны! Я хачу есьці. І крышачку смачна. Праклятая зайздрасьць!

Шмат куру і чытаю. Ізноў гаворыць наш "горобец". Так бяжыць час. Вечарам купіў "Новое Слово". Нічога новага, як заўсёды. *"VB"* нашаму брату не прадаюць.

Сьпяшаюся дачытаць кнігу. Шкада, што ўсё прыгожае так недаўгавечна.

У штабе кажуць, што пушчана ў ход *V2*[242], што сяньня прамаўляў Гітлер, што на будучых днёх мы зробімся ізноў ахвярай дэзынфэкцыі. Бацюшка атрымаў тэлеграму, што ягоны сын і Со былі арыштаваныя й скора вернуцца.

Дырэктар з'еў усё масла, амаль увесь цукар. Я пасьпеў толькі лізнуць. Цяпер ён пайшоў шукаць

[242] *"V1, V2, "Fau eins", "Fau zwei" — ракеты, новая зброя, якая шугала на Англію. У перамогу пры дапамозе "Fau" ніхто ня верыў. Але перад запускам гэтых ракетаў прапаганда была моцная, маўляў, новая зброя прывядзе да перамогі"* (Вітаўт Кіпель).



хлеба, а я лёг і ад няма што чытаю *"Grete Minde"*[243]. У хуткім часе вярнуўся А. А. і запрапанаваў мне: *"Ты бы выйшаў на двор"*. І сьмешна, і крыўдна. Завярнуўся да яго сьпіной. Крыху слухаў, як прапаведаваў Ціхан Аляксандравіч, а потым заснуў. Спаў амаль спакойна.

*10 лістапада.*

Сёньня я прачнуўся раней, як у кожны амбулаторны дзень. Сырэны яшчэ ня было. Дырэктар ужо недзе лётаў. Я з'еў запрапанаваныя ім хлеб і кілбасу, запіў кавай, закурыў і, паклаўшы ў кішэню мазь, пайшоў. Сяньня холадна, і холад нейкі ня наш, мокры, прамозглы. Гадзіньнік паказваў дваццаць па сёмай. На пэроне сабраўся ўжо натоўп, але ён крыху растаяў пасьля цягніка на Рацібор. Падыйшла Марыя. Разгаварыліся. Яна, аказваецца, паслана доктарам Андрусавым у *Arbeitsamt*[244]. Недзе пры *J9* адчыняецца швальня, і яна праэктуе туды. Трэба ўцякаць (у каторы раз я гавару гэта).

Тымчасам падалі нейкі састаў пустых вагонаў. Скуль ён узяўся? Публіка папёрла па вагонах. Я хацеў спытацца, куды пойдзе цягнік, але ўбачыў, што сядае доктарша — мая сталая спадарожніца. Выйшла тое, што і з "Человеком рассеяным"[245]. Селі ў... *"отцепленный вагон"*. Падыйшоў нармальны, і мы пералезьлі ў яго. У *Heydelbreck-Sűd* прыйшлося распрашчацца. Я пабег як хутчэй у *Wache*[246]. У амбулаторыі перамены. Зрабілі пачакальню — хлеўчык.

[243] ***"Grete Minde"*** — раман нямецкага пісьменніка Тэадора Фантанэ (1819–1898).

[244] *Arbeitsamt* (ням.) — служба занятасці.

[245] Маецца на ўвазе верш Самуіла Маршака (1887–1964) "Вот какой рассеянный".

[246] *Wache* (ням.) — дзяжурная.

Я думаў, што прыдзецца доўга тырчаць там, але доктарша перадала сястры Інне аба мне, і я зараз-жа быў пакліканы. Рука зажывае, і мяне пацешылі, што да сярэдзіны чы да канца наступнага тыдня перавязкі здымуць.

На цягнік назад пасьпеў, хоць і засопся канчаткова.

Крыху перакусілі, закурылі, і пайшлі гутаркі-перагутаркі. У штубе холад сабачы. Ногі мерзнуць.

Паступова дацягнулі да абеду. Далі бульбы, сосу, тварогу, капусты, масла і хлеба. Я еў толькі сваё. Дырэктар точна так-жа. Палову хлеба пакінуў на вячэру. Запіў кавай з астаткам цукру і, ясна, спаць. Не так спаць, як захацелася сагрэцца. Накрыўся палітом і задрамаў.

Прачнуліся чамусьці ўсе разам: і Ціхан Ал., і доктар, і Ул. Ал. Закурыў, бачу, што дырэктар жуе булку, і захацелася мне есьці. Зжор увесь хлеб, масла і тварог.

Крыху пагаварылі з дзядзькай аб бялізьне, адзеньні, працы і інш. На мой вялікі жаль, А. А. ня робіць ніякіх оргвывадаў. А трэба! Дакуль марнавацца ў праклятым Біраў?

Павячэраў трыма бульбінамі з сольлю. Дырэктар панёс бялізну да прачкі. Вярнуўся ён. Я сказаў “пару цёплых слоў” аб тым, што я маю права хацець і не хацець, і мы пайшлі да (я да Марыі, а ён да Алексеевых). Марыя пачаставала мяне півам, клёцкай і кнігай “Жиль Блас”.

*11 лістапада.*

Першы позірк у вакно і поўны зьдзіўленьня вокліч: “Снег!” Але што за снег? Мокры, з дажджом. Балота на ўвесь лягер. А дзядзька выпраўляе мяне ў Рацібор. Я хацеў ехаць у 8:34, але дырэктар утрымаў мяне — ён смажыў бульбяную кашу. І які добранькі зрабіўся. Інакш, як “Дзімачка”, і не гаворыць.



Сяньня новае распараджэньне. Покуль ня будуць вымытыя падлогі, вокны і наогул ня будзе штуба ў парадку, не дадуць талёнаў на абед. Таму пачалося грандыёзнае мыцьцё. Мне як інваліду мейсца няма, і я вымушаны акалачвацца на вуліцы. Холад сабачы, ногі замёрзьлі. Ледзь-ледзь дачакаўся дзясятай, узяў на печы рукзак з дзядзькавым кажухом і пліткай і закрочыў да станцыі. Я чамусьці думаў, што цягнік 10:27 па сыботам ня ходзіць, але дарэмнымі аказаліся мае думаньні. Сеў у купэ да двух жаўнэраў, якія ехалі да *Ratiborhammer*’у. Потым ехаў адзін. Мёрз пякельна.

У Раціборы такі самы дождж, як і ў нас. Паплёўся, шлёпаючы па балоце, да Мар’і Нікалаеўны. У бараку, у тым памешканьні, дзе яна жыве, аказалася толькі дачка Гарадзецкага. Прыняла вельмі няветліва. Нават не запрасіла зайсьці. Але я сам даў рады і, пакінуўшы кажуха, пісульку і ніткі ды яшчэ ліст да Ольгі Гэнрыхаўны, пайшоў.

Падыходзячы да Штабу, убачыў на небасхіле фігуру Савёнка, а потым доўгую постаць Ліманоўскага. Кінуўся на ўздагон, ледзь насьціг дзядзьку Лявона каля нейкай крамкі, куды ён зьбіраўся падацца, кабануляваць свае карткі. Пліткі ён браць не хацеў, і я мусіў ісьці шукаць Штабу. Доўга круціўся на сходах-пераходах і ў канцы патрапіў на бягучага галопам Сташэлеўскага, каторы сказаў мне, што ў іхнім памешканьні нікога няма. Што-ж, часу губляць няма як, і я накіраваўся да Псоты. Па дарозе зайшоў у краму і купіў Ціхану Ал. жылетку. Боты былі гатовыя. Каштавалі 3.40 *RM.* На шляху назад, пераходзячы вуліцу, чую сваё імя. Азіраюся — Алесь. Едзе на ровары, трымаючы ў аднэй руцэ нейкае судзьдзе. Прымусіў яго зьлезьці. Разгаварыліся. Найкарысьнейшае тое, што можна паправіць гадзіньнік. Прыехаў нейкі новы майстра і г. д. Гадзіньніка дам. Горш, чым ёсьць, ня зробяць.

Накіраваў свае боты да Клямкі. Дзядзька Савёнак ужо стаяў за прылаўкам. Часу было палова першай, і я есьці не рызыкнуў. Стаяў на дажджы і, клянучы сваю долю, чакаў, покуль прагоніць голад наш Крывічанін[247]. Дачакаўся да таго, што ўжо трэба бегчы на станцыю. Піхнуў плітку дзядзьцы і паляцеў. Ехаў назад, чытаючы *“Vőlkischer Beobachter”*.

А. А. з’еў палову майго абеду, і я застаўся галодны. Папрасіў дырэктара прыбраць маё ложка і заваліўся спаць. Ляжаў, чытаў; журыў, але ня спаў. Да таго-ж доктар пачаў апавядаць штось цікавае. Потым прыйшлі і сказалі, што за дваццаць хвілін пачынаецца кіно. Бягом панесьліся туды. Горны, Дзіжэўскія праскочылі, а перад нашым носам (доктар, Вэрачка і я) сказалі: *“Vur fur Reichsdeutscehe”*[248]. З носам назад. Ізноў залез на ложка.

Напісаў ліст міламу Ўладзіку. Ён у адказ на маю лаянку такі прыгожы ліст напісаў. Дарагі Сябручок!

Дзядзька Антон кудысь сьпяшаецца і гоніць мяне на вячэру. Прынёс, з’елі.

Сяньня ў царкве ўрачыстае набажэнства. Будзе служыць айцец Фёдар. Ягоны сын, нарэшце, вярнуўся. Публіка дзеліцца на часткі. Адны ідуць у кіно на сэанс, што тады не адбыўся з прычыны нейкае паломкі. Другія — у царкву, трэція (я) — сядзяць у хаце.

Кіно так і не адбылося. Колькі разоў лётаў туды Ўл. Ал. з жонкай — не пусьцілі.

Калі дырэктар вярнуўся з царквы, я быў ужо ў ложку. Расказваў ён, што а. Фёдар мае моцныя ўплывы ад захаду — ад касьцёлу. Служба ягоная нагадвае ксяндзоўскую. Гаворыць хутка, рухаецца так-жа.

[247] Крывічанін — літаратурны псеўданім Лявона Савёнка.
[248] *“Vur fur Reichsdeutscehe”* (ням.) — “Толькі для немцаў”.



Ціхан Аляксандравіч быў пад уражаньнем панагійнага крыжа[249], што а. Фёдар мае. Доўга гаварылася на гэтую тэму.

*12 лістапада.*

Спаў я добра, дзякуй Богу, хоць учора напіўся ўволю. Прачнуўся дваццаць па восьмай. Дырэктар устаў, відаць, як на працу, бо пасьпеў выкупацца, падрыхтаваць да варкі зупу і аднесьці яе на кухню. Таму мне было загадана хутчэй зьбірацца і ісьці назіраць за тым, каб ніхто зупы не патрывожыў. Надта не сьпяшаючыся, апрануўся, вымыўся, прычасаўся і пацягнуўся, бо надта-ж мне не хацелася трычаць сярод гвалту так знаёмых мне хатніх гаспадынь. Але доктар сяньня быў, як ніколі, добранькі. Сам правёў большую частку часу каля міскі. Я-ж то папраўляў сваё ложка і хадзіў па соль, то разам зь ім, а не адзін сачыў за гатаваньнем.

Зупа ўдалася добрая, хоць і жыдкаватая. Па сьнеданьні залез на ложак, чытаў і слухаў размовы на розныя тэмы, што адбываліся ўнізе.

Непрыкметна падыйшоў абед. Бульба з нязьменнымі дадаткамі. Крыху бульбы, а потым хлеба з кавай і кішкі абдураныя.

Ізноў на ложка. Доктар пацяшаў “цудоўнымі” анэкдотамі.

Зінаідзе Адамаўне балела галава, і свой білет у кіно яна ўступіла мне. Трапіць у залю, г. зн. у нашую кухню, аказалася не такой лёгкай справай. Набралася остаўцаў, палячча і іншай швалі, і зрабілі Суражскі рынак, лезьлі па галовам. Пасьля доўгіх мучэньняў трапілі ў сярэдзіну. Пачалося “кіно”, і

[249] Магчыма, маецца на ўвазе **панагія** — невялічкі абразок Багародзіцы, які часам рабілі ў выглядзе крыжа. Панагія ў праваслаўі з’яўлялася адзнакай архіерэяў.

пачалася мука. Горача, ні чорта не відаць, толькі самы верх экрану і патыліцы актораў, гук такі, што гарай быць ня можа. Я вытрымаў толькі дзьве часткі і разам з Ул. Ал. уцёк. Дзядзька Антось сустрэў мяне словамі: *“Валі ты ня бачыў?”* Якая, думаю, Валя? Аказваецца, у нашую адсутнасьць прыходзіла Валя Юшкевіч, нават два разы. Пакінула пісульку, што за недахопам памешканьня ў гатэлі застанавілася ў Алеся. Будзе тут да 20- га. Што яе прынесла?

Акрамя гэтага дзядзька абрадаваў мяне навіной, што заўтра мне прыйдзецца ў Рацібор ехаць. Чорт, як ня хочацца! Трэба яшчэ і ў амбуляторыю пасьпець. Што будзе, ня ведаю. У горшым выпадку, устаўшы а палове шостай, прыду з *Heydebreck-Sud* пешкі.

А цяпер восьмая гадзіна. За вакном недзе высока-высока бурчыць самалёт. “Падазроны самалёт” — толькі пасьпеў сказаць Зінаідзе Адамаўне, як засьвісьцелі бомбы, і два разы моцна гукнула. Сьвятло гарыць. Але ўжо стукаюць у вакно й крычаць: выбягайце.

На гэтым і скончылася. Трэба сказаць, што ацяпленьне ў бараку сапсутае, і холад такі, што ног я ня чую. Кладземся спаць. Я накрыўся трыма коўдрамі і палітом зьверху. Нічога.

Прачнуўся раптам ад крыку. Крычыць Ал. Ал. Пазьней даведаўся, што яму сьніўся алярм. Кажа, сьвісьцяць бомбы, а я яшчэ ляжу.

Перастаў ён крычаць, супакоілася штуба, і чую я, што ізноў бурчыць нейкі самалёт. Зінаіда Адамаўна і сказані: *“Такі самы, як і тады”*. Ня хочучы слухаць, завярнуўся на здаровае вуха, нацягнуў коўдру на галаву і падумаў: *“Альбо пан, альбо прапаў”*. Толькі бліснула ў галаве тая думка, як сьвісьне, ды як грукне… Вагонь мільгануў у ваконьніцах. Пасыпаліся людзі з ложкаў. Мне якраз прысьпічыла ў пэўнае мейсца зьлётаць. Раз-два і



гатова: на босыя ногі — боты, на споднюю кашулю — марынарку, і ўсё. Даляцеў туды, а ізноў гудзіць, ізноў сьвішча. Я ў бункэр. Тут і дзядзька блізка быў. Калоцімся ад холаду так, што косьці стукаюць. Пачакалі, покуль сьціхла, шмыгнулі ў барак, апрануліся, здаецца, закурылі, чуем ізноў: ж-ж-ж… б-бух! б-бух! Потым бегалі ў бункэр, сядзелі там некаторы час.

*13 лістапада.*

Праспалі ўсе і ўсё. Гадзіньнік паказваў амаль восьмую, калі я расплюшчыў вочы. Усе сьпяць. Цішыня. Чую, на заводзе гудзе сырэна. Чамусьці падумаў, што трэба ўставаць. Ускочыў, выбег на вуліцу. Холад! Неяк дацягнуў да наступнага цягніка.

Зрабілі перавязку добра, але на цягнік спазьніўся. Ішоў пешкі.

Па абедзе залез на ложка, закурыў і ўзяўся за кнігу. Чую, мяне хтось пытае. Аказваецца, стараста. Ён прынёс ад Раманцава даручэньне зрабіць сьпіскі працуючых і непрацуючых. За поўгадзіны трэба будзе ісьці да Струкава і зь ім брацца за работу.

Тут, як на бяду, прышла Валя. Нічога амаль з таго, што яна гаварыла, паслухаць не ўдалося. Трэ’ было пісаць.

Працы Раманцаў даў не шкадуючы. У чэхаў купілі булачку цудоўнейшага хлеба. Смачны, як торт. Заплацілі толькі 20 марак, а там кілё 2. Купілі-б яшчэ, але вечар быў вар’яцкі. Усё перамяшалася. Гудуць гудкі трывогі і адбою, гасьне й запальваецца сьвятло, холадна. Да гэтага і пісаць трэба. Сьпіскаў так і ня кончыў. Спаў добра.

*14 лістапада.*

Цягнік 8:34 з дзядзькавай дапамогай праспаў. Паехаў 10:27, папярэдня скончыўшы і здаўшы

Раманцаву працу. Узнагарода перавысіла ўсе мае спадзяваньні. Акрамя ласкавых, шчырых словаў атрымаў пачку табакі, дзьве кніжачкі паперы і абед-шонност.

У Рацібор ехаў і Раманцаў, але… у 2-й клясе. Дакуманты правяралі. На плошчы каля вакзалу купіў *“VB”* і “На досуге”. Так як ня было чаго рабіць, праседзеў у М. Н. да наступнага цягніка. У Вольгі Гэнрыхаўны рука абвязана страшна. Відаць, баліць. Кажух-“капота” цяжэйшы за маё паліто, і таму я яго надзеў, а паліто нёс у руках. Як узнагароду за ўсё зробленае, дзядзька даў мне свайго кажушка. Наогул, сяньня ён у цудоўным настроі.

Абед у нас — дай Бог заўсёды. Зупа гарохавая, густая. Дзядзька пакрышыў часначку, і стала яшчэ смачней. Кампот з булкай. Кава. Эх! Які я быў сыты! Нават занадта.

Больш нічога за дзень прыкметнага ня здарылася.

Аддаў А. А. гадзіньнік для Алеся.

*15 лістапада.*

Адыходзячы на станцыю, А. А. пабудзіў мяне. Устаў, выйшаў на вуліцу, вярнуўся, закурыў. Потым паставіў плітку грэць зупу. Пасьнедаўшы, закурыў яшчэ раз і раптам чую, хтось ідзе. Хутчэй плітку са стала. Трывога аказалася ложнай. Прыйшла гаспадыня пліткі — Валентына Іванаўна.

Гадзіна сёмая, а яшчэ не гатовы. Хутчэй, хутчэй, і я ўжо на станцыі. Усё сёньня мне ўдаецца. Хутка атрымаў пропуск, быстра перавязалі, нават прышлося чакаць цягніка.

Новае распараджэньне аддаў *Lagerfuhrer*, каб яму ні дна, ні пакрышкі. Усё, што ёсьць на абед, мусіць налівацца ў адну пасуду. Такім чынам, бульбу, сос, капусту атрымаў разам. Пойла, ды й годзе. Далі



мармэляды, шмат, лыжак са тры (чайных). Хоць і ня смачна, але трэба есьці. Па абедзе, як той казаў, Храпавіцкага задаў[250]. Разыгралася непагода. Дождж лупіць. Спаць так соладка.

Прачнуўся, калі Шацкі, Ясінская і Варэцкая чыталі хорам *“VB”*. Аб Уласаўскім руху. Аб першым паседжаньні камітэту ў Празе[251]. Аб усім іншым.

Як мог, прывёў у парадак судзьдзё. Ціхан Аляксандравіч курыў цэлы дзень маю табаку. Цяпер яны ўдвух з Ул. Ал. пайшлі купляць гэтае зельле. Ул. Ал. упаў у лужу, згубіў галёшы, а Ц. Ал. уцёк. Ул. Ал. лае цяпер яго ж…

Узяў дзядзьцы абед. Як нёс, дык толькі я ведаю. У сос налілося з паўлітра вады.

Дзядзька расказваў, што Езавітаў[252] з Прэзыдэнтам[253] у Празе на паседжаньні камітэту, што па радыё ўжо перадавалі маніфэст, што яны ў Штабе паслалі прывітальную тэлеграму камітэту, што ў чаканьні мабілізацыі трэба адаслаць адзін экзэмпляр сьпіскаў у *Hochstoolt*[254]. Ён хацеў, каб я

[250] Задаць Храпавіцкага (храпака) — моцна спаць і храпсці.

[251] 14 лістапада ў Празе (на Градчанах) адбылося першае ўрачыстае пасяджэнне ўласаўскага Камітэта вызвалення народаў Расіі і прыняты Маніфест Вызваленчага руху народаў Расіі.

[252] **Кастусь Езавітаў** (1893–1946), ваенны і грамадска-палітычны дзеяч. У часе Другой сусветнай вайны займаўся арганізацыяй у Латвіі беларускіх школ. У часе Другога Усебеларускага кангрэса быў абраны ў склад БЦР, у 1945 г. займаў пасаду кіраўніка вайсковага аддзела БЦР. Затрыманы СМЕРШам у красавіку 1945 г. Паводле афіцыйнай версіі, памёр падчас следства ад сухотаў і дыстрафіі 23 мая 1946 г., паводле іншых звестак, расстраляны.

[253] Маецца на ўвазе Радаслаў Астроўскі.

[254] *“Увосень палонны генэрал савецкай арміі Ўласаў (Власов) выдаў у Празе Чэскай маніфэст ад імя заложанага ім “Комитета Освобождения Народов России”. Уласаў заклікаў да змаганьня супраць Саветаў разам з Немцамі. Уласаў імкнуўся*

разабраў ужо адзін раз разабраныя сьпіскі, а я заартачыўся. Ён абідзеўся.

Я лёг і чытаў “Дело доктора Горецкого”. Крымінальны раман, але з добрых. Быў алярм. Тры разы гасла сьвятло. Але абыйшлося добра.

Вэрачка пакрыўджаная на мяне за кніжку.

*16 лістапада.*

Прачнуўся позна, ужо ўсе ўсталі. Прывёў ложка ў парадак. Пераслаў усё ад пачатку да канца. Як мог, памыў судзьдзё. Дзядзьцы два лісты. Смаршчок[255] і

*стварыць фікцыю, што ў змаганьні прыймуць удзел пад ягоным кіраўніцтвам усе “Народы России”. Пад гэтым назовам Уласаў разумеў не народы, што жылі ў РСФСР, а ўсе народы ўсяго Савецкага Саюзу. Дзеля гэтага ў склад прэзыдыюму ягонага Камітэту ўвайшоў Украінец Ф. П. Богатырчук. Як прадстаўнік ад Беларусаў у Ўласаўскі камітэт увайшоў нейкі Н. Н. Будзіловіч”* (Галяк, Леанід. Успаміны... Т. 2. С. 16–17).

[255] **Мітрафан Смаршчок** (1915–2008), лекар, грамадскі дзеяч, паэт, друкаваўся пад псеўданімам Анатоль Бярозка. Антон Шукелойць ва ўспаміне “Др. Мітрафан Смаршчок, якім яго знаў” піша: *“Спаткаліся ў 1935 г. у доме на Завальнай, 1. Цэлы паверх гэтага дому займалі беларускія арганізацыі, зьвязаныя з Беларускай Хрысьціянскай Дэмакрацыяй: “Крыніца”, “Беларуская друкарня Скарыны”, Беларускі Інстытут Гаспадаркі й Культуры”, кнігарня “Пагоня”. Салю Інстытуту ноччу займалі студэнты. Было іх каля 20-ці асобаў, у тым ліку і студэнт мэдыцыны М. Смаршчок, які тады быў на другім годзе , я пачынаў гуманістыку і этнаграфію й славянскую філалогію. Спалі на тапчанах, якія ўдзень былі закрытыя, і пасьцелі схаваныя ў гэтыя тапчаны. І так ад 35-га году мы жылі разам да 1939 году, пачатку вайны. З Завальнай, 1 паліцыя нас, студэнтаў, у 1938 годзе выкінула, і далей мы жылі разам на прыватным памешканьні за Вільей. У пачатку вайны Смаршчок пераехаў на памешканьне да Міколы Чарнэцкага, лідара Эсэраў. Смаршчок быў эсэрам і другой асобай па Чарнэцкім; Чарнэцкі па лініі працы мусіў выехаць у Варшаву — ён працаваў у Прафсаюзах, зьвязаных з ППС-ам. Памешканьне Чарнэцкага лічылася “кватэрай эсэраў”, там была багатая бібліятэка, там адбываліся зборкі. Пасьля*



Цьвячкоўскі. Ад Цьвяч. ліст таямніца. Толькі прывітаньне перадаў. Чытаю Вырубаву[256]. Нічога цікавага. Чытаў “Раніцу”.

*17 лістапада.*

Езьдзіў на перавязку. Калі яна скончыцца? Божа, Божа! Які я брудны, апушчаны, абарваны! Добра, што хоць усе апякуюцца мной. У амбуляторыі і доктар, і сястра-немка, і Нікалаеўская, і доктарша — глядзяць на маю руку, спраўляюцца аб стане, раяць, як найлепш. Сястра Інна прыймае мяне ў першую чаргу. Цяпер пасьпяваю на цягнік заўсёды.

*выезду Смаршчка ў Берасьце там жыў Аўген Аніська, рэдактар “Золаку”. Там мы разьвіталіся з Смаршчком. Ён як лекар выехаў у Берасьце на працу лекара на чыгунку “Брэсцкай жалезнай дарогі”, я выехаў у Ашмяншчыну ў школьніцтва. Тады 1939 да 1941 мы не спатыкаліся. Ведаю, што Смаршчок спэцыялізаваўся ў Маскве на отолярынгалёгію і пры нямецкай акупацыі працаваў у Баранавічах у шпіталі і дырэктарам мэдычнай сярэдняй школы. Як дырэктар школы ён быў вывезены ў нямецкі концэнтрацыйны лягер і там адседзіў да канца вайны. Выслалі ў лягер быццам за тое, што ўпярэдзіў вучняў, што іх маюць цэлай школай вывезьці ў Нямеччыну на работы. І ізноў спаткаліся толькі ў Баварыі і на сустрэчы ў Кліўлендзе на “Сустрэчы Беларусаў Амэрыкі”. Смаршчок як студэнт быў малодшым асыстэнтам пры катэдры фізыялёгіі (Прафэсар Айгэр). Займаўся вівісэкцыяй. Прафэсар Айгэр дасьледаваў рака. Смаршчок быў эсэрам. І пасьля забойства др. Чарнэцкага ён стаў галоўнай асобай. Ён і паставіў помнік на магіле др. Чарнэцкага на могілках у Беластоку. З др. Смаршчком зышоў апошні лідар старых беларускіх эсэраў пасьля др. Грыба, др. Чарнэцкага. У Амэрыку ён быў запрошаны жыхарамі таго гораду, дзе працаваў й дзе яго любілі”* (Архіў БІНіМ).

[256] **Ганна Вырубава** (1884–1964), фрэйліна і сяброўка расійскай імператрыцы Аляксандры Фёдараўны. Сямёнаў мог чытаць аўтабіяграфічны твор “Старонкі майго жыцця”, або так званы “Дзённік Вырубавай”, які насамрэч з’яўляўся падробкай, у стварэнні якой савецкія спецыялісты і расійскія эміграцыйныя дзеячы абвінавачвалі адзін аднаго.

Час да абеду цягнецца заўсёды надта доўга. Атрымліваю адным з першых. Толькі пасьпеў пакласьці першы кавалак у рот, як загудзеў *Toralarm*. На гэта напляваць, але адразу-ж заравеў, захлебваючыся, алярм. Гэта дрэнь. Апранаю паўшубак і нясу рэчы ў бункэр. Пакуль што ціха. Вяртаюся і ем. Але доўга не магу. Адразаю кавалак хлеба, намазваю маслам і сырам і выходжу.

Прыехала Валя ды проста з вакзалу ў бункэр. Раптам: *“Лятуць!”*. Зыходзім уніз. Стаім з Валяй у праходзе каля дзьвярэй і разгаварваем. Ну, сьвісьціць! І пайшло, і панесла. Такой штукі я яшчэ ня бачыў. Налёт маланкавы. Цягнуўся можа пяць хвілін. Але грукат!

Кажуць, што бамбілі Рацібор, што разьнесьлі вакзал. Я ня выцерпеў і выбраўся паглядзець. Адразу-ж каля бараку напаткаў Валю. Яна крыху пасядзела, і мы разам пайшлі.

Каля лясочку на шасэ варонка. Так сабе, ня надта вялікая Але станцыя! Бомбы ляглі каля вагі і між білетнай касай і станцыяй; у сарай, дзе перахоўвалі ровары; у багажную; каля перасяду з левага боку; у дом, што падабаўся тады дз. Савёнку, і сарай каля яго; у насыпу страшэнная варонка, такой вялікай я яшчэ ня бачыў. Людзі чакаюць цягніка на пераезьдзе. Сабралося іх вельмі шмат. Стаялі з Валяй доўга, покуль не прыйшоў цягнік з Рацібору. Ніхто ня ведае, куды ён пойдзе Пасадзіў яе і пайшоў дамоў. Сьвятла няма. Настрой сапсуты. Аказваецца, што ангельцы-амэрыканцы пакідалі страшэнную колькасьць бомбаў замедленага дзеяньня. Цэлую ноч нашыя жыльцы не маглі спаць. Рвуцца адна за адной.

Калі прыйшоў дзядзька, даведаўся, што Рацібор атрымаў баявое хрышчэньне. Бамбілі і яго.

Нічога вечарам ня еў. Спаў добра. Злавіў клапа.



*18 лістапада.*

Дзядзька ўсё-ж пакінуў мне кавалачак хлеба і крышачку сыру. Гэтым і рады. Судзьдзя ён ня мыў. Ну, і я ня буду.

Прыбраўся ў безрукаўку. Што-ж рабіць? Пагаліўся, памыўся. Прынесьлі ліст ад Юркі. Рашыўся схадзіць да Раманцава. Так згаладаўся, што далей нельга. Тырчэў у яго чортаву колькасьць часу і дастаў адзін *Schonhort*. Акрамя гэтага — даручэньне. Сяньня будзе сход. Прыехаў хтось з *Ostmimisterium*[257]. Трэба мне апякавацца парадкам. Неяк абыйдзецца.

Госьці, аказваецца, прыехалі з *Janverwaltung*. Сход пачаўся тым, што запрапанавалі жаліцца. Жаліліся, на маё зьдзіўленьне, шчыра і шмат. Асабліва дасталося *Jeichen*’у. Потым выступіў нейкі малады расейчык. Прамаўляў досыць добра. Для мяне й маіх абавязкаў усё было *glatt und glänzend*[258]. Паказаўся адразу на вочы Раманцаву, а потым сядзеў на адной з першых лавачак.

Калі вярнуўся дамоў, дзядзька сказаў, што былі Алесь з Валяй. Шкада, што ня бачыў. Узяў кнігу і пайшоў да Марыі. Яна пераехала ў іншую штубу ў тым самым бараку. Мае цяпер куточак каля дзьвярэй, адгароджаны коўдрай і шафай. Утульна пабарачнаму. Цэлы час Марыя рыхтавала ежу, круцілася. Я знайшоў у яе на шафе цэлую ахапку паперы, што аказалася часапісам “Міръ приключений” за другую палову 1912 г. (Я прывёў усё ў парадак і цяпер з прыемнасьцю чытаю.) Была там і Ірка (был. Раманцоўская), і Сяргей. Жартавалі, сьмяяліся. У

[257] ***Ostministerium*** — маецца на ўвазе Міністэрства занятых усходніх тэрыторый на чале з Альфрэдам Розенбергам, створанае 17 ліпеня 1941 г.

[258] *Glatt und glänzend* (ням.) — літаральна: гладкі і бліскучы; тут у значэнні — як найлепш.

заключэньне ўзяў у М. ліхтарык, бо яна ня мае ні батарэйкі, ні лямпачкі. Цяпер маю сьвятло.

*19 лістапада, нядзеля.*

Раніцою слухалі прамову Ўласава, што перадавалі па радыё. Публіка зьбіралася ў нашай кантыне. Крэслы і лаўкі стаялі амфітэатарам вакол стала, на якім месьціўся апарат. Мы з дзядзькам сталі з боку, але людзі пачалі прыбываць, і нам прыйшлося прайсьці далей і сесьці. Я апынуўся каля Ўл. Ал. Здалёк бачыў, як увайшла тая, ня ведаю, як акрэсьліць пэўней. Я крыху схіліўся ўбок, бо глядзець на яе перашкаджала нечая галава. Потым яна недзе схавалася, я заслухаўся гарачых словаў гэнэрал-лэйтэнанта і раптам неяк ускінуў вочы. На маё зьдзіўленьне, яны сустрэліся з вачыма... яе. Гаспадыня іх прайшла міма і села побач. Ну, і пачалося тое, што не дае мне спакою вось ужо трэці дзень. Цэлы час мы (а можа мне гэта здаецца), прынамсі, я сустракаўся зь ёю вачыма. Калі я адвяду іх, то чую на сабе позірк, калі адвядзе яна — гляджу я. Само сабой разумеецца, што не абыходзілася без таго, што раптам я гляджу ёй проста ў твар.

Сход скончыўся, разыходзіўся народ. Яна накіравалася ў бок французкай кантыны, а я з дзядзькам дамоў. Усё роўна, як па камандзе, азірнуліся мы абодва, і ізноў сустрэліся нашыя вочы.

Прыйшоў час абеду, і пачалося… Алярм, але такі "дрібненькі". Было чатыры самалёты. Стралялі, здаецца, кідалі.

Паеўшы, лёг адпачыць і прачнуўся ад штуршкоў у бок. Адчыніў вочы — Валя. Спаў я надта доўга. Валенціна сядзела да шостай гадзіны. Выйшла бяда з тымі печкамі, што яна заказвала. Майстра казаў, што будуць за гадзіну, а Валі за дзесяць хвілін трэба ехаць. Дамовіліся, што дзядзька паедзе а дзевятай у Рацібор, дзе перадасьць ёй гэтыя штукі.



Надыходзіла шостая, і я павёў Валю на вакзал. Цягніка прыйшлося крыху пачакаць. Цёпла разьвіталіся, і я пайшоў дамоў.

Зьезьдзіць у горад дзядзьку Антонію ня выйшла. Майстар напіўся ў дошку, усё закінуў. Сядзіць з дзяўчынай і пяе. *"Дзьве дзіркі ў носе, і скончылося".*

Ляглі спаць. Я некалькі гадзін круціўся з боку на бок. Яна і Яна. Поўныя думкі Ёю. Як пазнаёміцца? Што зрабіць? Напісаць ліста? Аб чым!?

Раптам адчынілася ваконіца, што каля Літвінавых, і праз шкло засьвяціў ліхтарык. А. А. параіў мне крыкнуць па-нямецку. Я зароў: *"Wer ist da?!!"*[259] Адказ: *"Идите кто-нибудь сюда".* Падышоў я і плюнуў. Валодзька Струкаў! Аказваецца, ён недзе бачыў Валю, і тая прасіла, каб А. А. з печкамі а чацьвёртай гадзіне выехаў у *Heydebreck*. Валяньціна, як відаць, ня выехала.

*20 лістапада.*

Прашэньне Валі, ясна, не дапамагло, бо так ці сяк, а плітак няма.

Цягнік на *Heydebreck* спазьніўся. У амбуляторыю я трапіў позна. Да таго-ж доктарша не папярэдзіла Інну аб маім прыходзе, і я пратырчэў хто ведае колькі ў сенцах-пачакальні. Нарэшце, праз адчыненыя прыпадкам дзьверы мяне заўважылі. Сяньня я пан. Чатыры з паловаю пальцы вольныя.

Дамоў пёр пешкам. Не заходзячы да сябе, прайшоў да Раманцава з мэтаю набраць у пяро чарніла і папрасіць есьці. Першае ўдалося, другое — не — сядзеў Камінскі. Затое атрымаў працу. Трэба перапісаць цэлую кнігу — сьпіскі лягерных жыхароў.

[259] *"Wer ist da?!!"* (ням.) — "Хто тут?!!"

Сеў пісаць, крыху зрабіў і... алярм. Налёт трываў амаль дзьве гадзіны. На мой вялікі жах, я губляю сваю сьмеласьць. Яшчэ некалькі разоў, і я буду, як тая Вікторыя, крычэць *“Мама!”* і плакаць. Пяць вогненных хваляў прайшло над намі. За сараем, дзе салома, — варонка. Разбурана кіеўская ўмывалка прамым трапленьнем. Бачыў я вогнішча на мейсцы зьбітага самалёту, парашутыстага пад белым парасонам, хістаючагася ад моцнага ветру, лістоўку-матыля і шмат іншага. Але перажыў шмат.

Дзядзька зьявіўся раней, як заўсёды. Ён усё-ж непакоіўся аба мне. Я, змучаны, прыціснуўся да яго, і ў першы раз за нашую дружбу А. А. абняў мяне.

Бедныя людзі з 1604 і 1605. Цягаюць у кантыну клумкі (храбрэйшыя), а трусы сядзяць і думаюць аб сваіх рэчах.

Чэхам выдавалі ежу ў нашай кухні. Я адстаяў чаргу і быў выгнаны з крыкам. Трапіў, бачыце, не туды. Калі я стаяў раней, Яна гаварыла зь нейкім немцам. Я, як драпежнік, праклінаючы сябе, круціўся навокал.

Прайшло яшчэ крыху часу. Абед пачалі выдаваць і нашаму брату. І вось, праходзячы каля мяне, Яна так загледзелася ў мой бок, што наскочыла на чалавека, і яе моцна штурхнулі (а можа, мне здаецца?).

Калі я атрымаў ядзеньне і адыйшоў ад ваконца, то сам ледзь не наскочыў на Яе. Яна стаяла каля вакна, тут-жа пры выдачы. І ізноў позірк Яе мілых вочак проста ў мае.

Павячэраў, выйшаў пакурыць і ногі панесьлі ў бок ейнага бараку. Даўжэйшы час стаяў каля слупа і глядзеў унутр, дзе маячыў Яе сылуэт. Раптам Яна выйшла, і я, як дурань, кінуўся наўцёкі. Чаму?

Ад злосьці пайшоў да Марыі і крыху пасядзеў там.

На вуліцы неспакойна. Рвуцца бомбы. Над заводам палае чырвонае зарава. Холад, цемра, страх.

І яшчэ нешта…

## Сшытак 6

### Пачаты 9.1.45

*9.1.45*

Толькі сяньня ўдалося выпрасіць у Раманцава гэты сшытак. Выбраў час, калі здаваў яму скончаную працу (сьпіскі работнікаў, непрацуючых і дзяцей). Думаў раней успамінаць падзеі апошніх дзён, так, каб дзёньнік гэты пачынаўся ад Новага Году, але што за цікавасьць успамінаць часіны суму й нуды.

Адзначу толькі, што 7 г. м. быў дзень нараджэньня Верачкі Б. Я дастаў у Анатоля Пракофьевіча паштовачку, прыпісаў ад сябе колькі словаў і, спаткаўшы В. на кухні, перадаў усё ёй. Між іншым, сэрца калаціласа, як авечы хвост. Па абедзе яна прыйшла да мяне даведацца аб нашай Вэрачцы. Яе лёсам цікавіцца Наташа Даева. Мая Вера прасядзела колькі хвілін, якія праімчаліся з маланкавай хутчынёю. Калі я на разьвітаньне ўспомніў аб магчыма хуткім маім ад’езьдзе, В. прасіла прыйсьці разьвітацца. У мяне ледзь ня вырваліся словы: *“Няўжо мы да гэтага ня ўбачымся?”* Але блізка быў А. А…

Сяньняшні дзень распачаўся ад’ездам Серафімчыкаў. Паехалі яны ў *Gleiwitz*, даведацца аб абяцанай там працы. Н. Ф. цэлую ноч не спала, так жарылі клапы. Скончыў чытаць сваю кнігу (Бар. Ливен. “На пороге”[260]) і падняўся. З прычыны перасяленьня

[260] **Магда Лівен-Арлова** (1885–1929), драматург, паэтка, празаік, баранэса. Ад 1917 г. жыла ў Берліне, дзе ў 1926 г. выйшаў раман “На парозе”, пра які крытыка пісала: *“сплел и великосветский вихрь царского Петербурга, и древние храмы Египта, и тихую жизнь усадеб русских “дворянских гнезд”… и, наконец,*

ў нашыя баракі работнікаў пусьцілі воду, нават гарачую, у бліжэйшай умывалцы. З камфортам памыўся. Хацелася есьці, і бачыў я хлеб, каторы ўчора дастаў А. А. Але да яго не дакрануўся. Не дарма-ж мы ўчора пасварыліся.

Крукам сеў да стала і не разьгінаўся аж покуль ня скончыў праклятых сьпіскаў. Аднёс іх. Атрымаў *"Schonkost"*, ну й цыгарэты. Вярнуўшыся, зрабіў парадак у хаце. Паскардзіўся нашым, што хочацца чаго-небудзь салодкага і дастаў кавалак імяніннага пірага Жэні.

Потым прыйшоў Сеня. Чыталі зь ім апошні нумар "Раніцы", што прыбыў сяньня. Сенька, аказваецца, баявы хлопец. Рабіў, што мог, каб насыпаць солі на хвост ворагам беларускага народу. "Узнагародзіў" яго "Пагоняй".

Абед благі — толькі боршч. Таму белы хлеб надта хутка з'еўся. Пайшоў у кантыну па малако, а там прадаюць... карты. Хацеў купіць дзьве калоды, але прадала, халера, толькі адну. Купіў яшчэ й пасты для зубоў.

У штубе сказалі, што прыходзіў Ваня і клікаў мяне да Раманцава. У апошняга, калі я зьявіўся, сядзеў *Tominski* (Томка). Жах бяда слухаць, як гэты чалавек расказвае аб розных растрэлах ды зьдзеках. Гэткая асалода, аж сьлінкі па вуснах цякуць. Атрымаў я шчэ працы. Трэба да вечара зрабіць сьпіскі 1604 і 1605.

Ня скончыў гэтае штукі, калі прыйшоў Вал. Вал. і загадаў да 8-ай гадзіны зрабіць сьпіскі 1637 і 1638, акрамя яшчэ й кантыны. Працаваў, як чорны вол. Не атрымаў нічога. Заўтра прыгадаю яму. Што рабіць? Грошай няма. Саня ня шле. Дзядзька Антон са мною

*первые громы Великой войны, предвестницы Русской катастрофы"* (Айхенвальд, Ю. Сегодня. 1926. № 116).



не гаворыць, ды і я ня маю на гэтае ахвоты. Буду чакаць.

Калі браў вячэру, бачыў Вэрачку. Яна не зьвярнула на мяне ўвагі, загаварыўшыся зь немкай, толькі калі маці прыкмеціла ёй, што зь ёю вітаюцца, падаравала мне цудоўную ўсьмешку і *"Добрый вечер, Димочка"*.

Кладуся спаць, з'еўшы астатак халоднага баршчу. На душы вельмі паршыва.

*10.1.45*

Не пасьпеў я ўчора і задрамаць, як зьявіўся Літвінаў. Я перакладаў яму паперку, дзе гаворыцца аб прызначэньні яго ўпаўнаважаным камітэту на *Jan Schleswig-Holstein*. Потым я чуў, як ён казаў жонцы, што ягоная ранга будзе ледзь не *Gauleiter*. Відаць, тугія справы ў асвабаджэнцаў, калі гэткая рвань будзе займаць гэнэральскія становішчы.

А восьмай гадзіне раніцы быў у Раманцава. Хацеў нагрубіць яму за паршывую ўзнагароду, але неяк ня выходзіць. Атрымаў *Schonkost*.

Скончыў сьпісак 1605. Думаў ехаць у Рацібор, але расхацелася. Заплаціў за картачку А. А. і паклаў тры маркі на пісульку, напісаную ў тоне халоднай ветлівасьці з гумарыстычным ухілам.

Хацеў сьпісак аднесьці, але Раманцава ня было, і я трапіў да Тамінскага. Той агледзіў маю працу з пагардлівай усьмешкай на вузкіх вуснах і сказаў, што Р. у Струкава. Вал. Вал. загадаў мне прыйсьці да яго а другой гадзіне.

Рабіць абсалютна няма чаго. Паплёўся да Сенькі. Ён сядзіць і рукзакі шые. Курыць ня маем абодва. Нікалай Васільевіч аддаў свае боты правіць і папрасіў мяне аб'явіць па бараках, што на трэцюю гадзіну ўсе непрацуючыя мусяць зьявіцца на камісію на прадмет пасылкі на працу.

Ідучы ад Сенькі, наляцеў на др. Андрусава. Ён кажа: *“Тикайте, а то плохо будет. Скорее тикайте”*.

Узяў абед, але проста нічога ў горла ня лезе. Абвясьціў у кантыне аб яўцы. Тамінскі запрасіў, каб я праверыў ягоныя сьпіскі. Выканаўшы, напаткаў Сеньку, каторы перадаў мне новае заданьне: да другой гадзіны мусяць быць гатовыя сьпіскі ўсіх непрацуючых і непрацаздольных. Апошнія сьпіскі прakантраляваў Андрусаў і мяне выкрэсьліў, як і многа іншых. *Hurra!* Мне ня трэба на камісію, але што рабіць, як уцякаць? Да таго яшчэ і з дзядзькам не размаўляю. У нашай штубе круціцца паліцыя, і не пасьпеў я агледзіцца, як арыштавалі Літвінава. Дарэчы сказаўшы, ён раніцою пасварыўся моцна з Тамінскім, і ўсе думалі, што гэта і ёсьць прычынаю арышту. Андрусаў пабег адразу-ж за ім і паехаў у *Heydebreck*.

Атмасфэра цяжкая. У Жэні запаленьне лёгкіх, Ал. Сьц. плача. А тут яшчэ камісія і... ні граша ў кішані.

Сьпіскі зрабіў і аддаў таму-ж Тамінскаму. Лёг адпачываць. Ня сьпіцца і не ляжыцца. Перачытваў старыя дзёньнікі.

Надышоў вечар. Вэрачка атрымала пасылку і частуе мяне булкай з кілбасою. Улажыў усё ў парадку ў чамадан і рукзак. Настрой жудасны.

Вярнулася са двара Мар’я Філіпаўна і кажа, што бачыла Ал. Ал. Вярнуўся! Крыху адлягло на сэрцы. Аказваецца, хтось напісаў на яго, што ён жыд.

Якраз на той час, як гасла сьвятло, прыехаў А. А. Гутарка зь ім ня клеіцца. Узяў я сваю матэрыю і пайшоў з Сенькай да палякаў. Прапанавалі мне там кілё табакі, 200 марак, муку, але неяк не ідзе. Яшчэ з горшымі думкамі вярнуўся дамоў. Шукелойць смажыў кроў, запрапанаваў мне есьці, але, бачыць Бог, мне нічога ў горла ня лезе. Адмовіўся, а ён яшчэ больш разазьліўся.



Разьдзеўся я і лёг. Дырэктар штосьць гаварыў (не да мяне) аб эміграцкай моладзі, аб тым, як яна хутка псуецца і г. д

Чагосьці прыходзіў Раманцаў. Відаць, нешта меў да мяне.

*11.1.45*

Трэба-ж ехаць выручаць боты, рашыў я і падняўся а сёмай гадзіне. Памыўся, пазычыў у Вэрачкі дзьве маркі і паехаў. Спадарожнікамі аказаліся Сенька і Воўка. Цэлы час балаганілі так, што вагон ледзь з рэяк не сходзіў. Калі прыйшлося вылазіць у Рацібары, то аказалася, што дзьверы нашага купэ не адчыняюцца. Вышлі на другі бок, праз лінію перайшлі і апынуліся на першай пляцформе ў абдымках жандарма. Выкруціліся.

У Псотты чакала мяне новае ліха — не гатовы боты. Злы, як сто тысяч чарцей, пабег на вакзал і з цягнікам у 10:43 апынуўся ў *Reigersfeld*’зе.

Думаў накіравацца да Раманцава, але ўбачыў яго стаячым з др. Андрусавым. Паціхоньку паплёўся дамоў, аж азірнуўся і ўгледзіў Струкава, што махаў рукою й паказваў на доктара.

Карацей кажучы, Андрусаў прывёў мяне да сябе, распытаўшы па дарозе, чы не згодны я ехаць з Літвінавым у Кіль[261] (была такая прапанова), выпісаў пуцёўку ў Бэрлін і паслаў да нашай Натальлі Фёдараўны, каб напісала на машынцы. Праз некаторы час я атрымаў гатовую паперку з загадам Андрусава сяньня-ж вымэльдавацца.

Што рабіць? Што? З такім пытаньнем зьвярнуўся я да штубы. Вынікі нечаканыя. Міхайлічэнкі далі 15

[261] **Кіль** — горад на поўначы Нямеччыны на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, цэнтр зямлі Шлезвіг-Гальштэйн.

марак, Вэрачка — 50. Аддаў правіць чаравікі, а сам хаджу ў туфлях Анат. Прак.

Некалькі разоў хадзіў да Вал. Вал., але ўсё няўдала. Урэшце даў ён мне, каб купіў, шэсьць талёнаў на мыдла. У кантыне аказалася толькі два, каторыя я і ўзяў.

Антон Антонавіч зусім са мной не гаворыць.

*12.1.45*

Дырэктар сьпіць, бо як я даведаўся зь ягонай гутаркі з другімі, Штаб (Менскі) распусьцілі. Устаю. Ем смачную бульбу, падсмажаную з кілбасой. Не адмаўляюся. А. А. едзе ў Рацібор, як бачу, у лазьню, а потым прывязе да Андрусава Савёнка і Ліманоўскага, з каторымі разам паедзе ўва аўторак у Бэрлін. Перад ад'ездам цэдзіць скрозь зубы: *"Калі будзеце мець хвілінку вольнага часу, схадзіце ў паліцыю й даведайцеся ад майго імя аб выніках справы".*

Зь мяне ўжо выветрылася ўся злосьць. Чуюся страшэнна блага, няма да каго слова сказаць, рады кожнаму дырэктараву слову, хоць яно і злое, і поўнае пагарды.

Ад Раманцава дастаў *Schonkost*.

Узяў лісткі для адмэльдаваньня, выканаў усе фармальнасьці. Судзьдзё рашыў здаваць пасьля абеду.

Дырэктар вярнуўся раней, як я чакаў, і адзін. Абеду для яго ня было, і я запрапанаваў сваёй булкі й малака.

Прыйшоў ліст ад Юркі й газэта ад Валі.

Паступова Антон Антонавіч, дай Божа ня зглазіць, перастае зьліцца.

Вымэльдаваўся канчаткова. Цікава, што беларусаў у *Meldestelle* адносяць да *Auslőnder*'аў[262].

[262] *Auslőnder* (ням.) — чужынец.



Вечарам, калі трэба было на абед, за міску ўзяўся я, і А. А. хацеў ісьці сам, але я, сказаўшы *"Чы не ўсё роўна?"*, пайшоў сам. Адным словам, паціху робіцца мір.

*13.1.45*

Прачнуўшыся, расштурхаў Ан. Пр., што спаў на доктаравым мейсцы, здаўшы свае старыя пазыцыі клапам. Сёмая гадзіна. Камандую: *"Aufstehen!"*[263]

Цэлай кампаніяй з Нікалаем Васільевічам, Ірай, Херувімчыкамі і Вэрачкай рухаемся ў *Heydebreck*. Проста цуды — далі мне *Rauchkorte*[264] першы раз у Нямеччыне. З гонарам адразу-ж купіў цыгарэт. Амаль да наступнага цягніка лазілі па паршывенькаму гораду. Узялі бульбы.

Без перасадкі еду ў *Ratibor*. Н. В. выходзіць у Маркдорфе.

Псотта зусім скаціна. Паўгадзіны шукаў маіх ботаў... і не знайшоў, а я дарма яго частаваў цыгарэтай.

Клямка сяньня была ў найлепшым рэпэртуары: адбіўная і бульба з цудоўным соўсам.

Калі моцна пад'еўшы пайшоў у Штаб да дзядзькі, застаў там толькі Штама сярод пустых комнат. Даведаўся, што "Шукулайць" пайшоў насіць рэчы на *Oberwallstr*. Накіраваўся туды, але, ясна, нічога не знайшоў. Бачыў Алесяву бабку, хацеў зь ёю пагаварыць, і ізноў няўдала. Яна была не ў гуморы. Кружна да Клямкі. Дачакаўся. Выйшлі дырэктар з Савёнкам. Думалі яны, што сяньня быў апошні дзень іхняе працы. Але памыліліся.

Да абеду пераносілі ўсе скончаныя працы ў архіў, дзе іх знаходзіцца... 3000! У панядзелак дзядзька

[263] *"Aufstehen!"* (ням.) — "Пад'ём!"

[264] *Rauchkorte* (*ням.*) — дазвол на табаку.

Антон мусіць канчаткова дагаварыцца з Томсоном і аб выніках давесьці сакратарцы. А там будзе відаць.

Разьвіталіся з Савёнкам і пакрочылі да вакзалу. У штубе чакаў Ліманоўскі. Што сказаў Андрусаў ім абодвум (А. А. і Лім.), ня ведаю дакладна. Знаю, што параіў чакаць.

Прыйшоў Сенька, ён усё яшчэ думае, куды й калі яму ехаць. Залезьлі зь ім на маю койку і гулялі ў карты з А. Пр., што ляжаў па-суседзтву.

Раманцаў і Тамінскі пераносяцца ў апошнюю штубу нашага бараку, каторую перагарадзілі, як канцылярыю Андрусава. Круціўся доўга, але абед абе выкруціў. Тым часам А. А. пачысьціў бульбы і зварыў цудоўную зупу. Павячэралі.

Што рабіць з фінансамі, што ўпарта пяюць рамансы? Хацеў прадаць той матар'ял і ізноў хадзіў да палякаў, але дзе там… Даюць 80 марак. Дурань я, што не аддаў за кілё табакі тады! Дурань і яшчэ раз дурань! Цяпер прыдзецца недзе пазычаць грошай.

Заўтра здэцца едзем у Тропаў.

*14 студзеня 1945.*

У Тропаў не паехалі. Дырэктар вельмі дрэнна чуўся, а аднаму што за цікавасьць ехаць.

Абсалютна няма чаго рабіць. Ляжалі цэлы дзень з А. Пр. на другім паверсе і зубы языком тачылі.

Бачыў у кухні пад час абеду маю Верачку. Трэ' будзе заўтра ісьці разьвітацца да яе.

У Бэрлін сабралася вялізарная кампанія: Андрусаў, Струкаў, Монід, Міхайлічэнкі, Будакова, Барэцкая і яшчэ тая пара, што прыходзіла да мяне з фірмы.

Рэчы, а іх было да чорта, везьлі на калымажцы. Назад цягнулі яе з Валодзькай.

Днём прылятаў разьведчык. Быў абстрэл.



*17 студзеня 1945.*

*Heydebreck-Sud*. Цягнік стаіць найменш хвілін 15. Мерзну ў пустым няўтульным вагоне. У вачох адзінокая постаць Антона Антонавіча, выправіўшага свайго пляменьніка ў сьвет Божы. Нарэшце кранаемся. Хутка ўжо ў цемры зьяўляюцца вагенчыкі гораду, і колы стукаюць усё павальней і павальней. Спыняемся. Буджу суседа па купэ, што сьпіць жаўнерскім сном, і выходжу. На плацформе шмат людзей. Відаць, што пасадка будзе цяжкай. Стаўлю свае пакуначкі й дую на рукі. Падыходзіць да мяне нейкая немка й пытае, чы ня мог бы памагчы ёй сесьці, бо ў яе шмат рэчаў. Ясна, вельмі галантна згаджаюся. Час прыйсьці цягніку. Чакаем. Калі лопаецца цярплівасьць, прыходзіць урэшце нашая "машына". Узьлезьлі. Задоўга будзе апісваць усе мучэньні, але скажу, што стаяў да самага Бэрліну і што цягнік заместа сёмай прыйшоў а дванаццатай гадзіне.

Немка аказалася сапраўднай бесталковай бабай. Зыйшлі мы на *Schlesteher*, пераселі на *S-Bahn* і толькі апынуліся на *Friedrichstr*, як зароў алярм. Спусьціліся ў падзямельле, трапілі ў добры цягнік, што давёз нас да *Stettiner Bahnhof*[265]. На апошнім і перачакалі. Ехалі яшчэ трамваем і ішлі пешкі. Змучыўся страшэнна. Але ўзнагарода перавысіла чаканьні. Пазнаёміўшы з мужам, мяне накарміла такімі сытнымі адбіўнымі, што я гады тры ў вочы ня бачыў.

Калі падыходзіў да Рады, праз вокна ўбачыў Галячыху[266]. Пайшоў, як на вагеньчык, і трапіў... у жаночы аддзел. Ясна, прыемная неспадзеўка і г. д. Спусьціўся ў падвал да Валі. Жыве яна ў сховішчы,

[265] ***Stettiner Bahnhof*** — чыгуначны вакзал у Берліне.

[266] Маецца на ўвазе **Раіса Галяк**, жонка Леаніда Галяка.

так што можна ўявіць сабе прыемнасьць. Валя аж пацалавала мяне ад зьдзіўленьня. Адразу нагаварыла сто тысяч навінаў, я іх і забыў мамэнтальна. Памятаю, што на Гуцьку[267] быў замах, што Езавітаў — гэнэрал, што...

Захацелася есьці. Накіраваўся ў бліжэйшую краму і купіў кілё хлеба, сто грамаў масла і поўкілё мармэляды. Калі сядзеў і жор, так, па-халасьцяцку, прышоў Уладзік. Расцалаваліся, і пайшло, і пайшло... Адразу-ж ён даў мне пропуск у сталовую ЦР і павёў туды вячэраць. Між іншым, расказаў, што будзе створаны аддзел вайсковае прапаганды, і ён будзе працаваць там сакратаром рэдакцыі. Можа, і мне знойдзецца мейсца, думаў я.

Павячэраўшы, пайшлі да Галякоў. Жывуць яны на галубятні, сьпяць на двупавярховым ложку, бо пакойчык маюць ліліпуцкі[268].

[267] Магчыма, маецца на ўвазе **Язэп Гуцько (Гуцька)** (1883–1956), вайсковы дзеяч, паходзіў з Наваградчыны. У 1915 г. стаў падпалкоўнікам Генеральнага штаба расійскага войска. У міжваенны час працаваў у Наваградку адвакатам, у 1939 г. быў арыштаваны НКВД, выратаваўся ў пачатку нямецка-савецкай вайны. У 1942 г. кароткі час ачольваў галоўны штаб Беларускай самааховы. Летам 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Пасля вайны жыў у Спрынгфілдзе (ЗША).

[268] *"Шукаючы памешканьне, падняўся вышэй апошняга паверху на падстрэшша й там знайшоў сабе месца. Быў гэта маленькі пакоік, прызначаны на пральню для гэтага пад'езду. Маленькае ваконца, як у стайні, кран з вадою, многа дзіркаў у сьценах і вялікая прабоіна ў столі, выбітая малой запаляючай бомбай. Дзіркі пазатыкаў, дастаў з падстрэшша два ложкі, якія там знайшоў, паставіў іх адно на адно, дастаў маленькі столік і пачаў жыцьцё ў Бэрліне. Аграваньне было цэнтральнае, ад цяпла на сходах. Калі дзьверы на сходы былі адчыненыя, дык нават ня было холадна, але пасьля ночы пры зачыненых дзьвярах было даволі холадна, хоць вада ў вадаправодзе ніразу не замерзла, тымчасам, калі на стале замярзала"* (Галяк, Леанід. Успаміны... 1983. С. 15).



Ясная рэч, Уладзік пацягнуў мяне начаваць да сябе. Сустрэлі мяне добра і Арсеньнева, і падпалкоўнік. Апошні носіць нямецкія пагоны, каторыя яму вельмі імпануюць[269].

Ложка мне зрабілі ў маленькім пакойчыку-складзе. Яшчэ мы не пасьпелі легчы, як зароў алярм. Прыйшлося спусьціцца ў кэллер. Але нічога ня было. Адпачываў да раніцы.

Раніцою падпалкоўнік, адыходзячы, сказаў мне, каб я ішоў да нейкага капітана і склаў яму прашэньне аб прыняцьці ў афіцэрскую школу. Гаворыць сп. Кушэль, як заўсёды, бэзапэляцыйна, тонам загаду.

Покуль мы з Уладзікам пасьнедалі, надыйшла 10 гадз. Ясна, што др. Андрусава ня было, і прыйшлося пакінуць толькі лісты.

З *Charlottenburg*'у паехалі праз *Ostkreuz*[270] на *Weissensee*[271].

Калубовіч абнадзёжыў мяне.

*19 студзеня 1945.*

Ноччу спалося добра. Адно, ня ведаю, чы прысьнілася, чы было сапраўды, злавіў ноччу вош.

[269] *"Ведаю ад Пугачова, што ў РОА было забаронена насіць нямецкія пагоны. Даходзіла да збройных канфліктаў, нават забойстваў — хто каму меў браць пад казырок"* (Вітаўт Кіпель).

[270] ***Ostkreuz*** — станцыя на берлінскай гарадской чыгунцы.

[271] ***Weissensee*** — Вайсэнзее — гарадскі раён на паўночным усходзе Берліна, тут знаходзілася БЦР. *"Раньняй восеняй, прыблізна ў пачатку верасьня 1944 г. БЦР была пераведзеная з Кэнігсбэргу ў Бэрлін. У Бэрліне БЦР атрымала некалькі будынкаў на ўскраіне Бэрліну, Вайсэнзэе. У гэтых будынках разьмясьцілася ня толькі БЦР з усімі сваімі канцылярыямі, але й амаль усе працаўнікі БЦР із сем'ямі"* (Ліст Ф. Кушаля да К. Акулы ад 25.08.1958. // Юрэвіч, Л. Шматгалосы эпісталярыум: Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні. Мінск, 2012. С. 160).

Усталі позна. Паехалі на *Witteberger Platz* за шортамі. Покуль вярнуліся на *Weissensee*, быў як раз абед. Калубовіч паехаў праводзіць Забэйду-Суміцкага[272] і сказаў прыйсьці да яго а гадзіне 3-й. Абедалі ў *Gaststatte* на рагу *Wehlanevstr. Ele Klose*.

Доўга абіваліся ў Радзе, але лопнула цярпеньне й паехалі з Уладзікам да яго. Бялізну ён не атрымаў у праклятай пральні, але затое выпілі цудоўнай кавы з куханам на апошнія маркі.

Ідучы да трамвая, даведаліся аб *Zuteilung*[273] на ўзьбярэжжы. Аж заскакалі, бо прыходзілася ўжо на вуліцы недакуркі зьбіраць.

*23 студзеня 1945.*

Прачнуўся рана й стрымліваўся, каб не заснуць. Ціхенька ўстаў, прыбраўся, памыўся. Сьнедаў сам, бо Ўладзік яшчэ валяўся. Выпаў сьнег, вуліцы зрабіліся чысьцейшымі. Доўга чакаў трамваю, але ўсё-ж у час трапіў на *Weissensee*. Прыйшоў Калубовіч. Працы няма ніякай, і я сяджу ў бібліятэцы, перабіраючы кніжкі.

Хутка далі мне першае даручэньне. Трэба было са сп. Зэйдліц зьезьдзіць на *Arbeitsamt*, куды яе выклікаюць. Залатвіў гэтую справу й пайшоў да сябе.

На рагу *Wehlanerstr* даюць сяньня клёцкі.

Паступовa саля напаўняецца знаёмымі. Я сядзеў з Кушалем і Галячыхай. Уладзік і дырэктар пайшлі да кантыны. Паабедаў нядрэнна за 3 маркі.

У нашым аддзеле яшчэ ўсё зачынена. Сядзеў у рэдакцыі. З зайздрасьцю глядзеў, як Уладзік выбірае кіно на сяньня. Мне дык няможна…

[272] **Міхась Забэйда-Суміцкі** (1900–1981), спявак, тэнар, папулярызатар беларускіх песень. Ад 1940 г. жыў у Празе.

[273] *Zuteilung* (ням.) — размеркаванне, выдача.



Зусім дрэнныя справы з прыпіскай. У будынку ЦР прыпісвацца нават прэзыдэнт забараніў. Ёсьць надзея, што ўдасцца на *Belselistr*. Але дзе сяньня спаць давядзецца?

*27.1.1945*

Я вырашыў чакаць, покуль усе мае паперы ня будуць у парадку, а тады ўжо пачынаць нейкую прапіску і г. д.

Дзеля гэтага спаў позна, але ўстаў раней ад Уладзіка, як заўсёды. Цыгарэты ў нас яшчэ былі, і я, сеўшы пры ягоным ложку, пушчаў дымок і пераглядаў альбом з паштоўкамі, што прыслалі з Торна.

Пайшлі ў лазьню. Страшэнна доўга чакалі, але памыліся. Я надзеў апошнюю чыстую пару нацеліва.

На *Weissensee*, покуль я быў у Калубовіча і дакладваў яму аб стане рэчаў, Уладзік прадаў сваю паперу — 10 кн. па 4 маркі.

Пазычыўшы ў Цыбулькіна[274] пропуск, пабедалі ў кантыне. Чакалі страшэнна доўга.

Па абедзе загітаваў пайсьці ў кіно. Былі на *Elbingerstr, 47*. Глядзелі кіно. *“Сердцещипательно и мочегонительно”*, як кажа Ўладзік.

Па дарозе дамоў купіў масла й мёду. Прыйшоўшы, палкоўнік сказаў, што ў батальёне будзе а палове сёмай разьвітальны вечар. А я толькі спакаваў брудную бялізну й падрыхтаваўся ехаць да Саны.

Павячэралі яшчэ раз у хаце і паехалі, ясна, на вечар. На *U-Bahn*[275] прыйшлося чакаць больш поўгадзіны, але ўсё-ж такі каля восьмай былі ў кашарах. Вечар яшчэ не пачынаўся. Відаць, што людзі заўтра

[274] Маецца на ўвазе **Аўген Цыбулькін**, колішні рэдактар “Газеты Случчыны”, які спачатку выехаў у Нямеччыну, а пазней жыў у ЗША.

[275] *U-Bahn* (ням.) — метро.

ад'яжджаюць. Бегатня, гамон, носяцца ўверх і ўніз па сходах. На трэцім паверсе напаткаў Сеньку. Ён цягнуў хлеб і цыгарэты. Выклянчыў цыгарэту.

Заля прывітала палкоўніка з *"Жыве!"* Быў Шукелойць. Усё йшло добра, але на самым цікавым мейсцы, калі на небасхіле зьявіліся жанчыны і пачалі сьпяваць, дом затросься раз, другі, хтось крыкнуў *"Alarm"*, і прыйшлося ісьці ў кэллер.

Вечар скончыўся прамовай гэн.-майора Езавітава. Спаткаў пры выхадзе Сеньку. Ён яшчэ сам ня ведае, чы едзе. Купіў сабе ваенную шапку. На ўсякі выпадак разьвітаўся з усімі.

*9 лютага.*

Трэці дзень у Вюрцбургу[276]. Трэці дзень, як мы бадзяліся між вакзальным *NSV*[277] і прытулкам на *Brijen Str*. Няма мейсца, каб прытуліцца недзе, ня кажучы аб тым, каб пісаць. Тым больш, што дзень і ноч без перапынку гудуць *Voralarm*'ы, і нам з Уладзікам прыходзіцца бадзяцца па гораду.

З Цэнтральнай Рады выйшлі ад 3-й гадзіне. Памагалі нам фэльдфэбель Капэльдудка і адзін з ахоўцаў Рады. На станцыі народу — ліха! Ехаць рашылі да *Papestr*, і таму што яна ляжыць на дыямэтральна супрацьлежным канцы *Ring*'у, выбралі пэрон, дзе стаяла менш людзей.

Калі падыйшоў цягнік, аказалася, што ён паўнюсенькі. Памагатыя аказаліся падлецамі і толькі

[276] **Вюрцбург** (ням. *Würtzburg*) — горад на рацэ Майн у Баварыі, Нямеччына.

[277] Маецца на ўвазе **Нацыянал-сацыялістычная народная дабрачыннасць** (*Nationalsozialistische Volkswohlfahrt, NSV*) — грамадская арганізацыя, заснаваная нямецкімі нацыстамі адразу пасля іх прыходу да ўлады ў 1933 г. *"Дабрачынная нацыстоўская жаночая арганізацыя. Мелі сваю ўніформу й значок. Дапамагалі беларускім бежанцам. Там заўсёды можна было дастаць зупы"* (Вітаўт Кіпель).



ўкінулі рэчы, што несьлі. Адзін куфар, з адарванай ручкай, зачапіўся між дзьвярэй, ледзь-ледзь яго ўцягнулі добрыя людзі. Карацей, апынуўся я ў поўным людзей вагоне, дзе ні охнуць, ні ўздыхнуць. Рэчы, а іх штук з 10, раскіданыя чорт ведае дзе. Добра, што разам са мной улезла Галя[278]. На *Papestr* я ніколі ня вылез-бы, каб ня ехалі ваеннапалонныя з *Abteil*'і. Прыйшлося частаваць іх цыгарэтамі.

З пэрону на той, адкуль ідуць цягнікі на *Lichterfelde*, пляліся мы, высунуўшы языкі ад натугі на сходах-пераходах. Натальля Аляксееўна нават наняла нейкага чалавека.

На першы цягнік мы ня ўлезьлі. Другім неяк дамучыліся. Такім чынам, а нейкай чацьвёртай гадзіне мы былі на парозе ў невядомае. Чакаць прыйшлося страшэнна доўга. Пераносілі з аднаго боку плятформы на другі, групіраваліся і перагрупіроўваліся, урэшце выстраіліся ўсе мужчыны на краю пэрону, маючы за сабой рэчы і жанчын. А палове дзевятай падалі цягнік, і пачалося. Некалькі хлопцаў скочыла ў вокны, а астатнія пачалі шпурляць у вагон рэчы, запіхваць дзяцей і жанчын. Маланкава, аж немцы рты парасчынялі, усё было *fix und fertig*[279]. Праз вокны дзе-нідзе тырчэла нага чы галава, а з сярэдзіны вагону даносіўся гук, нібы трактар працуе.

Трэба-ж і мне ўлазіць. Першы раз у жыцьці даю нырца ў вакно і… стаю ў некага на галаве. Раздаецца ў цемры ёнк і стогн. Тады хапаюся за багажныя паліцы наверсе і падцягваюся. Некалькі часу болтаюся над купэ ў паветры. Потым нехта бярэ мае ногі й ставіць іх на нешта, на чым можна стаяць. Звальваюся ў праход. Тут знаходжу Ўладзіка й Галю.

[278] Маецца на ўвазе Галіна Ганчарэнка.

[279] *Fix und fertig* (ням.) — як перуном спалена.

Другія суседзі — два немца. Яшчэ трошкі мітусьні, пад час якой знаходзім торбу Н. А., што ляжала пад нагамі сп-ні Калубовіч (Яні)[280], яшчэ некалькі рэчаў выпарваем з самых нечаканых мейсцаў, аддаем чужое, і ўсе спакойны. Аказваецца, што я апынуўся каля вакна бяз шыбы. Страшэнна дзьме.

Паволі кранаецца цягнік, гляджу ў апошні раз на *S-Bahn*, на бэрлінцаў, на ўсё, што называецца так падабаўшымся мне Бэрлінам. Немцы завешваюць вакно коўдрай. Кладу рукзак і сядаю на яго з Галей. Уладзік разьмясьціўся на яе куфры.

Ноччу шмат курым, ямо і дрэмлем. Грэю пры Галі рукі. З вакна дзьме страшэнна, але — едзем!

Горай усяго прыбіральнае пытаньне. Прамучыўшыся цэлых 200 кілёмэтраў, раблю *in's Fenster*[281]. Майму прыкладу сьледуе Ўладзік.

Дарога, па каторай едзем, ляжыць у надзвычайна жывапісных гарах Гарцу[282]. Калі віднее, ня гледзячы на сабачы холад, зьбіраемся каля вакна й захапляемся цудоўнымі скаламі, старымі замкамі, што няпрыступна стаяць на далёкіх вяршынях.

Нам пашанцавала, і перасядка, на каторую ўсе з жахам спадзяваліся, не адбылася. Такім чынам, а гадзіне трэцяй дня мы былі на плятформе вакзалу *Wurzburg*. Частку рэчаў здалі на *Aufbewarung*[283]. *NSV*

[280] **Яніна Кахаnoўская** (дзяв. **Шабуня**, 1905–2005), грамадская дзяячка, пляменніца Івана і Антона Луцкевічаў, першая жонка А. Калубовіча (Каханоўскага), маці Ю. Андрусішынай. Скончыла Менскую польскую гімназію і агульнаадукацыйныя курсы, працавала медыцынскай лабаранткай. Ад 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША. Жыла ў Нью-Ёрку.

[281] *In's Fenster* (ням.) — у акне.

[282] **Гарц** — самыя высокія горы Паўночнай Нямеччыны, знаходзяцца на тэрыторыі зямель Ніжняя Саксонія, Саксонія-Ангальт і Цюрынгія.

[283] *Aufbewarung* (ням.) — захоўванне.



аказалася тут-жа. Сустрэлі нас там даволі добра. Дасталі мы абед: зупу манну з кілбасой, на вячэру — гарбату і хлеб з мармэлядай. Начавалі, як і ўсе наступныя дні, у прыюце на *Prymstr*. Мы з Уладзікам спалі на другім паверсе побач.

Распарадак дню ў нас быў наступны:

Сьпім да 7-ай гадзіны. Устаем апошнімі, калі ўсе ўжо ў парадку. Мыемся. Наўючваем на сьпіны рукзакі, бярэм тэчкі і пляцемся на вакзал. Сьнедаем. Да гадзіны дзесятай неяк бавімся, а там альбо алярм, альбо ўборка памешканьня выганяюць нас. І мы пачынаем бадзяцца.

Гэта — найлепшыя гадзіны дню. Зь якой прыемнасьцю ходзім па маленечкіх *Gässchen*[284], між амшэлых дамоў; праходзіш па пляцох, дзе стаяць стогадовыя *Brunnen*[285].

Цудоўны горад. Высокія горы, на іх вінаграднікі. Падэшвы гэтых волатаў абмывае блакітны Майн. Па якой вуліцы ні ідзеш, адусюль бачыш горды замак, абнесены трайнымі сьценамі[286]. Калі ён будаваўся, ня ведаю, але ў 1200-х гг. быў перароблены *Furstbischof*'ам[287]. Паходжаньне яго, аказваецца, сабе і ўявіць цяжка, — *Keltischer Rirgburg*[288].

Некалькі помнікаў позьняга нямецкага *Rokoko*[289]:

[284] *Gässchen* (ням.) — завулачкі.

[285] *Brunnen* (ням.) — фантан.

[286] Маецца на ўвазе **крэпасць Марыенберг** — умацаванне, размешчанае над горадам Вюрцбург, што было ў Сярэднявеччы рэзідэнцыяй мясцовых князёў-епіскапаў.

[287] *Furstbischof* (ням.) — тут маецца на ўвазе князь-епіскап, уладальнік Вюрцбурга ў часы Сярэднявечча.

[288] Тут Сямёнаў мае на ўвазе, што крэпасць Марыенберг была пабудаваная на ўзгорку, дзе ў часы кельтаў знаходзілася паганскае капішча.

[289] **Ракако** — стыль у мастацтве (найперш у дызайне інтэр'ераў), які ўзнік у Францыі ў XVIII ст. і для якога былі ўласцівыя

раскошная *Residenz*[290] і маленькі домік (1752) на базарнай плошчы. На той-жа плошчы *Marien-kapelle* (1377–1479)[291] позьні готык. З прыемнасьцю зьнімаем шапкі перад домам, дзе вынайшаў Рэнтгэн[292] свае праменьні ў 1895.

А 12-ай гадзіне — абед. Спачатку ў *NSV*, а потым у рэстаране, альбо наадварот. Потым ізноў бадзяньне, вечарам шлёпаем у прыют, курым, ямо і кладземся.

Але прыйшоў дзень, калі гэткаму жыцьцю прыйшоў канец.

Міністры нашыя[293] дасталі пуцёўку ў *Stuttgart*[294]. Ехаць туды ніхто ня думаў, толькі начальства спадзявалася, што нас даўно ўжо ў горадзе няма. І вось калі Стаськевіч[295] пазваніў да некага, яму перадалі распараджэньне гаўляйтэра *Mainfranken*[296], каб мы сяньня-ж выбраліся з гораду, у іншым выпадку нас з

лёгкасць, вытанчанасць, багацце дэкаратыўных дэталяў, увага да міфалогіі.

[290] Маецца на ўвазе **Вюрцбургская рэзідэнцыя** — архітэктурны комплекс, пабудаваны ў 1719–1744 гг. як рэзідэнцыя архіепіскапаў-курфюрстаў. Палац з'яўляецца шэдэўрам барока і занесены ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

[291] ***Marien-kapelle*** — капліца Марыі, пабудаваная на месцы знішчанай у XIV ст. сінагогі. У 1945 г. у выніку авіяналёту капліца была моцна пашкоджаная.

[292] Нямецкі фізік **Вільгельм Конрад Рэнтген** (1845–1923) у 1885–1899 гг. жыў у Вюрцбургу, дзе спачатку кіраваў кафедрай фізікі, а пазней быў рэктарам мясцовага ўніверсітэта.

[293] Магчыма, маюцца на ўвазе А. Калубовіч, М. Шчаглоў-Куліковіч, М. Стаськевіч, С. Кандыбовіч і інш., хто быў у групе дзеячаў БЦР, якія выехалі з Берліна.

[294] ***Stuttgart*** — горад у Нямеччыне, сталіца зямлі Бадэн-Вюртэмберг.

[295] *"Сьцяпан Стаськевіч — мянчук, доўгі час быў у БЦР. Працаваў перакладчыкам у Бібліятэцы Кангрэсу. Памёр у Нью Ёрку"* (Вітаўт Кіпель).

[296] ***Mainfranken*** — Ніжняя Франконія. Вюрцбург быў адным з цэнтраў Ніжняй Франконіі.



паліцыяй пасадзяць на цягнік. І тут нашая кампанія пачала скоропостижно распадацца.

У Шчагловых быў пропуск на 4 ½ пэрсоны ў *Nűrnberg*[297]. Прыняўшы пад увагу нас траіх, яго перарабілі на 7 ½. Каманду ўзяла ў свае рукі Арсеньнева.

Калубовічу Натальля Аляксееўна перадала свой пропуск на тры асобы, з каторых зрабілі 8. Гэты атрад таксама пад началам цёткі Арсеньневай.

Кандыбовіч[298] выхлапатаў сабе дазвол аставацца ў горадзе яшчэ на суткі, а потым ён паедзе на нейкі млын — млынаром.

Стаськевіч, дзьве дзяўчыны, Іна і Іра, каторыя аказаліся немкамі, едуць у кірунку *Konstanz*[299] і думаюць застанавіцца кілёмэтраў 60 перад ім.

Калядычыха будзе чакаць мужа.

Таполя[300] засталася там-жа, Трысмакоў[301] тое-ж.

Саматугам дасталі вячэру й начлежку. Спалі на тых самых мейсцах, хоць і адбылася такая-сякая пeратурбацыя.

[297] ***Nűrnberg*** — горад у Нямеччыне, у цэнтральнай Баварыі.

[298] **Сымон Кандыбовіч** (псеўд. **Кабыш**, 1891–1972), палітычны і грамадскі дзеяч, гісторык.

[299] ***Konstanz*** — галоўны горад Бодэнскай акругі зямлі Бадэн-Вютрэмберг у Нямеччыне, знаходзіцца на беразе Бодэнскага возера на мяжы з Швейцарыяй.

[300] **Вольга Таполя** (сапр. **Зубко**, 1902–?), пісьменніца. Падчас нямецкай акупацыі працавала ў "Беларускай газеце", выдавецтве "Менск". Ад 1944 г. — на эміграцыі. Жыла ў баварскім Лавінгене, пазней у лагеры Ватэнштэт. Друкавалася ў беларускіх эміграцыйных перыёдыках. Аўтар кніг: "Снягурка і мурка" (1946), "Маці" (1948). У 1948 г. вярнулася ў БССР. Друкавалася ў газеце "Голас Радзімы".

[301] **Парфіры Трысмакоў** (1903–1985), грамадскі дзеяч, педагог. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Менскай гарадской управе, быў сябрам Беларускага навуковага таварыства. З лета 1944 г. — на эміграцыі. На працягу 1945–1949 гг. працаваў настаўнікам фізікі і хіміі ў гімназіі імя Я. Купалы. Эміграваў у Аўстралію, жыў у Адэлаідзе.

Закончу ўспаміны аб гэтым цудоўным горадзе, сказаўшы, што ў ім я першы раз еў такую смачную смажаную бульбу, перажыў алярм, трываўшы цэлы дзень; бачыў у другі раз *“Frau meiner Träume”*[302].

Раніцою 12.2.45 мы пасьля некаторых клопатаў сядзелі ў нюрнбэргскім цягніку і прыкладна а 12-ай гадзіне без асаблівых прыгодаў апынуліся на плятформе вакзалу гэтага старога гораду. Выйсьці адтуль не давялося. Н. А. прынесла білеты на цягнік, ідучы ў кірунку нейкага *Amberg*’у[303].

Нашае шчасьце, што ідзе сьнег, як на Каляды. Інакш не пазьбегнуць нам *Tieffleger*’аў[304]. Праз белую посьцілку разглядаем прыгожыя ваколіцы. Цягнік ледзь сунецца. Спалі, елі, курылі, чыталі

[302] ***“Frau meiner Träume”*** (ням.) — “Жанчына маёй мары” — нямецкая кінастужка 1944 г. з удзелам вядомай акторкі Марыкі Рок.

[303] ***Amberg*** — горад у Баварыі, Нямеччына, за 60 км ад Нюрнберга. *“Апошнімі часамі жыцьцё ў Бэрліне зрабілася блізу немагчымым. Частыя налёты, бамбардаваньні, пажары не давалі магчымасьці працы. Нарэшце пасьля налёту 3 лютага, калі ўвесь цэнтар Бэрліну абярнуўся ў мора агню, мы наважыліся пакінуць горад. Ночай, у поцемках, нам удалося з бою, праз вокны, убіцца ў нейкі цягнік на аднэй са станцыяў на паўдзённай ускраіне Бэрліну. Муж застаўся пры Радзе. Ехалі ізноў мы, Шчагловы, Кахаidoўскія. Пасьля доўгага вандраваньня па розных нямецкіх гарадох нам пашэньціла прыпыніцца ў маленькім гарадку Амбэргу, недалёка ад чэскае мяжы. Умовы, у якіх мы як уцекачы, а да таго яшчэ і аўслендэры, апынуліся, былі вельмі цяжкія. Мы спалі на падлозе, на саломе, усе разам. Ня мелі ніколі цёплай вады, ня мелі гарачае кавы ці проста звычайнага вару раніцамі. Ледзь не галадалі. Але гумару, як і заўсёды, ня трацілі й духам ня падалі. Я нават з прыемнасьцяй, як мілы ўспамін, ахоўваю сяньня ў памяці гэтыя галодныя й халодныя амбэргскія часы”* (Арсеньнева, Натальля. Аўтабіяграфічны нарыс // Юрэвіч, Л. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі… С. 265).

[304] *Tieffleger* (ням.) — самалёты, якія нізка лятуць.



газэту і ўрэшце прыехалі. За сяньняшні дзень мы адмахалі 171 км.

Вечар. Мокры сьнег лепіць. Маленькі вакзал, патануўшы ў цемры. Сярод пэрону куча рэчаў, пры ёй, паставіўшы каўнеры і схаваўшы рукі ў рукавы, кучка людзей — мы. Міністры пад кіраўніцтвам Н. А. пайшлі клапаціцца аб нашым лёсе. Ужо прайшла гадзіна часу, а іх усё няма. Холадна, а галоўнае голадна. Пачынае балець галава.

Спачатку сьмяемся, а калі голад ужо цісьне, як прэсам, сьмех сьціхае. Бунтуемся й хочам ісьці ў пачакальню. Але калі пачынаем цягнуць рэчы, высьвятляецца, што пэрон замкнуты. З другога боку ў нашым становішчы стаяць правадыры. Сьнег проста шалее. Канчаецца тым, што перадаем рэчы праз рашотку і выходзім... нармальным выхадам, бо пасьпявае нейкі цягнік, і мы прымыкаем да натоўпу пасажыраў.

Хутчэй, хутчэй... Рэчы на перахаваньне, і мы ўжо шлёпаем у цемры па незнаёмых вуліцах. Спытаўшыся некалькі разоў, трапляем у начлежку. Сустракае нас вельмі ветлівая немка. Высьвятляецца, бежанка з Саарбрюккену[305]. Пакой-спальня ўяўляе сабой з 30 матрацаў. Дастаем па мяккай байкавай коўдры, п’ем каву з хлебам, купленым на вакзале, і засынаем. Кажуць, што ўначы было горача, але я спаў, не распаранаўшыся, як каменны.

*13 лютага.*

Устаем прыблізна а 8-й. Накіраваліся па хлеб і іншую жратву. Крыху ўклаўшы, агледзілі горад. Думаю, ён такой па вялічыні, як *Cosel*. Правінцыя

[305] **Саарбрукен** — горад на захадзе Нямеччыны, цэнтр зямлі Саар. У часе Другой сусветнай вайны побач з горадам знаходзіўся канцэнтрацыйны лагер Брэм, дзе загінула багата нараджэнцаў Вялікабрытаніі. З гэтай нагоды ў часе саюзніцкіх авіяналётаў горад быў амаль знішчаны.

зусім глухая. Вулічкі брудныя, дамы самыя разнастайныя, пафарбаваныя ў зусім нечаканыя колеры. Некаторыя будынкі вельмі старыя. Так, напрыклад, натрапілі мы на бюргерскі склад (так мы думаем), што будавалі ў 1526 годзе. Увесь горад можна падзяліць на дзьве часткі: старую й новую. Яны расположаныя, груба кажучы, канцэнтрычнымі кругамі — стары ў сярэдзіне, новы навокал яго. Стары горад абнесены мурам з байніцамі, перад каторым знаходзіцца глыбокі роў. Мы бачылі дзьве брамы з вежамі і гарадскім гэрбам на іх.

Сабраліся на абед у сталоўку насупраць нашай школы. Аддалі шмат марак, але абед быў цудоўны: шпам, зупа і апеканка накшталт нашай хатняй шарлоткі. Адзіны жаль, што акрамя вады з вадаправоду піць нічога няма. Па абедзе вырашылі схадзіць у кіно, каторых тут чатыры. Але разьленаваліся настолькі, што ў кожнай знаходзілі толькі *“Ausverkauft”*[306].

Дарэчы, нашыя мудрыя кіраўнікі пайшлі складаць візыты бургамістру і іншым уладарам гэтага сьвету. Вынікі самыя добрыя. Будуць нас харчаваць у нейкай *Gaststätte*[307]. Наконт нашага побыту сказалі, што трэба чакаць і што мы ў іх на чарзе. Што можа быць лепш?

Павячэралі проста цудоўна. Кожнаму далі па поўнай талерцы маленькіх селядцоў (мне дасталося 18 штук), некалькі бульбінаў, і яшчэ мы дасталі цудоўнага (які яшчэ ёсьць эпітэт) піва. Закурылі зь нябеснай прыемнасьцю.

На вуліцы цёпла. Прыемна прайшліся да вакзалу. Даведаліся, калі ідзе цягнік на *Hirschau*[308], і ўкінулі

[306] *“Ausverkauft”* (ням.) — “Усё прададзена”.
[307] *Gaststätte* (ням.) — рэстарацыя.
[308] ***Hirschau*** — Гіршаў — горад у Нямеччыне ў зямлі Баварыя, акрузе Верхні Пфальц, уваходзіць у раён Амберг-Зульцбах.



лісты ў скрынку. Трэ' сказаць, што за гэтыя дні я напісаў некалькі паштовак: Мані, Соні, Сане й Люсі.

Усё ішло добра, але толькі мы ляглі — *Voralarm*, потым адбой; потым безпасрэдна алярм, пры каторым мы выйшлі на вуліцу і, так як самалёты лёталі над галавамі, забрылі з Дзюнікам[309] у банкаўскі кэлер. Дачакаліся *Vorentwarnung*'у[310] і вярнуліся да сябе. Ізноў ляглі. *Alarm*. Апрануліся й спусьціліся ўніз. Чакалі, чакалі й пайшлі да сябе. А тут пачалося… Мусіць, з гадзіны паўтары ляцела над нашымі галовамі армада паветраных караблёў. Трэба мець моцныя нэрвы, каб вытрымаць гул, жудасны, ціснучы гул матораў. Чэмэрысава[311] цярпела, цярпела і ўсё-ж пабегла. Я сядзеў на сваім ложку, заткнуўшы вушы, і маліўся Богу.

Скончылася, мусіць, а гадзіне трэцяй. Не распранаўся больш, а проста як сядзеў, нырнуў у Нірвану сну.

*14 лютага 1945.*

Пасьля кашмарнай ночы прачынаюся даволі разьбіты. Ідзем на сьнеданьне. Даюць салодкую каву і дзьве вялікія лусты хлеба з маслам. Для Галіны хлеб бяру з сабой.

На мэце — купіць цыгарэты. Адразу за мастом бачым невялічкую чэргу, да каторай і прыстройваемся. Стаяць прыйшлося дзьве гадзіны. За гэты час адной дзяўчынцы з чэргі зрабілася дрэнна, і я памагаў перацягнуць яе.

Дасталі па дзесяць цыгарэт на брата. Але будучыня зусім цёмная — раней, як 24-га, нічога не дастанем.

[309] **Эдвард (Дзюнік) Шабуня** (1915–1990), брат Яніны Каханоўскай.
[310] *Vorentwarnung* (ням.) — адбой.
[311] **Наталля Чэмярысава**, першая жонка М. Шчаглова-Куліковіча, маці Тусі.

Кіруемся на вакзал. Бяру з перахаваньня руказк. Уладзік — свой рукзак і матчын.

Хутка ідзем на абед. Каля пошты застае нас *Voralarm*. Настрой крыху псуецца, верней, псуецца зусім, бо я і так добрым гуморам не адрозьніваюся. Некаторы час шукаем уваходу ў *Bierhalle*[312]. Ледзь пераступаем парог утульнай салькі з тыпу *"Gemeinsehaftsraum"* — трывога. Усе-ж паабедаем. Стравы сягаюць далёка за межы таго, аб чым думалі: зупа, селядцовая салята з бульбай і кава з булачкай. Фінал — піва.

Выходзім удвох з Уладзікам. На вуліцы пуста. На мосьце спыняе нас паліцыянт. Тлумачым, хто, куды і адкуль.

Самалёты лятуць яшчэ даўжэй, як уначы.

Вырашылі ісьці ў кіно. Становімся ў чэргу й купляем 8 білетаў на *"Oh diese Männer"*[313]. Вяртаемся назад пасьля дарэмнай спробы трапіць у кандытарскую.

На вячэру давалі зупу з хлебам. Вечар быў цудоўны. Цёпла, ціха, зорна й двурогі маладзічок асьвятляў горад, ператвараючы брудныя домікі й завулкі ў тэатральную дэкарацыю.

Кіно маленькае, але ўтульнае. На пачатку быў культурфільм аб маланцы, а потым выслухалі мы *Luftlagemeldung*[314] і пачаўся фільм. Акторы добрыя, і Паўль Гёрблігер[315] выступае ў камічнай ролі. Усё ішло, як па маслу, але раптам запалілася сьвятло — *alarm*.

[312] *Bierhalle* (ням.) — піўная.
[313] ***"Oh, diese Männer"*** (ням.) — "Ой ужо гэтыя мужчыны" — нямецкая кінастужка 1941 г.
[314] *Luftlagemeldung* (ням.) — інфармацыя аб бягучым становішчы.
[315] Маецца на ўвазе аўстрыйскі і нямецкі актор **Паўль Гёрбігер** (1894–1981).



Гэтую ноч перанёс шмат лепш за мінулую. Гул тысяч самалётаў успрымаўся, як звычайнае грукацень-не колаў па дрэнным бруку.

*15 лютага.*

На сьнеданьне дасталі каву і хлеб з кілбасой.

Абедалі пад акампанэмэнт алярму. Елі добрую зупу й капусту з бульбай і кілбасой.

Былі ў кіно. Глядзелі фільм *"Alles wegen den Hund"*[316]. Нішто сабе. *Schnucki* і *Ossi*.

На вячэры адабралі ў нас картачкі.

Спалі спакойна.

*16 лютага.*

Усё, як і раней. Сьнедалі на вакзале. Хацелі купіць малака, але спозьніліся. Быў алярм, і бамбілі *Regensburg*[317]. Было добра чуваць. Дзеля гэтага схадзілі ў сховішча.

Абедалі дрэнна. *Jemuse + Jemuse*[318]. Былі ізноў у кіно. *"Gluck bei Frauen"*[319].

Вячэралі ў двух мейсцах. Выдаў 100 м. на *Spatzl*.

Спалі зусім спакойна, толькі было халодна.

P. S. Дзюнік гаворыць, што гарадзкія муры ў *Amberg*'у будаваліся ў 1574.

У нашым пакоі начавалі сын з маткай. Яны з Івацэвічаў. Расказвалі, што самалёты, каторыя ляцелі праз нас, разьнесьлі в дребезги *Dresden, Chemnitz*[320].

[316] *"Alles wegen den Hund"* (ням.) — "Усё праз сабаку".
[317] ***Regensburg*** — горад у Нямеччыне, у зямлі Баварыя, сталіца вобласці Верхні Пфальц.
[318] Магчыма, Сямёнаў мае на ўвазе *gemüse* (ням.) — гародніна.
[319] ***"Glück bei Frauen"*** (ням.) — нямецкая кінастужка 1944 г.
[320] Асабліва моцныя бамбардаванні Дрэздэна саюзніцкай авіяцыяй адбыліся 13–14 лютага 1945 г. Тады быў амаль цалкам знішчаны цэнтр горада, загінулі 25–30 тыс. чалавек, збольшага ўцекачы з усходу.

Хоць Калубовічу й не падабаецца, шпілілі на патэфоне, а я з Тусяй нават танцаваў пад час алярму.

Учора Галя аддала нам *Rauncherkartu*. Шчаглоў зьліцца, а мы курым табачок.

*17 лютага.*

Цягнецца дзень за днём. Усе такія аднолькавыя, шэрыя. Хоць на вуліцы ўжо пахне вясной, настроі ў нас паршывыя. Нас зусім забылі. Урэшце, ня так і дрэнна не працаваць, але здаровы разсудак кажа, што доўга рай на зямлі цягнуцца ня будзе. І таму хочацца, каб хутчэй вырашаўся наш лёс, каб хоць цяпер, пасьля доўгіх месяцаў бадзяньняў, знайсьці жаданы спакой. А покуль што ходзім у кіно ("Танец з кайзэрам"[321]), рэжамся ў ачко з асабліва сумнымі для Ўладзіка вынікамі.

*23.2.45*

Чацьвёрты дзень на новым памешканьні. Жывем на *Steinhofgasse* ў будынку сельскагаспадарчай школы. Бежанцамі заняты толькі два пакоі. Апякуецца намі *Hausmeister*[322] — сымпатычны чалавек. Учора яму сабралі трохі грошай, і ён чы яго жонка наварылі поўную каструлю бульбы і нагрэлі жбан кавы.

Заняткі тыя-ж, што на тым памешканьні. "Стук-с", кіно і г. д. Прыбавілася толькі "хаджэньне да кабылы" (шкілет каня, што стаіць у калідоры). Свайго роду курыцельны клюб.

З асобых здарэньняў трэба адзначыць:

Заўчора згубіў папку з усімі картачкамі (фота- і харчовымі) і грашыма. Даў заяўку ў *Fundburo*[323] і

[321] **"Танец з кайзерам"** (*"Tanz mit dem Kaiser"*) — нямецкая кінастужка (мюзікл) 1941 г.

[322] *Hausmeister* (ням.) — камендант.

[323] *Fundbüro* (ням.) — бюро знаходак.



дастаў новыя картачкі. Здаецца, нават я выйграў. Учора ў газэце зьявілася абвестка аб знаходцы, надта падобнай на маю згубу. Быў у паліцыі, але — не, ня тое.

Нас ужо прапісалі. Цяпер мы — грамадзяне гораду Амбэргу.

Замэльдаваліся мы і ў *Arbeitsamm*'е. Але гэтая страшнейшая ўстанова ня ведае, што з намі рабіць. Учора прыходзіў нейкі службовец, каб пазнаёміцца з намі. Кажа (з жалем да нас), што трэба чакаць. Што нам больш жадаць?!

*6.3.45*

Сяньня спаўняецца месяц, як мы выехалі з Бэрліну. Час ляціць страшна хутка, але хочацца, каб бег, імчаўся яшчэ хутчэй.

Становішча нашае безнадзейнае. Хоць і здаецца, што трэба на ўсё пляваць і берагчы здароўе. Ужо каторы дзень жывем пад пагрозай выгнаньня. На нашыя сеньнікі хочуць пакласьці вугорцаў, нейкіх прэсавых работнікаў і ліха ведае каго яшчэ. Кожную раніцу зьвязваем цюкі, напіхваем рукзакі і сядзім, прыслухоўваючыся да крокаў на карыдоры. Часам і прыходзіць нехта. Тады мы аказваем яму дружны адпор, бо ведаем, што ў *Grube-Lagen*[324], куды нас хочуць увапхнуць, няма ні печак, ні сеньнікаў, а ў столі зроблена дзіра на вольнае паветра.

Даўно з'еў я свой хлеб і, наагул, усё. Знаходжуся на Кушалёўскім утрыманьні. Харчуюся штамамі. 24 гадзіны ў суткі хачу есьці. А тут яшчэ й рацыён зьмяншаюць. Скасавалі: 125 гр. масла, 250 гр. *Nahrmittel*[325] і 1500 гр. хлеба.

[324] ***Grube-Lagen*** — вёска недалёка ад Лербаха ў раёне Остэродэ зямлі Ніжняя Саксонія ў Нямеччыне.

[325] *Nährmittel* (ням.) — пажыўныя рэчывы.

З курывам таксама дрэнь. Ужо паўтара тыдня, прыблізна, зьбіраем акуркі. Табачны голад даводзіць да нахабства, прымушаючы на вачох публікі апустошваць папяльнічкі ў страўнях, а на вуліцы вырываць бычкі ледзь не з зубоў курцоў.

Будучыня прадстаўляецца мне беспрасьветнай. Хаджу зусім абарваны. Чаравікі выглядаюць, як сіта, абшлагі портак — як бахрама, сам я — жабрак ды й толькі.

*8 сакавіка*

Трошкі ўсё ўладзілася. 6-ага перад абедам прыехаў “прафэсар” з Гіршаў. Разам зь ім нашыя “главки” хадзілі ў *NSV* і дабіліся таго, што нас пакінуць у спакоі і будуць апекавацца намі ў сэньсе дапамогі. Крыху адлягло ад сэрца.

Курыць няма чаго. Ад’яжджаючы, “прафэсар” пакінуў мне свае *Raucherabschmitte* і прасіў купіць яму цыгарэт. Мы вырашылі ягоныя цыгарэты ўжыць, а аддаць яму сваімі. Але выйшаў з гэтае камбінацыі “пшык”. Цыгарэт не дасталі, хоць сталі ў чаргу а сёмай гадзіне.

Учора прыходзілі да нас з *NSDAP*[326] і з *NSV*. Загадалі падрыхтаваць да прасмотру нашыя паперы наконт высьвятленьня нашых асобаў. Сказалі, што хто мае кроўных у войску, будзе прыраўняны ў правох да *Volksdeutsch*’аў. Таму я раблюся пляменьнікам Натальлі Аляксееўны.

Уладзіку, беднаму, страшэнна баліць зуб. Ляжыць цэлы дзень альбо соўваецца, як цень.

Быў у кіно. *“Dir zuliebe”*[327] і цудоўная мультыплікацыя

[326] ***NSDAP*** — Нацыянал-сацыялістычная нямецкая рабочая партыя — кіруючая партыя ў Нямеччыне ў 1933–1945 гг.

[327] ***“Dir zuliebe”*** (ням.) — “Дзеля цябе” — нямецкая кінастужка (камедыя) 1944 г.



*“Hochzeit im Korallenmeer”*[328].

*12.3.45*

Дзень пачаўся зусім безабідна. Нават добра пачаўся дзень, у каторы месяц назад мы ступілі на амбэргскую зямлю.

Пасьнедаўшы, селі гуляць у вядомую “тышчонку”. Хацелася трошкі запоўніць перапынак між з’едзеным і заказаным у сыботу тортам. Ужо сядзеў Дзюнік на мінусах, як у наш пакой уляцела трох немцаў, і сярод іх чалавек, запрашаўшы нас на працу да *Kammerera*. З кароткай, але бурнай гутаркі выявілася, што нас забіраюць на працу, быццам на 8 дзён, альбо да таго часу, покуль мы ня выедзем з Амбэргу. Пры чым патрабуюць двух чалавек.

Пайшлі ўсе трое. Мы з “братам” на працу — Дзюнік — паглядзець, што мы будзем рабіць. Прывялі нас на апошнюю перад вакзалам вуліцу і ў нейкім двары здалі нейкаму немцу на рукі, загадаўшы чакаць шэфа.

Трошкі разгледзіліся і ўбачылі, што апынуліся мы ў двары нейкага бровару. З гэтага — праход у другі двор, дзе складзеныя дровы і кучаю навалены вялікія кіпы стружак у перамежку з бухтамі драўляных вяровак. Апошнія цягаў некуды наверх вышэйпрыгаданы немец.

Чакалі мы доўга. Ногі неяк самі вывелі нас на вуліцу. Ад нечага рабіць купілі па дзьве булачкі. Тут зьявіўся й шэф.

Як уводзіны да далейшых нашых прыгодаў падам апавяданьне працаваўшага немца:

[328] ***“Hochzeit im Korallenmeer”*** (ням.) — “Шлюб у Каралавым моры” — нямецкі мультыплікацыйны фільм 1943 г.

Шэф прыехаўшы з *Westpr.*[329], меў там фірму і 400 галоў рабочых. Цяпер прыехаў у Амбэрг адзін і хоча, як відаць, пачынаць усё яшчэ раз з пачатку. Што мы будзем рабіць — невядома. Здаецца, плесьці з стружкавых вяровак маты. Ён сам (немец) бежанец з *Saarbrucken*'у.

Шэф выглядае сурова. Халодны спэкулянт і жулік, магчыма. Несымпатычны прусак. Кажа, што мы мусім як найхутчэй высьветліць сваё становішча ў *NSV*. Бо калі ўстроімся стала ў яго працаваць, то нават калі-б і выехалі з гораду, будзем вымушаныя кожны дзень езьдзіць сюды. А покуль што загадаў перацягнуць наверх усе кіпы стружак. Гэта было вельмі хутка зроблена. Працавалася з запалам, як на фізкультуры.

Тым часам пачалі зьяўляцца дзяўчаты, каторыя, відаць, будуць працаваць з намі. Ёсьць із ножкамі.

Новае заданьне, і мы чацьвёркай паехалі з возікам па струмант. Прыцягнулі цьвякоў, малаткоў, абцугоў, пласкагубцаў і г. д.

Надыходзіў абедзены час, а гаспадар пасылае нас на мэблёвую фабрыку, дзе мы мусім атрымаць 10 *Doppelbetten*[330] для нейкіх *Auslander*'аў і адвезьці іх да *Kammerer*'а, дзе яны будуць жыць (А.).

Я адпрасіўся на абед. Па дарозе атрымалі для Дзюніка курыцельныя картачкі.

У хаце чакала нас цудоўная густая зупа і… торт. Паабедалі першаклясна.

Прыходзіла жанчына з *NSV* пытацца аб нашых патрэбах. Не дайсьці зь ёю да толку.

[329] Маецца на ўвазе **Заходняя Прусія** (ням. *Westpreußen*) — правінцыя Прусіі, якая знаходзілася на берагах ніжняга цячэння ракі Вісла, са сталіцай у Данцыгу (Гданьску). Існавала ў 1773–1829 гг. і 1878–1919 гг.

[330] *Doppelbetten* (ням.) — двухспальныя ложкі.



Пераапрануліся (камічна выглядае Ўл. у Дзюнікавай кепцы) і пайшлі ізноў да сябе. Узялі возіка й паехалі на фабрыку, што знаходзіцца супроць вакзалу, за шляхам. Па ложкі езьдзілі два разы. Пераждалі алярм пад заборам і а чацьвёртай былі вольныя.

У хаце яшчэ адна прыемнасьць. Атрымалі 32 яйкі. Усе круцяць гогаль-могаль. Калубовічу тэлеграма — зараз-жа ехаць у Бэрлін. Чакае прэзыдэнт[331]. Подпіс — др. Люббэ. Ідучы па тэлефон, спаткалі самога Калубовіча. Добра, што ня трэба тэлефанаваць. Мы-ж ня маем права гаварыць, што ў Гіршаў знаходзіцца дывізія[332].

З'елі могалю, пакурылі й пайшлі вячэраць. Цудоўная афіцыянтка ў гэтай knайпе. З'елі *Stadtwurst*[333] і *Rure*.

Мяне чакаў Віця. Трэба ісьці на прымэрку. Аддаў ягонай матцы чорны матар'ял на "ветрувку". У іх два пакойчыкі блізка знаёмай нам мэблёвай фабрыкі.

Жанчыны нашыя ў кіно.

Чуемся стомлены. У Дзюніка дрэнны настрой. Бульбы не пячэм. Хочацца спаць.

[331] Маецца на ўвазе Радаслаў Астроўскі.

[332] *"Улетку 1944 г. арганізавалася 30-ая дывізія Ваффэн СС. Штаб дывізіі знаходзіўся ў Баварыі, у мястэчку Гіршаў. У гэтую дывізію набіраліся людзі розных нацыянальнасьцяў. Найбольш трапіла сюды расейцаў зь лягераў палонных, адтуль жа трапіла ў дывізію й шмат украінцаў, беларусаў ды інш. Пад восень 1944 г. немцы пачалі накіроўваць у 30-ую дывізію беларусаў, якія апынуліся ў Нямеччыне ў выніку адступленьня, перадусім тых, што служылі ў паліцыі, Самаахове, БКА, а ўрэшце накіравалі туды й нашую афіцэрскую школу"* (Ліст Ф. Кушаля да К. Акулы ад 29.09.1958. Цыт. паводле: Юрэвіч, Л. Шматгалосы эпісталярыум… С. 169).

[333] ***Stadtwurst*** — гатунак баварскай варанай кілбасы.

За гэты час быў тры разы ў кіно. Французкі фільм *“Ihr erstes Rendezvous”*[334], гішпанскі *“Blutzengen”*, нямецкі *“Choral von Leuthen”*[335].

*13.3.45*

Ледзь-ледзь прабіваецца дзённы сьвет праз шчыліны вокнаў. Трэба ўставаць. Хлеб, прыгатаваны з вечара, зрабіўся зусім сухі — ноччу ў нас горача. *Hausmeister* прынёс кавы.

Не прыйшлося ламаць галавы, каму што рабіць. Разьмеркаваў нас немец, паслаўшы мяне з Дзюнікам зьбіваць учарашнія ложкі. Ён сам з Уладзікам пайшоў па нешта ў *Schreinerei*[336].

Праклятыя ложкі зроблены так тандэтна! Ніводная дзірка не пасуе! Прыйшоў шэф і параіў схадзіць на фабрыку, дзе атрымоўвалі ўчора гэтую дрэнь, і папрасіць сьвёрла. На прагулку нас доўга клікаць ня трэба.

Немец, каторы ўчора распараджаўся выдачай, аказваецца, сам *Frauendorfer*[337]. Ён вельмі ветліва выслухаў маю скаргу, вывеў нас на двор і хацеў прадэманстраваць якасьць сваёй прадукцыі, але і ў яго нічога ня выйшла. Тады галава фірмы прамармытаў мне камплімэнт (думаў, што я — немец) і сказаў, што ён робіць дзюркі машынаю і памагчы нам ня можа.

Такім чынам, прыйшлося скалачваць па-старынцы, узброіўшыся нажом, пазычаным у гаспадара.

[334] ***“Ihr erstes Rendezvous”*** (ням.) — “Іх першае спатканне” — кінакамедыя 1941 г.

[335] ***“Choral von Leuthen”*** (ням.) — “Лейтэнскі харал” — вядомая нямецкая кінастужка 1933 г.

[336] *Schreinerei* (ням.) — цясляр.

[337] ***Frauendorfer*** — уладальнік даволі вядомай нямецкай фірмы па вытворчасці мэблі.



Скончыўшы, пайшлі ў фірму. На пытаньне шэфа мусіў адказаць, што гатова ўсё і разам з тым — нічога. Адзіны ратунак — зьбіваць цьвікамі. Так і зрабілі. Сьпяшаліся вельмі, бо падыходзіў абед, і ўжо прыйшлі французжанкі — новыя жыхаркі.

Абедалі дома. Елі боршч і пілі каву. Спэцыяльна, каб мы адпачылі, быў дадзены алярм, каторы цягнуўся да другой гадзіны.

Цяпер прыйшлося горай. За тры гадзіны сьцягалі наверх са сто скруткаў вяроўкі, колькі дошак, два вялікіх пакеты стружак і г. д. Пытаньне далейшай працы разьвязаў сам шэф. Ад заўтрашняга дню нам няма чаго рабіць на фабрыцы (*Mattenfabrik*!), таму прапануюць кожны дзень а 5-ай гадзіне езьдзіць цягніком на станцыю *Schonhol* і там рэзаць верас для фабрыкі. Плата — 2 м за нейкі мэтр. У разе адмовы з нашага боку, бо гэтая праца сталая, сказаць заўтра яму альбо гаспадыні гэшэфту ў доме №17 на той-жа вуліцы.

Вячэралі ў “дурной” і “побач з масьленачнай”. Наеліся.

Н. А. кажа, што ўстрайвацца на працу няма сэнсу. *Also, unsere Schwarzarbeit ist damit beendet. Mindestens, bei der Mattenfabrik*[338].

*15.3.45*

Раніцою пайшлі хлопцы па цыгарэты для прафэсара. Я ня вытрымаў і трапіў да крамы ў той момант, калі яны ўвайшлі ў сярэдзіну. Уладзік меў кіслую міну, калі, прадзёршыся праз натоўп, апынуўся каля мяне. З трох прафэсаравых талёнаў толькі на адзін далі цыгарэты. Мусілі зь ім адстаяць яшчэ адну

[338] *Also, unsere Schwarzarbeit ist damit beendet. Mindestens, bei der Mattenfabrik (ням.)* — Такім чынам, нашая чорная праца пакуль скончаная. Прынамсі на фабрыцы матаў.

чаргу, але настолькі ўдачна, што дасталі ня толькі па чужых, але і па сваіх картачках.

Крыху пачакаўшы, накіраваліся за разьлікам да Крысьмера. На фабрыцы кіпіць работа. Плятуць маты. Мы дасталі па 9.60 м на брата. На вуліцы вясна, настроі добрыя. Нашыя людцы пачынаюць вошай лавіць.

Абедалі дома. Быў учарашні боршч і бульбяная каша.

Дзюнік недзе зьнік, мы нудзіліся, нудзіліся і пайшлі да швачкі аднесьці рагожу. Там нас засьціг алярм, і прыйшлося чакаць да адбою. За гэты час нас пакармілі абедам. Шчы й бульба.

Дасталі білеты ў кіно. Павячэраўшы, глядзелі *“Abenteuer im Grandhotel”*[339]. Добрая камэдыя.

*17.3.45*

Устанаўліваецца добрае надвор’е. Апошнія дні настолькі цёпла, што хаджу без паліто. Сяньня толькі крыху сыпля дождж, але зусім ня холадна.

У жыцьці нашым пераменаў няма. Толькі вось табака канчаецца. Прыйдзецца зноў “зьбіраць” *“остатки табачных изделий”*.

Дастаў я *Bezugsschein*[340] на рабочыя чаравікі з гумовай падэшвай. Трэба радавацца, што босы хадзіць ня буду, але-ж такое стварэньне чалавек — ніколі задаволены не бывае. Справа ў тым, што Дзюніку, якому я выпрашваў *Antrag*[341], далі найлепшага гатунку *Strassenschue*[342].

[339] ***“Abenteuer im Grandhotel”*** (ням.) — “Прыгоды ў Грандгатэлі” — нямецкая кінакамедыя 1943 г.
[340] *Bezugsschein* (ням.) — карткі.
[341] *Antrag* (ням.) — хадайніцтва.
[342] *Strassenschuhe (ням.)* — вулічны абутак.



Прыехаў з *Hirschau* Калубовіч. Расказваў апошнія бэрлінскія навіны. Наш будынак на *Gumbinnerstr.*[343] амаль “вдребезги” разьнесяны. Там ужо нічога няма. Усе-ж такі 8 бомбаў — *“не фунт изюму”*. ЦР атрымала памешканьне недзе каля *Janowiz Brucke*[344] (цэлых 18 пакояў). *Ostmnisterium* распушчана. Др. Люббэ працуе пры *Hauptamt*[345]. Прэзыдэнт жыве на старым сваім памешканьні на *Witzleben*[346]. Там-жа вядуцца і ўсе справы. У адзін з апошніх налётаў былі разбураныя нашыя кашары. Двое забітых, і Васіленя[347] паранены. У Бэрліне цяжка з харчаваньнем.

Між іншым, такія, як Калубовічу, тэлеграмы пасланы і іншым працаўнікам і сябрам ЦР. “Раніца” выходзіць. Зь вялікімі цяжкасьцямі. Дальвіц прабіўся ў поўным складзе на гэты бок[348].

[343] Маецца на ўвазе ***Gumbinnerstrasse*** — вуліца ў Берліне, дзе размяшчалася БЦР. Прынамсі, на *Gumbinnerstrasse, 28* знаходзілася Галоўнае кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР.
[344] Магчыма, маецца на ўвазе станцыя метро ***Janowiz Brucke***, або аднайменны мост у Берліне.
[345] *Hauptamt* (ням.) — галоўны офіс.
[346] Маецца на ўвазе чыгуначная станцыя ***Witzleben*** у заходняй частцы Берліна ў Шарлотэнбургу.
[347] **Аляксей Васіленя** (1899–1978), грамадскі дзеяч. У 1944 г. — кіраўнік канцылярыі Беларускай Краёвай Абароны, затым (1944–1945) — сакратар Прэзідыума Беларускай Цэнтральнай Рады. З 1949 г. жыў у Аўстраліі.
[348] Маецца на ўвазе **Беларускі дэсантны батальён “Дальвіц”** — вайсковае фармаванне, створанае беларускімі дзеячамі пры дапамозе абвера (нямецкай вайсковай разведкі і контрразведкі) для антысавецкай барацьбы ў тыле Чырвонай Арміі, на тэрыторыі Беларусі. Батальён быў арганізаваны ў ліпені 1944 г. у мястэчку Дальвіц ва Усходняй Прусіі пры нямецкай дыверсійна-разведвальнай школе. Начальнікам школы быў маёр Геруліс, а яго намеснікамі Барыс Рагуля і Усевалад Родзька. У сакавіку 1945 г. батальён быў перакінуты з папярэдняга месца дыслакацыі ў мястэчку Вальбуш пад Быдгашчам у раён Берліна.

Родзька[349] ў Бэрліне.

25-га сакавіка ў *Hirschau* будзе сьвята. Прыедзе Прэзыдэнт. Добра было-б дастацца туды, але дзе…

Начальнік шостага аддзелу нашай дывізыі — майор *Krugel* меў учора гутарку аб нас з заступнікам *Kreisleiter*'а *NSV — Berg*. Да яго й накіраваліся мы з Калубовічам. Абяцана было праз 3–4 дні ўлаштаваць кватэрнае пытаньне.

Учора афіцыянтка ў *"Zum goldenen Ritter"* дала нам бяз марак (за свае) смажанай бульбы. Гэта ўжо пасьля таго, як яна даведалася аб нашым ненямецкім паходжаньні. Кранутыя гэтым гэстам, далі ёй пяць марак "на чай" і паабяцалі адплаціць нечым іншым.

Учора Галя састрыгла свае косы. Выглядае шмат лепш.

*19.3.45*

Учора спалі позна. Былі яшчэ ў ложках, як у нашых дзьвярах паказалася двое вайсковых. Яны прывіталіся па-нямецку спалоханымі галасамі і ўвайшлі. Аказваецца — маёр Рагуля[350] і капітан

[349] **Усевалад Родзька** (1920 – 1946 (?)), беларускі палітычны і вайсковы дзеяч, публіцыст. У 1939 г. браў удзел у польска-нямецкай вайне, трапіў у нямецкі палон. Вызваліўшыся ў жніўні 1940 г., узначаліў Кракаўскую філію Варшаўскага беларускага камітэта. З ліпеня 1941 г. бурмістр Віцебска, праводзіў беларусізацыю горада. Арганізатар нацыянальнага падпольнага і партызанскага руху, з 1942 г. — старшыня ЦК Беларускай незалежніцкай партыі. З лета 1944 г. знаходзіўся ў Нямеччыне, быў адным з камандзіраў беларускага дэсантнага батальёна "Дальвіц". З чэрвеня 1945 г. жыў пад чужым прозвішчам у Польшчы, арганізоўваў падпольныя структуры. Арыштаваны і дэпартаваны ў Менск, дзе асуджаны або да расстрэлу, або да вялікага тэрміну пакарання. Далейшы лёс дакладна не вызначаны.

[350] **Барыс Рагуля** (1920–2005), вайсковы і грамадска-палітычны дзеяч. Удзельнік нямецка-польскай кампаніі 1939 г., трапіў у



Язэп Сажыч[351] (*Oberbefehlshaber*[352]).

*20.3.45*

У абед прыйшоў *Hausmeister* (учора) і сказаў, што а палове другой мы мусім разам з усімі рэчамі быць на вакзале і адпраўляцца ў Гіршаў. Там трэба замэльдавацца ў начальніка мясцовага *NSV*. Гэткае распараджэньне атрымаў ён па тэлефону з *NSV*.

Мы ў роспачы. Напэўна-ж вядома, што ў Гіршаў уезд забаронены. Таму вырашылі сяньня не кранацца з мейсца, накіравалі Чэмярысаву ў дывізыю, а самі (я і Н. А.) пайшлі да Бэрга. Той абсалютна нічога аб падзеях дню ня ведае. Прыпадкам натрапілі на намесьніка Амоса. Тэлефанаваў ён. Кажа, што дагаворана аб усім з бургамістрам і што спакойна можам ехаць.

нямецкі палон. Уцёкшы з палону, працаваў настаўнікам у Навагрудку. Арыштаваны органамі НКУС, але з пачаткам нямецка-савецкай вайны ўцёк з-пад варты. У часе нямецкай акупацыі працаваў выкладчыкам у Навагрудскай настаўніцкай семінарыі, перакладчыкам акружнога камісара. Адзін з акружных кіраўнікоў СБМ і БНС, намеснік БЦР і камендант БКА. Арганізаваў і ўзначаліў паліцэйскі батальён № 68. Адзін з кіраўнікоў разведвальна-дыверсійнай школы ў Дальвіцы, маёр 30-ай (беларускай) дывізіі войск СС. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку быў у амерыканскай зоне акупацыі Нямеччыны, ад 1949 г. — у Бельгіі. Займаўся справамі беларускіх студэнтаў у Заходняй Еўропе. У 1954 г. пераехаў у Канаду.

[351] **Язэп Сажыч** (1917–2007), вайсковы і грамадскі дзеяч. Улетку 1942 г. прызначаны камендантам падафіцэрскай школы. У лютым 1943 г. у Лідзе арганізаваў і ўзначаліў Беларускі батальён чыгуначнай аховы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Быў камендантам афіцэрскай школы 30-й (беларускай) дывізіі войск СС у Баварыі. Пасля вайны вучыўся ва ўніверсітэце Філіпа ў Марбургу (Заходняя Нямеччына). У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Дэтройце. У 1982–1997 гг. — старшыня Рады БНР.

[352] *Oberbefehlshaber* (ням.) — вярхоўны галоўнакамандуючы.

Чэмярысава зрабіла шум і гам. Яна гаварыла з маёрам, і ўсё, што датычыцца нашага пераезду ў Гіршаў, — адзін блеф.

Сяньня раніцою прыехаў гэты мямля — прафэсар. Першае, што ён зрабіў, — папрасіў адвесьці яго на каву.

Уладзік з Дзюнікам стаялі па бульбу. Чэмярысава і Яня паехалі ў Гіршаў.

Прафэсар не дабіўся ніц. Заўтра трэба ісьці да Амоса, і ён выдасьць паперку, з каторай прыдзецца цягацца па вёсках і сваёй сілай шукаць памешканьня.

Галоўная падзея дню — навіны, што прывезьлі нашыя дамы.

У ЦР вайсковы пераварот. Пасьля выезду ўсіх радных[353]

[353] *"Нейкі тыдзень пазьней, пасьля масавага выезду працаўнікоў БЦРады* [маецца на ўвазе выезд у тым ліку і Кушаляў, Калубовічаў, Шчагловых — **Рэд.**], *паведамілі, што прысутныя працаўнікі Рады разам з архівамі і справамі маюць выехаць з Бэрліна недзе на захад, але куды не казалі.*

[…] *Пасьля пагрузкі ў цягнік аказалася, што апрача працаўнікоў БЦРады, пад кіраўніцтвам віцэ-прэзыдэнта Ю.Сабалеўскага, едуць яшчэ два апекуны з Остміністэрыюм немцы: Шнайдэр, Лянгольф і ў дапамогу ім сакратарка фройляйн Мэнкэ. Выехалі са станцыі калі ўжо добра сьцямнела. У гэтым эшалоне былі прадстаўнікі ўсіх меншасьцяў СССР. Выгадна разьмясьціліся на рэчах і паехалі. Для жанчынаў і дзяцей быў пасажырскі вагон, дзе апрача жанчынаў і дзяцей разьмясьціліся яшчэ сьвятар Радзевіч ды ягоны сын капітан Усевалад Радзевіч, як ад'ютант Астроўскага прыдзелены на эвакуацыйны пэрыяд да дачкі Астроўскага Галіны Мінкевіч.*

[…] *каля гадзіны 8-й вечара* [наступнага дня] *апынуліся ў горадзе Гэкстэр над Везерам. Рэчы пакінулі ў вагонах, а мы ўсе пехатою пайшлі ў горад, — цэлы, неразьбіты з многімі старымі сярэднявяковымі будынкамі. Дайшлі да нейкай школы ў цэнтры горада і там затрымаліся. Апрача беларускай групы, затрымалася тут яшчэ групка людзей з нашыўкамі на рукавох "Ідэль Урал". У школе нас няблага пакармілі, а тады паляглі спаць і адпачываць пасьля падарожжа. Спалі ў вялікай зале. Уздоўж цэлай франтавой сьцяны ляжала на*



Прэзыдэнт[354] абвесьціў іх дэзэртырамі і набраў новых сяброў. Пры гэтым дзядзька Сабалеўскі[355] па сваёй волі выйшаў з Рады[356]. Цяпер наш урад складаецца, па няпоўных вестках, з

*падлозе салома, каля яе вузкі праход і даўжэзны, амаль на ўсю залю стол…*

[…] *Цяпер жа які быў склад усёй групы беларусаў у Гэкстэры. З аднаго боку, гэта былі працаўнікі БЦРады, або самыя радныя зь сем'ямі; з другога боку, некаторыя Беларусы, якія даведаўшыся аб выездзе Рады з Бэрліна далучыліся да выяжджаючых. З працаўнікоў Рады былі: Валянціна і Ніна Якубовіч, А. Сакалоў, У. Саўка, Раіса Евец, мая жонка Раіса і я, Гелена Палуйчык, сястра Раісы Евец, Пётра Орса — радны з жонкай і сынам, М. Мінкевіч — радны, на прапанову Кандыбовіча, з жонкай Галінай з дому Астроўскай, Фішчук і яго матка Васільева, Каракулька з жонкай і сынам, Язэп Гладкі, Віталі Кажан, А. Арэхва, А. Кароль, таксама маці Мінкевіча і двое ягоных дзяцей, Аўген Люткевіч.*

*Да гэтай групы далучыліся на станцыі ў Шэнеберг у Бэрліне: сям'я Каравайчыкаў, К. Дземідовіч-Дэмідэцкі, сям'я Скрыннікаў ды сястра жонкі Скрынніка Гортынска з сынам, жонка Дзямідава з сваёй сястрой, айцец С. Радзевіч, Антон Мілішкевіч, Святаслаў Коўш з жонкай і сынам,* [Мікалай] *Поль і Лявон Случчанін і жонкай. Праз некалькі дзён В.Пануцэвіч прывёз у Гэкстэр жонку Ірэну, Эдуарда Будзьку з жонкай Валерыяй і дачкой Людвікай ды пакінуў іх у Гэкстэры, нягледзячы на пратэсты "ўладаў", а сам выехаў. Разам з Пануцэвічам прыехаў яшчэ Дзямешка. У гэтым самым часе радны БЦР С. Калядка прывёз сваю жонку, а сам вярнуўся ў Бэрлін. У такім складзе пачалі жыцьцё ў Гэкстэры"* (Галяк, Леанід. Успаміны... Т. 2. С. 20–22).

[354] Маецца на ўвазе Радаслаў Астроўскі.

[355] **Юры Сабалеўскі** (1889–1957), грамадскі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі займаў пасаду бурмістра Баранавічаў. Ад лета 1943 г. да студзеня 1944 г. — старшыня Беларускай самапомачы. У студзені 1944 г. стаў віцэ-прэзідэнтам БЦР. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, ЗША, ад 1955 г. зноў у Нямеччыне.

[356] Юры Сабалеўскі, паводле ягонай уласнай заявы ад 28 лютага 1945 г., пакінуў пасаду віцэ-прэзідэнта БЦР у адказ на абвінавачанні ў перавышэнні сваіх паўнамоцтваў падчас выезду часткі радных у Гекстэр. Зноў вярнуўся ён у БЦР толькі пасля аднаўлення яе дзейнасці ў 1948 г.

Родзькі (віцэпр), Вітушкі[357], Касмовіча[358], Тамашчыка[359],

[357] **Міхаіл Вітушка** (1907–?), беларускі палітычны і вайсковы дзеяч. У жніўні 1941 г. — адзін з камандзіраў аддзелаў Беларускай самаабароны на заходнебеларускім Палессі. Арганізатар беларускай паліцыі ў Менску, да восені 1941 г. быў наменікам каменданта паліцыі Дз. Касмовіча. Арганізоўваў аддзелы Беларускае самаахоўы на Браншчыне, Смаленшчыне і Магілёўшчыне (1942–1943). Уваходзіў у Цэнтральны камітэт Беларускай Незалежніцкай Партыі, а таксама ў кіраўніцтва Беларускай Народнай Самапомачы. Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэса. З лета 1944 г. — афіцэр дэсантнага батальёна "Дальвіц", маёр БКА. Па адных звестках, 17 лістапада 1944 г. ён дэсантаваўся на Віленшчыне на чале атрада парашутыстаў. Аднак ужо 7 студзеня 1945 г. нібыта быў забіты ў баі з атрадам Чырвонай Арміі. Па іншых звестках, у лістападзе 1944 г. пад прозвішчам Вітушкі дэсантаваўся іншы афіцэр. Сам жа Міхал Вітушка ў Беларусі з'явіўся пазней. Найбольш актыўную дзейнасць у Беларусі распачаў у 1946 г.

[358] **Дзмітры Касмовіч** (1909–1991), вайсковы і грамадскі дзеяч. З пачаткам нямецкай акупацыі кіраваў аддзелам забеспячэння Менскай управы і менскай паліцыяй. У 1941–1943 гг. выконваў абавязкі інспектара дапаможнай паліцыі прыфрантавой зоны групы армій "Цэнтр". Браў актыўны ўдзел у беларускім руху, удзельнічаў у паседжанні, на якім было абвешчана аб утварэнні аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы, Царкоўным саборы, Другім Усебеларускім кангрэсе. Быў адным з лідараў Беларускай незалежніцкай партыі. Ва Усходняй Прусіі служыў у дэсантным батальёне "Дальвіц", які займаўся падрыхтоўкай дыверсійных сілаў дзеля барацьбы з савецкай уладай. Ад кастрычніка 1954 г. прызначаны прадстаўніком БЦР у ЦК Антыбальшавіцкага блоку нацый (АБН). У 1954 г. узначаліў Беларускі вызвольны фронт. Жыў у Штутгарце. Пакінуў кнігу ўспамінаў "За вольную і суверэнную Беларусь" (Вільня, 2006).

[359] **Уладзімір Тамашчык** (манаск. **Васіль** 1900–1970), рэлігійна-грамадскі дзеяч, архіепіскап БАПЦ. З пачаткам Другой сусветнай вайны жыў у Беластоку. Быў наменікам рэдактара газеты "Новая дарога", працаваў у Беларускім камітэце. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Быў абраны старшынёй Беларускага цэнтральнага камітэта — галоўнай арганізацыі беларусаў у Нямеччыне ў 1945–1947 гг. У 1948 г. пастрыгся ў манахі пад імем Васіль, а ў 1949 г. вышэйшымі іерархамі Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ўзведзены ў сан епіскапа Беларускай



Касяка[360], Калубовіча, Шчаглова і г. д. Дыктатура войска. Родзька зусім не прызнае Астроўскага. Кажа, што ён зусім не выбіраны народам, а пастаўлены немцамі, што кангрэс, які яго зацьвердзіў, скакаў пад нямецкую дудку. Што Прэзыдэнт кампрамітуе сябе, сабраўшы навокал розных Нэронскіх[361] і Плескачэўскіх[362]. Што Езавітаву трэба не гэнеральстваваць, а матылёў лавіць. Будуць адклікаць назад

аўтакефальнай праваслаўнай царквы. У 1951 г. пераехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Узначальваў епіскапат БАПЦ у Паўночнай Амерыцы.

[360] **Іван Касяк** (1909–1989), грамадскі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі ўваходзіў у склад Цэнтралі БНС, актыўны прыхільнік абвяшчэння аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы, адзін з арганізатараў Царкоўнага сабора БПЦ у 1942 г. У 1944 г. наменік прэзідэнта БЦР на Глыбоцкую акругу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне адзін з кіраўнікоў Беларускага праваслаўнага аб'яднання. Не прызнаў аднаўлення БАПЦ пад кіраўніцтвам Сергія (Ахатэнкі) і аднаўлення Рады БНР пад кіраўніцтвам М. Абрамчыка. У траўні 1948 г. узяў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР, у 1948–1951 гг. узначальваў Сакратарыят БЦР. У 1949 г. выехаў у ЗША. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, затым ад 1978 г. — у Рывер-Форэсце (Ілінойс). Аўтар кніг "З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу" (1956), "Byelorussia: historical outline..." (1989), "Другая сусветная вайна на Беларусі і паваенны час" (выдрукавана ў кнізе "Беларусь учора і сяньня", Менск, 1993).

[361] **Іван Няронскі** (**Наронскі**, 1909–?), ад'ютант Р. Астроўскага. У 1941–1944 гг. памочнік Астроўскага падчас працы ў Бранскай і Смаленскай адміністрацыях, у 1944 г. — яго ад'ютант і шафёр, выконваў даручэнні. Пасля капітуляцыі Нямеччыны жыў у Браўншвайгу (Ніжняя Саксонія).

[362] **Анатоль Плескачэўскі** (1911–1980), грамадскі дзеяч. У 1940–1942 гг. жыў на тэрыторыі Літвы. У 1944 г. — ад'ютант Р. Астроўскага. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Працаваў у сакратарыяце БЦР у Берліне. У пасляваенны час вучыўся ва ўніверсітэце *UNRRA* ў Мюнхене, потым — ва Украінскім тэхнічна-сельскагаспадарчым інстытуце на спецыяльнасці "ветэрынарыя". У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у штаце Нью-Джэрсі.

Сэляхаў[363], Комараў[364] і г. д. Наагул хацелі выкінуць усіх старых радных, але падчас схапіліся й пакінулі для праслойкі двух "усходнікаў" — Калубовіча й Шчаглова.

Ад усяго гэтага робіцца вялікая галава. Трэба да ўсіх навін дадаць, што іх паведаміў Рыжы[365].

Ямо дрэнна. Нашае афіцыянткі няма. Былі ў кіно. Дрэнь безнадзейная. *"Floh im Ohr"*[366].

[363] **Вячаслаў Сэлях** (на эміграцыі **Качанскі**, часам пісаўся **Селях-Качанскі**, 1885–1976), оперны спявак, тэатральны і грамадскі дзеяч. У 1943 г. вярнуўся ў Беларусь з Ленінградскай вобласці, працаваў кіраўніком аддзела культуры і мастацтва пры БНС, потым узначальваў аддзел культуры ва ўрадзе БЦР. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне стварыў тэатральна-мастацкую групу "Жыве Беларусь", з якой гастраляваў па беларускіх асяродках. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі).

[364] **Анатоль Комар (**1902–?), грамадскі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у менскай гарадской управе, пасля смерці В. Іваноўскага ў снежні 1943 г. прызначаны начальнікам (бурмістрам) Менска. 5 красавіка 1944 г. прызначаны намеснікам БЦР на горад Менск. Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэса. З лета 1944 г. на эміграцыі, браў удзел у берлінскіх пасяджэннях БЦР, выступаў за супрацоўніцтва з Уласавым, увайшоў у Беларускі камітэт пры Камітэце вызвалення народаў Расіі. Пасля вайны эміграваў у Канаду.

[365] **Уладзіслаў Рыжы-Рыскі** (псеўданім **У. Сноп,** 1925 (?) –1978), грамадскі і рэлігійны дзеяч. У гады Другой сусветнай вайны працаваў у структурах БНС у Глыбоцкай акрузе, быў сакратаром аддзела моладзі БЦР. Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэса. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, потым вучыўся ў Лювенскім універсітэце (Бельгія). На пачатку 1950-х выехаў у Рым, дзе нядоўгі час вучыўся ў Папскім універсітэце. Адтуль перабраўся ў Мадрыд, дзе заснаваў фантомны Інстытут беларусаведы імя Л. Сапегі. У 1958 г. выехаў у ЗША, дзе вучыўся ў Прынстанскім універсітэце. Заснаваў уласную рэлігійную структуру "старакаталіцкую субожню" і ад студзеня 1960 г. усклаў на сябе абавязкі апостальскага візітатара для беларусаў-каталікоў.

[366] ***"Floh im Ohr"*** (ням.) — "Блыха ў вусе" — нямецкая кінакамедыя 1943 г.



*23.3.45*

*Je suis, tu es, il est, elle est, nous sommes, vous setes, ill sont, elle sont*[367] — зубру я французкія пачаткі. Цяжка даецца! Але покуль ёсьць час і кніжкі, чаму не павучыцца?

За гэтыя дні сабралося трохі навін.

1. Пытаньне памешканьняў. Пазаўчора дастаць паперак, аб якіх я казаў вышэй, не ўдалося. Шэсьць разоў хадзіла Н. А. у *NSV*, шэсьць разоў перашкаджаў ёй алярм. Усё-ж учора трымалі іх у руках. Тры вёскі недалёка ад Гіршаў, а адна *Mitbach* — чацьвёртая станцыя ад Амбэргу ў тым-жа кірунку. Апошнюю паперку Н. А. захавала ад іншых з тым, каб мы з Уладзікам праехаліся на мейсца і паразьнюхалі, чы ня выйдзе што для нас. Сяньня, ня гледзячы на алярмы і яшчэ раз алярмы, а палове другой мы сядзелі ў вагончыку цягніка-самаварчыка. Званок, сьвісток, і замільгалі ў вакне знаёмыя будынкі, вуліцы, цэрквы. Дарога аднакалейная, цягнічок крошачны, надвор'е цудоўнае — настрой... нічога.

Пасьля хвілін дваццаці мелкай трасухі мы апынуліся на "вакзале" — *Mitbach*. Выгляд будынку такі-ж, як добра памятнага *"Kemnitz"*. Навокал палі ўперамежку з пакрытымі лесам узгоркамі. Пад адным зь іх кучка домікаў — вёска. Пад другім — некалькі зялёных баракаў, флягшток, будка вартавога. Вартавы ў форме *RAD*[368]. Між лягэрам і вёскай уецца дарога, што зьнікае хутка за бліжэйшым хвойніку. Аглянуўшыся яшчэ раз на

[367] Пададзены парадак скланення дзеяслова быць *"être"* ў французскай мове: я ёсць, ты ёсць і г. д.

[368] ***RAD** (Reichsarbeitsdienst)* — Імперская служба працы — арганізацыя ў Трэцім Рэйху у 1933–1945 гг., якая адказвала за выкананне грамадзянамі Нямеччыны абавязковай працоўнай павіннасці.

мультыплікацыйны цягнічок, кіруемся разам з “натоўпам” пасажыраў. Вёска кідаецца адразу ў вочы брудам і няўтульнасьцю. Пытаемся ў нейкай дзяўчыны, дзе жыве бургомістр. Па страшэннай вуліцы, не — пародыі на вуліцу, брыдзем да беленькага будынку, на каторым чытаем шыльд — *“Wohnung des Bürgermeisters”*[369]. У глыбіні вялікага двара працуюць дзьве жанчыны, якія, ясная рэч, зачынены, і, азіраючыся ва ўсе бакі, (*Scharfer Hund*?) ідзем да цётак.

*Burgermeister* — стары хрыч, выглядае, як і яго вёска. Калі я адрапартаваў, што мы бэрлінцы й прыехалі сюды ў справе памешканьня, бедны струсіў і пачаў неяк незразумела дзеяць. Высьветлілася, аднак, што ён прыняў нас за кантролю памешканьняў чы рэвізыйную камісыю. Даведаўшыся, што мы ўсяго толькі шукаем памешканьня, гэты правінцыяльны тып прамармытаў нешта аб *“Alles belegt”* і яшчэ шмат іншых абсалютна незразумелых словаў. Мы разьвіталіся.

Дарэчы сказаць, што перад высокай адміністрацыяй мы гаварылі з простай бежанкай. Абагаціліся, ведаю аб тым, што ў *Jasthaus*’е[370] сьпяць 20 бежанцаў. Значыць, пытаньне жыльлёвае — безнадзейнае. Аднак гэта абсалютна не падзеіла на нас у дрэнны бок — наадварот. Цэлае шчасьце, што ня будзем жыць у гэтым балоце!

Па далёка ня точных падліках, наш самаварчык будзе ехаць назад праз паўтары-дзьве гадзіны. Што рабіць!? Вырашылі зайсьці ў *Jasthaus*, можа ўдасцца перакусіць. Але дзе! Нават піва няма. Сонечны гадзіньнік паказваў палову трэцяй, калі мы выйшлі з *Mitbach*’у. Паглядзелі трохі на спартыўныя

[369] *“Wohnung des Bürgermeisters”* (ням.) — “Дом бургамістра”.
[370] Маецца на ўвазе гатэль (ням. *gasthaus*).



практыкаваньні службоўцаў працы й папаўзьлі, высунуўшы ад сьпякоты языкі, да станцыі. Час да прыходу цягніка мог бы спаборнічаць зь ім у хуткасьці (самаварчык спазьніўся на 15 хвілін). Мы й курылі, і ляжалі, і хадзілі… Заўважылі вярбу. Уладзік наламаў галінак, пакрытых прыгожымі “коцікамі”. Калі на небасхіле зьявіўся наш сродак зносін, я ўспомніў аб небясьпецы сустрэчы з Калубовічам і Чэмярысавай. Справа ў тым, што А. Ф. паехаў сяньня ў Гіршаў у справе памешканьняў, Чэмярысава-ж — на рэпэтыцыю.

Ясна, што як мы ні варажылі, трапілі ў адзін вагон, дзе сядзелі яны. Проста цудам нас не заўважылі. Да бліжэйшага прыпынку ехалі на пляцоўцы, а там другім бокам драпанулі да іншага вагону.

2. Афіцыянтка наша “скончылася”. Па нейкім прычынам выехала на вёску. На разьвітаньне далі ёй 10 марак на чай. Прыслужвае цяпер іншая — мілавідная блёндынка. Дзеля завязваньня знаёмства зь ёю далі ёй за два штамы тры маркі.

3. Былі ў кіно. Глядзелі *“Fasching”*[371]. Аказваецца, я бачыў гэты фільм у *Soldatenkino* у Менску.

4. Немачка з *NSV* наведваецца да нас. Прынесла некалькі кніжачак чытаць.

5. У дывізыі 25 сакавіка — вялікае сьвята. Будзе Прэзыдэнт са сьвітай, Гэнэрал Езавітаў. На канцэрце прыймуць удзел Чэмярысава і нашая маці[372]. Калубовіч будзе прамаўляць.

6. Галку прымушаны былі аддаць у шпіталь. Лекар піша: *Verdacht auf akute osteomyelitis*[373].

[371] ***“Fasching”*** (ням.) — “Карнавал” — нямецкая кінастужка 1939 г.
[372] Маецца на ўвазе Наталля Арсеннева.
[373] *Verdacht auf akute osteomyelitis* (ням.) — падазрэнне на востры остэаміеліт.

7. Уладзіку замест старых прыслалі з Гіршаў зусім новенькія салдацкія чаравікі. А цяпер ён атрымаў павешчаньне на дзьве пары *leichte Strassensuchue*. Шанцуе чалавеку.

8. Першы раз мыў бялізну. Дзьве пары шкарпэтак і анучы.

9. Падаў у *Wirtschaftsamt*[374] прашэньне на адзеньне і чаравікі. Чакаю вынікаў.

*25 сакавіка.*

Учора днём Калубовіч, Яня, Чэмярысава і нашая маці паехалі ў Гіршаў. У пакоі ціха й пуста. Надвор'е цудоўнае. Цэлы час гудзяць алярмы. Пад час аднаго зь іх над самымі стрэхамі Амбэргу праімчаліся шэсьць варожых штурмавікоў тыпу з двума фюзэляжамі. Ніколі яшчэ ня бачыў варожых машынаў так нізка, так блізка.

Па абедзе пайшлі да Віці. Мусіць быць гатовая мая новая вопратка. У хаце быў толькі Віця. Меў табак, добра пакурылі. Куртачка мая ўжо гатовая, няма толькі гузікаў і пэтляў. У нас былі білеты ў кіно, і мы сьпяшаліся на вячэру. Але на выхадзе нас затрымалі. Доктар з жонкай і з цешчай вяртаўся дамоў. Зазвалі нас яшчэ раз наверх, паабяцаўшы пакарміць вячэрай. Цудоўна пахла смажаным салам, і ў салодкіх думках аб смачнай бульбе мы рэзаліся да шостай гадзіны ў дурня. Засталіся ў сапраўдных дурнях. Калі мы з ветлівасьці прыпомнілі, што мусім ісьці, нам сказалі: *"Ідзіце, ідзіце, а то спозьніцеся"*. Ледзь пасьпелі павярхоўна ўкусіць у дурной. Глядзеў ізноў *"Abenteuer im Grandhotel"*.

*27 сакавіка.*

Ужо каторы раз да нас наведваецца лэйтэнант

[374] *Wirtschaftsamt* (ням.) — дырэкцыя.



РОА, той, каторага бачылі ў сталоўцы. Прынёс трохі махоркі, кніжак. Пазычаў патэфон.

Нашыя, прыехаўшыя з Гіршаў (першая партыя) расказвалі, як там было. Раніцою выстраіліся на краю лесу нашыя войскі. Прыгожа веялі над імі беларускі і эсэсаўскі сьцягі. Усіх вітаў камандзір дывізыі *Siegling*[375], потым наш Прэзыдэнт — Астроўскі.

У горадзе адбыўся парад. Перад упрыгожанай трыбунай прайшлі агнямётчыкі, зьнішчальнікі танкаў і шмат, шмат іншага. Тут-жа нашыя былі запрошаныя на ўрачысты абед. Пры стале адбылося знаёмства з усімі вышэйшымі чынамі дывізыі. Карысьць ад гэтага знаёмства перавысіла ўсе чаканьні. *Siegling* дазволіў нам пасяліцца ў забароненай зоне.

*7 красавіка*

Шмат часу прайшло ад таго разу, калі я трымаў у руках гэты сшытак. Шмат падзеяў гураганам пракаціліся над белым сьветам, пакідаючы на ягоным абліччы больш чы менш прыкметныя сьляды.

Мы, як і раней, валяемся на сеньніках, што зрабіліся ад вечнага ляжаньня проста блінамі. Цяжка прыпомніць цяпер усё па парадку, але так, па сьпіску, можа нешта й выйдзе?

1. У Вялікі Чацьвер чы пятніцу нечакана прыехаў наш бацька![376] Прывёз падарункі. Мне дасталіся старыя боты й вайсковыя порткі-галіфэ, каторыя я цягаю цяпер. Расказваў бэрлінскія навіны, але больш усё тое, аб чым мы ведаем.

[375] **Ганс Зіглінг** (1912–1975), нямецкі афіцэр, камандзір 30-ай грэнадзёрскай дывізіі Вафэн СС (1-ай беларускай), што існавала ад жніўня 1944 г. да красавіка 1945 г.

[376] Маецца на ўвазе Франц Кушаль.

2. У Эгер[377] да цёткі паехала Галя[378]. Чакаем яе са дню на дзень.

3. Сустракалі Вялікдзень (ясна, каталіцкі). Хадзілі на рэзурэкцыю да Сьв. Марціна. Разгаўляліся ў *Bahnhof Hotel*, дзе маці з бацькам зьнялі пад час сьвятаў нумар. Паелі добра й нават выпілі. *“Habb und Habb”* зваўся лікёр, што давалі ў Бэрліне.

4. Атрымаў замест рабочых чаравікоў цудоўныя жоўтыя *Strassenschue* і тое-сёе дастаў з *Volksopfer*’у. Даўжэйшы час нашу новую камізэльку.

5. Некалькі вечароў правёў над вывучэньнем працы з лёгарытмічнай лінейкай. Кіраваў мною Гаўрыла Вас. чы Вас. Гаўр.

6. Часта наведваецца Нікалай (лейт. РОА). Носіць кніжкі. “Все проходит” Краснов, “Тайна Соловков” Б. Солоневича[379], “Страдные годы” Лифарь[380], “Большие дороги” Веймар, сборник “Новое Слово” за 1910 г. — літаратура, каторай бавімся.

[377] **Эгер** (*Eger*), чэшск. **Хеб** (*Cheb*) — сёння невялікі горад у Чэхіі, на заходняй мяжы Чэхіі і Нямеччыны.

[378] *“З цёцяй Барбарай я разгубілася. Цяпер яна ўжо ня ведала, дзе я. А ейная тэлеграма была без зваротнага адрасу. Дапамог выпадак: да Натальлі Арсеньневай і ейнага мужа Францішка Кушаля прыехалі знаёмыя й сказалі, што ў чэскім горадзе Эгеры (Хеб) яны спаткалі беларускую групу “Жыве Беларусь”, якая затрымалася там у гатэлі “Барбароса”. Я вырашыла паехаць туды шукаць цёцю. Знаёмыя не хацелі мяне адпушчаць, але я іх не паслухала. У Баварыі былі дазволы на цягнік, але білеты прадавалі толькі на 100 кілямэтраў, а ехаць мне трэба было кілямэтраў чатырыста. Праедзеш сто кілямэтраў, выйдзеш зь цягніка, купіш білет на наступныя сто кілямэтраў. Цягнік, пэўна-ж, пайшоў далей. Перад касамі вялікія чэргі. Тады чакаеш на наступны цягнік. Раскладу ніякага ня было”.* (Руднік, Галіна. Птушкі пералётныя. Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2011. С. 70.)

[379] **Барыс Саланевіч** (1898–1989), пісьменнік, грамадскі дзеяч, малодшы сын ідэолага заходнерусізму Лук’яна Саланевіча.

[380] **Сяргей Ліфар** (1905–1986), саліст групы Дзягілева “Рускі балет”.



*11 красавіка.*

Пішу, лежачы ў ложку, хоць яшчэ толькі 8–ая гадзіна. Ложыцца і Ўладзік. Мы абодва так стаміліся за гэты пракляты дзень…

Учора ноччу прыехаў з Бэрліну “бацька”. Сяньня ён мусіў трапіць у Гіршаў і папрасіў нас памагчы цягнуць рэчы. Ня столькі рэчаў (чамадан і тэчка), сколькі прыемнасьці праехацца ў славутую вёску.

І вось, устаўшы рана й зрабіўшы ўсё па гаспадарцы, рушылі на станцыю. Цягніка няма, хоць ужо час яму адыходзіць. Раптам зьявілася на небасхіле два самалёты (*Tiefflieger*). *Toralarm* быў даўно, трывогі няма. Але паводзіны летуноў падазроныя. Публіка разсыпалася, хто куды. Мы апынуліся ў пераходзе з пэрону на пэрон, а бацька на першай пляцформе. Між тым самалётаў зрабілася восем. Нам надакучыла тырчэць унізе, і мы крануліся ўверх да бацькі. Не пасьпелі мы й носа высунуць, як тра-та-та-там…. і пачалося. Самалёты круціліся, як карусэль, стралялі з кулямётаў, пікіравалі, і ізноў над нашымі галовамі ляскалі кулі. Толькі адляцелі адны, зьявіліся другія.

*15 красавіка.*

Раніцою Калубовічы пацягнуліся да “*Paradies*’у”. Шчагловы ўжо трэці дзень жывуць недзе ў лесе. Лучнасьць трымаюць праз беднага Віктара.

Холад стаіць сабачы. Надвор’е вар’яцкае. То ўсё неба зацягне вялізарнай хмарай, то на блакіце зьзяе золатам сонца.

А палове дзявятай прыблізна *Toralarm*. Цэлы час чуваць вельмі блізкую страляніну. Аж вокны калоцяцца. На сэрцы трывожна. Усё-ж купілі білеты на “*Die Sache mit Stick”*[381]. Няма пры касе ні аднаго чалавека.

[381] *“Die Sache mit Stick”* (ням.) — “Рэч з вышыўкай”.

*20 красавіка.*

Пішу, седзячы ў двары сховішча, што каля дурной. Недзе гукаюць бомбы чы кананада. Самаходсырэна, што езьдзіць па горадзе з прычыны адсутнасьці сьвятла, даў нядаўна алярм. Уладзік пайшоў дамоў, мае-ж нэрвы адмаўляюцца вытрымліваць бясконцы гул нязьлічоных самалётаў. Кажуць, учора зьмяшалі з гразёю Гіршаў. Яшчэ большы неспакой на сэрцы. Чы доўга яшчэ патрывае так. О, Божа!

*22 красавіка.*

Ноч прайшла добра. Праўда, Уладзік расказваў, што пасьля кожнага новага выбуху блізкай кананады нехта ўскокваў і крычэў: *"Апранайцеся!"* Але я спаў надзвычайна, ня чуў анічога. Калі раніцою пайшлі мыцца, ля дзьвярэй свайго памешканьня стаяў *Hausmeister* з жонкай і трывожна аб нечым раіліся з *Frau Kircher*. Калі зьвярнуліся да нас і расказалі, у чым рэч, мы разінулі рты ад зьдзіўленьня, і сэрцы забіліся, як у агоніі.

Амберг абʼяўлены адчыненым горадам. А 9-ай гадзіне раніцы ў горад увойдуць войскі аліянтаў. Перад гэтым адбудзецца апошняе набажэнства. Забаронена ад 6-ай гадзіны выходзіць на вуліцу. Уначы немцы ўзарвалі некаторыя абʼекты. Пры гэтым шмат дамоў у раёне *Ziegeltor* паляцела ў паветра. Часткі *SS* ня хочуць здавацца і стаяць навокал гораду.

Прыйшла дзевятая гадзіна, а нічога не перамянілася. Некуды лёталі нашыя жанчыны і бачылі, што ў *Malteser*'ы раздаюць цыгары, табак і г. д. Што рабілася, ня варта апісваць. Вядома, "грабілаўка". У выніку ўсяго Ўладзік дастаў скрыначку (300 шт.) цыгар.

Наступным нашым рэйдам быў налёт на склад кансэрваў. Гэта далёка ззаду *Deprag*. Калі мы зьявіліся, усё было вычышчана. Ад злосьці пагулялі ў футбол пустымі картонкамі. Раптам бачым, стаіць пасярод пустога залю жанчына ў вакружэньні трох скрынак. Мы падʼехалі да яе. Прышлося нам цягнуць возік аж да *Marktplate*[382], але на нашай вуліцы ў нашую карысьць была згружана скрыня (24 банкі) надзвычайнай мармэляды.

З далейшых прыгодаў трэба прыгадаць падарожжа ў аддзел харчаваньня войска, што знаходзіцца далёка за горадам. Пасьля доўгіх мучэньняў і перажываньняў мы з Влодкам прынесьлі па скрынцы кансэрваў.

Вечарам была салідная перастрэлка. Казалі, што адна граната разарвалася на базарнай плошчы. Ноч, аднак, прайшла спакойна. Спалі, не распранаючыся.

*23 красавіка.*

Ура-а-а! Яны ўжо тут!!!

Ад людзей даведаліся, што танкі 7-ай амэрыканскай арміі стаяць на базарнай плошчы. Спачатку не адважваліся, а потым пайшлі глядзець вызвольнікаў.

На пустой галоўнай вуліцы выстраіліся ў тры рады (па ходніках і па сярэдзіне вуліцы) амэрыканская інфантэрыя. Трэба сказаць, што нямецкія перадавыя атрады выглядалі прызваіцей ад амэрыканцаў. Залёныя камбінезоны, нязграбныя, накшталт савецкіх, каскі, няголеныя твары самых розных характараў... Але радасьць, радасьць... Падумаць, што больш ня будзе ніякіх трывогаў, ніякі чорт ня скажа табе — *Auslander*. Вельмі шмат нэграў.

Дастаў порткі, банку сыру й дзьве пушкі ваксы.

[382] Магчыма, маецца на ўвазе ***Marktplatz*** — рынкавая плошча.

Вярнуліся Шчагловы, і адразу наш пакой напоўніўся крыкам і трэскам "трохствольных кулямётаў".

*24 красавіка.*

Пішу пад парамі алкаголю. Насупраць нас разьбілі склад віна. Мы прынесьлі бутэлек з 30 вэрмуту!!!!

Брыдка глядзець, як разыгрываюцца зьвярыныя інстынкты ў людзей. Чэмярысава прыпёрла з Дзюнікам цэлую скрынку гарэлкі. Усе рукі ў крыві. Жах.

*8 мая.*

Два тыдні не кранаў майго алавіка. Але набралася так шмат цікавага, што больш маўчаць будзе злачынствам.

Я ляжу на ложку, усе косьці ныюць. Гэта разьлік за падарожжа ў Гіршаў. У апошні раз, калі амаль усе нашыя акторы[383] былі ў нас, мы атрымалі запросіны да іх на Вялікдзень.

У сыботу, як на зло, ішоў дождж. Усім хацелася ісьці, і ўсе сачылі за кожным парывам ветру, за кожнай

[383] *"Цёця* [Барбара Вержбаловіч] *даведалася, што на Інвалідштрасэ ёсьць арганізацыя "Вінэта", якая набірае артыстаў (сьпевакоў, танцораў, музыкаў), арганізоўвае тэатральныя групы, якія маюць даваць канцэрты ў лягерах для прымусова вывезеных людзей ("остаўцаў"). У "Вінэце" вельмі прыхільна паставіліся да цёці і да трох танцорак Менскага тэатру, зь якімі яна туды прыйшла. Справа ў тым, што рускіх групаў ужо было некалькі, украінскіх таксама, а беларускай не было ніводнай. Да іх далучыўся актор Аўген Кавалеўскі й рэжысэр Іван Кір'янаў з жонкай Зінай (ён — рускі, яна — беларуска з Барысава). Не ўдалося ўкамплектаваць групу выключна беларускімі артыстамі, а таму яе дапоўнілі артыстамі рускімі з умовай, што рэпэртуар мае быць выключна беларускі.* […] *Цяжкія баставіны вельмі зблізілі ўсіх артыстаў беларускай групы, якую назвалі "Жыве Беларусь"* (Руднік, Галіна. Птушкі пералётныя... С. 61, 63).



хмаркай, што прабягала па алавянаму небу. Нам з Уладзікам так хацелася выбрацца з нашага балагану, што зрызыкаваўшы з матчынага бурчаньня, мы нагрузілі партфэль і а другой гадзіне рушылі ў паход.

Дожджык ледзь крапіў, а калі мы выйшлі за горад, сьціх зусім. Настрой цудоўны. Хадакі мы нядрэнныя, аж самі дзівіліся. Кілёмэтры толькі мільгаюць. Ад нуды палічылі, колькі крокаў мае кілёмэтр — 1100. Хутчыня — 6 км. у гадзіну. Надзвычайная дарожка, асфальт. А ваколіцы! Я рота не зачыняў ад захапленьня.

Пад канец пачалі здаваць ногі. На чатырнаццатым кілёмэтры здорава пыхцелі. Але а чацьвёртай гадзіне мы былі ля мэты нашага падарожжа.

Дзевяць баракаў выстраілася навокал пляцу з флагштокам пасярэдзіне. З аднаго боку лягэру чыгунка, з другога — возера, лес і палі, палі…

У браме нас спаткаў "капітан". Празь некалькі хвілін мы сядзелі ў пакоі капітана і з асалодай дымілі. Прыйшоў Кір'янаў[384] і пагнаў нас мыцца, покуль лазьню не захапілі бабы. Сваім зьяўленьнем прыемна зьдзівілі вясёлага качагара — Жэню[385]. Памыліся надзвычайна, хоць з душаў лілася то халодная вада, то кіпяток, і ў прадбаньніку была тэмпэратура ніжэй нуля.

[384] **Іван Кір'янаў**, рэжысёр групы "Жыве Беларусь". *"У нашага рэжысэра Кір'янава было двое дзяцей: васьмігадовая дзяўчынка і чатырохгадовы хлопчык. Зь імі паехалі ў Вольфан цешча Кір'янава і ейны неафіцыйны муж, паляк. Чаго толькі гэтыя бедныя бацькі ні прадпрымалі, каб знайсьці сьлед дзяцей пасьля вайны. Яны зьвярталіся ў Чырвоны Крыж і ў розныя міжнародныя арганізацыі. Вынікаў ня было ніякіх. У 1946-м годзе Кір'янаў з роспачы павесіўся на дрэве ў Рэгенсбургу, а жонка Зіна хварэла шмат гадоў на сухоты. Вылечылі яе ў санаторыі ў Швэцыі"* (Руднік, Галіна. Птушкі пералётныя... С. 66–67).

[385] Маецца на ўвазе Аўген Кавалеўскі.

Жэня пераняў на сябе апеку над намі. За чарговай закуркай мы пачалі аглядаць. Ну і жывуць-жа людцы! утульныя пакойчыкі простыя, але ложкі! канапкі, шафы і г. д. *Unterwegs* даведаліся, што Жэнька ўчора парваў са сваёй жонкай і, па ягоных словах, цяпер ужо назаўсёды.

Здаецца, сядзелі мы за сталом і пёрлі надзвычайную бульбу з ня менш надзвычайнай капустай, калі, прыпадкова азірнуўшыся, убачылі на небасхіле знаёмыя фігуры нашых шлёпаўшых з стараньнем па лужах. Чэмярысава, Туся, маці, Калубовіч, Яня, Юлька і... ўсё? Але Дзюніка й Шчаглова так і не дачакаліся. Пазьней даведаліся, што яны дастаўшы сілком яшчэ бутэльку гарэлкі (разам 3), вырашылі застацца дома.

Потым хадзілі з візытамі, лазілі па ўсім лягеры, аббіваліся каля дзяўчат на кухні, а калі а 10-й гадзіне згасла сьвятло, у нашым пакоі сабралася кампанія ачкістаў у складзе капітана, Кір'янава, Жэні й нас. Гульня зацягнулася далёка за поўнач, як пішуць у раманах. Пачаўшы з пяці марак, я хутка меў перад сабой кучу грошай, марак 300, каторыя і спусьціў да канца.

Класьціся спаць было-б глупа, і мы, расьпіўшы бутэлечку мальвазіі, закусіўшы, сталі баўтаць аб розных рознасьцях. Між іншым, Жэнька расказаў гісторыю сваёй "Верки". Ну і авантурыстка!!!

А гадзіне прыблізна пятай сон усё-ж такі даканаў нас. Заснулі дзе хто. Я ляжаў на касьцістых жэнькавых каленях, Ромка[386] на мне, а Ўладзік расьцягнуўся на ложку.

За сьнеданьнем трошкі выпілі, а потым усё пайшло, як па маслу. Ад хрыстасаваньня аж губы забалелі. Так прабадзяліся да абеду.

[386] Маецца на ўвазе **Раман Кавалеўскі**, брат Аўгена.



Гэтая ўрачыстасьць адбывалася ў вялікай сталоўцы за прыгожа ўбраным Вялікодным сталом. Каля кожнага прыбору стаяла картачка з прозьвішчам. Я хутка знайшоў сваё ў абкружэньні незнаёмых і быў страшэнна ўзрадаваны, калі маёй суседкай зправа аказалася "Лили" — дачка Вэры Міхайлаўны. Здаецца, расцалаваў бы таго, хто ўгадаў мае думкі.

Абед быў добры. Капусьняк і катлеты з бульбай, потым кава. Еў мала. Зьнік апэтыт.

Па абедзе пачалося самае прыемнае. Танцавалі, гулялі ў жмуркі, трэці лішні, мігалкі, залатыя вароты, сапсуты тэлефон і г. д., танцавалі ізноў. У прамежках нашыя акторы паказвалі свае здольнасьці. У фантах Уладзіку прышлося пяяць "Утомленное солнце"[387], мне — мычаць па-казьлінаму і ўяўляць жабрака з торбай. Торбай была Лили.

Вясельле скончылася а гадзіне першай. Неахвотна разыходзіліся госьці. Між іншым, былі два амэрыканцы, прыпадкова зайшоўшыя. Яны прымалі ўдзел ува ўсіх гульнях і частавалі нас цыгарэтамі.

Вячэралі мы ў Кавалеўскіх. Спаць страшэнна не хацелася. Пяялі пад вакном у дзяўчатаў сэрэнады. Заглянулі на вагенчык да Галачкі. Яна была з Юлькай у ложку, а перад імі на стале стаяў "Напалеон". У хуткім да нас далучыліся "капітан" і Іра. Потым прыйшла гаспадыня, і ўсё-ж мы дасталі па кавалку. Спаць ляглі прыблізна а трэцяй.

Надвор'е надзвычайнае. Дзеля гэтага цэлы час праводзілі на двары. Гулялі ў валейбол. Я быў чы прынамсі стараўся быць з Лилей.

Пасьля таго, як Жэнька выйграў у шашкі ў Калубовіча, а Ўладзік у Кір'янава ў шахматы, было

[387] **"Утомленное солнце"** — песня на словы Іосіфа Альвека і музыку танга Ежы Пецярсбургскага (*"To ostatnia niedziela"*).

высьветлена, што ўжо час ісьці дамоў. Хуценька паабедалі й рушылі.

Няма сілаў далей пісаць падробна. Жара!

Некалькі разоў езьдзілі з *Fr. Kiroher* у лес па дровы. Маляваў учора ёй-жа падлогу.

Настрой маем дось добры, хоць цэлы час мучае неспакой за будучыню. *“Хоць-бы якая-небудзь вайнішка”*, — кажа наш інжынэр.

Між іншым, прыйшла сапраўдная вясна. Амбэрг зрабіўся ня горадам, а райскім селішчам. Столькі зямлі! А пагода! Неба, як сьлязінка. Горача.

Вясна дзеіць на людзей. У нашай скромнай школе адбываюцца дзеяньні цікавага раману. Галоўныя пэрсоны: Туся і... Дзюнік. Завязка, ведамая рэч, звычайная. Але якая будзе разьвязка? Чэмярысава рабіла скандал, настроіла супраць сябе ўсіх Шабуняў, але між гэроямі ніякіх пераменаў. Як мы даведаліся бокам, Дзюнік аб'ясьняўся ў каханьні, “ревновал” да мяне і г. д. Сярод старушак хадзілі мысьлішкі аб вясельлі. Дзюніку — 30 год. Тусі — 16.

*10 травеня.*

Пасьнедаўшы, гулялі. Сваімі вачыма чыталі распараджэньне аб дазволе хадзіць зь 6 да 9 г. Надзвычайна!

Каля вакзалу дагнаў нас Дзюнік. Стараюся гаварыць зь ім, як раней, хоць не магу адагнаць “презренье”. Пасядзелі трошкі на лавачцы, каля *Ziegeltar*, і рушылі дамоў.

Па абедзе прыехаў др. Станкевіч-рэдактар[388]. Ён у аўторак з *Eger*'у. Начаваў у нас.

[388] **Станіслаў Станкевіч** (1907–1980), грамадска-культурны дзеяч, літаратуразнаўца, публіцыст, крытык, выдавец. Падчас нямецкай акупацыі — бурмістр Барысава (1941–1943), намеснік прэзідэнта БЦР на Баранавіцкую акругу (1944). Дэлегат Другога Усебеларускага кангрэсa. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1944 – пачатку 1945 гг. у Нямеччыне рэдагаваў берлінскую газету “Раніца”. Быў актыўным прыхільнікам аднаўлення Рады БНР. Ад 1947 г. — радны БНР. Быў першым старшынёй Антыбальшавіцкага блока народаў (1946). У 1948–1962 гг. — рэдактар газеты “Бацькаўшчына” (Мюнхен). У 1963 г. выехаў у ЗША. Аўтар шэрагу навуковых літаратуразнаўчых прац, сотняў публікацый.



Молатаў[389] вылецеў у Сан-Францыска[390].

Божа! Дай вайну! Няхай палятуць у пекла бальшавікі.

У нас усе звар'яцелі на шашках. Турніры дзень і ноч. Нічога, пакрысе праігрываю.

*11 травеня.*

З прычыны таго, што ў нас ёсьць печка, жанчыны не даюць нам спакою з дровамі.

Сяньня “мы з братам” рушылі ў паход. Пачалося з таго, што мы праспалі. Выехалі ўжо па восьмай, і сонейка здорава прыпякала. Паехалі па незнаёмай дарозе. Урэшце зьявіўся лес, але перад ім дарога рабіла такі спуск, што ўсьцягнуць возік з дровамі наверх... Я вылаяўся і астанавіўся. Уладзік пайшоў на разьведку. У выніку набралі вазок хворасту. Покуль давезьлі, намучыліся страшэнна.

*15 маю.*

Ну, я быў у Гіршаў два разы і скора, здаецца, пайду ізноў. Вышлі мы а палове сёмай раніцы ў сыботу. На гэты раз надвор'е абяцала быць надзвычайным.

[389] **Вячаслаў Молатаў** (1890–1986), савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч, міністр замежных справаў СССР (1939–1949).

[390] У гэты час у Сан-Францыска адбывалася канферэнцыя Аб'яднаных Нацый.

*24.5.45.*

Учора гіршаўцы давалі канцэрт у Амбэргу. А чацьвёртай прыблізна гадзіне яны заехалі па нас, пры чым не забылі прывезьці сем банак капусты. Заля ўяўляла сабою вялізны будынак атарнага тыпу. Проста да сцэны можна ехаць самаходам. Сцэны, як гэтакай, няма — проста памост. Нам з Уладзікам прыйшлося застацца бяз працы — мы думалі адчыняць заслону. Канцэрт прайшоў з найвялікшым посьпехам. Тысячная аўдыторыя равела, сьвістала, топала, хлопала ў далоні так, што проста немагчыма было слухаць. Усяроўна, што сырэна раве над вухам.

*28.5.45.*

Падзеі мясцовага характару сыплюцца, як гарох з дзіравага меху. Ніяк не злавіць хвілінкі свабоднага часу.

У пятніцу Шчагловы вырашылі перабірацца ў Гіршаў. Меліся выкарыстаць для гэтай мэты самаход, што прыедзе па іх, каб забраць на канцэрт. Цэлы дзень пільнавалі з Влодкам самаходу. Урэшце, а гадзіне пятай, калі Чэмярысава ўжо распакавала свае клумкі, зьявілася Вэра Міхайлаўна. Грузіліся, шукалі Тусю, і ў канцы выехалі. Мы й Дзюнік ехалі ў Гіршаў, каб нешта памяняць. Ну, езьдзяць-жа амэрыканцы! Празь нейкіх дзесяць хвілін мы былі на мейсцы. Мамэнтальна разгрузіліся, мы нахалам улезьлі ізноў і паімчалі далей. Божа! Як мы ляцелі!!! Я згубіў свой аловак, Туся брасьлет. Сэрца поўнілася радасьцю (хутка ўбачу яе), грудзі — паветрам, усе стварэньне — захапленьнем хутчынёю. Імчаліся міма вёскі, хутаркі, сады… Праехалі праз агромністы палігон, разьбіты ваенны гарадок і спыніліся. Павялі нас вячэраць. Аб вячэры лепш не пісаць — сьлінкі цякуць. Пачаставалі цыгарэтай і шакалядай.



Павезьлі да ўсіх. Нас чакалі ў афіцэрскім будынку. Эх, і жылі-ж немчыкі!

Незадоўга павезьлі на канцэрт. Ізноў ехалі праз руіны, прабіраліся між вялізнымі варонкамі і нарэшце спыніліся каля вялізарнага складу амуніцыі. Канцэрт адбываўся ў адным з памешканьняў. Усё, як па маслу, посьпех добры. Толькі Валечка нейк ня тое са мной.

Пасьля канцэрту пілі каву і глыбокай ноччу адправіліся назад. Я сядзеў на лаўцы між Вілкай і Валяй. Апошняя нешта дулася на мяне. Хоць ты плач. Я проста ня ведаю, што рабіць. Калі яе ня бачу, страшэнна сумую, калі бачу — яна незадаволена, не такая, як бывала. А я проста рвуся, рвуся да яе…

Ноч амаль не спалі. Дзялілі прадукты, у пакоі дзяўчат сядзелі амэрыканцы. Валечка не магла быць сярод іх і выйшла на двор. Стаяў зь ёю некаторы час.

На заўтра раніцою ў лягэр прыехала некалькі амэрыканцаў, і сказалі, што замест немцаў у бараках размесьцяцца 80 салдат. Нашыя спачатку абрадаваліся, але калі пачалі прыбываць самаходы і людзі, што скора запоўнілі ўвесь двор, і падняўся страшэнны балаган — трошкі прысьмірэлі.

Мы шпілілі ў вочка, калі прыйшоў нехта і сказаў, што ўсе мусяць пакінуць лягэр. Мы выйшлі на вуліцу. Аказваецца, і праўда — загад амэрыканскага каманданта. Хацелі вывозіць зараз-жа, але адклалі на заўтра. В. М. паехала ў Амбэрг. Да маёра яе не дапусьціў жыдок, каторы падцьвердзіў загад.

Тымчасам начальніку роты, што размясьцілася ў лягэры, захацелася паглядзець, на што здольныя нашыя актары.

Дзюнік, Туся, Уладзя, Галя і я засталіся ў лягеры. Першая пара некуды змылася, а мы сядзелі ў жэніным пакоі. Спаць ізноў ляглі позна. Сядзелі ў

капітанавым пакоі і гулялі трох у ачко. Праіграліся ў дрызг. Пракляты палячышка не аддаў 200 марак.

Назаўтра актораў павезьлі ў лягэр, а мы пайшлі паціху дахаты.

*29.5.45*

Сяньня адпраўлялі братцаў дамоў. З нашых не маглі вытрымаць і паехалі Тамара з Філяй. Мы езьдзілі па дровы. Вечарам па дарозе на канцэрт акторы пакінулі ў нас Кір'янава. Прыходзіў доктар з сям'ёй і з навароджанай — Сьвятланай. Заўтра госьці разьвітваюцца з "Жыве Беларусь!" Туга, туга!

*30.5.45*

Раніцою хадзілі ў лягер праводзіць нашых. Панадавалі нам рознай рознасьці — ліха! Асабліва мне — Міленцьевы[391]. З Валей разьвітацца не ўдалося. Настрой паршывы. Прыехаў др. Станкевіч. Яны ўцяклі з *Eger*'у і знаходзяцца 5 км з Гіршаў. Сек дровы.

*6.6.45*

Грусть и тоска безысходная. Надвор'е цудоўнае. Настрой жудасны. Навінаў няма. Наймалі фр. Кірхэр. Не магу глядзець ёй у вочы. Дрэнна, ой, як дрэнна!

*11.6.45*

Мне 19 год. Першы дзень нараджэньня на эміграцыі. Раніцою, апрануўшыся па-сьвяточнаму,

[391] Магчыма, тут маецца на ўвазе сям'я **Алімпа Мяленцьева** (?–1964), кампазітар і дырыжор. Расеец па паходжанні, ён да вайны працаваў ва Украіне. У часе нямецкай акупацыі апынуўся ў Нямеччыне, дзе далучыўся да спеўна-танцавальнай групы "Жыве Беларусь!", разам з якой гастраляваў па лагерах. Па сканчэнні вайны ўдзельнічаў у працы Беларускага тэатра



пайшоў па пасьведчаньне. Нарэшце дастаў. Дома мужчыны сабраліся пілаваць дровы, але латышы перахапілі пілу й сякеру. Таму мусілі даўжэйшы час чакаць. Дачакаліся, зрабілі.

Уладзік пайшоў у лягэр па абед (мы цяпер там харчуемся), а я, сказаўшы Н. А., што сяньня мой дзень, адкупарыў бутэлечку мальвазыі. Тут пачаліся віншаваньні. З падарункаў дастаў жменьку табакі ад Э. І. і крават[392] ад Яні[393]. Уладзік павіншаваў мяне толькі тады, як убачыў віно на стале.

Пагода дрэнная, туга несусьветная. Прасіўся з кімнебудзь на прагулку — ніхто ня хоча.

Аўген Фёдаравіч[394] пачаў разьбіраць свае фатаграфіі. Вельмі цікава. На паховінах Іваноўскага тры разы знайшоў маму.

Пайшоў на спацыр сам. Вечарам нас паклікала фр. Кірхэр. Слухалі радыё.

Я вырашыў скарыстаць нагоду і неяк выклянчыць сабе падарунак (а ну-ж цыгары).

Уладзік з інжынэрам гулялі ў шахматы. Я, як заўсёды, глядзеў. Хутка пачалі зьліпацца вочы, і я лёг. Ігракі-ж сядзелі амаль да раніцы.

*15 чэрвеня 1945.*

У нас скончыліся ўсе тлушчавыя запасы. Жанчыны паднялі паўстаньне і, нагрузіўшы нас рознай дрэньню (порткі з *Volksopfer,* кофтачка, блюзка і жакет з Гіршаў), выправілі нас у паход па вёсках. Як мы ні артачыліся, прыйшлося ісьці.

эстрады, дапамагаў у арганізацыі беларускіх мерапрыемстваў у лагерах DP. Ягоная жонка Марыя, спявачка, удзельнічала ў беларускіх мерапрыемствах разам з ім. Пазней Мяленцьевы пераехалі ў ЗША, жылі ў Лос-Анджэлесе.

[392] **Креват** (ням. *krawatte*) — гальштук.

[393] Маецца на ўвазе Яніна Кахваноўская.

[394] Маецца на ўвазе Аўген Калубовіч (Каханоўскі).

Гэткім чынам, учора а палове сёмай раніцы кампанія мяняльшчыкаў у складзе нас дваіх і Калубовіча, пакінуўшы за плячыма Амбэрг, рушыла па шасэ на Гіршаў. Пагода — нішто сабе. Ідзецца добра. Перад самым Гіршаў спыніліся ў лясочку, каб пачакаць др. Станкевіча, каторы таксама выбраўся на раздабыткі, але з роварам. Неўзабаве пад'ехаў і ён. Абмеркавалі плян далейшага руху. Каля злога сабакі, па сенажаці, полем, выйшлі на лягэр.

Так хацелася завярнуць туды, дзе правялі столькі прыемных гадзінаў. Здавалася, што зараз убачым знаёмыя постаці актораў, але толькі янкі маячылі перад вачыма.

Возера ізноў ёсьць, толькі моцна абмялела. Выйшлі на дарогу, па каторай тады ехалі ў *Graferwohr*[395]. Станкевіч то ішоў з намі, то абганяў нас, а потым адпачываў, чакаючы, покуль мы прыйдзем. Ад Амбэру да мястэчка 21 км. Трошкі стаміліся. Мне рэзаў левы чаравік.

Першы блін як заўсёды, комам. У вёсцы з намі нават ніхто й гаварыць не захацеў. Доктару сялянка запрапанавала скарыначку хлеба, але ён не ўзяў. Вырашылі ісьці далей. Па знаёмай шашы дайшлі да вёскі *Sengast*. Ізноў бясконцае бадзяньне па хатах. Усяроўна, як той паяц перад праклятымі немцамі. Дастаем нешта, паказваем і выслухоўваем адказ: *"Jetzt nicht"*[396]. З нейкай бежанкай з Дусельдорфу абмянялі блюзачку на кавалачак масла. Больш нічога ня клеіцца. Настрой жудасны, ногі баляць.

Ох, ды што гаварыць! Зрабілі мы за гэты дзень кілёмэтраў 70. Ногі пасьціралі да крыві і прынесьлі дамоў дрэнь.

[395] ***Graferwohr*** — горад у вобласці Верхні Пфальц зямлі Баварыя, Нямеччына.
[396] *"Jetzt nicht"* (ням.) — "не цяпер".



*16.6.45*

Камандант лягэру сабраў сяньня ўсіх тых сваіх падданых, што не хацелі ехаць да бацькі, і сказаў ім наступнае: *"Я трымаў і бараніў вас, колькі мог. Цяпержа выйшаў новы загад аб звароце вас і вам падобных на радзіму. Вы мусіце ехаць. Гэта датычыцца ўсіх тых, што да 1939 г. жылі ў Саюзе"*.

У нас паўстае ціхая паніка. Ня хочацца думаць аб блізкай сьмерці. Але я не паеду!!![397]

Латыш нейкі, што быў надоячы ў Вюрцбургу, расказваў аб тамтэйшых парадках. Там сказалі ўсім грамадзянам краіны, *"где так вольно дышет человек"*, каб ехалі дамоў, бо хто на працягу двух тыдняў ня выедзе, будзе пазбаўлены аўтаматычна савецкага грамадзянства.

Што будзе?!

*25.6.45*

Цікавыя рэчы робяцца на гэтым сьвеце.

16.6.45 прыехалі з турнэ акторы. Панавезьлі абутку, адзеньня — страх! Мы (чы, можа, толькі я) перасталі хадзіць на пляж і прападаем у вясёлых людцаў. Яны рэпэтыруюць новую праграму. На пачатак яе ідзе ўступ (інтродокшэн), привет с поклоном.

[397] *"Быў канец красавіка 1945 году. Вайна падыходзіла да канца. Разьмясьцілі нас у школе, куды праз два дні зьявіўся нямецкі вайсковец у чыне капітана і сказаў нам: "Нямеччына на дарозе да капітуляцыі. Нямецкія войскі адступаюць, гэты рэгіён зойме, праўдападобна, француская армія. Вы, беларусы, а таксама ў іншых месцах украінцы і расейцы, разглядаецеся як нашы саюзьнікі, а значыць, калябаранты. Вас будуць выдаваць паводле Ялцінскае ўмовы (мы гэта чулі ўпершыню!). Дык вы ляпей падавайцеся на ўсход ды ідзеце, хто куды. Калі нямецкія ўлады змогуць вам чым дапамагчы — добра, пытайце дапамогі. Найляпей, аднак, — ідзеце далей на ўсход, магчыма, там будуць амэрыканскія войскі… Можа, выжывеце…"* (Кіпель, Яўхім. Эпізоды... С. 241–242).

Нешта накшталт рэв'ю. Я некалькі разоў быў на гэтай штуцы і штораз мэлёдыя (Шчаглова) мне падабаецца больш. Потым ідзе цыганскі табар, у каторым прыймаюць удзел усе. Усе паказваюць свае таленты. Пяюць, танцуюць, іграюць.

Новы нумар: "Сэрэнады трох дам аднаму амэрыканцу". Выконваюць: Вержбаловіч[398], Чэмярысава і Лідзія Грыг[399].

Валя танцуе галяндскі танец. Гэтага я яшчэ ня бачыў, але думаю, што добра.

Адпачыўшым пасьля паездкі акторам умовы лягеру здаліся проста невыноснымі. Яны пачалі ціснуць на амэрыканцаў, каб тыя далі ім памешканьне на старане. Даўгі час ня было ўсё падрыхтавана, але ўрэшце Вер. Міх. атрымала ключы, а вечарам самаход *UNRRA*[400] вывез нашых таленавітых з ванючага лягэру.

Незадоўга перад тым меўся быць канцэрт, дзе павінны былі прысутнічаць прадстаўнікі ад нейкай (здаецца, 5-й) дывізыі, куды мелі запрасіць групу ў новае турнэ. Канцэрт не адбыўся. Прыехаў Боб і

[398] Маецца на ўвазе цётка Галіны Ганчарэнкі, оперная спявачка **Барбара Вержбаловіч** (1901–1967).

[399] Маецца на ўвазе **Лідзія Янушкевіч-Нядзвіга** (дзяв. **Грыг**), спявачка, акторка. Уваходзіла ў трупу Менскага Першага беларускага тэатра, стрыжнем якога быў хор У. Тэраўскага. У 1944 г. у Нямеччыне ўдзельнічала ў Беларускай канцэртна-эстраднай групе "Жыве Беларусь". Пасля вайны пераехала ў ЗША, дзе працягнула канцэртную дзейнасць.

[400] ***UNRRA*** *(United Nations Relief and Rehabilitation Administration)* — Адміністрацыя Аб'яднаных Нацый па дапамозе і рэабілітацыі, створаная краінамі антыгітлераўскай кааліцыі ў 1943 г. для дапамогі краінам, якія пацярпелі ў Другой сусветнай вайне, у галіне фінансаў, прамысловага і сельскагаспадарчага аднаўлення, здароўя і інш. У складзе арганізацыі дзейнічаў таксама камітэт па пытаннях утрымання перамешчаных асобаў. Менавіта гэтая арганізацыя клапацілася пра арганізацыю і ўтрыманне лагераў *DP*.



сказаў, што нейкі генэрал прыехаў, і таму канцэрта быць ня можа. Так што новае турнэ само сабой адклалася на няпэўны час.

У дзень выезду актораў зь лягэру раптам зьявіўся нейкі савецкі лейтэнант. Яму было даложана, што існуе трупа, якая ўсімі праўдамі й няпраўдамі ўкланяецца ад звароту на Радзіму. Бравы афіцэр быццам загадаў актораў зь лягэру не выпушчаць, а сам паімчэў у камандатуру. Была ціхая паніка. З лягэру акторы ўсё-ж выехалі...

Было ў палякаў (лягерных) Купальле. Кір'янаў з Зіначкай пёрлі дамоў пасьля балю з выпівонам. Гадзіньнік паказваў ужо амаль 10. Рабоў Божых арыштавалі. На другі дзень Кір'янаў прыслаў Дакіневічу[401] пісульку: *"Сяджу ў турме. Выручай"*. В. М. пайшла да Бобі. Той зусім паважна хацеў заперці абодвух гулякаў на 30 дзён, але потым усё-ж зьміласьціўіўся й выпусьціў.

Акторы жывуць каля вакзалу, у будынку, дзе знаходзілася *KDF*[402]. Маюць пяць пакояў і залю. Пакоі разгароджаны між сабой шклянымі перагародкамі. Даволі міла.

[401] **Язэп Дакіневіч** (1906–?), вайсковы і грамадскі дзеяч. Быў у самаахове ў Слонімскай акрузе. Акруговы намеснік БКА на Слонімскую акругу. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку ў Нямеччыне, потым выехаў у Бразілію, быў прадстаўніком Беларускага цэнтральнага прадстаўніцтва. Паводле слонімскага краязнаўцы Сяргея Чыгрына, потым пераехаў у Польшчу.

[402] ***KDF*** (*Kraft durch Freude)* — "Сіла праз радасць" — палітычная арганізацыя ў нацысцкай Нямеччыне, якая займалася пытаннямі арганізацыі і кантролю вольнага часу і адпачынку насельніцтва Рэйху ў адпаведнасці з установкамі нацыянал-сацыялізму. Дзейнічала ў 1933–1945 гг., хоць з пачаткам Другой сусветнай вайны яе праца была амаль спыненая. Гэта была своеасаблівая найбуйнейшая турыстычная агенцыя Трэцяга Рэйха.

25 хадзілі з *Fr. Kircher* на лесараспрацоўкі. *Forstamt*[403] дае дровы за 13 км ад гораду. Трэба, як у Менску, сячы самім з корня, расьпілваць, ачысьціць і скласьці ў стаякі.

Вышлі мы раніцою а гадзіне шостай. Накіраваліся проста па рэгэнсбургскаму шасэ. Я не чакаў, што гэта так далёка. Шлі каля возера, каля вялікага ваеннага лётнішча, на каторым яшчэ поўна самалётаў, праўда, абламаных. Лётнішча вельмі цікавае. Самалёты стаяць проста ў лесе. Поля для разьбегу няма.

Ад шасы разыходзіцца шмат дарогаў. Па баках шасы й дарогаў у лесе зроблены пляцовачкі, для аднаго зьнішчальніка кожная. Разьбягаліся яны па шасэ.

Ледзь дапаўзьлі да места прызначэньня. 13 км стаяла на слупе. Пасьнедалі й прыняліся за працу. Лес страшэнна паршывы. Нейкі абгарэлы. Таму ў хуткім часе мы выглядалі, як трубачысты. Страшэнна мучыла смага. Справіліся да гадзіны першай. Зрабілі два мэтры для *Fr. Kircher*. Для Шыроблісі рашылі не працаваць. Яна-ж трох сыноў дома мае. Апошнія вельмі пакрыўдзіліся. Не вітаюцца нават.

Рушылі мы ўдваіх назад. На лётнішчы я ня вытрымаў і ўсё-ж залез у самалёт. Але Ўладзік не дазволіў доўга сядзець. Прайшлі яшчэ трошкі і натрапілі на ягады. Наеўся да аскомы.

Толькі крануліся далей, пачаўся страшны дождж. Мы настолькі хацелі піць, настолькі былі змучаныя гарачынёю, што разьдзеліся голыя, паадчынялі раты і ішлі так пад зьдзіўленыя пагляды амэрыканцаў, што з паднятымі каўнярамі праяжджалі туды й сюды. Але гэтакае "блаженство" хутка скончылася. Зазьзяла сонца, і ад асфальту так паваліла пара, што з шасы прыйшлося сыйсьці. Натрапілі на паземкі й зьбіралі іх, аж покуль нас дагнала *Kircher*.

У *Heidweiher*'ы[404] выкупаліся. У доміку пры возеры выпілі вядры з два вады, падсілкаваліся трохі й рушылі далей.

А пятай гадзіне былі ў хаце.

Тут даведаліся, што ў актораў быў з візытам лейтэнант РККА[405] — Кустов. Ня буду распаўсюджвацца, але скажу, што акторы паставіліся страшна дрэнна і ў выніку атрымалі паперку, што знаходзяцца пад апекай *"Уполномоченного Совнаркома СССР по репатриации советских граждан"*. Далейшыя канцэрты ў амэрыканцаў ім забаранілі. Ды амэрыканцы й самі ад іх адмовіліся. Сказалі, што нічога ня могуць параіць, а калі акторы адмовяцца ехаць дамоў, будуць вымушаныя арыштаваць іх і судзіць. Наша публіка насы павесіла.

Лейтэнант паехаў у Прагу па новыя загады, па тэксты і праграмы выступленьняў. Да апошняга дню (29.5) яго яшчэ няма.

У гэты-ж дзень (25) хадзілі з Уладзікам на рэгістрацыю ў польскі лягэр. Усё прайшло добра. Я маю ў кішэні дакумант, дзе чорным па беламу стаіць, што я паляк, родам з Вільні і г. д.

26.5.45 вечарам адчыніліся дзьверы, і ўвайшоў бацька. Мы не паверылі сваім вачам. Загарэлы, чорны, у цывільнай марынарцы, у вайсковых портках і ботах.

Ягоная гісторыя. Пры набліжэньні амэрыканцаў было пастаноўлена, што дывізія рухаецца на

[403] *Forstamt* (ням.) — дэпартамент лясной гаспадаркі.

[404] ***Heidweiher*** — возера ў Баварыі, недалёка ад Гіршаў.

[405] **РККА** (Рабоче-крестьянская Красная армия) — афіцыйная назва Узброеных сілаў Расіі і СССР у 1918–1946 гг.

*Passau*[406]. Шувалаў[407] сеў на самаход прэзыдэнта і паехаў наперад. Бацька-ж меў у сваім распараджэньні брычку з парай коней. Шувалаў самаходам праскочыў, а бацьку з дывізіяй адрэзалі амэрыканцы. Немцаў раззброілі, часткаю яны

[406] ***Passau*** — горад у Ніжняй Баварыі на месцы зліцця трох рэк: Дуная, Іна і Ільца.

[407] *"Палкоўнік Шувалаў быў расейцам. Як ён сам гаварыў, ён паходзіў з графаў Шувалавых, добра вядомых у царскай Расеі. Служыў афіцэрам у царскай арміі. Быў у сваяцтве із адной польскай арыстакратычнай сям'ёй, да якой і ўцёк у Польшчу пасьля бальшавіцкага перавароту. Калі пачалася польска-бальшавіцкая вайна, праз пратэкцыю сваіх сваякоў ён быў прыняты ў польскую армію, дзе й служыў увесь час у чыне палкоўніка, камандуючы палком. У 1939 г. ён пайшоў із сваім палком на фронт і трапіў у нямецкі палон. Палон ён адбываў у адным зь лягероў недалёка Бэрліну. Нейкім чынам, у пачатку 1945 г., ён даведаўся, што ў Бэрліне знаходзіцца БЦР і арганізуецца беларускае войска. Вось тады ён і прыпомніў сабе, што ён "тоже белорусс", бо маёнтак ягоны быў у Магілёўшчыне. Аднойчы ў студзені 1945 г. у габінэце прэз. БЦР Астроўскага зьявіўся пад нямецкім канвоем палкоўнік Шувалаў і запрапанаваў яму свае паслугі як выдатны вайсковы спэцыялісты. Астроўскі за гэта ўхапіўся й адразу пачаў захады перад нямецкімі вайсковымі ўладамі аб звальненьні палк. Шувалава зь лягеру палонных і адданьне яго ў распараджэньне БЦР. У даволі кароткім часе захады Астроўскага былі задаволеныя. Палкоўнік Шувалаў выйшаў з палону й то зусім нябедным чалавекам. Будучы ў палоне, ён на працягу шэрагу год атрымліваў пачкі Чырвонага Крыжу й ад сваіх польскіх сваякоў з Ангельшчыны ды прывёз з сабою вялікі запас розных каштоўных прадуктаў, асабліва цэнных у тыя галодныя ваенныя часы. Сп. Астроўскі вельмі ўсьцешыўся як палк. Шувалаву, гэтак і ягоным прысмакам і адразу запрапанаваў Шувалаву закватараваца ў прыватнай кватэры ў яго. Ад'ютанты сп. Астроўскага таксама прыйшлі ў захапленьне ад госьця й ягонага багажу. Неўзабаве ў памешканьні сп. Астроўскага пачалося новае, шмат весялейшае жыцьцё.*
*Палкоўнік Шувалаў быў вызначаны Астроўскім міністрам вайсковых справаў пры БЦР на месца ген. Езавітава"* (Ліст Ф. Кушаля да К. Акулы ад 18.09.1958 // Юрэвіч, Л. Шматгалосы эпісталярыум… С. 166).



раззброіліся самі. Полк застаўся чыста беларускі пад беларускай камандай. Зброі не хапала, а з усіх бакоў націскала *SS*. Недалёка знаходзілася супрацьпаветраная дывізія РОА гэнэрала Мальцава[408]. Бацька дагаварыўся з гэн., і беларускі полк злучыўся з РОА. Тады была наладжаная сувязь з амэрыканцамі, і ад апошніх атрыманы загад разьмінаваць шляхі, разьбіць загароды і ачысьціць дарогі для амэрыканскіх танкаў. З большымі ці меншымі цяжкасьцямі гэта было выканана. У падзяку амэрыканцы пры сустрэчы адабралі ўва ўсіх зброю, пагрузілі на самаходы і павезьлі ў лягэр (каля *Cham*[409]). У лягэры — жудасныя ўмовы, бруд, гразь па калена, сто тысяч людзей, чыстае поле, гароджанае дротам. Немцы вар'яцелі — нашы не. Празь некаторы час лягэр разгружалі, і частка беларусаў з бацькам разам трапіла ў такія самыя ўмовы ў Рэгенсбург[410]. Дзе другая частка — невядома. Празь некаторы час бацьку, як змогшага даказаць, што ягоная сям'я знаходзіцца ў Амбэргу, выпусьцілі[411].

Разам з бацькам прыйшоў нейкі чалавечак — сп. Дэмша[412], як пазьней даведаўся. Бацька паслаў

[408] **Віктар Мальцаў** (1895–1946), рускі ваенны дзеяч, палкоўнік Чырвонай арміі. Падчас акупацыі Крыма добраахвотна пагадзіўся на супрацоўніцтва з нацыстамі. Генерал-маёр, камандуючы Ваенна-паветранымі сіламі РОА. Напрыканцы вайны выдадзены ў СССР, асуджаны і павешаны.

[409] ***Cham*** — Кам — горад у Нямеччыне, раённы цэнтр у зямлі Баварыя.

[410] **Рэгенсбург** (*Regensburg*) — горад у Нямеччыне, у зямлі Баварыя. У першыя пасляваенныя гады ў яго ваколіцах размяшчаўся адзін з найбуйнейшых лагераў для перамешчаных асобаў.

[411] Параўн. аповед Франца Кушаля ў лістах да Кастуся Акулы. Гл.: Юрэвіч, Л. Шматгалосы эпісталярыум… С. 140–191.

[412] Маецца на ўвазе **Аўген Дэмша** (1905–1987), грамадскі дзеяч. Пазней жыў у ЗША. *"Дэмша, здаецца, са Слоніму, дапамагаў*

мяне зь ім прывесьці нейкі самаход, што стаіць каля нейкай брамы. Самаход знайшлі каля *Vilstor*[413]. Пры набліжэньні да яго я паражыў незабыўнае. Уявіць сабе, што на самаходзе з афіцыйнымі *Permits Military Gouvernement*[414] разьвяваўся бел-чырвона-белы сьцяг. Самаходам прыехалі сп. сп. сябры Беларускага камітэту ў Рэгэнсбургу[415] Жданюк, Дэмша, жонка Жданюка (мянчука, між іншым).

*6.7.45*

Хмары на нашым небасхіле згушчаюцца.

Сяньня па абедзе мы сядзелі ў хаце. Я з інжынэрам над ангельскім, Уладзік з Жэняй за шахматамі, бабушкі й Дзюнік ў куточку ў карты гулялі. Натальля Дзьмітрыеўна вязала нешта, седзячы на сваім ложку. Бацькі ў хаце ня было, маці ляжала. Раптам у дзьверы пастукалі, і жаночы голас спытаў: *“Можно к вам?”* Нашы закрычалі: *“Herein, bitte, please, com in, пожалуйста, ja, так”.*

Увайшло трое. Шыкарная дама, маладая, блёндынка, зь нейкай паперкай у руках; мужчына сярэдніх год у плашчы карычнявага колеру і ў такойжа шапцы. Трэці (мужчына) уяўляў сабой тыповага савецкага чалавечка, прыгадаў мне чамусьці Калечыца. Боцікі “гормошкой”, пацёрты пінжачок, мятая кашуля, крыва завязаны кроват.

*“Здравствуйте!”* — маўчаньне.

*“Тут русские есть?”* — маўчаньне, і раптам Чэмярысава пачынае гаварыць чысьцюсенькай беларускай моваю: *“Не, тут толькі беларусы”*. Боты падскочылі ад радасьці й жвавенька спыталіся: *“А з Менску тут нікога няма?”* (па-расейску).

*“Не”.*

*“А откуда вы?”*

*“З-пад Шаркаўшчызны”.*

*“Я слышал, что в лагере лучше”* (Плашч). *“Почему Вы не идете в лагерь?”*

*“Нам і тут добра”.*

*“А как с питанием, тут ведь голодно?”*

*“А мы харчаваньне зь лягэру атрымліваем”.*

*“С какого?!”*

*“З польскага!!”*

Потым выпытвалі, чы няма сярод нас *“военнообязаных”* і спэцыялістаў арганізацыйнае працы. Яны, бачыце, нічога ня ведаюць, толькі што прыехалі з Нюрнбэргу, першы раз у Амбэргу. Кажуць, што недзе 10–15 км ад гораду яны арганізавалі лягэр і падшукваюць кіраўніка. Некалькі (5–6) разоў боты выпытвалі *“Нет ли кого-нибудь из Минска?”* Пыталіся, дзе мы жылі ў Нямеччыне, як доўга мы тут.

Гаварылі зь імі Чэмярысава, Туся, Уладзік. Як дзіўна: Чэмярысава па-беларуску, Уладзік па-расейску.

Потым я заўважыў, што ў плашча надзвычай добрыя, выпрасаваныя савецкія афіцэрскія порткі з контам. Зрабілася трошкі не па сабе.

Выйшлі яны, папрасіўшы каго-небудзь, хто разумее па-расейску, праводзіць іх да лягэру. Пайшоў Уладзік. Плашч паказаў яму сваё пасьведчаньне. Капитан Конев! Уполномоченный по репатриации. Вліплі!!

А з Рэгэнсбургу ніхто ня едзе. Ціхая паніка![416]

*Аляксандру Русаку. Пасьля вайны жыў у Саўт Рывэры”* (Вітаўт Кіпель).

[413] ***Vilstor*** — гарадская брама ў Амбергу.

[414] *Permits Military Governement* (анг.) — дазволы Ваеннага ўрада.

[415] *“Камітэт арганізаваў Аляксандар Русак. Шафёрам быў Іван Фёдаравіч Нядзьвіга, мой хросны”* (Вітаўт Кіпель).



[416] *“Я жыў у Рэгенсбургу ад 1945 амаль да канца 1946 году. Прыехаў я ў Рэгенсбург у верасьні 1945 (мне тады толькі споўнілася 18 год) і пасяліўся на Маршаль штрассэ, дзе быў беларускі*

## 1946

### *Michelsdorf*[417]

*7-8.1.46*

Першы раз у жыцьці мною пануе зайздрасьць. Да гэтага не здаралася нічога падобнага. Ідэалістычная хвароба, прыступы каторай радзеюць штораз,

*камітэт. Дазвалялася нам там толькі спаць, бо днём камітэт функцыянаваў і быць у памешканьні не дазвалялася. Пад канец верасьня нас, беларускіх юнакоў і юначак, якія спалі ў камітэце, сабралося чалавек 15–20. На параду дырэктароў камітэту мы ўсе запісаліся ў украінскую гімназію. Некаторых там прынялі адразу, некаторым зрабілі экзамен, бо ня былі пэўнымі, у якую клясу нас накіраваць. […] Праз нейкіх пару месяцаў нас у гімназіі было ўжо парадачна. Адчынілася таксама ў горадзе і беларуская школа. Недзе пад Каляды, на сходзе ў беларускім камітэце (мы туды хадзілі часта) нам сказалі, што ўжо ёсьць дастаткова вучняў і што беларусы атрымалі таксама дазвол на адчыненьне беларускай гімназіі. І гэтак з Калядаў 1945 году мы перайшлі ў беларускую гімназію. Вось прозьвішчы былых вучняў-беларусаў Украінскае Гімназіі ў Рэгенсбургу: Уладзімер Кушаль, Дзіма Сямёнаў (гэтыя скончылі Ўкраінскую Гімназію), Валя Вайцяхоўская, Янка Шыбут, Ніна Палянская, Туся Шчаглова, Зора Савёнак, Алесь Хібінскі, Юрка Станкевіч, Вітаўт Кіпель, Вячка Станкевіч (гэтыя перайшлі ў беларускую гімназію і яе скончылі), было яшчэ два-тры, якіх не магу прыпомніць”* (Кіпель, Вітаўт. Успаміны пра Ўкраінскую Гімназію ў Рэгенсбургу // Кіпель, Зора. Дні аднаго жыцця. Успаміны, артыкулы, дзённікі. Мінск, 2010. С. 21).

417 *“Калі нас перавезьлі ў Міхельсдорф пад Камам, усё скончылася. Міхельсдорф выглядаў улетку нішто сабе. Сенажаці, рака, лясы — усё цешыла вока. Але ўзімку, а асабліва ўвосень, тут было да роспачы шэра й нудна. Ці-ж дзіва, што й людзі зрабіліся і шэрыя, і нудныя, і благія, спадлелі, за лішнюю банку кансэрваў ці фунт мукі адракаліся і свайго сумленьня і свае людзкое годнасьці? Разумеецца, дарма, што ўвесь гэты бруд навокал, дарма, што людзі, якія былі на Бацькаўшчыне адно беларусамі, падзяліліся тут, сталіся сьмяротнымі ворагамі, дарма, што ўсялякія інтрыгі й перашкоды, — культурная праца ішла і далей”* (Арсеньнева, Натальля. Аўтабіяграфічны нарыс // Юрэвіч, Л. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі… С. 257).



адыходзячы, забрала з сабою і, здавалася, так непахісную аксыёму: *“Насильно мил не будешь”*. Думаў раней: Калі яна кахае іншага больш, чым мяне, значыць, так павінна быць. Перад неабходнасьцю трэба скарыцца, сыйсьці з дарогі, па якой ідзе шчасьце мною каханай асобы. Але ўсе гэтыя так непахісныя раней прынцыпы паляцелі да дябл’а.

Варта было ўбачыць яе, танцуючай з чужым (ніколі ён у маіх вачах не выглядаў так агідна, як учора. Застыглы ў шчасьлівай усьмешцы выскал зубоў, доўгая пасма неахайных валасоў зьвесілася са схіленай да Яе і неяк убок галавы). Цяжка было трымацца. Сэрца шалела, проста разьбівала грудзі. Кроў прыліла да твару. Я стараўся прыдумваць усё новыя й новыя довады, каб суняць сябе. Скандал, як і кажным выпадку, нявыгодны. Але-ж няма сіл стрымацца. А тут яшчэ кінутыя прыпадковай суседкай словы: “Якая Яна прыгожая, разумная, паважная дзяўчына!” Даўжэй трываць ня мог. Проста выпадак памог мне. Пачаўся новы танец, і мне ўдалося запрасіць Яе, забраць ад ненавіснага, хоць можа й “нявіннага” (але як можа ён быць нявінным сапернікa. Выліў Ёй усё, што накіпела на сэрцы. Але доўга яшчэ ня мог супакоіцца. Доўга яшчэ молатам стукала сэрца, і трэсла ўсяго, як у ліхаманцы.

І цяпер, хоць ні на хвіліну не задумваўся над Яе чэснасьцю, ведаў, што скажа тое, што думае, ведаю, што любіць мяне, грызе нешта, точыць у сярэдзіне. Гэтае нешта трэба трымаць. Ня можна яго выказваць бяз поваду, бо хоць гэта і доказ майго каханьня, аднак калі-б стаў трымаць яе сваімі прэтэнзіямі, прымушаў быць цэлы час толькі са мною — тэрор і больш нічога. Чалавек ня церпіць няволі, хоць бы і няволі каханьня. Трэба глытаць пякучую зайздрасьць, старацца ні словам, ні відам не паказваць, што перажываю. Чы здужаю — ня ведаю. З маёй праклятай натурай…

Цікава, як жыцьцё мяняе погляды на рэчы…

*18 красавіка*

Час ідзе. Я нават чую рытмічны гук ягоных крокаў. “Так-так-так-так” — стукае звонка гадзіньнік на маім сталe. “Так-так”, і дзень зьмяніўся ноччу;”так-так” — і прайшоў месяц; “так-так” — … прабег год.

Ізноў надыходзіць Вялікдзень. Лепшы, чым мінулы, але ўсё-ж неспакойны, напружаны. Год таму развальвалася нямецкая дзяржава. Усё кругом грукацела і трэслася. Цяпер жывецца бяз грукату, але, вядома, ДП — *“дурацкое положение”*. Калі раней казалі, што *“ўсе мы пад Богам ходзім”*, то цяпер напрашваецца *“пад UNRRA’й”*.

Год таму сядзелі мы ў Абмэргу, і каб хоць трошкі адарвацца ад камунальнага жыцьця (18 чалавек у адным пакоі), зьнялі на сьвята нумар у гатэлі. Сяньня — памешканьне з трох пакояў, мяккі ложак, прыемная сытасьць.

Год таму я цягаў вяроўкі й зьбіваў койкі на “матавай” фабрыцы. Сяньня перада мной ляжыць *“свідоцтво зрілости”*, і я думаю, на які ўнівэрсытэт ісьці.

Урэшце, і самае галоўнае, я закаханы й шчасьлівы, шчасьлівы без канца. Праўда, “каханьне маё” зусім безпэрспэктыўнае, як і ўсё жыцьцё, але я зусім не хачу думаць аб заўтрашнім дні, а ў хвіліны, калі я гляджу ў Яе вочкі, калі чую Яе голас, сэрца проста выскаквае з грудзей ад радасьці. Ірачка! Любая! Дзяўчына такая, што ў сьне і то рэдка ўбачыш. І прыгожая, і мілая, і разумная, толькі гаварыць (як і я, праўда) ня любіць.

*19 красавіка.*

Дождж. Неба ўсё ўбралося ў хмары. Шэра й сумна. Чы мо пагоды, чы ад учарашніх гутарак, але



мучыць, цісьне мяне пачуцьцё нияснай трывогі, і туга, туга..

Устаў досыць рана. Чамусьці ўзяўся цыраваць скарпэткі. У хаце ідуць поўным ходам рыхтаваньні. Толькі й чую: *“Адчыні, падай, прынясі”*. Ня ведаю, чаму, але калі раней дома мама штось рабіла, так прыемна было ёй дапамагчы, а цяпер злішся цішком і маўчыш, кусаючы вусны. А можа гэта скарпэткі вінаватыя?

Уладзік сьпіць. Нарэшце прачынаецца і пачынае малоць языком. Цярпліва слухаю. Маўчу.

Усярэдзіне сьпявае нешта: *“Вярнися, мой сокал”*. І сэрца, як тэлеграф, выстуквае: *“Вяр-ні-ся, вяр-ні-ся”*. Чы думае Яна хоць трошкі аба мне, чы чуе хоць трошкі, як Яе кахаю!

“Беднага” Ўладзіка загналі да працы. Размазвае бруд па сходах. Бо чы-ж можна назваць тое, што ён робіць, мыцьцём.

Што робіцца там, на Беларусі? Як жыве мой родны горад, мая любая сталіца? А тата з мамай… Чы ў іх таксама Вялікдзень? Не, лепш ня трэба чапаць гэтых думак — надта баліць, ня вытрымаю.

Чышчу бульбу, пяку бабкі, палю ў пліце. Настрой жудасны. Расьціраю яйкі на торт, апякаю палец. Уладзік ані з месца ня рушыць. Толькі: *“Дзіма, Дзіма”*. Застаецца яму пазайздросьціць. Вырабіў сабе апінію гультая, і ніхто яго не чапае.

*23.5.46*

Ізноў нейкая перарэгістрацыя. Нават вымавіць цяжка. Ня кажучы аб тым, што прайсьці. Да абеду было поўна маскалёў, а па абедзе столькі крывічоў назьбіралася. Страх! Я думаў ісьці ўжо, ажно даведаўся аб скандале, каторым гэтая “перарэ…” скончылася. Справа ў тым, што пішуць нам упарта *Wh. Russian*, а Стукаліч, “он же” Віцьбіч, ня хоча быць

белагвардзейцам[418]. Здаецца, заўтра пойдзем ізноў.

На палову адзінаццатай прыблізна пайшоў у бурсу да Ірачкі. Нешта ні Яна, ні я ня мелі сяньня добрага гумару. А тут яшчэ ідыёт Ромка з Блюваком пачалі са скаўтаў зьдзеквацца.

На маё шчасьце, забыліся дзяўчаты, што ехалі ў Амбэрг, ключ ад памешканьня. Пайшоў на станцыю з надзеяй убачыць Яе.

Нават на паперы цяжка перадаць усё. Мне часам здаецца, што Іра шкадуе мяне, ведаючы і разьлічаючы на расставаньне ў будучыні. Ёй, з халодным розумам, гэта ўдаецца. Я-ж ад таго, што яна так шкадуе ласкі й ветлівага слова, яшчэ больш хварэю. Усё наадварот: чым больш Яе ня бачу, тым больш па Ёй сумую, тым больш чую, як моцна Яе люблю. Часамі пры працы туга па Ёй слабее, але ніколі не зьнікае зусім; часамі сэрца проста рвецца на кавалкі, да крыві закусваюцца вусны, і бегаюць жалвакі па твары. Тады страшэнна цяжка — у доўгія дні адзіноцтва й тугі. Калі бачу яе, сум адразу пераходзіць у радасьць. Тады было-б сьмяротным грахом нат успамінаць аб ім і атруціць так кароткія імгненьні шчасьця. Тады гаворыцца ўсякая "чепуха", альбо голас зусім стае ў горле. Толькі гляджу я ў любыя вочы і лаўлю кожнае слоўца, кожны рух, кожны погляд, каб прыгадаць іх потым і скрасіць жудасную тугу. І так заўсёды. Які я шчасьлівы і які я няшчасны…

Думаецца, калі-б яна сказала, што таксама любіць і сумуе, было-б лягчэй. Я-ж ні разу ня чуў ад Яе нават падобнага. А можа лепш няхай заўсёды будзе вясёлай і не перажывае болю, такога болю.

[418] Назва *White Russians* у міжваенны час замацавалася на Захадзе за прадстаўнікамі белагвардзейскай эміграцыі, таму ў часе пасля Другой сусветнай вайны беларусы змагаліся супраць таго, каб іх фіксавалі гэткім жа чынам, каб пазбегнуць блытаніны з рускімі.



*7.6.46*

Дзень праходзіць у клопатах. Шмат беганіны ў мітусьні. Атрымаць пачкі, зрабіць часапіс[419], паліць гарод і напісаць наступны разьдзел раману. Працы быццам-бы й шмат. А зробіш нешта, і прыходзіць, стукае ў дзьверы змрочная постаць сумліву й расчараваньня. Здаецца — усё дрэнна, дзень прапаў марна. Як адвучыцца ад такога спосабу думаньня? Няхай бы я ўмеў знаходзіць ва ўсім радасьць, прыемнасьць... Дык не — такі ўжо дурны характар.

Ад Іры нічога няма. Навошта абяцаць? Навошта мучыць мяне чаканьнем надарма? Можа, яна ўсё-ж пакрыўдзілася? Чаму яна так паводзілася ў той страшны вечар? Галава трышчыць, што ажно чуваць, ад спробаў здагадацца. Каб сказаў ёй: *"Скажы, што любіш мяне". — "Люблю". — "Скажы, што не любіш". — "Не люблю".* І, калі ласка, дагадвайся, каторая праўда. Але покуль што чую, што яе, як заўсёды, не хапае. Хачу бачыць, адчуваць яе блізасьць. Магчыма, заўтра ўгледжу. Як я яе аднак люблю. Сам ад сябе не спадзяваўся.

Часапіс ужо набіваецца на матрыцы. Да серады гэтую працэдуру Золак[420] абяцае скончыць. Папера ёсьць, словам, усё ў парадку. Трэба камбінаваць наступны нумар.

Учора скончыў "Сынгапур". Канец выйшаў не такі, як быў задуманы. Адамовіч кажа, што нават менш

[419] Маецца на ўвазе часопіс **"Ведамкі"**, які выдаваўся ў Рэгенсбургу ў 1946 г. Беларускім (Крывіцкім) камітэтам. Рэдактар Антон Адамовіч (выйшла 6 нумароў).

[420] **Антон Даніловіч** (псеўд. **Янка Золак**, **Яз. Дольны** і інш. 1912–2000, пісьменнік, журналіст, выдавец, грамадскі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у "Газеце Случчыны ". Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Заходняй Нямеччыне заснаваў саматужнае выдавецтва *"Ніва"*. У 1950 г. пераехаў у ЗША, пасяліўся ў Нью-Джэрсі.

эфектны і больш скамячаны. Ліха зь ім! З канцом, не Адамовічам. Як я і баяўся, пачынаецца разачараваньне. Думаецца, што апавяданьне будзе падобным да раману, і наадварот, што маю замала ведаў, каб наагул пісаць нешта. Добра, аднак, што так думаецца мне, а не іншым.

Нейкі ідыёт выдумаў у аўторак ісьці на тры дні ў лягер. Менавіта ў аўторак. Ліха яго ведае, што выбіраць — народзіны ці палаткі? Да канчатковага вырашэньня яшчэ не прыйшоў.

Кіпель заўтра едзе дадому[421]. Павінен зараз прыйсьці да мяне з усімі матар'яламі.

Трэба пастарацца кветак для Іры. Каб хоць трошкі змазаць непрыемнасьць сваёй прысутнасьці. Бедны я, бедны…

*15-16.6.46*

Сон.

Заля ў вялікім тэатры. Антракт. Вочы сьлепяць сотні яркіх лямпачак. Я разглядаю публіку. Шмат гледачоў выйшла ў фойэ, і перада мною некалькі зусім пустых радоў. Раптам за гэтымі радамі бачу... Ірачку. Яна кліча мяне, махаючы рукой, і весела ўсьміхаецца. Падыходжу да яе, сядаю поруч. Ірачка жыва апавядае мне, бацька, гледзячы, як яна без мяне мучыцца, ня вытрымаў і паслаў сюды на месяцы тры. Радасьці маёй няма канца. Іра лашчыцца да мяне, як сапраўднае кацянятка. Заўважаю, што праз два крэслы ад нас сядзіць жонка Сасукевіча. Пераходзім на шопат.

Пляц Волі ў Менску. Да вайны. Я з Ірай пераходзім вуліцу ад дому селяніна ў кірунку дамоў. На бальконе ў 31, здаецца, нумары стаіць Вілка.

[421] *"Я езьдзіў у Garmisch-Partenkirchen, дзе жылі бацькі. Яны ў лягер не пайшлі"* (Вітаўт Кіпель).



Паволі падымаемся па сходах. У карыдорчыку я жартаўліва кажу: *"Ой, тут страшна, цёмна"*. Стукаем у дзьверы. Уваходзім. Электрычнасьць чамусьці не гарыць. Куты пакою поўніць змрок. Стол засланы белым абрусам. На ім, каля газавай лямпы, гіганцкі букет жасьміну. З аднаго боку стала сядзіць тата, з другога — мама. У прасьценку між вокнамі — пісьмовы стол. Мае шуфляды поўныя розных жалезякаў — адчыненыя. Між печкай і вакном стаіць канапа. На ёй шмат людзей. Пазнаю Чэмярысаву, Карася[422] і яшчэ некалькі скаўтаў. Бацькі сядзяць тварам да канапы. Напружанае маўчаньне. Усе ведаюць, што я першы раз прывёў паказаць бацькам сваю будучую жонку. З цікавасьцю разглядаюць бедную Ірцю. Яна такая дробненькая. Трымаю яе перад сабой, паўабняўшы. Падыходзім да таты: *"Мой тата"*, кажу я. Тата падае Ірачцы руку, але потым чамусьці вырывае яе. Але маленькая ручка Іры даганяе бацькаву і ізноў трымае яе. Тады тата ўсьміхаецца. Мама — ветлая й ласкавая. Знаёмлю Іру з гасьцямі. Яна так добра захоўваецца, што ў Чэмярысавай вырываецца ў захапленьні: *"Воспитанная!"* Іра скідае паліто і застаецца ў сіняй зь белым зачыненай даўгой вячэрняй сукні.

Госьці зьніклі. Няма й бацькоў. Скруціўшыся клубочкам, Іра ляжыць на канапе. Я ў галовах. Не магу

[422] **Леанід Карась** (1923–1954), грамадскі дзеяч, журналіст. Працаваў настаўнікам. Ад лета 1944 г. апынуўся ў Нямеччыне. У беларускім лагеры ў Міхельсдорфе працаваў у лагернай ахове і вучыўся ў Беларускай гімназіі ім. Я. Купалы. Разам з іншымі сябрамі "Дванаццаткі" ў 1948 г. як *DP* прыбыў у Вялікабрытанію. Працаваў у вугальных капальнях. У 1950 г. выехаў на навучанне ў Бельгію. Вучыўся на агранамічным факультэце Лювенскага ўнівэрсітэта. У пачатку 1954 г. пераехаў у Мюнхен, дзе працаваў у беларускай рэдакцыі радыё "Вызваленне".

супакоіцца й цэлы час паўтараю: *“Ты падумай, якое шчасьце — заўсёды цяпер будзем разам”*. Яна таксама задаволеная, але я бачу, што іншым поўныя яе думкі. Я хачу, каб яна ня думала аб гэтым, можа, страшным для мяне, іншым. Паказваю ёй свой стол, кажу аб тым, як я яшчэ малы станавіўся на пальцы й разглядаў поўны таямніцаў зьмест верхніх шуфлядаў.

Іра ня слухае. Гаворыць раптам: *“Ведаеш, мне трэба купіць воцату і ехаць назад”*. Не, я не магу згадзіцца: няўжо ізноў мучыцца ў адзіноцтве?

Вечар. Блішчыць пасьля дажджу асфальт вуліцы. Я іду з Ірай па Энгельса каля вялікага сквэру ў напрамку да ракі. Ірачка адыходзіць ад мяне і ідзе разам зь нейкім высокім спадаром у скураным паліце. Хоць ніколі яго ня бачыў, дагадваюся, што гэта бацька. На другім баку вуліцы ў зялёным знаёмым паліце з чамаданчыкам у руцэ ідзе з працы Надзька. Так мы і ідзем даўжэйшы час. Сьпераду Надзька, за ёю па другім баку — я, а ззаду Іра з бацькам. Я цэлы час азіраюся. Ведаю, што там, ззаду вырашаецца мой лёс. Ведае аб гэтым і Надзька. Яна глядзіць са спачуцьцём то на мяне, то на Ірачку.

*5.8.46*

Душна. Раніцою была страшная навальніца, гарматамі стралялі пяруны, вада проста адным вялізарным струменем лілася зь неба. Цяпер прыпякло сонейка, і... проста няма чым дыхаць, пот капае. Настрой такі, што працаваў бы ахвотна, але чым заняцца? Пісаць нешта да 18-га ня буду. Няма чаго. Няхай Кушаль піша. Астатняе робіць, наколькі можа, Бута[423]. З уніформамі нічога ня ясна, але гэта ня

[423] **Алесь Бута** (1923–1998), грамадскі дзеяч. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў лагерах *DP* у Нямеччыне. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Быў кіраўніком



так і важна — калі ня зробім чы не дастанем іншых, паедуць у тых, што маюць.

*“Утапічна-фантастычны раман”* ня пішацца. І добра. Лепш чакаць, покуль прыйдзе настрой. Ды-й “Ведамкі” не дакучаюць.

Словам, шукаю сам сабе заняткаў і са страхам думаю, што скора прыйдзе час, калі мне будуць іх даваць. Трэба, канечна трэба ехаць вучыцца. Але каб мяне хто прыстроіў... А то цягацца па розных установах, выконваць тысячы дурнейшых фармальнасьцяў... Бр-р-р.

Сасукевіч[424] кінуў усю працу й пераключыўся на рыбу. Трэба яму прыпомніць, што ён грошы дастае за нешта.

Бадзяюцца па хатах унрраўскія лісы. Лазяць, аглядаюць. Прывезьлі кароткіх портак. Можа, для нашага брата-скаўта? Але сабе я так чы інакш пашыю.

Тамара нават глядзець на мяне ня хоча. Я-ж проста для забаўкі палюю на яе. Ірачцы я ніколі ня здраджу. Як гэта ні гадка, але з Тамарай тады я абыходзіўся проста, як з прастытуткай. Зразумела, хочацца трошкі жаночай ласкі. Абдымаў яе й думаў пра Іру. Але каб любіць? Няма й мовы.

беларускага скаўтынгу ў Амерыканскай зоне Нямеччыны, аб'яднанага ў штандар “Баварыя”. У 1948 г. як *DP* у складзе “Дванаццаткі” прыбыў у Вялікабрытанію. Працаваў у вугальных капальнях. У 1950-х пасяліўся ў Брадфардзе. Пра яго гл.: Запруднік, Янка. Дванаццатка. Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццаць беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1946–1954). Нью Ёрк – Беласток, 2002. Пра пазнейшы лёс А. Буты на с. 477–478.

[424] *“Саша Сасукевіч — баявы афіцэр. Меў баявыя ўзнагароды, мог прыйсьці з нямецкае арміі, бо з дому ён баявых паліцаяў. Недзе з Палесься. Жонка Галіна зь Менску ці Меншчыны. Сасукевіч быў арганізатарам скаўтынгу, але ціха адышоў. Быў вельмі пакладзісты й памяркоўны. Скаўтынг быў не для яго. Сасукевіч з жонкаю выехалі ў Бэльгію. Далейшы лёс іх, здаецца, — Канада”* (Вітаўт Кіпель).

Ірачцы напісаў доўгі ліст яшчэ ўчора. Заўтра зрана трэба аднесьці на пошту.

Увечары было кіно. У сталоўцы завесілі вокны, і ў духаце мільгалі на экране бразылійскія джунглі, кракадзілы Амазонкі, анаконды.

*6.8.46*

Ня дзень, а балаган. З самага раньня хацелі маю высокую асобу загнаць на нізкую чорную працу. Ясная рэч — адкінуў з пагардай. Пайшоў у горад. Адаслаў ліст, купіў рамачку на Ірыну здымку (цяпер яна стаіць на стале), купіў газэту, каторай няма часу чытаць.

Сасукевіча знайшоў у габінэце Кушаля. Тут пачаліся ўсе справы. Я староньнік рэформы — разагнаць усіх, хто працаваць ня хоча, і кропка. Але хто скажа, што ня хоча?

*8.8.46*

Цягацца па сьвеце, асабліва калі не па сваёй ахвоце, — слабая прыемнасьць.

У Рэгэнсбург прыехалі ў абед. Накіраваліся да Мюлера, каторы заўсёды працуе, але па дарозе трапілі да Малішке. І тут, і пазьней у “стаўбунаватага” шмат справаў да залагоджваньня. Покуль заказалі матуры, была амаль трэцяя гадзіна. На пасёлак прыпёр увесь мокры. Зэмгальса[425] не знайшоў. У ўкраінак папытаўся, хто адказны за часопіс; аказалася магістр Кужиль[426]. Якраз яго й спаткаў, аддаў

[425] *“Zemgals — латышскі скаўтмайстар, які трэнірваў-навучаў усіх першых беларускіх скаўцкіх кіраўнікоў”* (Вітаўт Кіпель).

[426] Дзмітры Сямёнаў быў адказным за беларускую старонку шматнацыянальнага скаўцкага часопіса, які выдаваўся ў Рэгэнсбургу. (Гл. Kipel, Vitaut. Kipel, Zora. Belarusian Publishing in the West. A Bibliography. New York — Warsaw, 2006. P. 58–59, 662.) Выйшаў толькі адзін нумар. (Гл. Гарбінскі, Ю. Беларускі



матар’ялы. У справе транспарту пайшоў да *Mrs Saalee*, але яе ня было. Вылажыў усё нейкаму маладому чалавеку, што сядзеў за яе сталом.

Шукаў яшчэ дваццаць пяць разоў Зэмгальса. Няма й няма. А ўжо скора ад’яжджаць трэба. Кінуўся ў апошнюю хвіліну да рыжага фатографа. Чакаляды ён ня ўзяў, а даў мне дзьве здымкі для Сасукевічыхі.

Лятучы ўніз па ўнрраўскай вуліцы, схапіў пару газэтаў і апошняй хвілінаю, чуць ня трапіўшы пад самаход, злавіў такі Зэмгальса. Перадаў яму каротка ўсё, што зрабіў, дастаў ад яго ліст *“Белорусским разведчикам”*. Нешта расейцы пад нас падкопваюцца. В. В. Розенберг[427] так піша, быццам бы ён адзін нам дабра жадае. Сволач!

На вакзале спаткаў Віньніцкага[428]. Кажа, што хоць у дарозе галадаваць прыдзецца, але “Ведамкі” будуць — удалося яму дастаць паперы.

Назад ехалася горш, як туды. Чуюся стомленым, жыцьцё ідзе ў тупік. Няма грошай, трэба, трэба ехаць

рэлігійны друк на Захадзе: пэрыёдыка, графічныя друкі. 1945–2005. New York — Warsaw, 2009. С. 680.) *“Сямёнаў быў добрым графікам-маляром. Ён дапамагаў з рознымі афішамі на дошцы аб’яваў, маляваў прывітальныя карткі”* (Вітаўт Кіпель).

[427] *“Расейскі скаўтмайстар з Рыгі, па паходжаньні рускі-немец-габрэй, быў вельмі парадачны чалавек і ставіўся да нас сымпатычна, дапамагаў нам з літаратурай — перакладаў з латышскае мовы. Ён літаральна апешыў, калі, працуючы з інтэрнацыянальнай скаўцкай дружынай, убачыў, што беларускія і ўкраінскія дзеці не разумелі адзін аднаго!”* (Вітаўт Кіпель).

[428] **Аляксей Вініцкі** (1891–1972), грамадскі дзеяч. У перыяд нямецкай акупацыі ствараў беларускія школы і аднавіў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне спрыяў арганізацыі беларускіх лагераў *DP*. У 1949 пераняў ад А. Орсы дырэктарства ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, выкладаў геаграфію. У 1956 перабраўся ў ЗША. Аўтар працы “Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гг.” (Лос Анджэлес, 1972. Ч. I–III).

устрайвацца вучыцца, так моцна адчуваю адсутнасьць Іры, як бы яна даўно была са мною.

Любая, сонейка маё яснае! Чаму Ты ня пішаш нават. Няма ў мяне нікога, акрамя Цябе, на сьвеце! Як сьветлыя зорачкі, сьвецяць мне Твае каханыя вачаняткі, бязь іх і цёмна, і жыць ня варта.

*9.8.46*

Дзень, як усе дні. Давёў да "парадку" канцылярыю, схадзіў у вёску па бульбу. Туга, нуда. Ад Іры няма нічога. Сасукевіч думае кідаць працу. Як ратавацца становішча?

*24.8.46*

У залі круцяцца пары. Музыка добрая — запрошаная. Уваход — 7 марак[429]. Усё ёсьць — няма настрою. Здаецца, каб прыйшоў нехта ў маю кануру, яркаю ўсьмешкаю разагнаў чорную хмару смутку, пацягнуў вясёла за сабою, шалёна круціўся-б і я пад гукі даўно нячуванай музыкі. Але я, дзякуючы так каханаму мною майму характару, задалёка адыйшоў ад таварыства і, напэўна, ня знойдзецца такога "нехта". Нікому не ў галаве мая вясёласьць і смутак. Нікому... Гэта досыць непрыемна ведаць. Аднак, як бы я ні жадаў, цуды не здараюцца ў гэтым шэрым падсоньні.

Можа, гэта і ня так (надзея), але, здаецца, што і Іра ня любіць мяне. Мажліва, бачыць ува мне сябру, друга — добрага, старога друга, але ня болей. Гэта вельмі дрэнна сазнаваць, і я пешчу сябе, будуючы паветраныя замкі і трызьнячы Ёю, пішу доўгія, доўгія лісты адзін на другі, як блізьняты, падобныя. Можа, вылячыць мяне праца. Можа, калі ня будзе часу на іх,

[429] *"Адна з першых забаваў — танцы ў Міхельсдорфе. Звычайна гралі свае музыкі, але рэдка запрашалі немцаў-баварцаў. 7 марак — сума сярэдняя, але ня танная"* (Вітаўт Кіпель).



адыйдуць ад мяне ціснучыя думкі. А мо яны самі знойдуць, здабудуць сабе час. О, не, ня трэба! Я хачу вучыцца. Ня так хачу, як сознаю, што мушу. Іншага выхаду няма, хіба канец. Як пазбавіцца гэткіх думак? Дзе знайсьці крыніцу аптымізму і як стаць самім сабой? Чы, прынамсі, як страціць страшную здольнасьць глядзець на самаго сябе збоку? А мне толькі 20 год.

*25.8.46*

Вось толькі вярнуўся з гораду — кіно. Фільм так сабе. *"Nacht im Hafen"*[430]. *"А на экране драма в тумане"*... У чарзе па білеты страціў гузік. Выпіў дрэненькага піва. З радасьцю й *"предвкушением блаженства"* выцягнуўся ў выгодным крэсьле. А калі запаліліся яркія лямпачкі ў прыгожай салі, і ў адчыненыя дзьверы зазірнуў звычайны *"cham'скі"* дзень — так марна зрабілася, скончыўся добры гумар. Здавалася, застаўся-б назаўсёды з тымі — на экране, жыў-бы прымітыўнай радасьцю іх, толькі не вяртацца ў страшныя будні ДП.

Галя Сасукевіч захацела ў цырк. Па вуліцы ішлі тры немачкі — сымпатычныя дзяўчаткі. Спытаўся ў іх Саша сваім дыялектам, сказалі й расьсьмяяліся. Расьсьмяяліся й мы. Я азірнуўся ўсьлед дзяўчатам і спаткаў такую мілую ўсьмешку. Здаецца, сама радасьць была перада мною.І зрабілася яшчэ сумней. *Heimweh nach Freude*[431].

*1 верасьня 1946.*

Холадна. Мокра. Трошкі сьвеціць сонца. Усё насельніцтва лягэру ў царкве[432]. Ідзе малебен "па ўсіх

[430] ***"Nacht im Hafen"*** (ням.) — "Ноч ў порце" — амерыканская кінастужка 1942 г.

[431] *Heimweh nach Freude* (ням.) — імкненне да радасці.

[432] *"Міхельсдорф — былыя баракі каля вёскі Michelsdorf, зробленыя для лётчыкаў. Тут-жа за баракамі былі зробленыя*

школьніках", як кажа Кінуся[433]. На самой справе, пазаўтра пачатак школьнага году. Пачатак і для мяне. Заўтра паеду ў Мюнхэн. А ну-ж удасцца паступіць на *Technische-Hochschule München*[434]! Вось быў бы нумар! Ды яшчэ, каб удалося прыватнае памешканьне дастаць! А калі не? Уладзік застанецца на сваёй УНРР'Ы, а я? Паеду студыяваць, што Бог пашле. Можа, неяк улезу на якую-небудзь хэмію. Словам, трэба прабаваць. Грошай трошкі маю. Праўда, з тых 400 засталося налічнымі 190. Астатнія мне вінаваты скаўты. Урабіў 100 марак на адзнакі і яшчэ каля гэтага на часопісы, легітымацыю і г. д. Праежджу цяпер марак з сотню, і што далей? Абутку няма. Зь вялікіх чаравікоў аддаў сарваць падноскі і прыбіць іх на свае старыя. Гэта некалі будзе. Туфліканчаюцца. Дрэнь.

*16.9.46*

У ясным васеньнім небе гарыць над прыціхшымі баракамі зорны коўш Вялікае Мядзьведзіцы. Сузор'ямі сьвецяцца лямпачкі лягеру. За рознымі ў

*ангары, утрамбаваныя некалькі дарожак і адна-дзьве асфальтаваныя для нямецкае лярнічае "адзінкі" — зьнішчальнікаў, якія лёталі на фронт, усходні й заходні. Гэтае лётнішча паўстала ў вайну. Тады там было каля 20-30 зьнішчальнікаў мэсэршмітаў. Калі наступіла капітуляцыя, амаль усе самалёты былі пазьнішчаныя, ангары разбураныя, а лётчыкі забраныя ў палон. Селішча было пустое — дзясятак баракаў, адзін зь іх уборная, другі — душ-умывалка. Гэта UNRRA забрала пад сваю апеку. Як толькі мы прыехалі — адразу-ж была добраўпарадкаваная царква — спачатку а. М. Лапіцкі, потым а. Кайка"* (Вітаўт Кіпель).

433 Маецца на ўвазе **Кінуся Норык** — малодшая дачка Яніны Каханоўскай. Цяпер удава, была замужам за Лёнем Норыкам, амерыканскім беларусам з Наваградчыны; мае дачку Ніну, жыве ў штаце Вашынгтон.

434 *Technische-Hochschule München* (ням.) — Мюнхенскі тэхнічны ўніверсітэт.



кожным вакне фіранкамі канчаюць працоўны дзень ДП. У залі сабраліся артысты драматычнага мастацтва, і чуваць голас Сэляха — дырэктара драматычнай студыі, што арганізуецца ў сяньняшні ціхі вечар.

Апошнім часам лаўлю сябе ўсё больш і больш на тым, што думаю аб Тамары. Пачуцьцё да Іры схавалася далёка, чы я сам пастараўся схаваць яго, каб ня зьмяць, ня зьнішчыць прыгажосьці. Я са сваёй ідыёцкай натурай патрабую аб'екта да таго, каб часам выгаварыцца, і дамагаюся, каб мяне "шкадавалі". Але Іра — гэта больш...

Настрой непрацоўны. Сасукевіч хоча ісьці працаваць у УНРР'у. Ягонае мейсца тут застанецца мне. А калі я вучыцца? Хто тады? Загадка.

Хочацца напляваць.

*19.9.46*

Рушыцца скаўцкая арганізацыя. Мой твор. Хоць славу кіраўнікоў і арганізатараў зьбіралі ўсякія Кірылікі[435], Манькковы[436] і Сасукевічы. А хто зь іх зрабіў столькі, страціў столькі нэрваў і меў столькі клопатаў, колькі я? Можа (праклятае слова) гэта і няпраўда, што рушыцца? Але пастараюся сабраць усе факты разам і тады скласьці рэзюмэ. Як той казаў, што мы маем на сёньняшні дзень?

Поўная адсутнасьць выхаваных і адпаведна вышкаленых кіраўнікоў[437]. Такія, як Кіпель, Бута,

435 Маецца на ўвазе Сцяпан Кірылік.

436 **Палікарп Манькоў** (1910–1999), грамадскі дзеяч. У 1939–1941 гг. служыў у Савецкай Арміі, трапіў у палон. У 1942–1943 гг. працаваў у слонімскім гебітскамісарыяце. Ад чэрвеня 1943 г. узначальваў СБМ у Слуцкай акрузе. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне, потым у ЗША.

437 *"Затое была ахвота працы!"* (Вітаўт Кіпель).

я — адзінкі. Дый гэтыя адзінкі ня маюць настолькі багатай фантазыі, каб стварыць і выдумаць усё тое, што стварылі людзі на працягу дзясяткаў год у гэтай галіне. Падручнікаў, кніжак для самаадукацыі, літаратуры скаўцкай няма. Няма нічога. І вось таму, што цэлы час прыходзіцца ламаць галаву над тым, што рабіць на наступнай зборцы, ламаць галаву і не прыдумаць што — прападае цікавасьць да працы. Была-б кніжка, разгарнуў-бы яе і... ліха, як цікава, вось бы й нам такое зрабіць! Кніжак няма.

99 % усіх скаўтаў вучыцца. Працы ў іх багата. Арганізуюцца розныя гурткі, драматычны, хор. Цікавасьць да працы ў дружыне прапала. Таму ідуць сьпяваць, езьдзіць на самаходзе й гуляць у "Мікітаў лапаць"[438]. Калі-ж я сваруся й кажу, што мусяць, павінны працаваць, то ў адказ дастаю: "Няма часу".

Безумоўна, культурная праца ў лягэры пастаўлена безнадзейна. Па-за школай тыя, хто ня йдзе на гурток, займаюцца палітыканствам або цягаюцца, абняўшыся, у лес: *"трэба-ж і адпачыць, і зусім ня хочацца ні на якую зборку"*.

Сасукевіч нядаўна папрасіўся на працу ў УНРР'у. Кушаль пушчае. Заступнікам застаюся ўсё тойжа — я. Праўда, я згадзіўся на гэта, бо Сасукевіч чы так, чы так не прынёс ніякае карысьці. Калі я што скажу, ён зробіць. Але-ж цэлы час прасіць і пераконваць... Гэта-ж так цяжка.

Адамовіч — адзіны добры чалавек, каторы і душой, і справай мог-бы памагчы ў любую хвіліну — сапраўды ня мае часу. Грамадзкая й настаўніцкая праца не пакідаюць яму часу нават на нармальны сон.

[438] **"Мікітаў лапаць"** — п'еса Міхася Чарота.



Толькі што атрымаў ад Зоры падарунак. Прыйшоў да яе з жалкай мапай усіх матар'ялаў, што маюцца ў маім распараджэньні. Думаў складаць праграмы працы на наступны месяц. А яна: *"Ведаеш, думаю адмаўляцца ад усяе працы. Вось зьбяру сьпіскі атрымаўшых уніформы, і скончана"*[439].

Гэта ўжо перапоўніла, сапраўды, бяздонную чашу маёй цярплівасьці. Цяпер стаю на раздарожжы. Выхадаў я, быццам бы, маю шмат:

Можна напісаць рапарт у Галоўнае кіраўніцтва, што арганізацыя ў амэрыканскай зоне скончылася. Будзе сорамна некаторы час, потым гэта пройдзе. Магчыма, дольшы час будзе мучыць сумленьне. Ды гэта ўжо ня будзе такой бядой, якой зьяўляецца цяперашняя камэдыя: гульня ў існаваньне.

Можна зьвярнуцца перад гэтым да грамадзтва. Калі ўсе "дзяржаўныя мужы" палічаць, што гальштукі на шыях прыносяць карысьць, няхай дапамагаюць. Калі не, то й разьвязаць ЗКСЧ будзе лёгка.

Я яшчэ буду гаварыць з Кушалям. Можа ён што добрае параіць? Буду націскаць праўдамі й няпраўдамі на Сасукевіча. Не прыйму ад яго сьцягу, покуль ня будзе парадку. Буду меркаваць з Адамовічам. Вось бы яго на штандаровага! Эх, мары, мары...

Я маю яшчэ адзін мэтад. Прыпомніць пры нагодзе словы скаўцкае прысягі. Цалаваньне сьцягу. Чы дапаможа?

*20.9.46*

Даводзіцца цяжкавата. Першаму ўсю горыч накіпеўшага выліў Буце. Ён выслухаў і згадзіўся па ўсім

[439] *"Зора спачатку таксама вельмі заклапацілася, прост далася ў паніку, ці створым мы кіраўніцтва, але паступова ўпэўнілася, што так, створым, і была аднэй зь вядучых, дынамічных кіраўнічак, уцягнула ў дзявочы скаўтынг пазьней і Натальлю Арсеньневу"* (Вітаўт Кіпель).

пунктам маёй прамовы. Толькі сказаў, што разьвязаць арганізацыю нельга. Я сам гэта ведаю і параўноўваю гэтае разьвязваньне з трусасьцю самагубства. Але лічу, што такое сяньняшняе *"втирание очков"* найбольшая мана ў сьвеце. Бута, словам, праняўся. Быў-бы ён добрым памочнікам, каб меў трохі болей часу.

На ўчора прыпадала якраз і зборка Бутавай дружыны. Каб адвесьці душу, прайшоўся на зборку. Бута ўмее абыходзіцца з хлапцамі: плёў страшэнна непраўдападобную гісторыю (са свайго, ясна, жыцьця-быцьця). Уставіў у добрую, трэба сказаць, байку ўсе веды скаўцкага мастацтва.

Хлопцаў у "Сокале" ужо 10. Столькі-ж і дзяўчат у "Васільку". Каб зрушыць з месца Валю[440], паклікаў яе да сябе. Даў тое-сёе з малай толікі матар'ялаў і сказаў, каб склала нейкі плян. Нейкая яна ні рыба, ні мяса. З братцам ейным "Арлом"[441] абыйшоўся карацей і прасьцей. Даў яму складзены ўжо плян і загадаў правесьці ўсе чатыры зборкі. Аб выкананьні далажыць. Ён, ясна: ОК. Паглядзім. Бута недзе бегае. Пляну яшчэ ня даў. Затое Кіпель зрабіў. Ліха, мудрыя штучкі ён адкалвае: *"Ідэолёгія скаўтынгу і HJ"* — ня кожны патрафіць адрозьніць[442].

[440] Маецца на ўвазе Валя Вайцяхоўская.

[441] **Кастусь Вайцяхоўскі** (нар. 1926), грамадскі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Баранавіцкім дарожна-будаўнічым тэхнікуме, настаўніцкай семінарыі ў Нясвіжы, сябра СБМ. З лета 1944 г. на выгнанні: спачатку ў Судэтах, потым у Баварыі. У Заходняй Нямеччыне належаў да беларускага скаўтынгу, скончыў Беларускую гімназію імя Я. Купалы. У верасні 1949 г. разам з бацькамі выехаў паводле кантракту ў ЗША. Жыве ў Сан-Дыега (Каліфорнія).

[442] *"На аднэй зь першых зборак "кіраўнікоў-актывістаў" я сказаў, што арганізацыі, да якіх мы належалі, — піянэры, СБМ — таталітарныя, як і нямецкая Hitler Jugend — праграма накідаецца звыш, для падрыхтоўкі партыям. Скаўтынг рыхтуе лідэраў не для партый, а для грамадзтва. З такой формулай я выступаў і да бацькоў, і колькасьць скаўтаў расла. У той сытуацыі мы, старэйшыя скаўты, сталіся кіраўнікамі. Арганізацыя ў амэрыканскай зоне налічвала каля 350–400 скаўтаў. Я асабіста паверыў у скаўцкую праграму. У Міхельсдорфе я і мае сябры, бясспрэчна, мелі поўны аўтарытэт і падтрымку як у моладзі, гэтак і ў старэйшага грамадзтва"* (Вітаўт Кіпель).



Шчэцьку[443] зусім маліна. Канспэкт мае, толькі працуй. Можа, і гэты на плян забудзецца.

Гаварыў з Кушалям. Ён заняты іншымі праблемамі. Усякія Манькловы, Лешчанкі[444] не даюць спакою. А мне сказаў: *"Што я зраблю? Дзе вазьму кіраўніка?"* Сасукевіч толькі дзьве хвілінкі падумаў. Для яго лёс арганізацыі — не праблема.

На Адамовіча палюю даўжэйшы час. Заняты. Дасьць Бог, можа й выб'ю што-небудзь з гэтае гісторыі.

*22.9.46*

Надоўга застанецца ў памяці бурлівы суд нас "беларусамі", выгнаньне Сабалеўскага[445]. Гэта,

[443] **Васіль Шчэцька** (1923–2011), грамадскі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі навучаўся ў медыцынскай школе ў Баранавічах, належаў да СБМ. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, належаў да Працоўнай групы СБМ, потым знаходзіўся ў дывізіі "Беларусь". Пасля заканчэння вайны навучаўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1948–1950 гг. у складзе "Дванаццаткі" выехаў у Англію, дзе працаваў на вугальных шахтах. У 1950 г. пераехаў у Бельгію, скончыў сацыяльна-палітычны факультэт Лювенскага ўніверсітэта. З 1956 г. — у ЗША, жыў у Нью-Ёрку.

[444] **Язэп Лешчанка** (псеўд. **Міхась Кавыль**, нар. 1915), паэт, грамадскі дзеяч. У 1941 г. у Чырвонай Арміі, трапіў у нямецкі палон, праз некаторы час быў вызвалены. Скончыў прапагандысцкія курсы ў Вустраве пад Берлінам, на якіх рыхтавалі будучых кіраўнікоў СБМ, працаваў у аддзеле прапаганды ў Менску. З лета 1944 г. на эміграцыі. Знаходзіўся ў Нямеччыне, потым выехаў на працы ў Бельгію. У 1950 г. пераехаў у ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рыверы. Аўтар некалькіх зборнікаў вершаў.

[445] Магчыма, гаворка ідзе пра адзін з эпізодаў барацьбы "крывічоў" (прыхільнікаў пераходу на ўжыванне назваў "Крывія",

аднак, прайшло і ўляглося. Мучаць мяне іншыя заботы. Як трапіць на ўнівэрсытэт? Ехаць у Марбург[446]? Ня хочацца вучыцца на тое, што хоць можа і па сэрцу, але не абранае. Чакаць, покуль *Mrs Aelams* устроіць куды-небудзь? Чы не безнадзейна? Ісьці на праклят [запіс абрываецца].

*25.9.46*

Ляціць, як заўсёды, праклfavorсяты час. Праносяцца чорныя цені непрыемнасьцяў з рэдкімі перапынкамі, шчылінамі сонечных дзён. Я сяджу *fest*[447] у Міхельсдорфе. Праэктаў выязду яшчэ ня склала канструктарскае бюро жыцьця. Быў у акруговай УНРРА'ы. Даведаўся, што паперы мае ў Мюнхэне і што трэба чакаць. Чакаць. Зрабілі мяне тымчасам сакратаром Акр. Кам. Ясна, трэба было сьпіхнуць каму-небудзь гэтую "пачэсную" працу. 1001 паперка. Адно слова — канцэлярыя. Нават у сьвята няма спакою — пішуцца мэмарыялы і інш. Гласы вопиюшего. Але раблю. Дзе з маёй дурацкай натурай ухіліцца ад працы. Не патрафлю.

Скаўты ў тым самым стане. Сасукевіч нічога ня робіць. Нават, спалохаўшыся людзей, у Рэгэнсбург

"крывіцкі" замест "Беларусь", "беларускі") і "беларусаў" (праціўнікаў увядзення новай саманазвы беларусаў), якая ішла ў беларускіх лагерах у 1946 г. Гэтая барацьба мела і палітычную аснову (прыхільнікі Міколы Абрамчыка — прыхільнікі Радаслава Астроўскага) і пазней на яе падставе аформіўся палітычны падзел БНР—БЦР. Аднак складана дакладна вызначыць, які менавіта эпізод гэтай барацьбы мае на ўвазе Сямёнаў.

[446] **Марбург** — універсітэцкі горад у зямлі Гесэн у Нямеччыне. Мясцовы ўніверсітэт, заснаваны ў 1527 г., у 1945 г. намаганнямі Барыса Рагулі прадставіў месцы беларускім студэнтам. Пераважна яны вучыліся на медыцынскіх спецыяльнасцях. Падрабязней гл.: Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне. Выд. другое. Мінск, 2006. С. 7–40.

[447] *Fest* (ням.) — стала.



на спаборніцтвы не паехаў. Аддуваўся я сам. Сам з судзьдзямі лаяўся, сам п'янога шафёра ў людзкі стан прыводзіў, сам хваляваўся. Падзякі ніякай. Дзе там!

Сказалася што я думаю аб Тамары. Ізноў тое-ж неакрэсьленае жыцьцё, калі хочацца некаму выліць усё горкае з душы, хочацца ласкавага слова. Яна-ж, як мне здаецца, прыймае. Можа й любіць трошкі. Можа й не. Спытацца не хачу, хоць і магу. Напэўна, калі не дурная, скажа нешта аб Іры, а мне яе так сьвятая памяць надта-ж дарагая. У Тамары таксама ня ўсё ў парадку. Міцька Заруцкі мае моцныя шансы. Таму і не гаворым аб галоўным, а так — толькі ласкавымі словамі бавімся. Бачу яе дось рэдка. Вядома — праца. Сяньня Віцька прыехаў. Вычую, чы да яго адносіцца будзе. А там пабачым.

*3.10.46*

Заўтра ізноў у Мюнхэн. Калі ўдасцца — прыеду назад па рэчы і зраблюся бледнай ценьню — жыхаром *Deutsches Museum*[448]. Калі не, то падумаю яшчэ, як устроіцца на рэгенсбургскі ўнівэрсытэт. Але, напэўна, спазьнюся. А было-б добра паступіць на якую-небудзь хэмію. Можа, і Іра там будзе. Не выключаецца, што прыйдзецца цэлую зіму прасядзець у Міхельсдорфе. Гэта хоць і здаецца прыемным, але на справе — страшная рэч. Хаця я й маю платную пасаду кіраўніка скаўтаў[449], але ні для розуму, ні для сэрца яна ў

[448] ***Deutsches Museum*** — Нямецкі музей у Мюнхене — найбуйнейшы музей прыродазнаўства і тэхнікі ў свеце. У 1946 г. у музеі пачаў працу арганізаваны UNRRA універсітэт для перамешчаных асобаў. Ва ўніверсітэт паступіла багата беларусаў, аднак у 1947 г. ён спыніў сваю працу. Падрабязней пра беларусаў ва ўніверсітэце гл.: Данілюк, Барыс. Азіраючыся расой выетымі вачыма. Успаміны. Мінск, 2012. С. 370–377.

[449] *"Навіна здаровая!!!"* (Вітаўт Кіпель).

цяперашнім часе мне нічога ня дасьць. Буду, як цяпер, шлёпаць цэлымі днямі на машынцы, а вечарамі нудзіцца і... Калі-б сталася так, то шукаў бы сабе іншае працы, скажам, у УНРРА'ы. Знайшоў-бы ў горадзе настаўніка і вывучаў бы ангельскі, а можа й гішпанскі. Дый фах які-небудзь за зіму здабыць бы стараўся.

Такія мае пляны, а што будзе — ня ведае ніхто. Пажывем — пабачым.

*9.10.46*

Калі наагул удасцца паступіць на які-небудзь унівэрсытэт, трэба будзе напісаць "Эпапэю пачынаючага студэнта". За гэты час быў ужо ў Мюнхэне, двое сутак пратырчэў у Рэгэнсбургу, не дабіўся нічога пэўнага, праезьдзіў кучу грошай і зьбіраюся ізноў у дарогу.

У Мюнхэне: *Ще сами не знаемо, чи будзе приймо, чи ні, прийдить в кінці цього тижня або в понеділок*.

У Рэгенсбургу: чарга да рэктара і дэбаты зь ім на розныя не зусім прыемныя для мяне і Занковіча[450] тэмы.

*14.12.46*

Як даўно ня браўся за гэты сшытак. Сколькі

[450] **Анатоль Занковіч** (нар. 1925), грамадскі дзеяч. Вучыўся ў беларускай гімназіі Рэгенсбургу, матуральны экзамен здаваў у Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Міхельсдорфе (1946). У гэтым жа годзе пачаў вучыцца на хімічным факультэце Тэалагічна-філасофскай вышэйшай школы ў Рэгенсбургу, з другога семестра перавёўся на медыцынскі факультэт Мюнхенскага ўніверсітэта. Быў заснавальнікам і старшынёй Рэгенсбугскага аддзела Згуртавання беларускіх студэнтаў у Нямеччыне. Ад 1949 г. вучыўся на медыцынскім факультэце Лювенскага ўніверсітэта, дзе ў 1954 г. атрымаў дыплом доктара медыцыны. Перабраўся ў ЗША. Жыве ў Нью-Ёрку.



прайшло часу? Як відаць з даты на суседняй старонцы, два месяцы. Тады быў мутны размазаны васеньні вечар у Міхельсдорфе. Жоўта-чырвона гарэла лямпачка над хісткім сталом, лаяўся Дзюнік з лемантаром, і сьмярдзела ў пакоі "паленым капытам" — жудасным табаком-самасеям.

Вечар. Мароз. Нават балота па дарозе да *Ganghofer Siedlung*[451] застыла. Парошыць дробны сьняжок. Блішчыць дыямантамі, зьзяе на валасох стрэчных дзяўчатаў, на маёй унраўскай куртцы. Па дарозе часта трапляюцца людзі, што клапатліва нясуць цёмную зелянь (ужо) калядных ялінак. Мароз, сьнег, ялінкі. Побач са мною крочыць Шура. Так прыемна ісьці зь ёю.

*9.1.47*

Шчасьце адных мусіць быць збудавана на няшчасьці іншых. Гэта прыкра сазнаваць. Яшчэ больш прыкра бачыць, але немагчыма, немагчыма абсалютна адмовіцца ад свайго такога вялікага й захапляючага шчасьця. Можа, яшчэ ніколі ня думаў я так ясна, як цяпер, ня быў можа ніколі так шчыры з самім сабою, як цяпер.

Калі на сьвеце існуе паняцьце шчасьця, то кахаць і быць каханым — сынонім гэтага паняцьця. Як мне добра! Як прыемна мець роднае, каханае, блізкае. Не, гэта ня можна акрэсьліць простымі людзкімі словамі.

Калі я проста гавару на нейкую зусім звычайную тэму з Шурай, кожнае Яе слова, сказанае да мяне, прасякнута такой цяплынёю, мне стварае казачную асалоду чуць яго.

[451] ***Ganghofer Siedlung*** — селішча ў Рэгенсбургу, дзе размяшчаўся беларускі лагер *DP*.

Напэўна, я пішу кепска. Не магу. Калі думаю пра Яе, калі бачу, мною пануе проста экстаз. Дзе-ж сабраць думкі.

*15.1.47.*

Ізноў і зноў зьвяртаюся я да Цябе — каханы дружа — папера. Жыцьцё бяжыць, сьпяшаецца. Мінаюць дні й змрочныя й пагожыя. Эх, як цікава жыць... І колькі пераўжыць даводзіцца. Колькі…

У адным зь нязьлічоных лягераў, дзе пад “апекаю” цэлага сьвету жывуць, паміраюць і родзяцца нікому невядомыя, нікім не каханыя ДП, пачнецца гэта гісторыя. Дзе й калі яна скончыцца — аб гэтым напіша жыцьцё.

Дзьве сям'і, знаёмыя “з дому”. Абедзьве вялікія. Адна, хіба толькі, дружнейшая ад іншай. З аднэй сям'і — хлопец, з другой — дзяўчына. Яшчэ некалі вучыліся разам. Ён, кажучы банальна, безнадзейна закаханы. Яна — любіць у ім сябру, такога, што некалі прызнаўся ў сваім вялікім каханьні, але сам і сказаў: ведаю, што нічога з гэтага ня будзе, знаю толькі, што Ты мая першая і апошняя. З таго часу ён “тихий обожатель” і сапраўды добры сябра. Трошкі хваравіты, трошкі музыкант, трошкі гультай.

Абое сябруюць ужо гады. Нарэшце ўжо тут, у золкай Баварыі, абое канчаюць гімназію і едуць у сьвет шукаць далей навукі. У цягніку разам зь імі трэці. Гэты — малазнаёмы, хоць і з таго самага народу, але з-за мяжы, што падзяліла ў свой час захад і ўсход. Словам, чужаваты чалавек. Праўда, досыць сымпатычны. Чулі ўсе, што ён недзе нешта рабіў, нават апавяданьні ягоныя чыталі. Трэці таксама скончыў нядаўна гімназію і едзе ў сьвет з тою самаю мэтаю, што й двох першых. Хоць усе трое й жылі ў адным лягеры, дзяўчына знаёміцца з спадарожнікам толькі тут — у цягніку.



Ноч, далёкая дарога, плывуць гутаркі пад грукат колаў. Трэці, бачыўшы ў кароткім, але разнастайным жыцьці шмат злых і добрых людзей, чуе, што ў дзяўчыны залатое сэрца. Ён — сірата. Невядама, чы сапраўды сірата, бо бацькі засталіся там… Што зь імі сталася за доўгія гады? Хто знае? Але ён бясконца самотны. Дзякуючы сваёй натуры, мае розных апякуноў, сяброў. Аднак адзіны сын, ніколі раней ня быў сам, а толькі з каханай мамай, ён шукае іншага, як апякуноў і райцаў, — ласкі, клопату, прывязанасьці. Яму гэтага бракуе.

Паездка ня мела посьпеху. Дзеля гэтага за ёю шэраг падобных. Той хлопец — трошкі гультай — цяжкі на пад'ём. Езьдзяць больш двое: Яна й Трэці. Яны ня маюць нічога супраць язды разам. У іх нават песьня свая ёсьць:

*Дальняя дорожка,*
*Поезд лети-лети,*
*Тихая сторожка*
*На краю пути…*

Дзякуючы супольным стараньням, адчыняюцца дзьверы ўнівэрсытэту для ўсіх трох. Жывуць сябры на новым мейсцы ў адным доме, хоць і ў розных памешканьнях. Жывецца досыць марна. Харчоў не хапае. Яна і Хлапец маюць сваякоў, якія чым могуць, дапамагаюць. Трэці церпіць першы час, а потым адмаўляецца ад супольнага харчаваньня, лічыць, што ня можа быць на ўтрыманьні ў таксама ня надта заможных сяброў. Пануры настрой валодае камунаю. Дзяўчына, што вяла гаспадарку, выдае Трэйцяму ягоную пайку. Больш яны ня будуць разам есьці, хоць і ведаюць трое, чым пахне гэтае адасабленьне. Яна выдае пайку. У Трэцяга ў памяці назаўсёды застаюцца Яе вочы, поўныя такога

глыбокага людзкага жалю. Трэці чуе, што любіць вочы.

Як цуд, зьяўляецца адзін з найлепшых артыкулаў Трэцяга. Прывозіць грошы, папяросы і абяцаньне дапамагаць заўсёды. Падмацаваны матар'яльна, Трэці з ахвотаю вяртаецца да кінутых ім сяброў.

Надыходзяць Каляды. Хлопец едзе ў першы дзень канікулаў дадому. Трэцяму няма куды сьпяшацца. Яму так добра тут зь Ёю. Яна таксама мае ехаць. Надыходзіць дзень Яе ад'езду. Трэці нерашуча без надзеі просіць Яе застацца хоць на дзень, пабыць зь ім. Яна згаджаецца. У сэрцы Трэцяга расьце разам з надзеяй — радасьць: можа, і Яна любіць, а ня толькі шкадуе. Гэтае пытаньне ня можа застацца без адказу. Аднак Яна адказвае таксама пытаньнем: Ёй ня верыцца ў каханьне Трэцяга. Яна думае, што гэта — хутчэй удзячнасьць за Яе дабрату. Аднак ён пераконвае Яе ў праўдзівасьці свайго пачуцьця. Яна кажа сама, што і ў Яе ў сэрцы больш, чым толькі жаль і спачуцьцё. Праносяцца два шчасьлівыя дні. Прыходзіць ад'езд. Трэці праводзіць дзяўчыну на станцыю, застаецца ізноў адзін. Неўзабаве едзе і ён, у лягер, што за апошні час зрабіўся нібыта "домам". Сумныя чужыя Каляды. На сэрцы ў Трэцяга туга. Трэці лічыць дні да Яе прыезду. Нарэшце Яна тут. Праўда, бачыць Яе даводзіцца рэдка. Яна больш у хаце, у бацькоў. Але ўдаецца часам выцягнуць Яе адтуль. Між засьнежаных палёў па вузкіх дарожках ходзяць яны на праходку. Трэці жыве ў гэткія дні. Ён так любіць Яе, так любіць прыроду, так любіць Яе пяшчоты, асьцярожныя, скупыя, але — пяшчоты. Кожнае Яе слова — музыка, кожны позірк — сьвята.

Надышоў Новы Год. Студэнты ладзяць супольнае спатканьне. Прысутнічаюць усе трое і колькі іншых. Трэці ў кепскім настроі. Ён хоць і ведаў, што гэта



немагчыма, але ўяўляў сабе Новы Год толькі зь Ёю. Трэці бачыць, што й Хлопец ласьціцца да Дзяўчыны. Вось пасьля вячэры й забаваў цесна сядзяць навокал радыёвага апарату госьці. Рука Хлапца песьціць Яе руку, хоць апошняя зусім раўнадушна да гэтага ляжыць на каленях.

Так быў спатканы Новы Год.

Трэці хоча ехаць зь лягеру. Ехаць, каб не сядзець лішні час нахлебнікам у чужых, ехаць, каб разьвеяць трошкі так моцную ў Вялікае Сьвята тугу па дому. Вечар перад ад'ездам. Трэці ловіць пасьля доўгага чаканьня Дзяўчыну, што ідзе ўжо дадому. Просіць Яе пабыць трошкі зь ім. Чароўны зімовы вечар. Тыя-ж засьнежаныя палі, толькі іншыя ў урачыстым асьвятленьні зораў і бліскучага месяца. Здаецца, суровая зіма навет сьмяецца радасна, блішчыць усім сваім багацьцем іхнаму каханьню.

Трэці вяртаецца праз чатыры дні. Вяртаецца як раз на Куцьцю. Дзяўчыны не відаць. Настрой жудасны.

На другі дзень Калядаў забава — танцы. Трэці наогул ня хоча танцаваць, але праз замёрзшае вакно бачыць Яе ў пары з Хлопцам і нечакана для сябе самога ідзе ў салю. Спачатку Трэці толькі глядзіць, як Яна кружыцца зь ім, усьміхаецца Яму. Далей горай. Ён бачыць бледны твар Хлопца, у шчасьлівай усьмешцы застыглыя вочы, грымасу шчасьця. А тут яшчэ суседка прыпадкам кідае Ёй, Дзяўчыне, некалькі шчырых словаў пахвалы. Гэта хваляць ягоную Яе. Ён нікому не аддасьць Яе. Ледзьве стрымліваецца, каб не спыніць танцуюшчую пару. Наступны танец яны (з Трэцім) разам. Трэці вылівае ўсё, што мае на душы. Голасна, аж яна палохаецца, кажа, што ніколі ня чуў, як цяпер, што любіць Яе так моцна. Яна як можа супакойвае яго. Рэшту вечара — яны разам. Разам ідуць дамоў. Яны й жывуць у адным бараку.

Разам з разьвітальным пацалункам падае пытаньне: Любіш? Яна ківае ціха.

Так прачынаецца ў сэрцы Трэцяга зайздрасьць.

Фэрыі[452] скончыліся. Аднаго вечара студэнты разьвіталіся з лягерам. Пацягнуліся шэраю чарадою дні навукі.

Дзяўчына з Трэцім хадзілі вечарам на спацыр. Лавілі і ў дзень хвіліны, калі ніхто не перашкаджаў. Што дзень, то болей рабіўся змрочным і панурым Хлопец. Трэцяму было кепска. Ад таго моманту, калі ўбачыў Хлапца зь Ёю на забаве, ведаў, што Хлопец кахае Дзяўчыну.

Тут пачынаецца загадка. Чы то пад уражаньнем чужога шчасьця ў Хлапца прачнулася жаданьне мецць сваё, чы проста мела мейсца нейкая дзіўная індукцыя каханьня, чы ягонае “обожание” дайшло да кульмінацыйнага пункту.

Аднаго разу на спацыры Трэці заўважыў нешта асаблівае сталася з дзяўчынай. Трэці быў шалёным, казаў заўсёды, што думае. Можа, ён нешта ляпнуў? Разьвітваючыся з Дзяўчынаю, спытаў: Любіш? Адказ: што за пытаньне? — быў сказаны такім тонам, што Трэці ня вытрымаў, уцёк, не разьвітаўшыся, каб Дзяўчына ня чула ягонага плачу й ня бачыла сьлёзаў. Гэтым вечарам ён насіўся, як вар’ят, па вуліцах соннага места, выў і стагнаў, разумеючы, што калі страціць Яе, то страціць усё-усё астатняе. Ён хацеў у гэтую самую ноч выехаць прэч, але надзея, што адказ (*“што за пытаньне”*) можна тлумачыць розна, застаўся. Трэба злавіць Дзяўчыну, сказаць, што ён ня можа, не ўяўляе сябе без Яе.

На другі дзень, пасьля бяссонай ночы, Трэці ўцёк з дому. Бадзяўся па горадзе, па палёх. Стома загнала яго назад. Ён ня еў нічога. Студэнты рабілі сход.

[452] **Фэрыі** (ад ням. *ferien*) — канікулы.



Абгаварыць хацелі пытаньне стварэньня арганізацыі. Прыходзілі па Трэцяга, бо лічылі яго таксама за галаву. Ён ляжаў і гледзячы ў столю (дзе бачыў, дарэчы, толькі Яе абраз) манатонна аднекваўся. Нарэшце, позна ўжо, па яго прыйшла Дзяўчына. Трэці, шчыра кажучы, чакаў яе прыходу. Але думаў, што Яна ня прыйдзе.

*28.1.47*

Славік[453] на выклады не прыйшоў. Чаравікоў маіх у майстэрні ня ўзялі. Шура ў добрым гуморы, я — таксама.

Прыехаў Шурчын дзядзька. Мяне пагналі на прышчэпку. Трэба рабіць тры ўколы. Бачыў у шпіталі палячка-скаўта. Бачыў там-жа Мілевіча. Грошаў няма. Працаваць ня ведаю што. Штандар нічога ня робіць — кепска.

Атрымаў ліст ад Іркінай мамы і ад Юркі. Абодва старыя. Нічога цікавага.

*3.2.47*

Даўно я ня браўся за дзёньнік. Калі я ў сябе — няма настрою да пяра, калі ёсьць настрой — няма сшытка. Насіць сшытак цэлы час з сабою на выпадак, калі захочацца пісаць — нонсэнс. Усяроўна, што насіць ложак, каб калі спаць захочацца, можна было-б легчы.

Шура сёньня злосная. Я Яе добра разумею. Рытэрыха[454] робіцца проста нязноснай. Ёй перашкаджаюць усе, яна столькі перажыла й патрабуе

[453] Маецца на ўвазе Яраслаў Вініцкі.

[454] **Іна Рытар** (у першым шлюбе **Сеўрук**, у другім шлюбе **Кахаtoўская**, псеўд. **Аляксандра Саковіч**, 1906–1997), пісьменніца, грамадская дзеячка, другая жонка А. Калубовіча (Каханоўскага). Падчас нямецкай акупацыі жыла на радзіме

спакою, яна ня можа вучыцца навет, калі на кухні нехта шэпча, ёй заўсёды баліць галава, ёй хочацца адзіноцтва, і г. д. Яе-ж абсалютна не абыходзіць тое, што яна сама некаму, можа, перашкаджае, і абсалютна не прыходзіць у галаву думка аб роўнапраўнасьці ўсіх ДП, прынамсі ў адносінах памяшканьняў.

Стараюся Шуры неяк прыдбаць добры настрой. Але дзе! Хоць і сьмяецца трошкі — праз хвіліну ізноў насупіць броўкі і... Словам, злуецца. Наўмысьля, каб больш насаліць Рытэрысе, пайшла цяпер дамоў. Пайшоў і Славік.

Я мусіў застацца, хоць, як заўсёды, не магу перанесьці думкі, што такі даўгі час (я маю выклады аж да чацьвёртай) Шура будзе ў таварыстве Славіка. Так і ўяўляю сабе ягоную — нос кручком, космы ва ўсе бакі, сагнутая сьпіна і мёртвы аскал усьмешкі — фігуру побач зь Ёю.

Але што я маю рабіць удома? Сядзець у халоднай хаце? Ня высіджу — пайду наверх. А там альбо Рытэрыха шыпець, альбо Шура злавацца будзе. Дый можа Ёй трошкі самой, г. зн. без мяне пабыць хочацца? Можа вучыцца будзе? Вось і застаўся я.

*18.02.47*

На вуліцы невядомая якая па ліку (іх столькі ўжо было) *Kaltewelle*[455]. Вокны памёрзьлі, і праз крышталь лёду, прыгожа ламаючыся, льецца ў пакой яркае сьвятло марознага дню. Выкладаў сяньня няма.

бацькоў у Ярэмічах (сёння Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.), настаўнічала, была выкладчыцай у Навагрудскай настаўніцкай семінарыі. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыла ў беларускім лагеры ў Рэгенсбургу, выкладала нямецкую і англійскую мовы ў беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Тут у выніку трагічнага выпадку загінула дачка. У 1950 г. выехала ў ЗША. Жыла ў Нью-Ёрку.

[455] *Kaltewelle* (ням.) — хваля холаду.



Шурачка паехала ўчора да бабушкі. Вернецца можа сяньня, можа заўтра. Сумую.

Уставаць прыходзіцца рана — на ½ 9 трэба аднесьці машынку. Цяпер ужо ўсё зроблена. І сходы вымеценыя, і я пасьнедаўшы. А час безь Яе так павольна цягнецца. Будаваў пляны, што вечарам пайду на станцыю (можа прыедзе) сустракаць. Аж тут перавыбары зацеялі.

*16 верасьня 1947.*

Шуры няма — паехала да бабкі. З думак аб Ёй пачынаецца ўсё — кожная хвіліна. Таму што Яе няма, я і бяруся за гэты, даўно ня датыканы, сшытак. Настрой да гэтага адпаведны. З Шурай папярэдні трошачкі пасварыўся (ясна, за драбязу, як заўсёды). Цяпер ня ведаю, калі Яна вернецца.

Дні такія кароткія — восень. Не пасьпееш увечары з самаходу зьлезьці, як ужо ізноў раніца, і ізноў сярод пылу трэба трэсьціся да праклятай *Arbeitstatte — IRO*[456].

Працы шмат, як заўсёды, дарэчы. Патрошку робім людзям дабро. Сяньня была Калошава цешча. *Send her to number*... Можа й будзе добра.

На ўнівэры выклады яшчэ ўсё пачынаюцца. Чорт ведае, чы кідаць працу, чы кідаць навуку. Чы можа і за тое, і другое брацца. Шукелойць кажа — абы пратрымацца. Але як лепш пратрымацца? *Forfuzikum*[457] трэба здаваць *"хошь не хошь"*. А па цэлым

[456] ***IRO*** (*International Refugee Organization*) — Міжнародная арганізацыя па справах уцекачоў — заснаваная ААН 20 красавіка 1946 г. для дапамогі ўцекачам, якія з'явіліся ў выніку Другой сусветнай вайны. *IRO* стала пераемніцай *UNRRA* і апекавалася выездам DP на сталае месца жыхарства з Нямеччыны і Аўстрыі ў іншыя краіны.

[457] *Forfuzikum* (ням.) — экзамен.

дні ў духаце і балагане, хіба толькі галаўнога болю дастанеш, а ніяк не ахвоты да навукі. Словам, *“taki landozafcik”*...

Гісторыя, якую мела дапісаць жыцьцё, дапісваецца. Буду з Шураю жаніцца. Гэта напэўна. Калі? Вось гэта пытаньне. Калі-б Яна і я апынуліся дзенебудзь на зямной кулі ў такім мейсцы, дзе ня было-б ані Яе вялікае (дзе там — вялізарнае) сям’і, ані маіх праклятых апякуноў (калі ня трэба, кожны сябе за такога лічыць), то ў той самай хвіліне, як бы там апынуўся. Але тут і сяньня... Я-ж, *cholera jasna*, толькі з “26-га” году. Супруг нашелся! Ясна, што рады сабе далі-б, але сколькі дурняў мела-б з мяне пацеху, *psia krew*! Чакаю на якую-небудзь — сам ня ведаю — зьмену абставінаў. А Яе так люблю і... так зь Ёю сваруся.

Да думкі, што некалі прыдзецца спаткацца зь Ірай, прывык. Яны цяпер жывуць у Рэгэнсбургу — *Forchheim* разьвязаны. Час ад часу бачу бацькоў. І яе здалёк. Я-б хацеў застацца зь ёю добрым сябрам — *“другом детства”*. Яна мне не зрабіла злога. Толькі так, як пяецца: *“Кохались шчиро колись, кохались тай разійшлись...”*



Дзмітры Сямёнаў. 1934 г.



Бацькі Дзмітрыя Сямёнава



Маці Дзмітрыя Сямёнава. 1967 г.



Кутох бібліятэкі ў Менскім музеі.
Травень 1943 г.



Кутох ERR у Акадэміі навук. Травень 1943 г.



Выпуск 7-й класы 29-й народнай школы.
Валя Чачнёва сядзіць злева ў белай кофце.
Менск, ліпень 1943 г.







Нямецкія маркі



Philosophisch-theologische Hochschule Regensburg

Ausweis-Karte Nr.

für den Studierenden

Herrn Dimitry Semionow

geb. am 11.6.1926 in Wilno/Pol.

Der Rektor:

Eigenhändige Unterschrift des Inhabers:

Школьнае пасведчанне
Дзмітрыя Сямёнава. Рэгенсбург



Дзмітры Сямёнаў



Уладзімір Кушаль і Вітаўт Кіпель.
Рэгенсбург, красавік 1945 г.

Surname S E M I O N O V
Prozvisca

Middlename Dymitry
Imia

Date of birth 11.6.1926
Data naradzinau

Place of birth Wilno
Miesca naradzinau

Citizenship in 1939 Polish
Dziarzaunaja prynaleznasc

Nationality White-Ruthenian
Nacyjanalnasc

Occupation Secretary
Prafesyja

is a member of the White-Russian Committee for Niederbayern-Oberpfalz in Regensburg.
zjavlajecca siabram Bielaruskaha Kamitetu na Niederbayern i Oberpfalz u Regensburgu.

Signature

Valid till June 30th 1946
Vazna da

White Russian Committee u Regensburgu Bielaruski Komitet

Regensburg, June 30th 1945

For the White-Russian Committee in Regensburg
President

White Russian Committee u Regensburgu Bielaruski Komitet

Пасведчанне Дзмітрыя Сямёнава як сябры
Беларускага Камітэта ў Рэгенсбургу



Дзмітры Сямёнаў і Вацлаў Пануцэвіч



Скаўты. Першы злева стаіць Саша Сасукевіч.
Рэгенсбург, 1946 г.

УКРАЇНСЬКА ГІМНАЗІЯ в РЕГЕНСБУРЗІ
UKRAINIAN SECONDARY SCHOOL IN REGENSBURG
UKRAINISCHES GYMNASIUM IN REGENSBURG

TEAM 120

Ч. No. Nr. 9.

School-year / Schuljahr / Шкільний рік 1945/46.

СВІДОЦТВО ЗРІЛОСТИ

Пан, Пані Семянів Дмитро

MATURITY CERTIFICATE

Mr. Mrs. Siamionaŭ Demeter

REIFEZEUGNIS

Hr. Fr. Siamionaŭ Demeter

Реґенсбурґ, дня 19. березня 1946.
Regensburg, the 19th of March 1946.
Regensburg, den 19. März 1946.

| Оцінки / Marks / Bewertungsstufen | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Поведінка: / Conduct: / Betragen: | дуже добра / very good / sehr gut | добра / good / gut | відповідна / passable / entsprechend | невідповідна / unpassable / nicht entsprechend |
| | Успіх: / Progreß: / Leistung: | дуже добре / very good / sehr gut | добре / good / gut | достаточно / sufficient / genügend | недостаточно / unsufficient / nicht genügend |

Матуральны сертыфікат (сертыфікат сталасці) Дзмітрыя Сямёнава з украінскай гімназіі ў Рэгенсбургу. 1946 г.

Рэгенсбург. Вуліца, што ідзе паралельна шашы злева — беларуская. Два вялікія дамы налева ад вуліцы ўверх — адміністрацыя

BIEŁARUSKAJA/KRYVICKAJA/HIMNAZIJA
U REGENSBURGU

№ 8

PAŚVIETČANNIE ŚPIELAŚCI

Zaruckaja Alaksandra

narodžanaja dnia 3 vieraśnia 1925 h. u Stoŭpcy pravaslaŭnaj relihiji, pa skončanni vośmaje klasy Biełaruskaje / Kryvickaje / Himnaziji ŭ Regensburgu byla dapuščanaja dnia 29 žniŭnia 1946 zdavać ekzaminy śpiełaści zhodna z pastanovaju Pedahahičnaje Rady Himnaziji z dnia 6 vieraśnia 1946 i atrymała nastupnyja adznaki:

| | | |
|---|---|---|
| zachavannie | vydatna | 1 |
| relihija | dobra | 3 |
| rodnaja mova | dobra | 3 |
| anhielskaja mova | dobra | 3 |
| niamieckaja mova | vielmi dobra | 2 |
| łacinskaja mova | dobra | 3 |
| historyja | dobra | 3 |
| hieahrafija | dobra | 3 |
| pryrodavieda | dobra | 3 |
| fizyka | dobra | 3 |
| chemija | dobra | 3 |
| matematyka | dobra | 3 |
| śpievy | vielmi dobra | 2 |
| malavannie | dobra | 3 |
| fizyčnaje ŭzhadavannie | dobra | 3 |

On the Recommenda[tion of the] Directorate it is [certified] that the student [has success]fully passed her Examinations.

UNRRA

Na asnovie vynikaŭ apošniaha školnaha hodu i ekzaminaŭ śpiełaści, pryznajecca Zaruckaja Alaksandra śpiełym da studyjaŭ u vyšejšych škołach.

Regensburg, dnia 8 vieraśnia 1946 h.

Staršynia Ekzaminacyjnaj Kamisiji Dyrektar Himnaziji:

Siabry Ekzaminacyjnaj Kamisiji:

Пасведчанне Аляксандры Заруцкай з Беларускай (Крывіцкай) гімназіі ў Рэгенсбургу. 1946 г.


Bielarusian Scout Association of U.S.-Zone

Zhurtavannie Bielaruskich Skautau na Cuzynie Standar „Bavaryja“

Бланк, які аформіў (намаляваў) Дзмітры Сямёнаў


Rang / Dienstgrad: Assistent -Scoutmaster
Name: Semionow
Christian name / Vorname: Dymitri
Birth date / Geburtsdatum: 11. 6.1926
DP Index Card No / Nr. der Index Karte: 427171
Is a Wh-Ruthenian scout
at camp UNRRA Team 120 in Regensburg
Leader of Wh-Ruthenian Scouts
Chairman-Scoutmaster
Secretary-Scoutmaster

International Scout Association in Regensburg is authorised by UNRRA Team 120.
The holder of this certificate is entitled to wear the scout uniform and badges.
Der Internationale Scout Verband ist von der UNRRA genehmigt.
Das Tragen der Scout Uniform und Abzeichen ist gestattet.
REGENSBURG
25. December

Пасведчанне Дзмітрыя Сямёнава як памочніка (намесніка) скаўт-майстра. Рэгенсбург. 1946 г.










Тытулы сшыткаў з нататкамі Дзмітрыя Сямёнава



Дзмітры Сямёнаў — скаут



Міхельсдорф. Апошнія Каляды разам. Дзмітры Сямёнаў стаіць справа. 1948 г.



Дзмітры Сямёнаў з жонкай Шурай



Антон Шукелойць, Антон Адамовіч, Вітаўт Кіпель




Магіла Дзмітрыя Сямёнава

# ІНДЭКС АСОБАЎ

**А**

**Б**







**В**

**Г**







**Д**

**Е**



**Ж**



**З**







**І**



**К**

**Л**







**М**

**Н**



**О**



**П**







**Р**

**С**

**Т**



**У**



**Ф**





**Х**



**Ц**



**Ч**



**Ш**

**Э**



**Ю**



**Я**



**E**



**L**



**M**

# ЗМЕСТ



Навуковае выданне

**Дзмітры Сямёнаў**

**ДЗЁННІК**

**1943–1947**

Камп'ютэрны дызайн, вёрстка Віктар Кудрашоў
Дызайн вокладкі Генадзь Мацур
Карэктура Алена Лянкевіч

Падпісана да друку 23.11.2012 Фармат 84x108 1/12
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 19,3 Улік.-выд. арк. 15,7
Наклад 200 ас. Замова 2046